Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

**У НУМАРЫ:**


- Вершы Максіма Лужаніна, Уладзіслава Нядзведскага і Аляксея Русецкага.
- Кінасцэнарый Васіля Віткі і Усевалада Краўчанкі «Зоры над соснамі».
- Апавяданні Раісы Маканінай і Уолтэра Мэкіна.
- Да 200-годдзя з дня нараджэння Фрыдрыха Шылера.
- Нарыс Паўла Місько «Арлёнак, мой верны таварыш».
- Успаміны былога байца Першай Коннай Арміі Фёдара Кузьменкі «Мы выраслі ў полымі».
- Запіскі былога падпольшчыка Сяргея Анісава «У бурным прадвесні».
- Водгукі чытачоў на артыкул «За вялікае і прыгожае каханне».
- Артыкул Анатоля Клышко «Таварыш нашай вясны».
- Шахматы.


**11** (81)

Лістапад.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы — малюнак мастакоў Ю. Сандгазіна і В. Долгава.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы $70\times108^{1}/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.460 экз. Цана 4 руб.
АТ 02937. Здадзена ў набор 1.X.59 г. Падпісана да друку 28.X.59 г. Зак. 615.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

**Аляксей РУСЕЦКІ**

# ПРАДВЕСЦЕ



Месяц круглы ўсплыве
    ці прарэжацца востры, як серп,
дасягальны, набліжаны
    нашай касмічнаю сілай —
ясна бачыцца ўсім
    серп і молат, праменны наш герб,
што над хмаркамі ззяе цяпер
    з міжнародным свяцілам.
Герб з прыладамі працы —
    пасведчанне маці-Зямлі,
герб з аблiччам яе,
    як зарука, прыняты ў Сусвеце,
што і ў зорных краях
    панаваць будзе праца, калі
там пачнуць гаспадарыць
    Зямлі ўсемагутныя дзеці.
Шлях пракладзен да зор
    ад крамлёўскіх чырвоных, зямных,
пад якімі народжана
    наша касмічная сіла;
шмат варожых мы склалі сцягоў там,
    а нашы сыны
пакладуць неўзабаве
    кавалак свяціла.

# *Дарогамі сямігодкі*

Уладзіслаў **НЯДЗВЕДСКІ**

## БУДНІ САЛІГОРСКІЯ

**Рэпартаж**



Я шчыра кажу: не першы,
Не першы і не апошні
Палез я, сябры, па вершы
У пыл і ў пясок дарожны.
Па шэрым старым каменні,
Дзе кожны галыш, як глобус,
Па белым крывым карэнні
Трасе мяне зноў аўтобус.
То рэчкі палескай бераг
Пакіне ён ціха ззаду,
То дымам, як попел, шэрым
Дыхне у ліству прысадаў.
То важна, як дырыжабль, ён
Ад вёскі плыве да вёскі
Палеткам,
Дзе ўскінула шаблі
Увысь кукурузнае войска,
Дзе з чыста геройскай хваткай
З-за пояса, як гранаты,
Выймае яно пачаткі
З даўжэзных чахлоў вусатых.
А побач — сцяною збожжа
Закрыла амаль паўнеба,
І пахне ў пыле дарожным
Малочаным, новым хлебам.
Мы едзем паміж калдобін,
Імчымся асфальтнай гладдзю.
На слаўнай зямлі, Старобін,
Ты продкамі быў закладзен!
Хоць самі пад гэтым небам



Жылі яны ў горкай долі,
Затое знайшлі да хлеба
Унукі цяпер тут солі.
Наперад бяжыць машына
У гулкай сваёй гаворцы,
І раптам устаў хлапчына:
— Давай выходзь, салігорцы!
Высокі, гаворыць басам.
А побач — такіх чацвёра...
З аўтобуса злазім разам:
— Старобінцы?
— Не. Шахцёры!
Старобін вунь там, за лесам,
А тут Салігорск... Да солі
Углыб, у зямлю мы лезем,
Вунь, бачыш, капры у полі.
**— Дарогу! А мы пакажам...**
**Цяпер я пачну з пейзажу.**



Сады кучаравым лісцем
Ад сонца закрылі хаты.
Відаць, жартаўнік калісьці
Тут жыў ці нявесту сватаў.
І, мабыць, яму па-свойску
Тут хлопцы бакі намялі,
Інача́й, завошта б вёску
Дасюль Кулакамі звалі?
Далей — да Чыжэвіч проста
Уліпла ў зямлю дарога.
І даўнія хаты — росту
Здаюцца цяпер малога.
Царкву і вятрак, што пляжыць
Тут вецер і дождж спрадвеку,
Нялёгка цяпер заўважыць
Прыезджаму чалавеку.
Царква і вятрак, і дрэвы —
Старога яны размаху:
Закрылі іх справа й злева
Цагляных будынкаў гмахі.
Як цыркулі, ходзяць краны,
Падставіўшы сонцу рэбры,
І тры капры-веліканы
Плячамі падпёрлі неба.
Тугія канаты-рукі
Ўчапіліся за лябёдкі.
Старога Старобіна ўнукі
Спускаюцца ў ствол праходкі.
У клеці стаяць жалезнай,
Махаюць мне на развітанне:

— Да сэрца зямлі далезем,
А соль для палёў дастанем!
Праверылі лямпы дбайна,
Стаяць юнакі, чакаюць.
Скамандаваў хтосьці: — Майна!
Калышацца клець цяжкая.
Я ўпэўнен: яны у працы
Усе перашкоды скрышаць,
Бо іх нездарма юнацтва
Ў калысках такіх калыша!
**За імі я ў ствол спусціўся —**
**Працуюць шахцёры ўнізе.**



Да солі яшчэ далёка —
Схавана яна у нетрах,
І хлопцам зусім нялёгка
Даюцца праходкі метры.
Не хоча зямля спакойна
З багаццем сваім расстацца,
Таму з малатком адбойным
Патрэбна ў яе ўгрызацца.
Патрэбна яе марозіць
Каб стала, што камень, цвёрдай,
Патрэбна ўгару вывозіць
Астаткі пустой пароды.
Упарта — за пядзей пядзя —
Тут крышыцца моц граніту,
І ўжо чыгуном абкладзен
І цэментам ствол абліты.
І зноў малаткі грукочуць,
І зноўку, нібы кулямётчык,
За кожнай шчылінкай сочыць
Хлапец, малады праходчык.
Уздрыгваюць злёгку рукі,
Напружаны моцна мышцы,
Старога Старобіна ўнукі
Гісторыю новую пішуць!
Я ўспомніў між хлопцаў гэтых,
На гэтых саляных копях,
Як крытык адзін з паэтам
Нядаўна ламалі коп'і.
Спрачаліся, аж хрыпелі,
Над вывадам найважнейшым:
Ці ў рыфму пісаць, ці белым,
Ці шматпавярховым вершам.
Не ведаю: так ці гэтак,
А тут, на зямлі салёнай,
З праходчыкам я паэта
Хачу параўнаць сягоння.



І я уздыхнуў бы лёгка,
Лічыў бы вялікім шчасцем
Вось гэтакі ж след глыбокі,
Як ён, на зямлі пакласці.
А хлопец смяецца першы,
Стаўляючы лямпу ў шэраг:
— Пра нас? Напісаць у вершах?
Ну што ж, не пішыце шэра...
**Аб тым, як псуюцца нервы**
**Галоўнага інжынера.**



Пакой — аднаму не ўткнуцца,
Тут глінай і фарбай пахне,
Шахцёрская шапка ў куце
Чарнее, нібы чарапаха.
Шахцёрская лямпа з хрупкай
Чарнільніцай побач стала.
Шчакой да пляча ён трубку
Прыціснуў:
— Цэменту мала!
То ласкава, каб патрафіць
У ноту камусьці ў трэсце,
Ён просіць:
— Зламалі графік,
Не можам стаяць на месцы!
То з крыўдай, але пакорна,
Начальству давесці хоча:
— А вы нам яшчэ... звыш нормы,
Праходку хутчэй закончым!
Зачхала, заныла роўна,
Заціхнула трубка...
Марна
Чакаў інжынер галоўны,
Таму і сядзіць, што хмара:
— Дык, значыцца, вы з газеты?
Вам — лепшых людзей у нарыс?
У нас яны ёсць...
Не гэта
Хвалюе шахцёраў зараз!
На сходзе у нас прыняты
Быў лозунг такі кароткі:
«Сустрэнем Кастрычніка свята
Ствалом гадавой праходкі!»
Пішыце тады ў газеты
І нават кіно здымайце!
А зараз, як нам цэменту
Тон трыста дастаць, парайце.
Садзіцца са мной на лаўку,
Кідае павольна словы:

— Калі загрыміць у «глаўку»
Раскацісты гром вясновы,
Калі затрашчыць у час той
Запылены стол дубовы,
Дык ведайце: я з начальствам
Вяду пра цэмент размову!
Таму што прасіць іначай
Я больш не магу, паверце:
Я планы у справах бачыць
Прывык, а не на паперцы.
Зноў лямпу бярэ у рукі
Палесся шахцёр галоўны...
Па просьбе яго для друку
Я ўсё запісаў даслоўна.
**З хлапцом, маладым рабочым,**
**Мы горадам новым крочым.**



Разрэзаў гудок прасторы,
Заціх у лясных лагчынах.
І ўжо ля канаў шафёры
Шаруюць свае машыны,
Бо заўтра ў цяжкія рэйсы
Ім прыдзецца ехаць рана.
І сонца на грэбень лесу,
Як груз, апускаюць краны.
З зямлі гаспадарскім вокам
Глядзяць муляры на сцены,
І пятых паверхаў вокны
Праводзяць сяброў са змены.
І твараў юначых выраз
Гаворыць дакладней зводкі,
Што горад іх новы вырас
У тэрмін зусім кароткі.
І хоць тут яшчэ без назваў
І вуліцы і завулкі,
І хоць ад дажджу тут часам
Не знойдзеш яшчэ прытулку,
І хоць тут парою цесна
У хатах і ў інтэрнатах,
Пра горад свой нават песню
Спяваюць ужо дзяўчаты.
Сюды пад машынны грукат
Збягаюцца ўжо дарогі,
І вуліцы першым брукам
Ляглі жыхарам пад ногі,
Тым хлопцам і тым дзяўчатам,
Хто першы паклаў тут камень,
Хто зорку увысь над шахтай
Сваімі узняў рукамі.



З хлапцом, маладым рабочым,
Стаяў я пад зоркай тою,
Таму зараз днём і ноччу
На сэрцы няма спакою,
І хоць рэпартаж вось гэты
Шахцёрам я шлю сягоння,—
Баюся: мяне да лета
У працы яны абгоняць,
Баюся, што ўсё спачатку
Пісаць давядзецца зноўку...
Рэдактар! Стаўляй пячатку
На новую
Камандзіроўку!






**Васіль ВІТКА, Усевалад КРАУЧАНКА**

# ЗОРЫ НАД СОСНАМІ

**Кінасцэнарый**

Мал. Ю. Сандгазіна і В. Долгава.

Мінуць гады, і ў светлай яве
Устане наш Палескі край.
Не, мы не думалі аб славе,
Нам часу не было, няхай

Раскажуць новыя паэты
Пра нашы маладыя дні,
Пра тых, хто над зямлёю гэтай
Запальваў яркія агні.

**Антон ЦІХІ.**

1.

Світанне. Над сцяной сасновага бору павольна ўзыходзіць сонца. Спачатку яно лагоднае, такое, што на яго можна глядзець адкрытымі вачыма, але праз хвіліну над верхавінамі дрэў становіцца нясцерпна зыркім,— аж птушкі на нейкі час слепнуць ад яркага святла. Жаваранкі, якія заўсёды першымі бачаць сонца, ужо радасна вітаюць яго ўсход...

Вуліца вялікага палескага сяла. Устаюць дымкі над комінамі хат, пераклікаюцца запозненыя пеўні, скрыпяць калодзежныя жураўлі, чуваць рыканне жывёлы. Прачынаецца сяло.



У самай канцавой хаце расчыняецца акно на вуліцу, і ў ім мы бачым светлавалосага юнака. Адкрытымі вачыма, поўнымі здзіўлення перад хараством свету, ён глядзіць на вуліцу, услухоўваецца ў суладдзе ранішніх гукаў і галасоў...

Але не толькі радасная ўзрушанасць перапаўняе яго, на твары юнака прыкметны і рысы першага засмучэння, нейкай душэўнай трывогі.

Юнак маўчыць, але мы чуем урыўкі яго думак:

— Мы так чакалі гэтага дня, столькі марылі аб ім. І вось ён прыйшоў... У апошні раз сыйдземся мы сёння, каб развітацца з дарагімі сцежкамі. А заўтра?.. Што нясе нам новы дзень, чым сустрэне нас наша першая сталасць? Якую ты будзеш, мая дарога?..

Юнак адыходзіць ад акна, сядае за стол, на якім ляжыць разгорнуты сшытак, стаіць прычарнелая ад копаці лямпа, гладышык і шклянка з недапітым малаком.

Юнак нахіляецца над сталом і выводзіць у сшытку радок за радком. Гэта — вершы. Мы бачым загаловак — «Развітанне са школай»...

Юнак спыняецца, у напружаным роздуме хмурыць лоб, грызе канец алоўка, пасля зноў схіляецца і піша.

2.

Раніца ў поўнай сіле. Па вуліцы ідзе Аленка Ячная, маладая, чарнявая дзяўчына ў святочнай школьнай форме. У руках у Аленкі няма ні вучнёўскага партфеля, ні кніжак, а толькі пышны букет кветак.

Дзяўчына спяшаецца. Мінае адну, другую хату, перасякае скрыжаванне вуліц. На рагу скрыжавання ўкапаны слуп з прыбітай да яго дошчачкай-указальнікам — «НА САСНОВІЧЫ». Час-ад-часу ўсцяж па вуліцы, абдаючы Аленку дымам, з глухім гулам прабягаюць машыны, даверху гружаныя жалезнымі рэйкамі, станкамі, напалову прыкрытымі брызентам мяшкамі з цэментам.

Мінуўшы яшчэ некалькі хат, Аленка спыняецца каля гародчыка з кветкамі. Падняўшыся на дыбачкі над невысокім штакетам, гукае ў раскрытае акно:

— Га-аля!..

У хаце перад люстэркам стаіць Галя Навасад. У апошні раз аглядае свой святочны ўбор. Гэта — стройная, высокая, тоненькая ў стане дзяўчына. Непаспешлівасць і нейкая выразнасць усіх яе рухаў, строгі позірк вачэй,— уся яе пастава гаворыць аб гордай і моцнай натуры.

Побач з Галяй стаіць маці, да часу састарэлая жанчына, якая, відаць, бачыла ў жыцці нямала гора. Маці з любоўю глядзіць на дачку, здымае ў яе з плячэй нейкую пушынку, гладзіць яе белыя, як лён, кучаравыя валасы.

— Галя! — чуваць воклiч з двара.

Галя бярэ на стале падрыхтаваны букет кветак, гукае ў акно:

— Іду-у!.. — Тлумачыць маці: — Гэта Аленка, я пабягу, мамачка...

— Бяжы, дачушка, бяжы,— гаворыць маці, і міжвольна сляза засцілае ёй вочы.

Галя хутка цалуе маці, выбягае на двор, затым на вуліцу. Радасна вітаецца з Аленкай. Тая ў захапленні глядзіць на сяброўку.

— Ой, Галка, якая ты сёння прыгожая!..

Нечакана цалуе Галю ў шчаку.

— Ды ну цябе! — адмахваецца Галя.

Сяброўкі ідуць па вуліцы. У Галі свая, адметная паходка — упэўненая, строгая; ідзе, нібы друкуе кожны крок. Галава ўскінута высока, позірк вачэй ясны, шчыры.

Аленка трымае Галю за руку, задумёнauthor гаворыць:

— Свята апошняга званка... Каб ты ведала, Галінка, што ў мяне на душы. Замест таго, каб радавацца, усю раніцу чамусьці хочацца плакаць...

Галя глядзіць на сяброўку, ідзе, гаворыць строга:

— Хопіць табе...

У гэты час вялізны грузавік, рэзка скрыгатнуўшы тармазамі, спыняецца ля дзяўчат. З раскрытага акенца кабіны выглядае шафёр — малады хлапец, па твару відаць, моцна стомлены. Кепка ў яго ссунута набакір. Убачыўшы дзяўчат, ён усміхнуўся, бліснуў роўнымі белымі зубамі. Усмешка адразу ажывіла яго да знямогі стомлены твар.

— Гэй, дзяўчаткі, да Сасновіч далёка?

— Ды яшчэ кіламетраў трыццаць, — адказвае Аленка.

Шафёр, раскрыўшы дзверцы кабіны, выскаквае з машыны. У здзіўленні глядзіць на святочна апранутых дзяўчат.

— Ух, ты!.. Гэта што ж у вас сёння за свята?

Аленка ўсміхаецца.

— Апошні раз у школу ідзём.

— О-о, значыць, свята. Дзяўчаткі, слухайце, прыязджайце да нас на будоўлю.

Аленка жартуе.

— А прымеце?

— У нас там усякія ёсць, а вось такіх акурат не хапае, — жартам на жарт гаворыць шафёр.

Аленка глядзіць на свой букет і раптам працягвае яго шафёру.

— Вазьміце...

— Такое хараство? Чым заслужыў? — шафёр бярэ букет.

— Каб нас не забылі, — смяецца Аленка.

— Ну, — жартам нахмурыўшыся, гаворыць шафёр і ўважліва глядзіць на дзяўчыну, — такіх не забываюць. — Шафёр працягвае Аленцы руку. Затым, спахапіўшыся, паспешліва выцірае яе хусцінкай і зноў працягвае. — Сцяпан Касуха, але добрыя сябры клічуць мяне проста Сцёпа... А вас?

Аленка, загараючыся чырванню, збянтэжана падае руку шафёру.

— А мяне — Алена.

— Алёнушка. Як у казцы... — быццам бы здзівіўшыся, зазначае шафёр, мнагазначна паціскаючы Аленцы руку.

— Галя, — суха называе сябе дзяўчына.





— Ну, бывайце, мы спяшаемся,— збянтэжана гаворыць Аленка, і дзяўчаты ледзь не подбегам ідуць па вуліцы.

Шафёр пастаяў, паглядзеў ім услед. Паківаў галавой, потым прыладзіў букет над пярэднім шклом у кабіне. Закурыў, абышоў вакол машыну, пастукаў наском бота па балонах колаў. Сеў за руль і пакаціў.

Галя і Аленка набліжаюцца да канцавой хаты. З яе двара выходзіць знаёмы ўжо нам светлавалосы юнак. Гэта высокі, танклявы хлопец, з доўгімі рукамі, як бы прысутулены і на першы погляд нязграбны. І ўсё ж ён нечым прываблівае, міжвольна выклікае прыхільнасць. Можа прычына гэтага ў позірку яго добрых светлых вачэй, у адчуванні яго нейкай унутранай сілы і шчырасці.

— Глядзі, Галя, вунь і Антон ідзе,— паказвае Аленка.— Прывітанне вялікаму паэту нашай сучаснасці!— весела гукае яна.

— Добры дзень, Антоша! Са святам! — гаворыць Галя, і Антон, замілавана зірнуўшы ёй у твар, з нейкай асаблівай шчырай радасцю паціскае ёй руку.

— Што гэта ты сёння нейкі?.. — з усмешкай глядзіць на яго Аленка.

— Які? — насцярожана пытаецца Антон.

— Ды нейкі ўзлахмачаны, не святочны...

— А-а, — махнуў рукою Антон. — Цэлую ноч не спаў... Не мог заснуць...

3.

Вялікая, запоўненая дзецьмі школьная зала. Тут уся школа, ад першага да дзесятага класа. Стрыжаныя галовы, непакорныя ёршыкі, аку-

ратна заплеценыя касічкі, вясёлыя дапытлівыя твары — колькі іх тут, смяшлівых і сур'ёзных, непасед і ціхоняў!..

За сталом, які ўвесь застаўлены свежымі кветкамі, сядзяць настаўнікі. Пасярэдзіне за сталом — дырэктар школы Ігнат Пятровіч, сівы, з маршчыністым тварам, але жывымі разумнымі вачыма. На штрыфелі яго пінжака — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Уздоўж сцяны стаяць у рад героі сённяшняй урачыстасці — выпускнікі дзесятага класа, каля дваццаці юнакоў і дзяўчат. Амаль ва ўсіх на грудзях камсамольскія значкі.

Вось стаіць Галя Навасад са сваёй сяброўкай Аленкай. Побач — Антон Ціхі.

З-за заслоны выбягаюць першакласнікі, смяшлівыя хлапчукі і дзяўчынкі з банцікамі ў касічках. Яны трымаюць у руках букеты кветак.

Зала сустракае дзяцей бурнымі воплескамі. Усе ўсміхаюцца. Расчулены Ігнат Пятровіч непрыкметна змахвае рукою няпрошаную слязу.

Маленькая дзяўчынка, што ідзе першай, спыняецца каля дзесяцікласнікаў і, узняўшы галоўку, голасна гаворыць:

— Дарагія старэйшыя сябры! Мы, юныя акцябраты...

Дзяўчынка збіваецца і замаўкае, забыўшыся, што гаварыць далей. Ззаду гэтакі ж, як і яна, маленькі хлопчык дзелавіта падказвае: «Віншуем вас...» Дзяўчынка спахапілася, успомніла, падняла галаву:

— Ага... Мы віншуем вас з заканчэннем школы і жадаем вам шчасця і радасці ў жыцці!..

Бура воплескаў у зале пакрывае апошнія словы дзяўчынкі. Першакласнікі падбягаюць да выпускнікоў і перадаюць ім букеты кветак.

Да Галі падбягае хлопчык, што падказваў дзяўчынцы прамову. Ён перадае Галі кветкі, і яна, не вытрымаўшы, нагнулася, абхапіла яго галаву і пацалавала хлопчыка ў лоб. Той збянтэжыўся і, як толькі адбег, адразу ж дзелавіта і старанна выцер рукою месца пацалунку.

Першакласнікі, перадаўшы кветкі, пабеглі ў залу і паселі разам з усімі дзецьмі.

Галя прыціснула свой букет да грудзей. Антон Ціхі, задуменна нахмурыўшыся, час-ад-часу крадком кідае замілаваныя позіркі на Галю.

Ігнат Пятровіч, па-бацькоўску ласкава паглядзеўшы на Антона, абвяшчае:

— Ад імя выпускнікоў слова мае Антон Ціхі... Калі ласка, Антоша...

Антон дастае з кішэні свой верш і паціху, з перапынкамі ў голасе, гаворыць: «Развітанне са школай»:

Ад школьнага парога
Да бацькавае хаты —
Была наша дарога:
Ні многа, ні багата.

Але ж, сябры, адгэтуль,
Дзе першы крок ступілі,
Дзе таямніцы свету
Мы ўпершыню адкрылі,

Дзе светлае юнацтва
З'яднала дружбай шчырай, —
Не лёгка выпраўляцца
Нам у свой першы вырай.



Нас павядзе дарога
У новы свет багаты
Ад школьнага парога,
Ад бацькавае хаты.

З тужліваю усмешкай
Я вам кажу: бывайце
І першай нашай сцежкі
Нідзе не забывайце!

І настаўнікі, і вучні дружна апладзіруюць.

Ігнат Пятровіч гаворыць, звяртаючыся да выпускнікоў:

— Вось мы, сябры, і развітваемся... Што вам сказаць на дарогу? Я шчыра зайздрошчу вам. Вы ўступаеце ў жыццё ў цудоўны час, у пару, калі Радзіма наша стаіць на парозе вялікіх здзяйсненняў. Гляньце вакол — камунізм ужо не дзесьці далёка, а побач, ён ужо прыйшоў і да нас, на Палессе. Вось-вось заззяюць над нашым некалі глухім і закінутым краем агні Сасновіцкай электрастанцыі... Памятайце, будучыня пачынаецца сёння.

Уважліва слухаюць словы старэйшага настаўніка і кіраўніка школы выпускнікі — Галя Навасад, Аленка, Антон Ціхі, слухаюць і маладыя настаўнікі, і ўсе вучні ў зале.

— ...Сябры мае, — пасля кароткай паўзы гаворыць Ігнат Пятровіч, — чалавек народжаны для шчасця. Вы, маладыя будаўнікі камунізма і першыя члены новага грамадства, спытаеце ў мяне, а ў чым жа шчасце?.. Яно ў працы, у самаадданай і шчырай працы на карысць свайго народа. Не ўсё ў вас будзе гладка, але не бойцеся перашкод, якія сустрэнеце ў жыцці. Смела пераступайце іх... Вось і ўсё, што я хацеў сказаць вам на дарогу!..

Бурнымі воплескамі адказвае зала на пажаданні Ігната Пятровіча. Радасныя, натхнёныя твары ў юнакоў і дзяўчат.

У канцы стала, за якім сядзяць настаўнікі, устае юнак, дзевяцікласнік, сакратар камсамольскага камітэта школы. Прыгладзіўшы рукою чупрыну, юнак гаворыць:

— Таварышы, група нашых выпускнікоў, як вядома, едзе на буйнейшую новабудоўлю рэспублікі — Сасновіцкую ДРЭС. Дазвольце па даручэнню райкома ўручыць вам камсамольскія пуцёўкі...

У зале ажыўленне. Відаць, што многія выпускнікі хацелі б трапіць на славутую будоўлю па камсамольскай пуцёўцы. Затаіўшы дыханне, слухаюць юнакі і дзяўчаты, каго называе сакратар.

— Андрэй Пахомчык... — чытае сакратар камітэта.

Юнак падыходзіць да стала і бярэ з рук сакратара камсамольскую пуцёўку.

— Рыгор Цесавец, — чытае далей сакратар. — Галя Навасад...

Загарэўся радасцю і хваляваннем твар Галі. Яна хутка падыходзіць да стала, бярэ пуцёўку.

— Алена Ячная, — чытае далей сакратар. — Кузьма Бойка... Ніна Лабуда... Тамара Шаплыка. Ад імя камсамольскай арганізацыі віншую вас і жадаю, каб вы і там, на будоўлі, як у школе, сумленна неслі высокае званне камсамольцаў.

Антон Ціхі падыходзіць да стала. Сакратар, як бы вінавата, падымае на яго вочы і разводзіць рукамі.

— А табе, брат, няма. Многім не хапіла...

Дырыжор школьнага духавога аркестра, хлапчук са смешным востранькім тварам, густа пакрытым вяснянкамі, рашуча ўзмахвае рукамі, і аркестр дружна і гучна, заглушаючы ўсё ў зале, выконвае марш.

Аленка, стоячы побач з Галяй, глядзіць на сваю пуцёўку, затым кідаецца на шыю сяброўцы.

З любоўю глядзіць на сваіх выхаванцаў Ігнат Пятровіч.

4.

Ускраіна Васілішак. Дробнае прылессе паступова пераходзіць у чысты бор, які цёмнаю сцяною выступае з прыцемку летняга вечара. Сярод паляны весела гарыць вялізны касцёр.

На камлі паваленай сасны, як вясёлыя птушкі на галіне, у рад сядзяць хлопцы і дзяўчаты, якія толькі што пакінулі роднае гняздо — школу. Смех, штурханіна, вясёлыя жарты. Асобныя смелякі, разагнаўшыся, пераскокваюць цераз вогнішча.

Але не ўсе ў вясёлым гурце. Тым, каму неўзабаве прыдзецца развітацца з домам, з сябрамі, у такую хвіліну хочацца пабыць сам-на-сам са сваімі думкамі, зазірнуць у сваю душу. Галя Навасад, прыхіліўшыся спіной да сасны, стаіць на водшыбе. Яна як бы прырасла да камля, злілася з дрэвам. Водбліскі агню зрэдку выхопліваюць яе постаць з цемры, і ў гэтыя моманты Антон Ціхі бачыць яе задумлівае аблічча. Ён стаіць непадалёк і, не спускаючы вачэй, глядзіць на Галю.

Некалькі хлопцаў цягнуць да кастра сухія яловыя галіны і ламачча. Вогнішча загараецца з новай сілай.

Аленка, падхапіўшыся з агульнага гурту, заўважае сяброўку.

— Галінка! — крычыць яна і падбягае да Галі. — Ты адна? А я думала...

Аленка азіраецца навокал і пры ўспышцы кастра бачыць Антона. Той, заўважыўшы яе позірк, спрабуе схавацца за прысадзістую дзікую грушу і робіць выгляд, што любуецца зорамі.

— Я думала... — як бы з нейкай вінаватасцю тлумачыць Аленка. — Ці ты не бачыш, не здагадваешся, што наш паэт... — Яна ківае галавой на Антона.

Антон адчувае, што гаворка ідзе аб ім і, працягваючы глядзець на зоры, прыслухоўваецца да размовы сяброўак.

Галя цяпер разумее намёк сяброўкі, усміхаецца:

— А-а, вось ты аб чым... Ды ну цябе! — І ўсё зводзіць на жарт: — Паэты, Аленка, не любяць хадзіць па зямлі. Яны ўсё больш там... — Круціць рукой над галавой. — У небе...

— Ды вы абое крыху... — Аленка са смехам паўтарае жэст сяброўкі.

І тут Антон нарэшце наважваецца падысці да дзяўчат. Збянтэжаны, ён паведамляе, як самае найвялікшае адкрыццё:

— Глядзіце, дзяўчаты, якія зоры над соснамі!..

Сапраўды, зоры летняга неба над верхавінамі сосен — відовішча, якое не можа не ўразіць чалавечую душу.

— Зоры, як зоры, — гаворыць з наўмыснай абыякавасцю Галя.

— Галя, — ласкава звяртаецца да дзяўчыны Антон, — як ты можаш так гаварыць. Ты толькі зірні... — Ён паказвае рукою на неба з такім выглядам, нібыта ён сам стварыў усё гэтае хараство.



— Ды я гляджу, — адказвае Галя і спачувальна ўсміхаецца. — Вунь Сірыус, Венера, а вунь Юпітэр... А цікава, як ву-унь тая зорка завецца?

— Якая? — перапытвае Антон.

— Вунь над той грушай, за якой ты хаваўся, — паказвае Галя.

Відаць, што Антон — не герой яе дзявочых мар, але ён — добры і шчыры хлопец. І Галя, хоць і не падае яму ніякіх надзей, але і не жадае крыўдзіць яго.

— Не ведаю... — бездапаможна прызнаецца Антон.

— Ён там не на тую зорку глядзеў, — смяецца Аленка.

— Так, — апусціўшы галаву, ціха гаворыць Антон, — я ведаю імя толькі адной зоркі... — Дэкламуе з пачуццём:

Ты — мая зорка, што першай над светам,
Над шчасцем маім узышла...
І да жаданай вялікае мэты
На крыллях мяне паднялa...

— Хлопцы, дзяўчаты! — падхопліваецца Аленка. — Давайце заспяваем Антонаву песню... Пачынай, Галя!

— Што ж, Антон, спяем на развітанне... — згаджаецца Галя.

Галя пачынае спяваць:

«Свяці мне ў дарозе жыццёвай далёкай,
Свяці, мая зорка, у небе высока...»

Устаюць у рад каля паваленай сасны дзяўчаты, а на сасне, узвышаючыся над імі, пасталі хлопцы. Адзін з жартаўнікоў, выхапіўшы з агню недагарак, выскачыў наперад, стаў перад усімі і пачаў дырыжыраваць.

І тут хор падхоплівае:

«Як вечарамі вясеннімі, роснымі
Над роднаю вёскай, над ціхімі соснамі...»

— Харошыя словы, — у задуменні гаворыць Галя, і твар Антона загараецца шчасцем.

5.

Дзяўчаты з Васілішак — на будоўлі Сасновіцкай ДРЭС.

Брыгадзір мантажнікаў Міця Салавей, — малады, энергічны хлопец з камсамольскім значком на грудзях, — вядзе па будаўнічай пляцоўцы Галю і Аленку. Дзяўчаты ў новых камбінезонах і, відаць, адчуваюць сябе ў іх няёмка, непрывычна. У руках у іх рыдлёўкі.

Гмах галоўнага корпуса. Экскаватары са скрыгатам угрызаюцца ў зямлю. Даўгарукі высачэзны кран увіхаецца каля коміна электрастанцыі. Над ім праплываюць светлыя хмаркі. Будоўлю акружаюць, нібы вартуюць яе спакой, гонкія сосны. Зводдалек сцяною стаіць некрануты сасновы бор.



Ведучы Галю і Аленку, Салавей гаворыць:

— Брыгада наша, дзяўчаты, камсамольская, комплексная і, да вашага ведама, перадавая — мы цяпер спаборнічаем за права называцца камуністычнай брыгадай. Вам, можна сказаць, здорава пашанцавала.

Яны праходзяць далей, і перад імі адзін за другім разгортваюцца малюнкі будаўніцтва, — падстанцыя з яе блытанінай тысяч правадоў, транспарцёр для падачы торфу, домік помпавай устаноўкі...

— А што такое камуністычная брыгада? — тлумачыць брыгадзір.— Перш за ўсё, да вашага ведама, кожны павінен выконваць нормы...

Галя: Па-другое, усе павінны вучыцца...

Брыгадзір глядзіць на яе са здзіўленнем.

— А ты, бачу я, кемлівая. Правільна, павінны вучыцца.

Аленка: І яшчэ, выхоўваць у сабе новага чалавека...

Брыгадзір з тым жа здзіўленнем глядзіць на Аленку.

— А каб вас... Усё вы ведаеце.

— Хто ж гэтага не ведае? — смяецца Аленка.

Брыгадзір заклапочана чухае патыліцу.

— Ды сустракаюцца такія, што ведаць ведаюць, а... — брыгадзір пакручвае галавой, маўляў, «а выконваць не выконваюць».

Цэх, дзе вядзецца мантаж аднаго з важных вузлоў электрастанцыі — катла і ўсіх дапаможных агрэгатаў. Вось кацёл — галоўная артэрыя, якая будзе жывіць сэрца будучай электрастанцыі. Пачынаючыся з ніжняга паверху, ён навылёт праходзіць праз усе цэхі, аж да самага верхнята.

На мантажы катла працуюць электразваршчыкі, і скрозь увесь пралёт чатырох паверхаў зверху ўніз сыплецца каскад вогненнага дажджу.

Трое хлопцаў з дапамогаю ланцужнага пад'ёмніка падганяюць шырачэзныя трубы. Муляры ў фартухах кладуць фундамент пад адзін з агрэгатаў.

Раптам зверху, з рыштаванняў, вадаспадам сыплюцца іскры. Дзяўчаты спалохана закрываюцца рукамі.

— Не бойцеся!.. Гэта — Віктар Саўчук, гордасць нашай будоўлі. Во! — паказвае Салавей на дошку вытворчых паказчыкаў, якая вісіць непадалёк.

Дзяўчаты ўглядаюцца. Самым першым там стаіць прозвішча Віктара Саўчука і супраць яго лічба — «180%». Побач з дошкай паказчыкаў на



сцяне — плакат з надпісам: «Тут працуе брыгада тав. Салаўя, якая змагаецца за званне камуністычнай».

— Салют, Віктар Іванавіч! — махае брыгадзір рукой электразваршчыку.

Той прыпыняе работу, падымае ахоўны шчыток. Гэта зусім яшчэ малады, прыгожы юнак з нейкім шыкоўным чорным берэтам на галаве. Ва ўсёй яго паставе, манерах, рухах адчуваецца, што ён занадта ўпэўнены ў сабе. Яго прафесія як бы дае яму перавагу над іншымі.

— Экскурсія? — іранічна кіўнуўшы галавой на дзяўчат, пытаецца ў брыгадзіра Саўчук. — Сувязь школы з вытворчасцю? Ну-ну, давай, Міця, звязвай...

— Ды не, Віктар, — гаворыць Салавей, — яны ў нашу брыгаду прысланы. З дзесяцігодкі...

— А што яны ўмеюць? — Віктар адразу хмурнее.

— Ды падвучым чаму-небудзь...

Саўчук адклаў трымальнік з прутком электрода, памалу сышоў уніз, да брыгадзіра і дзяўчат. Агледзеў іх прыжмураным позіркам з галавы да ног. Гаворыць да Салаўя:

— Значыць, для цябе інтарэсы брыгады — цьфу?.. Так выходзіць?..

— Віктар, ды кінь ты, — угаворвае брыгадзір.

— А працэнты? — зласліва пытаецца Віктар. — Працэнты ўніз? Камуністычная брыгада — назад?.. Табе ж самому і сорам будзе...

— Іх да нас прыслаў камітэт камсамола будоўлі, — пярэчыць Салавей.

— Камітэт, як тая зязюля: па яечку ў чужое гняздзечка... А ты тут вучы іх, вадзі за ручкі!..— Віктар занадта ўжо ласкавым голасам звяртаецца да дзяўчат.— Дзевачкі, вы, як сюды ішлі, бачылі высокі-высокі комін?

— Бачылі,— нясмела адказвае Аленка, не ведаючы, куды хіліць Віктар.

— А катлаван побач бачылі?.. — пытаецца далей Віктар.

— Ага,— яшчэ цішэй адказвае Аленка.

— Мая вам парада — тупайце туды. Там можа і знойдзецца работка для вас з вашымі рыдлёвачкамі!— з'едліва раіць Віктар.

Алена не можа вытрымаць знявагі, у яе на вачах выступаюць слёзы. Галя стаіць уся напружаная, вочы гараць, губы моцна сцятыя.



— Кадры! — махае рукой Саўчук і падымаецца на прыступку, вяртаючыся на сваё рабочае месца. — Скажы камітэту, каб іх лепш у яслі ці ў дзіцячы сад прыстроілі.

Галя горача гаворыць да Аленкі:

— Супакойся ты!.. Знайшла перад кім... — Яна з гневам глядзіць на Віктара. — Артыст!

— Што-о? — спыняецца ашаломлены Віктар.

— Нікуды мы не пойдзем! — голасна выгуквае Галя. — Будзем працаваць там, куды нас паставілі!..

— Ві-ктар, ды што ты... — разгублена ўгаворвае хлопца Салавей.

— Ну, як сабе хочаце! — махнуў рукою Віктар і пачаў падымацца па сходках. Зласліва гаворыць Салаўю: — А толькі, будзеш ты цягнуць у брыгаду ўсякіх... дзяцей — нічога мы не даб'ёмся!

Віктар апускае на твар ахоўны шчыток, пачынае працаваць, і іскры залатым вадаспадам сыплюцца вакол.

— Эх, гарачая галава! — усміхаецца Салавей дзяўчатам, жадаючы згладзіць непрыемнае ўражанне. — А рукі — залатыя!.. Нічога, дзяўчаткі... Вось станавіцеся да нашага Міхася.

Адзін з муляроў, Міхась Бачура, з добразычлівай усмешкай бярэ пад казырок:

— Прывітанне маладому папаўненню!

6.

Шырокая ціхая рака, акаймаваная па берагах густым цёмна-зялёным лазняком. Дзе-ні-дзе берагі голыя, пясчаныя, асляпляльна блішчаць пад яркім паўдзённым сонцам. Уздоўж па берагах стаяць сігнальныя слупы з ліхтарамі, пасярод ракі на драўляным трыкутніку плавае бакен.

Пясчаны спадзісты левы бераг ракі. Добра ўкатаная дарога вядзе амаль да самай вады, дзе стаяць паромныя масткі. Крыху воддаль ад берага ўкапаны нізкі дубовы слуп, да якога прымацаваны паромны дрот.

На пясчаным спуску чакаюць парома некалькі жанчын з кашалямі, відаць, калгасніцы з Сасновіч, чатыры-пяць маладых хлопцаў і дзяўчат, якія, мяркуючы па іх заплечных дарожных мяшках, едуць на будоўлю ДРЭС, і пажылы дзядзька з каровай на повадзе.

Да берага імкліва пад'язджае шэрая, запыленая «Пабеда». На ўзгорку, не спускаючыся ўніз, машына спынілася, і з яе адразу выйшаў маладжавы на выгляд, энергічны мужчына гадоў 45. Твар адкрыты, прыемны, густыя чорныя валасы выбіваюцца з-пад лёгкай летняй кепкі. Вочы жывыя, глядзяць з вясёлай хітрынкай. Апрануты ён у дабротны дарагі касцюм, белая кашуля па-летняму расшпілена, без гальштука.

Гэта — Леанід Ільіч Сініцкі, начальнік будаўніцтва ДРЭС. Адчуваецца, што ў яго добры, прыўзняты настрой.

Леанід Ільіч глядзіць на раку, — паром ужо недалёка, ён памалу набліжаецца да масткоў. Зводдалек, за ракой па беразе ракі раскінулася невялікае сяло — гэта і ёсць Сасновічы. А лявей на высокім беразе ўзвышаюцца карпусы электрастанцыі і над імі высачэзны цагляны комін. Побач — доўгая вуліца гарадка, паабапал якой — беленькія двухпавярховыя дамы.



Леанід Ільіч памалу падыходзіць да юнакоў і дзяўчат, усміхаецца.

— А вы, відаць, да нас на будоўлю, рабяткі?

Першы хлапец: Ага, на будоўлю.

Леанід Ільіч: І што ж, калгас не пярэчыў, адпусцілі вас?

Другі хлапец: А мы не самавольна, мы па пуцёўках ад камсамола.

Першая дзяўчына: Ды і не назаўсёды. Закончыцца будаўніцтва, назад вернемся. У нас калгас мо-оцны.

Леанід Ільіч: Так, так... Добра, што едзеце, рабяткі, людзі на будоўлі нам во як патрэбны.

Леанід Ільіч глядзіць на паром, які ўсё набліжаецца.

На пароме раўнамерна і як быццам зусім без натугі, толькі ледзь адкідаючыся тулавам, цягне трос стары паромшчык, Даніла Ермалаевіч. Гэта — сярэдняга росту, але моцны, шыракаплечы стары, з вялікай сівой барадой. На галаве ў яго самаробны саламяны брыль. Данілу памагаюць цягнуць паром мужчыны, фурманкі якіх у рад, адна за другой, стаяць на пароме.

Ужо недалёчка і бераг. Даніла прыглядаецца да людзей на беразе. Ён пазнае начальніка будаўніцтва, і твар яго асвятляецца ўсмешкай. Ён прывітальна падымае руку.

— З прыездам, Леанід Ільіч!

— Дзень добры, дзядзька Даніла! — махае ў адказ рукой Леанід Ільіч.

Паром павольна прычальвае да масткоў. З'язджаюць з парома фурманкі, — калгаснікі едуць некуды на луг. Затым памалу ўз'язджае на паром «Пабеда», заходзяць жанчыны з кашалямі, дзядзька з каровай, юнакі і дзяўчаты.

Паром адчальвае, Леанід Ільіч частуе паромшчыка папяросай, затым становіцца побач з ім і памагае яму цягнуць трос.

— Ну, якія навіны везяцё, Леанід Ільіч? — пытаецца паромшчык.

— Добрыя навіны! — ахвотна адказвае Сініцкі. — Цэмент, жалеза, трубы, усё, што прасілі, далі, ні ў чым не адмовілі. Цяпер усё залежыць ад нас, будаўнікоў — стрымаем сваё слова ці не?.. А скажу табе, Даніла Ермалаевіч, так бы мне хацелася, каб над нашым краем хутчэй загарэліся агні.

— Та-ак... — задумённа прыжмурыўшы вочы, гаворыць Даніла. — Гляджу я вакол — пайшло наперад, зашумела наша Палессе ў гэтыя гады. А яшчэ калі гэтую махіну збудуеце, зусім абновіцца край...

— Ты, Ермалаевіч, відаць, не ведаеш, — я ж і сам паляшук.

— А скуль жа родам?

— З Махаедаўшчыны, — чуў такую лясную старонку?

— Чаму ж не чуў. Таму ты так і да сэрца ўсё бярэш... Вось, да слова, ёсць у мяне просьба, Леанід Ільіч. Гэта ж я штодня столькі народу да вас перавожу — і едуць, і едуць...

— Ну і што?

— Рух цераз раку такі цяпер — ні ўдзень, ні ўночы спачынку няма. І ўсё да вас, на будоўлю. То ці нельга б там ад вас мне якога памочніка маладога прысляць. Адзін не магу ўправіцца, сіла ўжо не тая...

— А гэта ты правільна кажаш, Ермалаевіч, — заўважае Леанід Ільіч.

Павольна плыве цераз раку паром.

7.

Канец рабочага дня на будоўлі. Басавіты гудок плыве над гарадком. З варот ДРЭС групамі і па аднаму ідуць рабочыя — і пажылыя, і моладзь, мужчыны і жанчыны. Ідуць — хто моўчкі, хто перакідваючыся жартам з сябрамі.

Вось выходзяць з прахадной Галя і Аленка. Яны крочаць па мурожнай абочыне дарогі. Галя, як заўсёды, ідзе сваёй адметнай пругкай хадой, выразна падстукваючы абцасамі. Галава яе ўскінута высока, горда.

І ўсё ж адчуваецца, што і ў Галі, і ў Аленкі настрой сёння, пасля першага рабочага дня, панылы. Абедзве пахмурыя, задуменныя.

Моўчкі мінаюць яны агарожу будоўлі, моўчкі выходзяць на дарогу, што вядзе да жылога гарадка. Зводдалек, за рэдкімі соснамі, ужо відаць першыя дамы. Па дарозе зрэдку прабягаюць з будоўлі машыны.

— Што ты маўчыш? — строга пытае Галя ў сяброўкі.

— Дык і ты ж маўчыш... — адказвае Аленка. І затым, уздыхнуўшы, ціха дадае: — Неяк боязна мне, Галя... Ці здолеем мы тут?..

— А ты думала, усё адразу будзе табе роўненька ды гладзенька?.. Ты ўспомні, што нам на дарогу Ігнат Пятровіч казаў.

— А гэты зваршчык... як ён на нас накінуўся.

— Выхваляка няшчасны! — абурана гаворыць Галя. — Передавік называецца, за камуністычную брыгаду хварэе. А сустрэў нас, як які-небудзь...

Па дарозе з будоўлі калонай, адна за другой, бягуць машыны. За рулём адной з іх — Сцяпан Касуха. Ён бачыць наперадзе постаці дзвюх дзяўчын і пачынае прыглядацца: нешта знаёмае заўважае ён у паходцы адной з іх, Алены Ячнай. Успамінае, і адразу ўсмешка ўзнікае на яго твары.

Дагнаўшы дзяўчат, ён крыху прытармажвае, выглядае з акенца кабіны. Так і ёсць, яго знаёмыя з Васілішак. Сцяпан, не хаваючы радасці, махае ім рукой. Ён бы хацеў спыніцца, але нельга, — ён едзе ў калоне, ззаду і спераду ў яго грузавікі.

Аленка заўважае прывітальны жэст Сцяпана.

— Ой, Галя! — хапае яна за руку сяброўку. — Глядзі, вунь Сцёпа паехаў.

— Дзе? — пытаецца Галя.

— Ву-унь, глядзі...

Але машыны адна за другой бягуць па дарозе, і ўжо не відаць ні Сцяпана, ні яго машыны.

Дзяўчаты ідуць далей, па шырокай, брукаванай вуліцы гарадка. Уздоўж тратуараў пасаджаны маладыя дрэўцы. Сапраўдны горад вырас тут, на пясчанай Сасновіцкай пустэчы, вакол якой калісьці прасціраліся бясконцыя палескія лясы.

Галя гаворыць сяброўцы:

— І пра нормы не трывожся... Сёння не выканалі, заўтра не выканаем... Ды, няпраўда ж, падвучымся і справімся!..

Памаўчаўшы, яна гаворыць зноў:

— Я так разумею, Аленка, — калі ўжо ты дамагаешся стаць чалавекам будучыні, душа твая павінна быць яснай і чыстай, без хмурынкі. А ён туды, распіхаючы ўсіх, у адзіночку рвецца, усіх абагнаць хоча...

— Як жа, перадавік, — згаджаючыся, гаворыць Аленка, і ў нечаканым парыве абдымае за плечы Галю. — Добра мне з табой, Галінка...



8.

Вечар. Двухпавярховы будынак дзявочага інтэрната.

У пад'езд заходзіць шафёр, Сцяпан Касуха, — у чыстым касцюме, з вялікім букетам кветак.

Ён памалу ідзе на другі паверх, праходзіць па калідоры. Відаць, што ён тут упершыню, адчувае сябе няўпэўнена. Уважліва прыглядаецца да нумароў на дзвярах пакояў. Дайшоўшы да пакоя нумар 9, спыняецца, акідвае позіркам свой касцюм, увесь падцягваецца і асцярожна стукае ў дзверы.

Дзверы расчыняюцца, і на парозе стаіць Галя Навасад. Аказваецца, вось каго тут шукаў Сцяпан.

— Сцяпан?!. Заходзьце, — гасцінна, з ветлівай усмешкай гаворыць Галя.

Сцяпан уваходзіць у пакойчык, вітаецца.

— Добры вечар.

Пакойчык невялікі, але ўтульны. Паўз сцяну стаяць два ложкі, паміж імі — тумбачка, засланая белай сурвэткай, на ёй — люстэрка, грабянец, духі. Побач — стус кніжак. Каля стале, пад сціплым шкляным абажурам электрычная лямпачка.

— Як вы нас знайшлі? — здзіўлена глядзіць на хлопца Аленка, і чырвань памалу залівае яе шчокі.

— Язык, кажуць, і да Кіева давядзе... Знайшоў! — весела гаворыць Сцяпан. Ён падае Аленцы букет. — Вось... прыміце ў адказ. Нашы, сасновіцкія... — дадае ён, таксама адчуваючы нейкую збянтэжанасць.

— Дзякую, — ціха гаворыць Аленка і бярэ букет. Яна ўстаўляе кветкі ў збанок і ставіць іх на стол.

Галя глядзіць на аднаго, затым на другога і гаворыць:

— А ведаеш, Аленка, збегаю я... у магазін, за хлебам.

Сцяпан з усмешкай глядзіць на прыкрыты сурвэткай свежы бохан хлеба на стале і, жартуючы, прыкладае руку да сэрца:

— Не турбуйце сябе. Думаю, што Аленка не адмовіцца прайсціся са мной. Я пакажу ёй наш горад...

Аленка нерашуча глядзіць на сяброўку. Галя ківае ёй галавой, добразычліва ўсміхаецца.

— А што сядзець у хаце... Прайдзіся...

Па тым, як хутка кінулася збірацца Аленка, з якой радасцю накінула на галаву шаўковую хусцінку, лёгка здагадацца, што ёй вельмі хацелася пайсці, што ёй падабаецца гэты прыгожы хлопец з усмешкай, якая асляпляла белізной роўных прыгожых зубоў.

І вось Аленка і Сцяпан паціху крочаць па вуліцы. Скрозь на слупах гараць электрычныя ліхтары, а зводдалек, на чорным фоне неба, свецяцца агнямі будоўля.

— Ты, Аленка, можа, думаеш, што гэта я так, дзеля жарту, — ціха

гаворыць Сцяпан, асцярожна трымаючы за руку дзяўчыну. — Запала ты мне ў сэрца...

Яны ідуць па-над рэчкай, па крутым высокім беразе.

— Як прыгожа! — ціха гаворыць Аленка. Твар яе свеціцца шчасцем.

— Прыгожа! — згаджаецца Сцяпан.

Яны спыняюцца пад шатамі старога шырокага дуба. Сцяпан кладзе руку на тоўсты, шурпаты ствол.

— Няхай гэты дуб будзе месцам нашых сустрэч. Добра, Аленка?

— Добра, — паслухмяна адгукаецца дзяўчына.

Неўзабаве Сцяпан і Аленка берагам ракі падыходзяць да вёскі. Гэта — Сасновічы. Вуліца вёскі тоне ў цемені, толькі ледзь-ледзь пабліскваюць вокны ў хатах — там гараць газнічкі.

— А тут як цёмна-а! — зазначае Аленка.

— Не доўга ўжо чакаць, хутка і тут загарацца нашы агні, — адказвае Сцяпан.

На самай ускраіне вёскі стаіць нізенькая, урослая ў зямлю, пахілая хаціна. Адзінае маленькае акенца яе ледзь свеціцца.

— Якая бедная хатка, — спачувальна гаворыць Аленка.

— Ха-ха, — смяецца Сцяпан. — А каб ты ведала, хто тут жыве!

— А хто?

— Сама ўсемагутная Кажаніха, славутая на ўсю ваколіцу чарадзейка і варажбітка. Баба-Яга!..

— Ой, што ты! — усміхаючыся, Аленка робіць выгляд, што баіцца, і прыхінаецца да Сцяпана. — Пойдзем адсюль.

— Пойдзем, — згаджаецца Сцяпан, і яны паварочваюць назад. — Слава яе цяпер закацілася. А раней — ого! — адбою ад кліентаў не было.

Аленка яшчэ раз азірнулася на хаціну.

І вось Сцяпан і Аленка ў гарадку, каля інтэрната, развітваюцца.

— Да пабачэння, Аленка, — гаворыць Сцяпан.

— Да пабачэння, — ціха адказвае Аленка.

Сцяпан трымае рукі Аленкі ў сваіх руках і глядзіць на дзяўчыну. Ён хоча пацалаваць яе, але ў вачах яе чытае боязь, просьбу не рабіць гэтага, і ён стрымлівае сваё жаданне.

І Сцяпан толькі глядзіць услед Аленцы, якая хутка бяжыць на другі паверх.

Пакойчык дзяўчат. Галя ляжыць на ложку з разгорнутай кніжкай у руках, — відаць, чытала. На краю ложка сядзіць Аленка. Яна ўсхваляваная, узбуджаная, вочы блішчаць.

— Ой, Галінка... Я і сама не ведаю, што са мной робіцца...

— А што, Аленка? — прыўзняўшыся на локці, з цікавасцю пытае Галя. — Ён падабаецца табе?..

Аленка, як бы саромячыся, закрывае твар рукамі і моўчкі ківае галавой.

Потым яна адкрывае твар і гаворыць Галі:

— Калі б ты ведала, якія прыгожыя словы ён мне гаварыў... Мне яшчэ ніколі ніхто такіх не казаў!..

Галя задуменна глядзіць убок.

— Адзін і мне сэрца ўстрывожыў...



Аленка раптам паварочваецца да сяброўкі:

— Хто? Хто, Галя?

— Не пытайся, хто. Сама сабе баюся прызнацца...

**9.**

Будоўля. На невысокіх прыступках у брызентавых камбінезонах з кельмамі ў руках завіхаюцца муляры.

Лёгка, спрытна працуе Міхась Бачура. Адчуваецца, што работа яму па душы. Хлопец час-ад-часу сам сабе нешта напявае.

Галя і Аленка падносяць на насілках раствор да муляра. Затым яны бяруць кельмы і таксама вучацца мураваць. Асцярожна кладуць цагліну за цаглінай.

— Смялей, весялей, дзяўчаткі! — гукае муляр.

Але дзяўчатам не да жартаў. Аленка краем курткі ацірае з ілба пот, размазвае па твары пыл ад цэглы і вапны.

— А ну, пакажыце, як тут у вас выходзіць? — падыходзіць Міхась да дзяўчат з ватэрпасам у руках.

Міхась вымярае, прыкідвае вокам.

— Э, не тое, не тое... — ён штуршком нагі разбурае ўсю кладку Галі і Аленкі. — На перакос пайшло.

Галя здзіўлена глядзіць на Міхася, кусае руку, каб стрымацца ад слёз.

— А трэба, дзяўчаткі, вось так... вось так... каб яна тут як бы навечна лягла... — паказвае Міхась.

Рукі майстра пачынаюць свае прывычныя рухі. Аленка і Галя з сумам глядзяць на дасканалую работу муляра. Майстар на хвіліну перапыняе работу, глядзіць на дзяўчат:

— Э, ды вы, бачу я, засумавалі!.. Вышэй галовы! Падвучыцеся, а там усё пойдзе, як па масле...

Дзяўчаты пачынаюць працаваць.

— Я так ніколі не навучуся класці, — ціха гаворыць Аленка да Галі, ківаючы на Міхася.

— А я навучуся! — упарта адказвае Галя.

Уздоўж цаглянага жолаба, на выкладцы якога працуюць муляры, праходзіць парторг будаўніцтва Васіль Іванавіч Жданові і брыгадзір Міця Салавей. Парторг — немалады, павольны ў рухах мужчына.

— Ну, як, Міця, справы? — пытаецца ён у брыгадзіра.

— На поўным разгоне ідзём, Васіль Іванавіч.

— Разгон то ўзялі, а з чацвёртага месяца зрушыць не можаце.

— Дык жа ў нас, Васіль Іванавіч, — пярэчыць Салавей, — баласту многа... Навічкоў абучаем.

— Гэта не прычына. Моладзь ва ўсіх брыгадах працуе...

Салавей маўчыць, апусціўшы галаву. Яны праходзяць далей па ўчастку.

Салавей пытаецца.

— А як будзе з трубамі, Васіль Іванавіч? Зарэжуць яны нас, чэснае слова, зарэжуць!

— Пра трубы не клапаціся,— з усмешкай гаворыць парторг.— Леанід

Ільіч з Мінска добрыя навіны прывёз. Нашай ДРЭС урад зялёную вуліцу адкрывае. Будуць і трубы, і ўсё, што прасілі...

Убачыўшы дзяўчат, Васіль Іванавіч спыняецца, глядзіць, як яны працуюць. Пытаецца ў брыгадзіра:

— Баласт, кажаш? — ківае на Галю і Аленку. — Дарэмна ты гэта, брат.

— Ат... — Салавей махае рукой.

— Ты не махай. Бачу я, яны вунь як стараюцца. Будзе з іх толк...

У добрым настроі парторг праходзіць далей. Вось ён спыняецца каля электразваршчыкаў кацельных труб. Сярод іх Ждановіч адразу пазнае «па почырку» Віктара Саўчука, які вылучаецца ад усіх спрытам, лёгкасцю рухаў.

Шчыра, душэўна, гаворыць парторг да Салаўя:

— Не хапае, Міця, у вашай брыгадзе дружбы, павагі да сяброў. Некаторыя толькі пра сябе думаюць, пра свой поспех. А вы ж, вось, на вялікую справу нацэліліся... — Васіль Іванавіч паказвае на лозунг, што вісіць на сцяне: «Жыць і працаваць па-камуністычнаму!» — Ты падумай над гэтым, Міця...

Ждановіч паціскае руку брыгадзіру, ідзе далей.

З вышыні, з будкі маставога крана, дзяўчына ў чырвонай касынцы падае прарэзлівыя званкі-сігналы. Над пляцоўкай агрэгата кран апускае цяжкую металічную канструкцыю. Інжынер участка махае рукой кранаўшчыцы, паказваючы кірунак грузу і яго адхіленні...

Галя і Аленка за працай. Галя сама прыкладае да кладкі ватэрпас, глядзіць, задаволена смяецца.

— Ну, цяпер Міхась не забракуе нашу работу.

— Але ж нормы... — заўважае Аленка.

— Не спяшайся, адолеем і нормы, — упэўнена адказвае Галя.

Канчаецца змена. Брыгадзір Міця Салавей крэйдай запісвае на дошцы паказчыкаў вынікі работы кожнага члена брыгады.

«Саўчук В., — піша ён, — 174,5 прац.»

«Патапенка Н. —110,9 прац.»...

Побач з Салаўём, ля самай дошкі, стаіць Віктар Саўчук. Ён важна дастае з кішэні партсігар, пастуквае папяроскай аб вечка. Закурвае, адчуваючы сябе поўным пераможцам. Між рабочых, маладых хлапцоў і дзяўчат, Галя і Аленка з неспакоем чакаюць, які вынік іх працы. І вось даходзіць чарга да іх.

«Навасад Г., — піша Салавей. —80 прац.»

«Ячная А. —73 прац.»

— Віншую, Віця, — скончыўшы пісаць, паціскае брыгадзір руку Саўчуку. — Моцна трымаешся сваёй лічбы!

— Гэта, браток, лічба сама трымаецца мяне, — з гордай усмешкай гаворыць Віктар. — Між іншым... — голасна, каб чулі дзяўчаты. — Можа там у каго не хапае працэнтаў, дык вазьмі з маіх перакінь. У парадку, так сказаць, шэфства над дзіцячым садам...

Галя кідае гнеўны пранізлівы позірк на Віктара. Але той, нібы не заўважаючы, пакурвае папяросу.

**10.**

Ад левага берага адчальвае паром. На пароме грузавік, фурманкі, калгаснікі з Сасновіч, рабочыя з ДРЭС.



У самую апошнюю хвіліну, засопшыся, падбягае да паромных масткоў наш васілішкаўскі знаёмы Антон Ціхі. Даніла Ермалаевіч падае яму руку і памагае пераскочыць з масткоў на насціл парома.

— Дзякую, дзядзечка, — гаворыць Антон.

Перакідваючы на роліку трос, паромшчык гаворыць:

— Усе спяшаюцца, усім няма часу... Ну, а ты ж куды ляціш? — пытае Даніла ў хлопца.

— Ды туды... — няпэўна махае Антон рукой у бок ДРЭС.

— На будоўлю? — дапытваецца Даніла і пачынае падцягваць трос.

— Ага... — адказвае Антон і, стаўшы побач, старанна памагае паромшчыку цягнуць трос.

— А цябе хто-небудзь пасылае, ці... так, сам па сабе?

— Сам па сабе...

Даніла, прымерваючыся, глядзіць на хлопца.

— Што ж гэта табе так загарэлася?

Антон, нахмурыўшыся, махае рукой:

— Ай, не пытайцеся...

— Гм-м...— неазначальна гмыкае стары Даніла. — Можа, якая бяда здарылася?

— Бяда, бяда, — пацвярджае Антон.

— А-а, — здагадваецца Даніла. — Усё ясна. Каханне?..

— Адгадалі, — безнадзейна махае галавой Антон і задуменна глядзіць на ваду.

Даніла асцярожна выпытвае:

— А яна, відаць, на будоўлі?

— Ага, — ківае галавой Антон. — Скажы, дзядзька, прымуць мяне без пуцёўкі?

Даніла акідвае ўважлівым позіркам моцную постаць Антона.

— Чакай, чакай, хлопча...

Паромшчык падыходзіць да Антона, мацае мускулы яго рук.

— Што такое? — здзіўлена пытае Антон.

— А вось што, — відаць, ужо прыняўшы рашэнне, гаворыць Даніла. — Дам я табе запісачку да Леаніда Ільіча.

— А хто ён такі?

— Эх ты, пячкур! Гэта ж сам Сініцкі, начальнік усёй будоўлі.

— Дзядзечка!.. — з удзячнасцю бярэ яго за руку Антон.

— Ну, ну!.. — гаворыць Даніла і, выняўшы з-за пазухі сшытак, вырывае з яго лісток, старанна піша запіску. — Вось бяры... Прыдзеш на ДРЭС, нікуды не блудзі, а проста ў кабінет да Леаніда Ільіча.

Антон Ціхі ва ўпраўленні будаўніцтва. Ледзь прыадчыніўшы дзверы, ён зазірае ў кабінет начальніка і пытаецца:

— Можна?

Леанід Ільіч гаворыць па тэлефоне. Ківае Антону галавой — «можна».

— ...Не, у мяне зусім няма жадання лаяцца з вамі, — гаворыць Леанід Ільіч у трубку. — Але праз тыдзень нашы мантажнікі вымушаны будуць стаць у прастой... А?.. Ну, няхай сабе і так, абы трубы былі ў нас... Бывайце!..

Леанід Ільыч кладзе трубку. Паварочваецца да Антона. Той, збянтэжаны, стаіць у парозе.

— Ну, што ў вас? — коратка пытаецца Сініцкі.

— Вось тут... — паспешліва шукаючы ў кішэні, гаворыць Антон,— вам пісьмо...

Леанід Ільыч бярэ з Антонавых рук лісток, разгортвае, чытае. «Дарагі Леанід Ільіч! Памятаеце маю просьбу? Па-мойму, гэты хлопец будзе ў самы акурат. З прывітаннем! Ермалаевіч».

— Ага... Добра, добра, — гаворыць Леанід Ільіч. — Ёсць, браток, адна пасада... Трэба сказаць, работа цяпер вельмі важная для нас...

**11.**

Цэх. Знаёмы ўжо нам участак, дзе працуюць муляры. Галя і Аленка разам з іншымі выкладаюць цагляныя жалабы для параправодных труб. Цяпер ужо больш упэўненымі і дакладнымі сталі рухі дзяўчат. І наогул мулярскі ўчастак па ўсіх адзнаках ідзе перадавым у брыгадзе.

Галя смяецца:

— Цікава, якую песню нам сёння Салавей заспявае?..

— Нешта ён разбегаўся, як учадзеўшы... — гаворыць Аленка.—Во, глядзі, зноў да мантажнікаў пабег.

Паўз дзяўчат прабягае заклапочаны брыгадзір.

Насустрач яму, спакойна пакурваючы, ідуць Віктар і яшчэ два электразваршчыкі.

— Нешта там здарылася. Саўчук без работы ходзіць, — здзіўлена глядзіць Галя на зваршчыкаў.

Звяртае ўвагу на зваршчыкаў і муляр Міхась Бачура.

— Відаць, зноў запарка ў мантажнікаў, работы для зваркі не падрыхтавалі.

Віктар дэманстратыўна садзіцца каля сцяны на зваленыя трубы і з пагардай глядзіць на мітусню.

— Ну, вось, брыгадзір... твае мантажнікі...— з папрокам гаворыць ён Салаўю. — Зноў запарыліся. А нам — у прастоі стаяць!

— Ладна, Віця, не хвалюйся. Яны не забавяцца. Ты сваё нагоніш...

Брыгадзір, спяшаючыся, ідзе да мантажнікаў.

У напружаным тэмпе працуе мантажная група брыгады. Ідзе падгонка шырокіх, паўметровага сячэння, труб. Маладыя хлопцы спяшаюцца, аж узмакрэлі іх чупрыны.

Галя выпрасталася, не выпускаючы з рук кельмы, глядзіць на мантажнікаў.

— Дзіўна... А зваршчыкі сядзяць ды пакурваюць.

— А што ж ім рабіць? — паціскае плячыма Міхась.

— Як што?.. Па-мойму, усе мы адзін аднаму памагаць павінны.

— Ну, сказала! — махнуў рукою Міхась. — Будуць табе зваршчыкі з мантажнікамі трубы цягаць!..

Галя не адказвае Міхасю, кладзе кельму, выцірае аб фартух рукі і рашуча ідзе да мантажнікаў. Спыняецца каля брыгадзіра Міці Салаўя. Той, разгарнуўшы невялікі чарцёж, тлумачыць нешта старэйшаму з групы мантажнікаў.



Убачыўшы Галю, брыгадзір перапыняе сваю размову і пытае:

— Ну, што табе, Галя?

— Незразумела, таварыш Салавей, як гэта выходзіць?..

— А што?..

— Гэтыя з сіл выбіваюцца, пот з іх льецца, а зваршчыкі сядзяць ды пакурваюць...

— Дзень добры, я ваша цёця! — з насмешкай ківае галавой Салавей. — А ты што прапануеш?

— Прапаную, каб і зваршчыкі і ўсе мы разам сталі і памаглі мантажнікам. Гэта ж справа ўсёй брыгады...

Салавей абнімае за плечы Галю, насмешліва гаворыць:

— Ведаеш, галубка, вось ты ідзі да зваршчыкаў і скажы ім гэта. Ясна?..

Галя рухам пляча скінула руку Салаўя са спіны і адступілася на крок.

— Ну і пайду!..

Брыгадзір глядзіць услед Галі, паціскае плячыма.

Галя падыходзіць да зваршчыкаў. Віктар і яго паплечнікі з цікавасцю глядзяць на яе.

— Хлопцы, а ну, пойдзем паможам мантажнікам, — з нейкай нечаканай рашучасцю гаворыць дзяўчына. — Небаракі з сіл выбіваюцца...

— Гэта як жа разумець? — прыжмурыўшыся, з іроніяй пытае Віктар. — Каб я... — Жэстамі паказвае, як варочаюць трубы ўкладчыкі.— Ты што, смяешся?

— Слухай, Віця, — раптам гаворыць адзін са зваршчыкаў, Мікола, зусім яшчэ малады, з тонкім прадаўгаватым тварам хлопец,— а Галя дзела гаворыць. Навалімся разам, падможам, дык і нам жа хутчэй работа будзе. Пойдзем, Віця.

— Ідзі ты, ведаеш куды!..— злосна гаворыць Віктар і адварочваецца.

— Ну, і сядзі сабе! — рашуча ўстае Мікола. — Якім ты быў, такім застаўся...

Віктар рэзка паварочваецца да астатніх зваршчыкаў:

— І вы пойдзеце?

— А што, — гаворыць адзін са зваршчыкаў, — разумная думка. Не бачу тут ніякай знявагі. Хадзем, хлопцы!..

Зваршчыкі адзін за другім падымаюцца і ідуць да мантажнікаў. Галя на нейкае імгненне затрымалася, глядзіць на адзінокага Віктара. У яе позірку і асуджэнне, і спачуванне, і пошук дружбы. Адчуваецца, што, нягледзячы на ўсе спрэчкі, Галі падабаецца гэты стройны, прыгожы юнак, і яна хацела б з ім сябраваць. Але Віктар не разумее яе і глядзіць з выклікам, злосна.

Галя паварочваецца і ідзе. Па дарозе гукае:

— Аленка!.. Міхась!..

Міхась, які ўвесь час сачыў за тым, што адбываецца, убачыўшы, што зваршчыкі пайшлі на дапамогу мантажнікам, кладзе кельму.

— Хадзем, Аленка, — гаворыць ён, — хадзем, хлопцы. Бач, якую кашу Галя заварыла!..

І вось уся брыгада — зваршчыкі, муляры, укладчыкі — дружна працуюць на ўкладцы труб. Адчуўшы таварыскае плячо падмогі, весялей глядзяць мантажнікі. Устаноўлена адна, другая труба.

Па будаўнічай пляцоўцы праходзіць начальнік будаўніцтва Леанід Ільіч. Побач з ім крочыць заклапочаны Міця Салавей.

— Не забывай, дружа, — гаворыць Леанід Ільіч, — што ў нас застаўся ўсяго адзін месяц да пуску першай чаргі. Усё Палессе з нецярплівасцю чакае нашай энергіі, — гарады, сёлы, заводы...

— Мы сваю работу здадзім у тэрмін, — абяцае Салавей.

Яны ідуць далей. Раптам Леанід Ільіч заўважае незвычайны рух на ўчастку мантажнікаў. Ён прыглядаецца.

— Што гэта, зваршчыкі ў вас разам з укладчыкамі працуюць?

Салавей збянтэжаны. Тое, што ён бачыць на ўчастку, для яго таксама з'яўляецца нечаканасцю. Не думаў ён, адсылаючы Галю да зваршчыкаў, што здолее яна ўгаварыць іх пайсці на дапамогу мантажнікам. Салавей муляецца, ён не ведае, як паставіцца да гэтай справы начальнік будаўніцтва.

— А гэта... гэта, ведаеце, запарка ў нашых мантажнікаў здарылася, дык мы... у парадку, так сказаць, узаемавыручкі ўсю брыгаду на прарыў кінулі... Уласна, гэта ўсё вунь тая дзяўчынка надумалася!..

Леанід Ільіч спыняецца. У захапленні гаворыць:

— Слухай, ды гэта ж цудоўнае пачынанне! Ты разумееш?.. Залатыя людзі ў цябе ў брыгадзе, Міця... Як яе завуць, тую дзяўчыну?

— Галя, Навасад Галя... З дзесяцігодкі ў цэх прыйшла.

Леанід Ільіч выняў запісную кніжачку, нешта коратка занатаваў сабе, прыгаворваючы:

— Цікава, цікава... Ты, браток, падтрымай гэты пачын. — Спыняецца ў задуменні, глядзіць на Галю.

Леанід Ільіч пайшоў далей.

Задумаўшыся, паглядае яму ўслед брыгадзір.

Потым Салавей падыходзіць да адзінокага Віктара, незадаволена пытае:

— А ты сядзіш?.. Адзін сядзіш?

— Што?.. — падхопліваецца, загарэўшыся, Віктар. — Пайшлі вы ўсе к чорту!.. — Віктар злосна шпурляе пад ногі недакурак.

**12.**

Пясчаны бераг ракі. Сонца ўжо хіліцца на захад. Прыбярэжныя кусты, рэдкія разгалістыя сосны.

Каля берага ў рацэ купаюцца Аленка і Галя. Вакол разносіцца дзявочы смех, плёсканне, спалоханыя выкрыкі Галі і ўпэўнены голас Аленкі:

— Не бойся, — гаворыць Аленка і пачынае вучыць Галю плаваць. — Глядзі, вось як трэба... жабкай... — Аленка кладзецца на ваду і паказвае: — Смела кладзешся, раскідваеш рукі вось так, а потым пачынаеш, ну, як вёсламі — раз... раз... раз!..



Галя, адфыркваючыся і часта хапаючы ротам ваду, робіць першыя практыкаванні, але няўдала.

Зноў — вясёлы смех, фантаны пырскаў, у якіх рознымі колерамі гарыць стужка вясёлкі...

Берагам ракі з вяслом на плячы ідзе Антон Ціхі. Ён у расшпіленай белай кашулі, без шапкі. Твар яго загарэў. Антон увесь неяк акрэп, падужэў, відаць, праца на пароме пайшла яму на карысць.

— Глухі, пастухі, лемяхі, мяхі... — падбірае ён рыфмы, забыўшыся пра ўсё на свеце. — А прычым тут мяхі?.. Мяхі адкінем!..

Ён пачынае дэкламаваць:

Непраходны і глухі
Быў палескі кут...

— Та-ак... А далей? Кут, люд, пуд, жмут... Ага! Вось!..

Непраходны і глухі
Быў палескі кут.
Плытагоны, пастухі —
Вось і ўвесь наш люд...

Антон тут жа прыстаўляе вясло да дрэва, дастае з кішэні сшытак і, прысеўшы на адно калена, на другім запісвае страфу новага верша.

І якраз у час, калі ён канчае запісваць, чуе зводдалек залівісты дзявочы смех і плёскат на рацэ.

Антон устае, прыслухоўваецца. Потым памалу пачынае ісці на галасы. Вось ён спыняецца і, прыўзняўшыся на дыбачкі, водзіць галавой, вышукваючы між дрэў прасветліну, каб убачыць, хто там плёскаецца. Але нічога не відаць.

Антон, прыгнуўшыся, лезе праз густы зараснік. Галлё драпае яму твар, за каўнер сыплеццаігліца, засыпала ігліцай і валасы.

Вось між прыбярэжных сосна́ў паказаўся бераг ракі, і тут Антон раптам убачыў рухавыя, гнуткія постаці дзяўчат. Дзяўчаты бегалі навыперадкі па вадзе, абдаючы адна другую пырскамі.

Антон аж сумеўся ад такога нечаканага відовішча, застыў у нерухомасці, не ў сілах адарваць вачэй ад дзяўчат. Затым ён, прыгнуўшыся, ціхенька падпаўзае яшчэ бліжэй.

Антон бачыць ля куста дзявочыя сукенкі, дзве пары басаножак... У гэты час Галя паварочваецца тварам да берага, і Антон слупянее ад неспадзяванкі: ён пазнае Галю... Спачатку Антон усім целам падаўся наперад, а з вуснаў яго ўжо гатова было сарвацца імя дзяўчыны. Але раптам ён апамятаўся, сорам і збянтэжанасць авалодалі ім, і ён гатовы быў праваліцца скрозь зямлю, абы толькі дзяўчаты не заўважылі яго. Ці ж аб такім спатканні ён марыў! Першым спатканні пасля яго прыезду сюды!..

Баючыся нават павярнуцца, Антон задам пачаў адпаўзаць, што далей, то хутчэй... А выбраўшыся на лясную дарогу, вопрамеццю кінуўся бегчы ад ракі...



Апранутыя дзяўчаты стаяць на беразе. Аленка расчэсвае грабянцом валасы. Галя абувае басаножкі. Зашпіліўшы апошні гаплік на плацці, Галя глядзіць на гадзіннік.

— Ой, Аленка, хутчэй збіраймася, а то спознімся на спеўку. Пайшлі!

— Давай пабяжым!.. — задорна прапануе Аленка.

— Пабеглі! — згаджаецца Галя і першая кідаецца бегчы.

Аленка некаторы час бяжыць за ёю, потым, задыхаўшыся, адстае. Ідзе адна, задумваецца, шчасліва ўсміхаецца сваім думкам.

Пасялковая вуліца. Дзяўчат абмінаюць гружаныя будаўнічымі матэрыяламі самазвалы, машыны.

Алена бярэ за локаць сяброўку.

— Галя...

— Ну?

— Галінка, я не пайду ў клуб.

— Чаму? — здзіўляецца Галя.

— Не магу сёння...

Галя, здагадаўшыся, глядзіць на Аленку.

— Са Сцяпанам сустрэча?

— У-гу...— ківае галавою Аленка і шчасліва ўсміхаецца сяброўцы.

**13.**

Двор гаража будоўлі. Заязджаюць у двор і выязджаюць на вуліцу машыны.

Маленькі, як павярнуцца, пакойчык дыспетчарскай. Маладая тоненькая дзяўчына ў вышыванай блузцы, з каснічком на галаве сядзіць за сталом. Яна падсоўвае да сябе мікрафон і пачынае гаварыць.

Цераз устаноўлены на даху канторы гучнагаварыцель чуецца:

— Шафёры Касуха Сцяпан, Хадасевіч Ілья, Навіцкі Пятро, вас выклікае да сябе загадчык гаража. Паўтараю: шафёры Касуха Сцяпан...



Сцяпан на двары гаража абмывае са шланга машыну, выцірае яе анучай. Чуе выклік дыспетчара, прыслухоўваецца. Кладзе шланг, закручвае кран падачы вады. Ідзе да канторы.

У невялікім пакоі за сталом сядзіць начальнік гаража Пятрэнка,— вусаты, пажылы мужчына ў акулярах са сціплай драцяной аправай. Адарваўшыся ад папер, якія ён праглядаў, Пятрэнка, набычыўшыся, з-пад акуляраў глядзіць на Сцяпана.

— Слухаю, таварыш Пятрэнка, — гаворыць Сцяпан.

— Трымай пуцёўку, — падае Пятрэнка паперу Сцяпану. — Паедзеце ўсе трое ў Гомель, на таварную. Груз далікатны, важны, вязіце асцярожна...

— Ехаць сёння? — насцярожыўся Сцяпан.

— Праз дзве гадзіны.

— Ах ты, каб на яго!..— засмучона выгуквае Сцяпан, чухаючы патыліцу. — А замяніць нельга было б, таварыш Пятрэнка?

— А што здарылася? — здымаючы з носа акуляры і прыглядаючыся да Сцяпана, пытае Пятрэнка.

— Ды там адна справа... — бянтэжыцца Сцяпан, яўна не жадаючы растлумачваць яе загадчыку гаража.

— Адна?.. — падміргваючы, жартуе Пятрэнка. — Добра, што хоць не дзве... Вось бяры пуцёўку і — у дарогу.

Сцяпан у адчаі махае рукой і бярэ пуцёўку.

Выходзіць з канторы, спыняецца. Нейкую хвіліну стаіць у нерухомасці, задуменна наморшчыўшы лоб. Потым рашуча ідзе да сваёй машыны, сядае ў кабіну, заводзіць матор.

Хутка імчыцца машына Сцяпана па вуліцах жылога гарадка. Твар Сцяпана нахмураны, заклапочаны.

Пад'ехаўшы да ўжо знаёмага нам інтэрната, дзе жывуць дзяўчаты, машына спыняецца. Сцяпан выходзіць з машыны і амаль подбегам ідзе па лесвіцы на другі паверх. Прабягае па калідоры, спыняецца каля пакоя нумар 9. Асцярожна стукае ў дзверы, чакае. Не атрымаўшы адказу, стукае ў другі раз, мацней.

Але, відаць, дзяўчат няма дома, — ніхто не адказвае.

Сцяпан паварочваецца і хутка ідзе па калідоры, затым спыняецца. Падумаўшы, зноў вяртаецца назад. Відаць, што ён хвалюецца.

Дастае з унутранай кішэні блакнот, аловак, піша запіску. Вырывае напісаны лісток, складае яго і затыкае ў замочную шчыліну дзвярэй.

Падправіўшы на галаве шапку, спускаецца па лесвіцы, ідзе да машыны.

Па лесвіцы, сама сабе пацiху напяваючы нейкі факстрот, падымаецца дзяўчына з моднай прычоскай, з ярка нафарбаванымі губамі. Гэта буфетчыца рабочай сталоўкі Сіма Беленькая. Вяртлявай паходкай яна праходзіць па калідоры. Сіма раптам заўважае ў дзвярах пакоя нумар 9 запіску ў замочнай шчыліне.

Зацікавіўшыся, яна спыняецца, насцярожана азіраецца. З яхіднай

усмешкай бярэ запіску і, разгарнуўшы, чытае. Прачытаўшы, зняважліва фыркае, камечыць рукою запіску.

— А што, калі твая Аленка крыху і пахвалюецца?..

**14.**

Вечар. Стары паромшчык Даніла Ермалаевіч гатуе ў кацялку над вогнішчам юшку. Кацялок вісіць над полымем на лёгкіх, пераразаных лазою козлах. Час-ад-часу стары памешвае юшку лыжкай, прабуе яе на смак.

Насупраць старога, ярка асветлены агнём кастра, сядзіць Антон. Перад ім на каленях разгорнут сшытак. Антон і тут заняты сваёй справай — складае вершы. Ён нешта мармыча сабе, робіць кароткія запісы.

Стары Даніла чуе яго мармытанні, усміхаецца, але не злаcліва, не зняважліва, а як быццам нават з гордасцю за свайго маладога друга.

— Ну што, не выходзіць? — з усмешкай пытаецца ён.

— Ды вось, як прычапіліся да мяне словы, нібы ў палон узялі, не магу адчапіцца...

— Чытай, — з выглядам знаўцы гаворыць Даніла.

— Ага, слухайце, — ахвотна, з гатоўнасцю і давер'ем пачынае чытаць Антон:

Непраходны і глухі
Быў палескі кут.
Плытагоны, пастухі —
Вось і ўвесь наш люд...

Змаўкае і запытальна глядзіць на старога.

— Ды як быццам нішто, — памешвае лыжкай юшку стары Даніла. — А далей?

— А далей яшчэ не склаў... І чаму гэта так, дзядзька, вось Купалу, Коласа чытаеш, усё ў іх так лёгка, плаўна льецца. А ў мяне неяк каструбавата, няроўна... Ну, што б вам, да прыкладу, з Купалы прачытаць?..

Пакуль Антон намагаецца ўспомніць вершы Купалы, стары Даніла сам пачынае чытаць:

Невясёлая старонка
Наша Беларусь,
Людзі: Янка ды Сымонка,
Птушкі: дрозд ды гусь...

Антон здзіўлена глядзіць на паромшчыка.

— Ты чаго глядзіш? Дзівішся, што я, стары, ды Купалавы вершы ведаю?.. Вы ўсе маладыя такія, думаеце, што толькі вы ўсё і ведаеце, што і свет з вас пачаўся... Люблю я Купалу!

— І я люблю, Даніла Ермалаевіч! — увесь аж падаўся да старога Антон.

— Любі, — строга наказвае стары, — і старайся пісаць, як ён — прыгожа, праўдзіва. Толькі пішы не пра старое, — ты ж яго толькі з кніжак і ведаеш. А складай вершы аб новым жыцці, аб новым Палессі. Ты вось апішы мне гэтыя агні, — стары Даніла паказаў рукою на будоўлю ДРЭС, — што асвяцілі людзям жыццё, апішы ўсё хараство нашага жыцця, і тады я скажу табе — маладзец Антон!



— Добра вы гаворыце, дзядзька, — слухаючы, як зачараваны, задуменна кажа Антон.

— Зірні, якая вакол харашыня. Усё быццам як і раней было — і лясы, і рака, а ўжо зусім не тое. Ва ўсё людзі душу ўклалі, усё жыве, бурліць, кіпіць... Асягнеш, брат, гэта розумам, думкай, дык тады такія песні складзеш, што табе ўвесь народ дзякуй скажа!

Зводдалек з-за павароту ракі паказаўся ўвесь у агнях пасажырскі параход. З яго гучыць задушэўная дзявочая песня...

Дзе ты, мой харошы,
Я цябе шукаю,
Я цябе шукаю
Каля лесу-гаю,
На лугу-пакошы,
Дзе ты, мой харошы?
Я цябе гукаю...

Параўняўшыся з вогнішчам, параход дае два кароценькія адрывістыя гудкі.

— Во, глядзі, Пецька з «Кашавога» вітаецца,—задаволена ўсміхаецца Даніла Ермалаевіч. Паромшчык устае і гукае ў цемру: — Здароў, Пятрок!.. — Стары з гонарам узнімае галаву:— Не забывае старога!

Параход аддаляецца. Але яшчэ доўга ў цемры гучыць чысты голас дзявочага сэрца, што сумуе ў чаканні:

У гэты ціхі вечар
Я цябе чакаю,
Веру, што спаткаю,
І надзею маю...
А мо' ўжо другая
Выйшла на сустрэчу
У гэты ціхі вечар?..

Антон і стары Даніла доўга слухаюць песню. Потым стары пытае:

— Ну, а як жа ты, Антоша, бачыў яе, сваю зорку?

— Бачыў, але... здалёк. Не адважыўся падысці.

— А ты не будзь такім цюхцялём! Смялей, хлопец!..

— Баюся, Даніла Ермалаевіч, — з сумам гаворыць Антон. — Баюся, што не па сэрцу я ёй...

— А ты смялей!.. — раіць стары Даніла. — За шчасце, браток, змагацца трэба...

— Вось сёння пайду, — гаворыць Антон, але ўпэўненасці няма на яго твары.

**15.**

Вечар. Знаёмы нам ганак дзявочага інтэрната. Па сходках на вуліцу збягае Галіна. Яна апранута прыгожа і з густам: у белай лёгкай кофтачцы, у чорнай спадніцы. На нагах — лакіраваныя лодачкі на высокіх абцасах.

Не паспявае яна ступіць на брук, як на тым баку вуліцы заўважае Антона Ціхага. Ён, пэўна, ужо даўно дзяжурыў каля пад'езда.

— Антон! — радасна крычыць Галя і падбягае да хлопца. — Здароў, Антоша!..

Нечакана для Антона, сустрэча адбылася такая непасрэдная і шчырая, што ён увесь ажззяе ад шчасця.

— Як ты тут апынуўся? Ты тут працуеш? Нашы дзяўчаты бачылі цябе на пароме. Чаму ж ты не паказваешся?.. — засыпала Галя пытаннямі Антона.

— Я прыходзіў... і не раз, ды вас усё не было, — гаворыць Антон.

— А мы або на рабоце, або ў клубе, — тлумачыць Галя і, падхапіўшы яго пад руку, прапануе. — Пойдзем у клуб, Антоша... Ой, у нас там так весела! І каб ты ведаў, як ты нам патрэбны!.. Пайшлі!

— Чакай, Галя... — упіраецца Антон. — Чаго я туды пайду?.. Я хацеў... з табою пабыць... пагаварыць.

Галя, зірнуўшы на гадзіннік, пацягнула яго яшчэ з большай рашучасцю.

— Пойдзем, Антоша, а то я пазнюся. Па дарозе аб усім і пагаворым.

Пабраўшыся за рукі, яны ідуць па вуліцы. Але Антон маўчыць: не так, не на хаду, уяўляў ён сабе сваю гаворку з Галяй. А Галя?.. Яна здагадваецца, што ёй хацеў сказаць Антон, і, не жадаючы так вось адразу разачароўваць хлопца, знарок адкладвае непрыемныя хвіліны той размовы. Няма ў яе пачуцця да Антона, але няхай ён яшчэ пабудзе са сваімі надзеямі.

Антон і Галя ля клуба, дзе перад уваходам — шумны гурт моладзі. Сярод моладзі — апрануты ў прыгожы чорны касцюм Віктар. Ён курыць, жартуе з сябрамі.

Як толькі Галя і Антон падышлі бліжэй да асветленага ўваходу ў клуб, Віктар адразу ж заўважыў іх і пачаў з цікавасцю сачыць за імі. Упершыню ён бачыць Галю не ў спяцоўцы і не ў кірзавых ботах, а ў прыгожай сукенцы і лакіраваных чаравіках з высокімі абцасамі, стройную, прыгожую, гордую. Ён з дапытлівасцю глядзіць на яе, нібы ўпершыню заўважыўшы ў ёй не муляра, а прыгожую дзяўчыну, ва ўсёй яе лёгкасці, стройнасці, ва ўсёй прывабнасці. І ўжо з адкрытай непрыязню акінуў ён крытычным позіркам з галавы да ног нескладную высокую постаць Антона. Што гэта яшчэ за даўгалыга валочыцца за дзяўчынай з іхняй брыгады?.. Віктар не можа захаваць сваёй збянтэжанасці. Ён кланяецца Галі, а потым, нібы зачараваны, пакідае кампанію і следам за ёю ідзе ў клуб.

**16.**

Рабочая сталоўка жылога гарадка. У два рады стаяць столікі, накрытыя чыстымі белымі сурвэткамі. За столікамі дзесяткі два наведвальнікаў, рабочых будоўлі. Вечар. Зала ярка асветлена электрычнасцю.

За далёкім столікам, у кутку, каля вялізнай кадкі з фікусам, сядзіць Аленка Ячная. Афіцыянтка ў зале адна, абслугоўвае марудна, і Аленка нервуецца. Яна глядзіць на свой наручны гадзіннік, нервова пастуквае пальцамі па стале.



За стойкай буфета Сіма Беленькая. Наваліўшыся локцямі на прылавак, яна прывычным позіркам аглядае залу, затым прыхарошваецца, паглядаючы ў маленькае люстэрка. Побач з ёю на стойцы стаіць радыёла, круціцца пласцінка, і ціхенька гучыць мелодыя танго ці фокстрота, пустога і лёгкадумнага, відаць, падабранага па густу гаспадыні.

Над столікам, дзе сядзіць Аленка, на сцяне — выразна напісаны плакацік: «Продаж і ўжыванне спіртных напіткаў у сталовай строга забараняецца». Аленка ў чаканні, пакуль яе абслужаць, з усмешкай прачытала гэты плакацік. Затым зноў кінула вокам на свой гадзіннік.

Сіма Беленькая заўважыла Аленку, хітра ўсміхнулася і, выйшаўшы з-за стойкі, пайшла да яе століка. На твары буфетчыцы прытворная зацікаўленасць, спачуванне.

— Добры вечар, Аленка!.. — вітаецца Сіма. — Я бачу, ты некуды спяшаешся?

Алена: Ды не так, каб вельмі, але сяджу, сяджу...

Сіма: Гэта ў нас сёння на ўвесь зал адна афіцыянтка працуе, не ўпраўляецца... Давай я сама табе падам. Што будзеш заказваць?

Алена: Ды што-небудзь, Сіма, па свайму густу...

Сіма: Я табе акунькоў смажаных прынясу.

Алена: Ну, прынясі акунькоў.

Сваёй вяртлявай паходкай Сіма ідзе на кухню.

Неўзабаве яна вяртаецца, прыносіць Алене талерку з рыбай, чай, хлеб. Ставіць усё гэта на стол перад Аленай.

Сіма: Еш, све-ежанькія. Толькі сёння з ракі...

Аленка бярэ відэлец, пачынае есці. Сіма прысаджваецца на крэсла насупраць Алены.

Сіма: Гэта наша Шурка Платонава, — ты ж ведаеш яе, такая бяляввенькая, шустрая, — адпрасілася сёння ў загадчыцы дадому з'ездзіць, у Заракітнае. Сёння ў іх там нейкія гулі...

Алена есць і коратка абыякава заўважае:

— Ага-а...

Сіма: Са Сцяпанам Касухам паехала. На пару. Аж я ім пазайздросціла...

Алена перастае есці, у вачах у яе ўзнікае неспакой.

— Са Сцяпанам? — пытаецца яна.

Сіма: А ты што, ведаеш яго?.. Ну так, са Сцяпанам.

Алена: А ты, часам, не... памылілася?

Сіма: Ды не, што ты. Ён яшчэ сам і заехаў за ёю сюды.

Алена: І... даўно яны паехалі?

Сіма: Даўно, яшчэ ўдзень...

Алена: А-а, удзень...

Алена з палёгкай уздыхае, неспакой пакідае яе: калі паехалі даўно, то Сцяпан, напэўна, ужо вярнуўся і не спозніцца на сустрэчу.

Алена: Нічога, не загуляюцца... Хутка ваша Шурка будзе на месцы.

Сіма (з усмешкай прыжмурыўшы вочы): Ты так думаеш?.. Усё можа быць...

**17.**

Аленка выходзіць са сталоўкі і ідзе вуліцай гарадка. Гарыць агнямі электрычнасці далёкая будоўля. Вуліца таксама ярка асветлена ліхтарамі.

Аленка ідзе хутка, рашуча, і ўсё ж відаць, што пасля размовы ў сталоўцы, некаторыя сумненні авалодалі ёю. Твар яе невясёлы, задуменны.

Алена выходзіць у канец гарадка, ідзе па дарозе да ракі. Зірнуўшы на гадзіннік, яна прыспешвае хаду.

Бледнае святло месяца асвятляе луг, прырэчныя кусты, раку.

Аленка падыходзіць да старога разгалістага дуба, — умоўленага месца сустрэчы.

Сцяпана няма.

Алена яшчэ раз глядзіць на гадзіннік, праходзіць уздоўж берага ракі. Потым яна вяртаецца і ідзе назад. Сядае на дол пад дубам, прытуліўшыся да яго спіной і абхапіўшы рукамі калені. У задуменні глядзіць на асветленую месяцам роўнядзь вады.

Зноў устае Аленка, зноў ідзе па беразе. Непадалёк відаць хаты Сасновіч. Аленка спыняецца, глядзіць на вёску. Яна бачыць знаёмую ёй нізенькую пахілую хаціну варажбіткі Кажаніхі. Аленка ўздрыгнула, нібы адчула нейкі холад, і адвярнулася.

Наставіўшы каўнерык жакета, яна паварочвае і памалу ідзе назад, да запаветнага дуба.

Раптам Алена бачыць, як з цемені, з гушчыні кустоў ад ракі паказалася нейкая дзіўная постаць. Прыгледзеўшыся, Алена пазнала, што гэта была жанчына — старая, сагнутая ў крук. Жанчына несла ў руках вядро з вадой, — ад святла месяца вада ў ім час-ад-часу цьмяна паблісквала. Старая накіравалася ад ракі да той пахілай хаціны, і шлях яе акурат ляжаў паўз тое месца, дзе стаяла Аленка.

Аленка здагадалася, што гэта і была, відаць, сама Кажаніха. Яна ўся сціснулася, хапілася рукамі за грудзі і спачатку намерылася ўцякаць. Але пастаяўшы так, у нерашучасці, раптам раздумала: нешта накшталт спачування варухнулася ў яе душы: такая старая, сагнутая і — валачэ ад ракі вядро з вадой.

Калі Кажаніха падышла бліжэй, Аленка ў нечаканым парыве ступіла крок ёй насустрач:

— Бабуля, дайце я вам памагу...

Кажаніха скаланулася, спынілася, сплюнула цераз левае плячо:

— Цьфу, нячысты дух!.. Хто ты і што тут поначы робіш?..

Алена: А я... ды гэта я тут... да ракі хадзіла.

Кажаніха (пачынае здагадвацца). — Да ракі-і... Не трэба мне тваёй помачы, сама данясу. А ты адстань ад мяне на пяць крокаў і ідзі следам.

Алена: Чаго гэта мне за вамі ісці?

Кажаніха (строга): Не пытайся лішне ды слухай, што кажу.

Алена, нібы зачараваная, прапускае наперад Кажаніху і паслухмяна ідзе за ёю.

Яны падыходзяць да хаціны, якая зблізку выглядае яшчэ больш бедна, таямніча, заходзяць у зарослы лебядою двор.



Кажаніха адчыняе дзверы ў хату. Сенцаў у хаціне няма, і з дзвярэй за парог падае цьмянае святло ад маленькай закопчанай газнічкі. Паставіўшы на лаву каля парога вядро, Кажаніха выглядае ў дзверы.

Алена ў нерашучасці спынілася непадалёк ад дзвярэй, баючыся ісці далей.

Кажаніха (усё тым жа строгім тонам): Чаго стала, праходзь у хату...

Алена памалу заходзіць, спыняецца каля парога. Адным беглым позіркам яна акідае ўсю хату. У сярэдзіне жыллё Кажаніхі закуранае, змрочнае. Ля сцяны на жардзіне пад столлю развешаны розныя сухія травы, карэнні. У самым канцы на жардзіне — чучала вялізнай савы, якая вырачыла свае халодныя, пустыя вочы.

Кажаніха: Праходзь, сядай на гэты столак... (паказвае на крэсла каля стала).

Алена паслухмяна праходзіць да стала, садзіцца.

Кажаніха: Усю тваю бяду, дзяўчына, ведаю, усё зараз скажу табе.

Кажаніха ідзе ў кут, у запечку дастае вялікі гліняны кубак, затым другім кубкам налівае ў яго вады з вядра. Падыходзіць да жардзіны, цярушыць у кубак з вадой нейкую сухую траву.

Алена з цікавасцю і нават страхам сочыць за ўсімі дзеяннямі і рухамі Кажаніхі.

Нацярушыўшы ў кубак траўкі, Кажаніха нешта шэпча над ім. Потым раптам брыкае нагою раз і яшчэ раз.

Алена (у вялікім здзіўленні): Ой, цётачка, што гэта вы... брыкаецеся?

Кажаніха: Ды ну іх!.. Нячысцікі пад нагамі блытаюцца. Маладыя, дык забаўляюцца, хвастатыя... Ты ў кут галавою адвярніся, а я іх пад печ пазаганяю...

Алена адварочваецца, а Кажаніха тым часам махае рукамі, венікам, як быццам заганяе пад печ чарцей.

Кажаніха: Кш-ш... Кш-ш, а ну, пад печ!.. Ну, усё ўжо, усё, можаш не баяцца. Паглядзі ў гэты кубак, галубка...

Алена: Ой, баюся я!..

Кажаніха: А ты не бойся, дурная, паглядзі...

Алена, перамагаючы страх, глядзіць у кубак.

Кажаніха: Ну, даволі... А цяпер чароўная вада нам усю праўду скажа. (Глядзіць у кубак, павольна гаворыць.) Э-э, дзяўчына-галубка, дарэмна ты яго чакаеш. Не прыдзе ён... Во, глядзі, па правую руку ад яго беленькая, танклявая стаіць, твая злая папярочніца.

Алена (у вялікім здзіўленні): І гэта вы ўсё ў кубку бачыце?

Кажаніха: А ты што ж думала?.. Усё, як на далоні, відаць. Вунь яшчэ бачу, як яна ўсміхаецца яму, ручку паціскае.

Алена рашуча ўстае, вочы яе загараюцца гневам. Яна намерваецца ісці.

Кажаніха: Ты куды падхапілася?.. Паслухай мяне.

Алена: А што?

Кажаніха: Тваёй бядзе лёгка памагчы магу... Дам табе такія приваротныя зёлкі, што адразу да цябе вернецца.

Алена вагаецца, стаіць у роздуме, але раптам гаворыць:

— Ну, дайце!

Кажаніха: А-а, за так гэта не даецца. Ты мне сто рублёў грошай

прынясі, а яшчэ для прывароту мне твая коўдра з ложка патрэбна, вось гэтая блузка... чаравікі... навалка з падушкі, — тое, у што адзяваешся і чым накрываешся... Але не назусім, не бойся, а толькі паваражыць...

Алена моўчкі паварочваецца і рашуча выходзіць з хаты.

18.

Канторка брыгадзіра Салаўя.

Салавей гаворыць па селектару з дырэктарам завода:

— Леанід Ільіч, дакладвае брыгадзір трэцяй Салавей. Брыгада парашыла сёння датэрмінова закончыць мантаж і зварку галоўнага парапровода. Зваршчык Саўчук просіць дазволу ісці на рэкорд...

Кабінет Леаніда Ільіча. Акрамя дырэктара, у кабінеце сядзяць Васіль Іванавіч Ждановіч і два маладых інжынеры, кіраўнікі ўчасткаў. Усе яны прымоўклі, слухаюць, што гаворыць Салавей.

Леанід Ільіч, нахіляючыся да мікрафона селектара, гаворыць:

— Рашэнне брыгады ўхваляю. Загадваю строга захоўваць усе тэхналагічныя патрабаванні, не дапускаць ніякіх адхіленняў ад устаноўленых норм. Памятайце, таварыш Салавей, які важны вузел вам даручаны. Ці ў адпаведнасці з парадкам праводзіцца рэнтгенаграфія зварачных швоў?..

Па селектару чуецца адказ Салаўя:

— З гэтым усё ў парадку, таварыш дырэктар, нашы «дактары» не робяць ніякіх скідак.

Д ы р э к т а р: Ці забяспечаны зваршчыкі дастатковай колькасцю патрэбных электродаў?

С а л а в е й: Забяспечаны поўнасцю.

Д ы р э к т а р: Трымайце мяне ў курсе ходу работ. Жадаю поспехаў!..

Леанід Ільіч выключае селектар, устае, праходзіць па кабінеце. Відаць, што ён усхваляваны.

— Ну, сябры, — звяртаецца ён да прысутных у кабінеце, — вось мы і набліжаемся да нашай мэты.

Участак у цэху, дзе праходзіць мантаж галоўнага парапровода. Працуюць электразваршчыкі.

Віктар Саўчук увесь натхнёны, сабраны, кожны яго рух разлічаны, ён варыць, як сапраўдны майстар сваёй справы.

Канчаецца пруток электрода. Віктар прывычным жэстам адкідае на лоб ахоўны шчыток. Твар яго засяроджаны, бровы ссунуты на пераноссі. Не марудзячы ні хвіліны, ён хутка бярэ са скрынкі новы пруток, устаўляе яго ў трымальнік зварачнага апарата. Апускае шчыток і зноў пачынае варыць.

Высока над параправодам працуюць муляры. На міг адарваўшыся ад работы, Галя глядзіць уніз на Віктара. Адчуваецца, што яна міжвольна любуецца яго работай.

— Ну і Віця, — заўважыўшы позірк Галі, гаворыць Міхась, знаёмы нам муляр, што абучаў Галю, — хоча рэкорд паставіць. Гатоў вышэй галавы падскочыць, абы славы дабіцца!..



— Дык ён жа які майстар! — не адрываючы вачэй ад Віктара, гаворыць Галя.

— Майстар вялікі, а славалюб яшчэ большы, — ківае галавой Міхась.

Салавей падыходзіць да кантралёраў зваркі. Кантралёры рэнтгенаўскімі праменнямі правяраюць якасць зваркі парапровода.

Салавей пытаецца ў старэйшага рэнтгенографа:

— Ну, як, «дактары», што паказвае выбарка?

— Ды пакуль усё добра, ні адна проба браку не паказала.

— А ў нас і не знойдзеце браку, — усміхаючыся, задаволена гаворыць Салавей. — Ты глядзі, якія чарадзеі працуюць!

Брыгадзір паказвае ў дальні канец участка, дзе завіхаюцца зваршчыкі.

— Гэта, відаць, там Віктар арудуе? — пытаецца рэнтгенограф.

— Ён самы, — з гордасцю адказвае Салавей.

Галя раўняе кельмай раствор, кладзе цагліну, спрытна прыстуквае яе ручкай кельмы. А рука ўжо цягнецца за другой цаглінай.

Галя глядзіць на Аленку, якая працуе побач. Але сёння Аленка ўся нейкая вялая, маўклівая. Рукі яе варушацца марудна, дзяўчына раз-пораз спыняецца, нешта думае, уздыхае. Вось яна і зусім апусціла кельму, села, як бы знемаглася, на кладку. Апусціла галаву, сядзіць у задуменні.

Галя заўважае ўсё гэта, занепакоена пытае:

— Што з табой, Аленка?.. Можа табе дрэнна?

А л е н к а (утаропіўшыся позіркам некуды ў адну кропку): Дрэнна...

Г а л я (устрывожана): Ты захварэла?..

Алена моўчкі адмоўна круціць галавой.

Г а л я: А што такое?..

А л е н к а: Ён ашукаў мяне... не прыйшоў на спатканне. І вось ужо трэці дзень не паказваецца на вочы.

Г а л я (з палёгкай уздыхае): Дурная, ці ж так можна?..

А л е н к а: Нічога ты не ведаеш, Галя...

Затуліўшы хусткай вочы, пачынае плакаць.

Г а л я (строга): А ну, змоўкні, дзіця малое!.. Разрумзалася! Бяры ў рукі кельму!.. Вернецца твой Сцяпан!..

Аленка з пачырванелымі ад слёз вачыма паслухмяна ўстае, бярэ кельму і пачынае працаваць.

Абедзве дзяўчыны зноў заўзята працуюць.

Галя подбегам ідзе па ўчастку паўз трасу парапровода. Падбегшы да месца, дзе працуе Віктар, міжвольна залюбавалася спрытнасцю і дакладнасцю яго рухаў, ігрою іскрыстых агнёў над яго галавой. Нерухома стаіць і з захапленнем глядзіць на яго працу.

Віктар адкідвае з твару ахоўны шчыток, усміхаецца Галі.

— Што, зноў скажаш «артыст»?..

— Не забыўся? — глядзіць на Віктара Галя цёплым дружбацкім позіркам. — І скажу: артыст!..

Але цяпер яна прамаўляе гэтае словы зусім з другім адценнем, выказвае захапленне яго сапраўды артыстычным майстэрствам.





Галя намерваецца ісці, але раптам Віктар кладзе трымальнік, становіцца ў яе на дарозе.

— Хвілінку, Галя... — гаворыць Віктар. — Што гэта за даўгалыгі з табою ўчора ў клуб тупаў?

Галя нахмурыла бровы:

— А ты што за спрос? Па-мойму, гэта зусім цябе не датычыць.

— Не датычыць, — нахмурыўшыся, апускае ўніз галаву Віктар. — Толькі не паложана ўсякім там... дзяўчат з нашай брыгады пад крэндзель вадзіць.

— Эх, Віктар... — з дакорам гаворыць Галя. — Дзівак ты...

Яна рашуча адводзіць яго рукой з дарогі і подбегам ідзе да свайго рабочага месца.

Віктар выкідае недагарак прутка электрода і хоча ўзяць новы. У скрынцы ляжаць пруткі электродаў двух розных марак — з шэрай абмазкай і з чорнай. Віктар адкідае чорныя электроды і выбірае патрэбны яму, шэры, устаўляе ў трымальнік і пачынае варыць шво на параправодзе.

Зноў працуе так, што іскры аж засыпаюць усё вакол.

Так у напружанай працы мінае час, і вось ужо набліжаецца канец змены.

Віктару застаецца абварыць ужо толькі тры-чатыры колцы на трубе парапровада.

Адкінуўшы на дол недагарак спаленага электрода, Віктар працягнуў руку ў скрынку за новым. Але тут ён са здзіўленнем заўважае, што шэрыя электроды ўжо скончыліся. У скрынцы ляжаць толькі чорныя.

Віктар робіць рукой нецярплівы жэст, ён незадаволены. Бегчы цяпер за электродамі, значыць, страціць колькі часу, а яму цяпер дорага кожная хвіліна!

Віктар азіраецца, як бы шукаючы выручкі, падтрымкі. Але паблізу нікога няма, нават ад сяброў ён далёка адарваўся.

Позірк Віктара спыняецца на чорных электродах. Ён глядзіць на іх, некаторы час вагаецца ў нерашучасці.

Потым, насцярожана азірнуўшыся, рашуча ўстаўляе ў трымальнік чорны электрод.

Абварвае адно, другое, трэцяе шво... Адкідвае на дол недагаркі спаленых электродаў.

І вось — канец змены. Зварка парапровада скончана. Уся брыгада Салаўя збіраецца да электразваршчыкаў, вітае іх з поспехам. Больш чым каго, усе вітаюць Віктара. Ён смяецца, радасны, узбуджаны, паціскае рукі сябрам. На сцяне цэха вісіць на скорую руку напісаны вялізнымі, не зусім роўнымі літарамі ліст паперы: «Сёння электразваршчык Віктар Саўчук выканаў зменнае заданне на 210 працэнтаў! Слава перадавікам нашай будоўлі!»

Падыходзіць да зваршчыкаў Салавей. Побач з ім крочыць нізенькі ў капелюшы фотакарэспандэнт, на-крыж абвешаны рознымі фотаапаратамі.

— А ну, станавіцеся, хлопцы!.. Глядзіце, хто да нас прыйшоў! — паказвае Салавей на фотакарэспандэнта.

Фотакарэспандэнт з уласцівай яго прафесіі спрытнасцю адразу ж пачаў кампанаваць групу.

— Вось так... А вы сюды станавіцеся... А вы вось так.. А глядзець будзеце сюды...

Віктар — у самым цэнтры групы, побач з ім — Салавей, а вакол цесным колам іх акружылі электразваршчыкі,мантажнікі, муляры. Недзе недалёка ад сярэдзіны групы пасталі Галя, Аленка, Міхась...

Фотакарэспандэнт адышоўся ад групы, пачаў наводзіць апарат.

— А нам што, зрабіць разумныя твары? — жартуе ўпэўнены ў сабе, задаволены Віктар, і ўся брыгада адзываецца на яго жарт вясёлым рогатам.

І ў гэты міг фотакарэспандэнт робіць здымак. Ён задаволены, паціскае Віктару руку.

— Сваім жартам вы і мне працэнт якасці падвысілі!..

Брыгада пакідае цэх, усе разыходзяцца.

Ідуць за ўсімі Галя з Аленкай, Міхась, ідзе малады танкатвары зваршчык Мікола, які некалі першы адгукнуўся на прапанову Галі пайсці на выручку мантажнікам.

Раптам Галя, неяк няёмка аступіўшыся, спатыкаецца. Яе тут жа далікатна падхоплівае пад руку Мікола.

— Ой, дзякую, ледзь не ўпала, — усміхаецца Галя.

— Паслізнуліся на нечым, — гаворыць Мікола і незнарок кідае позірк на залітую цэментам падлогу.

Каля месца, дзе працаваў Віктар, ляжыць цэлы россып недагаркаў спаленых электродных пруткоў. І тут нечакана сярод шэрых недагаркаў малады зваршчык заўважае... чорны недагарак — адзін, другі... Мікола, здзіўлены, занепакоены, спыняецца ў недаўменні. Няўжо Віктар варыў парапровад чорнымі электродамі?..

Зваршчык нагнуўся, падняў адзін чорны недагарак, разглядае яго. Хлопец яўна ўстрывожаны. Дзяўчаты, не разумеючы, у чым справа, са здзіўленнем глядзяць на Міколу.

Раптам малады зваршчык вопрамеццю кідаецца наўздагон групе, у якой ідзе Віктар.

— Гэй, Віктар! — гукае ён. — Пачакай, Віця!..

— Што гэта з ім? — у недаўменні паціскае плячыма Галя.

— А хто яго ведае, — гаворыць Міхась. — Можа забыўся герою руку паціснуць...

Адышоўшы ўбок, размаўляюць Мікола і Віктар.

— Віця, што гэта?.. — раскрыўшы далонь, Мікола паказвае Віктару недагарак чорнага электрода.

— А што такое? — падціснуўшы вусны і нахмурыўшыся, пытае Віктар.

— Ты што, чорнымі варыў?..

— Вось яшчэ сказаў!..—крыва ўсміхнуўшыся, паківаў галавою Віктар.

— А чаму ж я знайшоў яго там, сярод шэрых? — усё яшчэ сумняваючыся, настойвае Мікола.

— Ды ты што, звар'яцеў?.. У мяне іх і не было, чорных. А гэты... можа які валяўся на падлозе...



Віктар па-сяброўску абняў за плечы маладога зваршчыка і павёў яго да выхаду.

— Як ты мог на такое падумаць, дзівак!.. — і, памаўчаўшы, дадаў: — Між іншым, Коля, сёння ўвечары я даю ў сталоўцы невялічкі банкет... ну, разумееш, з выпівонам, танцулькамі... па ўсіх правілах вышэйшага этыкету. У гонар нашай сённяшняй перамогі. Дык я цябе і за сябра лічыць не буду, калі не прыдзеш... Ясна?

— Ясна, Віктар, дзякую, — усміхаючыся, з удзячнасцю за аказаны гонар, гаворыць малады зваршчык.

**19.**

Навес з дошак на будаўнічай пляцоўцы. Гэта — адзін з часовых складаў будоўлі.

У рад каля навесу стаяць тры грузавікі, поўныя грузаў. Рабочыя згружаюць з іх і ставяць пад навес скрынкі, абабітыя дошкамі часткі станкоў.

Стомлены, няголены, Сцяпан стаіць са сваімі сябрамі-шафёрамі; са смакам зацягваецца дымам папяросы, размаўляе. Відаць, што хоць і стаміліся хлопцы, але яны задаволены — грузы дастаўлены ў тэрмін, ніякіх непрыемных здарэнняў у дарозе не было.

Па сцежцы да склада ідзе Віктар. Яшчэ зводдалек пазнаўшы сярод шафёраў Сцяпана, Віктар усміхнуўся, прывітальна падняў руку.

— Са шчаслівым зваротам, Сцёпа! — падышоўшы да Сцяпана, павітаўся з ім за руку Віктар.

— Пяцьдзесят гадзін у дарозе маталіся, — пацiснуў Віктару руку Сцяпан. — Аж барада вырасла...

Віктар: Вось жа пашанцавала мне, акурат на цябе нарваўся...

Сцяпан: А што такое?

Віктар: Ды ёсць невялічкая справа... Адыдземся ўбок.

Віктар і Сцяпан адыходзяць за грузавікі. Што гаворыць Віктар — не чуваць. Мы толькі бачым, як пасля кароткай размовы Віктар дае Сцяпану



некалькі сторублёвак, той хавае іх у кішэню і ў знак згоды на нейкую просьбу Віктара ківае галавой. Яны паціскаюць адзін аднаму рукі на развітанне.

Рэзка затармазіўшы, спыняецца каля рабочай сталоўкі аўтамашына Сцяпана Касухі. Сцяпан выглядае з акенца кабіны, насцярожана азіраецца.

У сталоўцы з-за стойкі буфета глядзіць праз акно на вуліцу буфетчыца Сіма Беленькая. Убачыўшы грузавік, Сіма кідае прывычны позірк у маленькае люстэрка, прыхарошваецца. Відаць, ведаючы, хто і чаго прыехаў, яна нагінаецца, бярэ з-пад стойкі парожні мяшок і, спяшаючыся, ідзе да парадных дзвярэй.

У сталоўцы пуста, наведвальнікаў няма. Стаяць у два рады столікі, накрытыя чыстымі белымі сурвэткамі. Знаёмая ўжо нам радыёла на стойцы ціхенька наігрывае павольны факстрот.

Сцяпан выцягвае з машыны скрынку, поўную бутэлек гарэлкі.

— Ого, поўная скрынка! — заўважае Сіма.

— Дык жа і прычына немалая, — гаворыць Сцяпан. — Віктар новы рэкорд устанавіў.

— Давай хоць мяшком прыкрыю, — прадбачліва заўважае Сіма і старанна накрывае скрынку.

— А што там! Сваё — не крадзенае...

— Сваё то сваё, ды за такую справу па галоўцы не пагладзяць, — адказвае Сіма.

Сцяпан бярэ скрынку на плячо і паспешліва ідзе ў сталоўку.

**20.**

Вечар. У сталоўцы сядзіць за двума састаўленымі разам сталамі шумная кампанія: Віктар Саўчук у сваім шыкоўным чорным берэце, трое нейкіх незнаёмых хлапцоў, відаць, кампаньёнаў Віктара, але не з брыгады Салаўя, малады зваршчык Мікола, Сцяпан Касуха, дзве незнаёмыя нам дзяўчыны. Адзін з кампаньёнаў Віктара — з доўгімі аж на патыліцу, моднымі валасамі, з тонкім хударлявым тварам. Другі — нізенькі, тоўсты, паслужліва глядзіць у рот Віктару і, што той ні гаворыць, усё падтаквае.

Адчуваецца, што ўся кампанія, за выключэннем Міколы і Сцяпана, ужо добра падпіла. Супраць кожнага з гулякаў — гранёная шклянка, а пасярэдзіне — чайнік. Для большай маскіроўкі на стале стаяць бутэлькі з напіткам.

Сіма сядзіць побач з Віктарам, расчулена глядзіць на яго, час-ад-часу пагладжвае яго па валасах. Зрэдку адлучаецца і ідзе за стойку, адпускае, што трэба, афіцыянткам або ставіць новую пласцінку.

Вечар позні, і ў зале наведвальнікаў мала, заняты ўсяго два-тры столікі. Цікава, што кампанія акурат размясцілася ў тым кутку, дзе на сцяне вісіць папераджальны плакат аб забароне продажу і ўжывання ў сталоўцы гарэлкі.

П'яны Віктар, прыжмурыўшыся, наваліўся на стол рукамі, гаворыць:

— Некаторыя называюць мяне... артыст! — выгуквае ён і стукае кулаком па стале: — Ну, і артыст!.. Працую лепш за ўсіх на будоўлі?.. Раз! — загінае ён палец на руцэ.



Яго кампаньёны, кругленькі і доўгавалосы, заўзята паўтараюць:

— Раз!..

— Рэкорд устанавіў?.. Устанавіў! — загінае Віктар другі палец.

— Два-а!.. — крычаць п'янымі галасамі кампаньёны.

— Дзве з палавінай касых зарабляю?.. Зарабляю! — загінае Віктар трэці палец.

— Тры!.. — чуюцца выгукі.

Сіма ў здзіўленні ўсплясквае рукамі:

— Дзве з палавінай тысячы!..

— А што?.. Не верыш?..

— Залатыя рукі ў цябе, Віця! — гладзіць яго па валасах Сіма.

— Залатыя рукі! — выгуквае кругленькі.

— Арол! — яшчэ больш голасна крычыць доўгавалосы.

— Давайце вып'ем за нашага арла! — падымае ўгору чарку Сіма.

— Вы-вып'ем! — крычаць п'яныя кампаньёны Віктара.

Усе стукаюцца шклянкамі, уразброд выгукваюць розныя тосты. Затым п'юць.

Не п'юць толькі Сцяпан і Мікола. Першы, наогул, сядзіць тут, як на іголках, нервуецца, відаць, маючы ў галаве нейкі свой клопат. Час-ад-часу ён кідае позірк на свой наручны гадзіннік.

У Міколы ж, відаць, іншая прычына таго, што ён не прымае ўдзелу ў агульнай весялосці. Ён асуджальна глядзіць на Віктара, на ўсё яго п'янае акружэнне. Не падабаецца яму Віктарава выхвалянне.

Сіма заўважае, што Сцяпан чокаўся з усімі, але не піў, адставіў сваю шклянку. Яна падыходзіць да яго, абнімае за плечы.

— Ну, чаго зажурыўся?.. Па той, чарнявай?..

— А табе што? — хмура абзываецца Сцяпан.

Сіма нахіляецца да яго.



— А ты не настырайся, а лепш паслухай... Твая чарнявая з нейкім даўгалыгім ходзіць. Сама бачыла...

Сцяпан увесь адкідаецца ад яе, з гневам кідае:

— Слухай... ты!.. Лепш памаўчы!..

Сіма, смеючыся, адыходзіць ад яго. Сцяпан, усхваляваны, пачырванелы, нервова кусае канец папяросы.

— Гэй, музыку!.. — крычыць, разышоўшыся, Віктар.

Сіма паслужліва бяжыць да радыёлы, запускае яе на ўсю моц. Затым падбягае да Віктара, і яны ў танцы выходзяць з ім на сярэдзіну залы. Падхапіўшы адну з дзяўчат, што сядзела за сталом, пачынае танцаваць доўгавалосы. Выходзіць у танец і яшчэ адна пара.

Непадалёк за столікам сядзяць двое маладых рабочых, вячэраюць. Адзін, паказваючы вачыма на Віктара, гаворыць:

— А ведаеш, хто гэта? Электразваршчык Віктар Саўчук, — і дадае з іроніяй, з'едліва: — З камуністычнай брыгады...

— Та-ак... — ківае з асуджэннем галавою другі.

Сцяпан, утаропіўшыся позіркам у цёмнае акно, сядзіць у задуменні. У самы разгар танца ён рашуча ўстае і ідзе да дзвярэй.

Заўважыўшы гэта, Віктар, не перапыняючы танца, кліча:

— Сцёпа, ты куды?..

Сцяпан не адказвае, выходзіць за дзверы.

— Ат, кінь ты, няхай ідзе сабе да ліха!.. — гаворыць Віктару Сіма.

І абое яшчэ больш заўзята пачалі выкручвацца ў танцы.

Грыміць на ўсю сталоўку шумны факстрот.

## 21.

Пакой Галі і Алены ў інтэрнаце.

Ложак Алены ўвесь растрыбушаны, на ім няма коўдры, знікла з падушкі навалачка.

Галя варочае на Аленіным ложку падушку, збянтэжана зазірае ў тумбачку...

Аленка сядзіць воддаль за сталом, на табурэтцы, апусціўшы галаву і закрыўшы рукамі твар.

Галя разгублена зазірае пад ложак, аглядае ўсё вакол.

— Не разумею, — паціскае яна плячыма і разважае: — Калі гэта злодзей украў, то чаму ён тваё забраў, а маё і пальцам не крануў?

І сапраўды ложак Галі ў поўным парадку.

У дзверы стукаюць. Галя ў замяшанні. Аленка ж падымае з надзеяй галаву:

— А можа... ён?..

Галя закрывае збольшага ложак і гукае:

— Заходзьце...

У пакой заходзіць цэлая група дзяўчат, таварышак па інтэрнату. Усе занепакоеныя, здзіўленыя. Да дзвярэй пакоя падбягае і яшчэ некалькі дзяўчат, якім трэба заступаць на змену. Непрыемная навіна ўжо абляцела інтэрнат. Па калідоры ідзе грозны камендант з цяжкім звязкам ключоў.

— Таварыш камендант, — звяртаецца да яго адна з дзяўчат. — Трэба заявіць у міліцыю.



— А ты думала, я так гэта пакіну? — рашуча заходзіць у пакой камендант.

— Непрыемнасць у нас, — вінаватым голасам паведамляе каменданту Галя.

—Не ў вас, а ў мяне непрыемнасць. У першы раз за ўсю маю службу такое здарылася. — Камендант азіраецца, падрыхтаваўшыся запісваць.— Ну, што тут у вас прапала?..

Галя пералічвае:

— Коўдра прапала... навалачка... — Раптам яна ўспамінае. — А твая крэпдэшынавая кофтачка?..

Галя кідаецца да шафы, глядзіць, шукае:

— Не шукай, няма кофтачкі, — незадаволена мармыча Аленка.

— І колькі разоў я вам, дзяўчаты, казаў, — з папрокам гаворыць камендант. — Не будзьце такімі даверлівымі! Вось той шафёр белазубы... Касуха, здаецца, чаго ён сюды панадзіўся?..

Аленка ўся падхапілася, як спружына.

— А што вам да таго?!

— Ды я проста так... — аж разгубіўся камендант. — Разведваю абстаноўку...

— Дзіўна, — паціху вымаўляе адна з работніц, аглядаючы ложак Аленкі. — А коўдра ў цябе казённая была ці свая?

— Казённая, — цэдзіць праз зубы неахвотна Аленка.

— Шэсцьдзесят тры рублі пяцьдзесят капеек, — глянуўшы ў сшытак, дае даведку камендант. — Навалачка, покрыўка на падушку, усяго на суму...

— Ды ну вас з вашымі сумамі!.. — не стрымлівае Галя. — Разбярэмся і заплоцім.

— Э-э, — пярэчыць камендант, — без акта я не магу. Вось пайду складу акцік, падпішамся ўсе...

— Ідзіце сабе складайце. Дайце нам перадыхнуць...

Камендант забірае свой звязак ключоў і выходзіць з пакоя.

Аленка маўчыць, апусціўшы галаву.

— Не бядуй, Аленка, — супакойвае адна дзяўчына.

— І праўда, чаго ты ўжо так перажываеш? — дадае другая.

— Дзяўчаты! А ў мяне прапанова! — выгуквае трэцяя. — Давайце з гэтай палучкі ўсёй нашай брыгадай складземся і адкупім Аленцы ўсе гэтыя рэчы.

Раптам расчуленая Аленка не вытрымлівае і пачынае плакаць.

— Ой, дзевачкі... мілыя мае!.. Ой, што я нарабіла!..

— Чаго ты плачаш, дурная!.. Няхай той злодзей падавіцца тваім дабром! — гнеўна гаворыць дзяўчына, якая першая падала думку аб супольнай дапамозе. — А мы на тое і брыгада камуністычная, каб усе за аднаго і адзін за ўсіх. Нікога ў бядзе не пакінем!..

— Ой, што я нарабіла, дзевачкі! — яшчэ мацней пачынае ўсхліпваць Аленка. — Ашукала мяне Кажаніха...

— Кажаніха?!. — вырываецца агульны вокліч здзіўлення.

— Дык гэта ты сама?.. — пытаецца адна з работніц.

— Варожкы занесла? — здзіўляецца другая.

— Сама, дзевачкі... Яна казала, што не назусім, а толькі паваражыць... А як занесла, дык і не аддае назад...

— Аленка, што ты нарабіла! — хапаецца за галаву Галя. — І гэта ты... ты... І табе не сорамна! — дакарае Галя.

— З-за Сцяпана, Галінка... — вінавата глядзіць на сяброўку Аленка.

— Хлопец не прыйшоў на спатканне, — з гневам гаворыць Галя, — а ты, плакса... Ды кінь ты раўсці!.. А ты, распусціўшы слімзары, ужо бяжыш да варожкі, да нейкай бабы-Ягі?!.

— Дык жа яго ўжо трэці дзень, як няма... — не ўнікаючы ў сэнс папрокаў, тлумачыць сваё Аленка.

— Ты паклала пляму на ўсю нашу брыгаду! — сурова гаворыць сяброўцы ў твар Галя. — Правільна я кажу, дзяўчаты?

— І праўда! — гаворыць адна з работніц. — Як табе не сорам!..

— Судзіць цябе будзем сваім судом, — рашуча заяўляе Галя. — Сядайце, дзяўчаты...

Дзяўчаты рассаджваюцца хто дзе.

Па калідоры дзявочага інтэрната спяшаецца, ледзь не бяжыць, Сцяпан. Вось ён падбягае да пакоя нумар 9, рашуча раскрывае дзверы.

Сцяпан здзіўлены. Чаго гэта раптам у пакоі столькі дзяўчат?.. Чаго Аленка сядзіць за сталом сумная, з апушчанай галавой?..

Але, убачыўшы Сцяпана, Аленка ўся ажывае, яна забылася і на дзявочы «суд» і на ўсе ўмоўнасці, бяжыць да Сцяпана, кідаецца яму на шыю.

— Сцёпачка!.. Дзе ты столькі быў?..

— Я ж пісаў табе запіску, — адказвае Сцяпан.

— Якую запіску? — здзіўлена пытаецца Аленка.

— Грамадзянін Касуха! — строга звяртаецца да Сцяпана Галя, стараючыся стрымаць сваю ўсмешку.

Сцяпан, не разумеючы, у чым справа, глядзіць на Галю.

— Грамадзянін Касуха! — паўтарае Галя. — А вы што скажаце ў сваё апраўданне?..

Вечаровы прыцемак. Ад ракі, дзе ў самым канцы Сасновіч жыве Кажаніха, ідуць Аленка і Сцяпан. Абое задаволеныя, упэўненыя, нібы толькі што атрымалі вялікую перамогу.

Сцяпан ідзе першым і моцна трымае пад пахай коўдру і ўсе рэчы, што дзяўчына па сваёй наіўнай даверлівасці аддала варажбітцы.

Цьмяным святлом газнічкі мільгае акно аднавокай хаціны старой Кажаніхі...

Аленка трымае пад руку Сцяпана, і яны ідуць спакойныя, упэўненыя ў сваёй сіле, дружныя, нага ў нагу. Іх часовая спрэчка закончылася шчаслівым замірэннем.

**22.**

Пульт кіравання кацельнай. Цэлая сцяна розных складаных прыбораў.

На ярка асветленай пляцоўцы каля пульта вялікая група людзей. Тут дзяжурны інжынер, зменны тэхнік, брыгадзіры будаўнічых участкаў, інжынеры. За столікам перад рассцеленай на стале картай у цэнтры сядзіць Леанід Ільіч. Побач з ім — галоўны інжынер будаўніцтва Рыбакоў дае тлумачэнні. Непадалёк Васіль Іванавіч аб нечым размаўляе з Салаўём. Воддаль у групе зваршчыкаў мы заўважаем і Віктара.



Твары ва ўсіх заклапочаныя, але і ўрачыстыя — рыхтуецца праверка параправода, які ад катла павінен падаваць пару на турбіну першага генератара. Ад вынікаў сённяшняй праверкі залежыць увесь поспех ці няўдача вялізнага калектыву людзей, залежыць і пуск электрастанцыі.

Рыбакоў: Да выпрабавання параправода ўсё гатова, Леанід Ільіч.

— Та-ак, — гаворыць, нахмурыўшыся, начальнік і, пакручваючы ў пальцах аловак, глядзіць на схему параправода. Відаць, што ён хвалюецца, жадае яшчэ і яшчэ раз праверыць усё, каб не здарылася ніякіх нежаданых нечаканасцей.

Рыбакоў: Катлы распалены, пара даведзена да рэжымных тэмператур.

Леанід Ільіч ускідвае галаву на Рыбакова, і мы бачым на яго твары нейкую бездапаможную, добрую ўсмешку.

— Вы, Анатоль Паўлавіч, адчуваеце ўрачыстасць гэтай хвіліны?.. Я таму і не кажу свайго апошняга слова, што хачу прадоўжыць гэты час... каб усе адчулі тое, што і я.

Памаўчаўшы нейкую хвіліну, Леанід Ільіч рашуча ўстаў. Цяпер ён ужо не ўсміхаецца, твар яго выглядае строга, засяроджана.

— Ці ўсе людзі выведзены з участкаў паўз трасу параправода? — пытаецца Леанід Ільіч у Рыбакова.

— Усё праверана, людзей няма, — адказвае Рыбакоў.

— Пачынайце! — коратка кідае Леанід Ільіч.

Мы бачым, як адзін з тэхнікаў па знаку галоўнага інжынера адкрывае вентыль параперагравальніка, пускае пару ў параправод.

Уздрыгвае і кранаецца з месца стрэлка на кантрольным манометры на пульце кіравання кацельнай. Дапаўзае да лічбы 5, затым 10 атмасфер...

Затаіўшы дыханне, глядзяць на пульт інжынеры, тэхнікі, рабочыя. Не адрываючы позірку, сочыць за рухам стрэлкі манометра Віктар Саўчук.

Леанід Ільіч бярэ пад руку парторга Ждановіча, адыходзіць з ім убок, у канец пляцоўкі, да шырокіх на ўсю сцяну вокан, праз якія відаць уся гаспадарка падстанцыі.

— Хвалюешся, Леанід Ільіч? — з добрай усмешкай пытае Ждановіч.

— Не буду хаваць... — адказвае Сініцкі і, шчыра ўсміхнуўшыся, глядзіць на Васіля Іванавіча: — Ды ад цябе ж, знаўцы душ чалавечых, каб і хацеў схаваць — не схаваеш!..

Абодва засмяяліся, шчыра, задушэўна, па-сяброўску разумеючы адзін аднаго.

— Калі ўсё будзе добра, — гаворыць Леанід Ільіч, — дні праз дватры буду званіць у Гомель...

— Гэта чаго ж, Леанід Ільіч?

— Запускаць генератар будзем, дык на «прыкурку» пазычым у іх тысяч пяць кілават.

— Пазычым пяць, — смяецца парторг, — а праз дзень-два аддадзім пяцьдзесят!..

Паўзе і паўзе ўгору стрэлка манометра. Вось яна паказвае ўжо 60... 80 атмасфер...

У напружанасці стаяць вакол рабочыя, інжынеры. Ці плённай была іх шматмесячная, нялёгкая работа?.. Што пакажа праверка?..

Стрэлка манометра, павольна ўздрыгваючы, падпаўзае да лічбы 100...

І раптам, спачатку ціха, а затым усё больш выразна, усе чуюць нейкі пранізлівы ні то шум, ні то свіст. Гэты непрыемны гук аж драпае душу, залазіць у самае нутро. Усе ў напружанні і трывозе паварочваюцца на гэты гук: ён ідзе з турбагенератарнага цэха.

Мы бачым усхваляваны твар галоўнага інжынера Рыбакова, трывожныя твары Леаніда Ільіча, Ждановіча. Пабляднелы, з нервова раздзьмутымі ноздрамі, напружана глядзіць у бок турбіннага цэха Віктар.

Стрэлка манометра дрыжыць і застывае на адным месцы. Пранізлівы посвіст усё нарастае.

У гэты час, не вытрымаўшы напружання, зрываецца з месца і вопрамеццю бяжыць у генератарны цэх Віктар Саўчук. Мы бачым яго бледны рашучы твар, яго вочы. Ён неспакойны таму, што адчувае сваю віну і хоча першым убачыць, дзе прарвала параправод: там, дзе варыў ён, ці яго сябры?..

— Стой!.. Куды?!. — крычыць Рыбакоў услед Віктару.

— Віктар, стой!.. — у роспачы кідаецца за Саўчуком брыгадзір Салавей, малады зваршчык Мікола.

Але Віктар не чуе гэтых воклічаў, а можа і чуе, ды не хоча іх слухаць. Ён бяжыць паўз усю трасу параправода, урываецца ў генератарны цэх.

Ён бачыць, як з параправода тонкім і роўным, як страла, струменем з прарэзлівым свістам вырываецца пара. Вочы Віктара круглеюць ад жаху: гэтае месца варыў ён...

Свіст пары ўсё нарастае і раптам... нібы грукат грому патрасае увесь цэх, на шматкі разлятаецца ў месцы пашкоджання параправод, чуецца жахлівы выбух. Клубы густой пары ў імгненне вока запаўняюць цэх і вакол становіцца цёмна, як уночы. Сілай выбуху Віктара адкідае і ўдарае аб цагляную сцяну. Віктар падае ў непрытомнасці...

— Перакрыць вентыль! — крычыць галоўны інжынер.





— Ві-ікта-ар! — крычыць Салавей і кідаецца да генератарнага цэха. За ім — Мікола, Ждановіч, Галя, Міхась, усе, хто на гэты час былі ў кацельным.

Бледны, з моцна сцятымі вуснамі, застаецца стаяць на месцы Леанід Ільіч...

Закрываючы рукамі твар, нырнулі ў засланы парай цэх Салавей, Мікола. Вось яны знаходзяць каля сцяны Віктара, падносяць яго да раскрытага акна. Кладуць на падлогу.

Мікола нахіляецца над ім. Апрытомнелы Віктар раскрыў вочы, няўцямна глядзіць вакол.

Жорстка, ледзь стрымліваючы гнеў, гаворыць яму Мікола:

— Значыць, ты тады ашукаў мяне?..

Устрывожана нахіляецца над Віктарам Галя.

— Галя... Галя... — у знямозе адкідае галаву Віктар. — Няхай бы мяне лепш забіла, Галя!..

**23.**

Канец рабочага дня. Кантора брыгадзіра Салаўя. Уздоўж пакоя стол, збіты з дошак. Абапал стала — дзве доўгія лавы. Цесна стуліўшыся, сядзіць на лавах і стаіць вакол стала ўся моладзь брыгады Салаўя. У канцы стала сядзіць парторг будаўніцтва Ждановіч, але яго адразу цяжка і заўважыць за моладдзю.

Вылучаецца ад усіх Віктар Саўчук. Ён цяпер ужо не трымаецца сваёй гордай паставы, наадварот, уся напышлівасць зляцела з яго. Левая рука яго, абпаленая парай, забінтавана. Віктар сядзіць як бы ізалявана ад прысутных, якія не толькі не выказваюць яму свайго спачування, а кіпяць ад абурэння і крыўды.

Сход у разгары, і ён якраз на тым павароце, калі большасць людзей ужо сказала аб учынку Віктара сваё важкае і суровае слова.

— Хто яшчэ хоча выказацца? — звяртаецца да прысутных муляр Міхась Бачура, які вядзе сход.

Некаторае замяшанне. Усе маўчаць. Відаць, апошні прамоўца перабраў меру строгасці.

— Дайце мне... — падымаецца малады зваршчык Мікола. — Мне сёння цяжка гаварыць. Мы з Віктарам разам працуем, сябры... Але я так скажу: не здрыганецца ў мяне рука, калі я буду галасаваць за выключэнне Віктара Саўчука з нашай брыгады!.. Я падтрымліваю прапанову Мішы Патупчыка. Хопіць!.. Занадта цацкаемся мы з ім. Пайшоў на грубае парушэнне тэхналогіі, абы толькі паставіць рэкорд!.. А ўспомніце, як зняважліва ён сустрэў нашых дзяўчат, Алену Ячную, Галю Навасад?.. Як ён даводзіў іх да слёз... Правільна я кажу, дзяўчаты?

Аленка спачатку вагаецца, а затым ціха пацвярджае...

— Правільна...

А Галя маўчыць. Яна нават не скранулася з месца.

— Я скончыў, — заключае Мікола. — Пытанне для мяне абсалютна яснае.

— Хто яшчэ? — пытаецца старшыня сходу. — Няма жадаючых?.. Тады слова мае Васіль Іванавіч Ждановіч! — крыху ўрачыста і прыўзнята абвяшчае Бачура.

Ждановіч у здзіўленні прыўзняў бровы, усміхнуўся:
— А я, здаецца, не прасіў слова.

Міхась збянтэжаны, тады як усе іншыя ўдзельнікі сходу весела пераглядваюцца, смяюцца.

Некаторае ажыўленне паслабляе напружанасць абстаноўкі.

Без аб'яўлення старшыні пачынае гаварыць Галя, спачатку няўпэўнена, як бы сама сабе, а потым усё больш пераканана, горача:

— Міколу ўсё ясна, а я думаю, да яснасці не прыходзяць з такой хуткасцю... Ну добра, выключым мы Саўчука. І што ж, пасля гэтага стане наша брыгада чысцюткай, як люстэрка?..

Хлопцы і дзяўчаты не чакалі такога павароту, асабліва ад Галі, якая вынесла нямала насмешак ганарыстага зваршчыка.

Віктар упершыню за ўвесь вечар падняў галаву, даверліва, з невыказнай удзячнасцю зірнуў на Галю.

Але сярод прысутных пачаўся разнабой, пасыпаліся рэплікі здзіўлення, нязгоды:

— А па-твойму, трэба пагладзіць яго па галоўцы?..

— Сказаць «дзякуй» за брак, за аварыю, за п'янку, за тое, што мы цяпер тры дні павінны расхлёбваць кашу, якую ён заварыў?..

— Пачакайце, дайце ж ёй сказаць, — супакойваў залішне гарачых Міхась.

— А што тут яшчэ гаварыць? — горача выгуквае Мікола. — Калі твая сяброўка, Галя, зрабіла памылку і пабегла варажыць да Кажаніхі, ты яе асудзіла з усёй строгасцю. А ўчынак Саўчука — не бязвінная недарэчнасць з Аленкай...

— І аднак жа мне яшчэ не ўсё ясна, — цвёрда гаворыць Галя. — Думаю, што не ўсё ясна і самому Віктару... — Галя пераводзіць позірк на Саўчука і незаўважна пачынае гаварыць з ім, як бы сам-на-сам:—Ты, Віця, трымаўся ў жыцці адной лініі: гані рэкорды, дабівайся славы, нікому не саступай свайго месца. Толькі аб сабе думаў... Але так жыць у нашым новым грамадстве нельга.

Ждановіч у захапленні слухае гарачую прамову дзяўчыны. Ён усміхаецца, сцвярджальна ківае галавой.

— Ты, як і ўсе мы, — працягвае Галя, — ты член той сям'і, якая павінна заслужыць высокае званне камуністычнай. Не так лёгка даецца гэтае права. А ты з вышыні сваёй славы, пасмейваючыся, памахваў нам рукой, маўляў, прывітанне вам з камунізма!.. Я ўжо ўвайшоў у яго дзверы!.. А вось здарылася, Віця, што з тых светлых парадных дзвярэй ты паляцеў на задворкі. Бо камунізм — не прывілея для герояў-адзіночак, а права ўсяго народа на сваё шчасце...

Ждановіч, падхапіўшыся з месца, запляскаў у далоні. Яго дружна падтрымалі амаль усе прысутныя.

Галя, разгубіўшыся, здзіўлена агледзелася вакол і села.

— Добра сказала Галя, — горача прамовіў Васіль Іванавіч, — ад усяе душы. І з роздумам. Сказала тое, што думала — прыемна гэта каму ці непрыемна... А цяпер, таварышы, ёсць у мяне для вас адзін падарунак. — Ждановіч толькі цяпер пачаў развязваць пачак газет, які ён прынёс з сабой. Узяў адну з газет, разгарнуў і прачытаў: «Камсамольская брыгада таварыша Салаўя датэрмінова закончыла мантаж парапровада першай чаргі Сасновіцкай ДРЭС»... А вось і ваш здымак, — усе тут, як адзін... Застаецца мне вас толькі павіншаваць. Бярыце, бярыце, не саромцеся... — Ждановіч раздае прысутным газеты.



Яны хутка разыходзяцца па руках. На самым відным месцы ў газеце — інфармацыя і вялізная фатаграфія брыгады. Як на тое ліха, здымак атрымаўся выразным: у цэнтры з гордай усмешкай пераможцы стаіць Саўчук, побач — брыгадзір Салавей...

— Падвёў нас Саўчук, — чухаючы патыліцу, гаворыць брыгадзір. — Я так думаю, Васіль Іванавіч... — звяртаецца ён да Ждановіча.

— Не, дарагія іменіннічкі, — цвёрда гаворыць Ждановіч, — рысу падводзіць рана, давайце яшчэ падумаем разам. Вас тут вялікая сіла...

**24.**

Позні вечар. Галя і Аленка ідуць са сходу брыгады.

Падыходзячы да ганка свайго інтэрната, яны заўважаюць непадалёк за тэлеграфным слупам постаць чалавека. Дзяўчаты прыглядаюцца, але не могуць пазнаць.

— Хто гэта, ці не Антон? — выказвае меркаванне Галя.

— Антоша! — гукае Аленка.

Раптам чалавек выйшаў з-за слупа, стаў на святло, і тут дзяўчаты нечакана для сябе ўбачылі, што гэта быў Віктар.

— Віктар!.. — разгубілася ад нечаканасці Галя. — Што ты тут робіш?..

— Чакаю цябе, — ціха гаворыць Віктар. — Хачу пагаварыць з табою.

Аленка, абмяняўшыся позіркам з Галяй, ідзе ў інтэрнат, падымаецца па сходках.

Галя стаіць у нейкай збянтэжанасці. Яна не ведае, што ёй хоча сказаць Віктар.

— Я прашу цябе, Галя... — працягвае Віктар і, захваляваўшыся, спыняецца.

Галя ўпершыню чуе ў яго голасе незнаёмыя адценні — глыбокае хваляванне і шчырасць.

— Цябе ж пакінулі ў брыгадзе, Віця, — гаворыць яна.

— Дзякуй. Але я не пра гэта... — І нечакана Віктар прапануе: — Пройдземся, Галя, я табе ўсё раскажу.

Галя кідае вокам на гадзіннік, з усмешкай паківала галавой. Але не пярэчыць, ідзе...

Галя і Віктар сядзяць на беразе ракі на перакуленым дагары дном чаўне. На ўсходзе пачынае палавець неба,—хутка скончыцца лятняя ноч.

Апусціўшы ўніз галаву, Віктар задуменна гаворыць:

— Штось ў маёй душы цяпер робіцца — доўга разбірацца. Адчуваю, што сёння адбылося нешта вялікае для мяне... Першы раз я па-сапраўднаму ўбачыў, якія ўсе людзі харошыя!..

— Ну, так ужо і ўсе? — смяецца Галя. — І тыя, што патрабавалі выключыць цябе з брыгады?

— І тыя, Галя, — пераконана гаворыць Віктар. — Я раней ніколі не думаў аб гэтым...

— А думаў толькі аб сабе, — устаўляе Галя.

— Відаць, так... — згаджаецца Віктар. — Не злуйся, Галя. Сёння я зрабіў вялікае адкрыццё — на ўсё жыццё!..

Ад ракі ідзе перадсвітальны халадок, золкасць, і Галя, апранутая ў лёгкую сукенку, незнарок уздрыгнула.

— Табе холадна?.. — заўважыў Віктар. Ён тут жа скінуў свой пінжак і накінуў ёй на плечы. — Вось так, адразу сагрэешся...

Галя не пярэчыць.

— Нарабіў я ўсім столькі бяды, — засмучона махае рукою Віктар. — Але я загладжу сваю віну! — дадае ён рашуча. — Дзякуй табе, Галя, за ўсё...

Віктар асцярожна, ласкава кладзе сваю руку на руку Галі. Яны з даверам і сапраўднай сяброўскай шчырасцю глядзяць у вочы адзін аднаму. Потым Галя нерашуча дакранаецца свабоднай рукой да яго буйных чарнявых валасоў...

**25.**

Турбагенератарны цэх. Месца, дзе адбылася аварыя парапровода.

Працуе на ліквідацыі вынікаў аварыі брыгада Салаўя. Мантажнікі робяць падгонку труб. Хапае работы і для муляроў: ушчэнт разварочаны падмурак — ложа парапровода, усе падсобныя збудаванні.

Асабліва ж адказныя — зварачныя работы, і зваршчыкі працуюць з вялікай заўзятасцю. Нахіліўшыся над параправодам, зварвае стыкі труб Віктар, і іскры высокім раскідзістым султанам устаюць над яго галавой.

Салавей размаўляе з рэнтгенографамі.

— Загадана праверыць зварку на ўсёй трасе — не выбарачна, а запар усе швы. Ясна?..

— Ясна, — адказвае адзін з рэнтгенографаў і чухае патыліцу: — Але ж гэта ладны кавалачак работы...

— Нарабілі, дык трэба выпраўляць... — кідае Салавей і, заклапочаны, ідзе ўздоўж парапровода.

Калі ён праходзіць паўз зваршчыкаў, яго раптам аклікае Мікола.

— Гэй, Міця, пачакай, — гукае ён і, паклаўшы трымальнік, падыходзіць да Салаўя. — Ёсць у мяне прапанова, брыгадзір. Мы вось там параіліся... хочам на другую змену застацца. Не пакінем цэх, пакуль не скончым работы!..

Пасвятлеў ад усмешкі заклапочаны твар брыгадзіра. У шчырым парыве ён працягнуў руку маладому зваршчыку.

— Эх, Коля, Коля... дзякую табе! — Салавей ківае ў бок Віктара, які, не адрываючыся, прадаўжае працаваць. — А як ён?..

— А гэта, Міця, і ёсць яго прапанова, — гаворыць Мікола.

Вечар. Месца, дзе працуе брыгада, асвятляецца яркімі промнямі пражэктараў. Змена даўно закончылася, але ніводзін чалавек з брыгады не пакінуў цэха, імкнучыся як найхутчэй ліквідаваць вынікі аварыі.

Вось проста ў цэх заходзяць з кошыкамі ў руках буфетчыца Сіма Беленькая і адна афіцыянтка са сталоўкі. Разам з імі ідзе Салавей, крычыць:

— А ну, хлопцы, перапынак!.. Вячэра прыехала!

Адарваўшыся на час ад работы, акружаюць афіцыянтак муляры, мантажнікі, зваршчыкі. Нягледзячы на стомленасць, чутны жарты, вясёлыя выгукі, смех. Тут жа, размясціўшыся хто дзе, моладзь вячэрае.



Па чарзе рабочыя падыходзяць да Сімы, і яна кожнаму падае талерку з ежай.

— Ого, лапцік!.. — жартуючы, здзіўляецца муляр Міхась, пагладаючы на вялізную адбіўную, якую паклала яму на талерку Сіма. — Не раўнуючы, як некалі мой дзед насіў!.. А ў яго ножка — сорак пяты размер!

— А я бачу, што ты не надта і спалохаўся! — смяецца Галя. — З'ясі ды і яшчэ папросіш...

— Ну, а ты чаму не вячэраеш? — пытае Галя ў Аленкі, заўважыўшы, што яе сяброўка сядзіць, нахмурыўшыся.

— А так... не хачу, — кідае Аленка.

Сіма Беленькая, хітра ўсміхаючыся, падслухоўвае гэтую размову. Яна накладае ў талерку пюрэ, мяса і сама падыходзіць да Аленкі.

— На, еш, чаго нахмурылася, — мірна гаворыць яна.

— Такая добрая, — злосна зыркае на яе вачыма Аленка. — Спачатку пакорміш, а потым зноў што-небудзь напляцеш...

— Не злуйся, верабей, — смяецца Сіма. — Хоць бы і хацела, то цяпер ужо, здаецца, нічога не напляту. Бяры, Аленка...

Дзяўчына бярэ талерку, есць, і гэтым як бы заключае сталае перамір'е са сваім ранейшым ворагам.

— Каму дабаўкі?.. — весела выгуквае Сіма.

Апетытна вячэраюць хлопцы і дзяўчаты.

Афіцыянтка налівае з тэрмаса ў шклянкі чай, раздае рабочым.

Кабінет дырэктара будоўлі. Позняя ноч, якую можна назваць і першай раніцай: за акном ужо гаснуць зоры і неба пачынае шарэць.

Леанід Ільіч сядзіць за сталом, што асветлены мяккім святлом настольнай лямпы, гаворыць па тэлефоне.

— Даруйце, што я так рана трывожу вас, але справа не церпіць... Мантажнікі не выходзілі з цэха, пакуль не скончылі работы. Добра, таварыш сакратар, я перадам ім вашу падзяку... Што, што?.. Таму ж я да вас і званю. Мы гатовы да пуску першага генератара... Я разумею, але ж мы пазычаем у вас гэтыя пяць тысяч кілават усяго на два-тры дні, для запуску агрэгатаў... Ёсць!.. Дзякую, таварыш сакратар. Прыязджайце да нас на свята!..

Леанід Ільіч кладзе трубку. Схіліўшыся, у задуменні сядзіць над сталом, усміхаецца нейкім сваім добрым і радасным думкам...

**26.**

Зіхаціць агнямі пад'езд пасялковага клуба. З розных вуліц спяшаецца сюды моладзь, пажылыя людзі. Усе яны па-святочнаму апрануты, усе ў добрым, вясёлым настроі.

Перапоўненая зала клуба. Падымаецца заслона. Стройная маладая дзяўчына ў прыгожым, доўгім плацці звонкім, урачыстым голасам абвяшчае:

— Пачынаем святочны канцэрт, прысвечаны пуску Сасновіцкай ДРЭС. Дазвольце сардэчна павіншаваць з гэтай радаснай перамогай усіх будаўнікоў і ўсіх гасцей, якія прыехалі да нас на свята.

Зала грыміць воплескамі. Сярод гледачоў у пярэдніх радах, дзе ся-

дзяць госці, — маці Галі Навасад. Непадалёк ад яе, праз некалькі чалавек, сядзіць дырэктар Васілішкаўскай школы Ігнат Пятровіч.

Сярод публікі — стары паромшчык Даніла Ермалаевіч. Ён сёння апрануты ў форму параходнага капітана, на каленях трымае шапку з бліскучым крабам.

У зале і Леанід Ільіч, электразваршчыкі з брыгады Салаўя і сам Салавей, муляры Міхась, Віктар Саўчук...

— Выступае, — з націскам выгуквае дзяўчына, — маладзёжны хор будоўлі. «Зоры над соснамі». Запявае Галіна Навасад!..

Ступіўшы крок-другі наперад, Галя сумелася, апусціла вочы. Упершыню ёй прыходзіцца стаяць сам-на-сам з такой вялікай аўдыторыяй.

— Ой, дачушка, — бязгучна шэпчуць вусны маці Галіны, якая перажывае, відаць, яшчэ больш за дачку, перажывае і радасць і, разам з тым, гордасць.

Высока і чыста зазвінеў голас Галі над прыціхлай залай:

Цёплымі вёснамі,
Начамі роснымі
Зззяюць,
Палаюць
Зоры над соснамі...

...Маці ў зале не вытрымлівае паўнаты шчасця, нахіляецца да суседкі:

— Мая дачка, — шэпча яна.

...Стары настаўнік нахіляецца да суседа і з гордасцю шэпча яму:

— Мая вучаніца...

...Міхась падміргвае Салаўю:

— Наша Галя...

...Сам сабе ціха шэпча Віктар Саўчук:

— Галя...

Плынь шырокай прачулай мелодыі падхоплівае хор:

Над рэкамі чыстымі,
Барамі вячыстымі
Мігцяць, загараюцца,
Пераліваюцца,
Глядзяцца ў азёры
Высокія зоры.

Струменіць, бяжыць адзінокі серабрысты ручаёк:

Дні маладосці,
Думкі-парывы,
Узносьце, узносьце
Да зорак шчаслівых
Мае вы заветныя спадзяванні
Аб самым высокім і чыстым каханні...

І зноў ручаёк зліваецца з плынню шырокай магутнай ракі:

Каб я заўсёды
З любімай сваёю
Праз доўгія годы
Ішоў пад зарою —



Той, што высока свеціць над намі,
Што мы запалілі сваімі рукамі.

...Доўга не змаўкае, грыміць воплескамі зала, узрушаная шчырасцю і прывабнасцю маладых галасоў.

Дзяўчына-канферанс'е абвяшчае чарговы нумар:

— Свой верш прачытае рабочы транспартнай брыгады, малады паэт Антон Ціхі.

Выходзіць з-за куліс на авансцэну прыкметна збянтэжаны Антон Ціхі. Ён стаіць на сцэне, увагнуўшы галаву, не ведаючы, куды падзець свае моцныя, учэпістыя рукі.

— Давай, Антон!..

— Смялей, Ціхі!.. — чуюцца грубаватыя, але добразычлівыя воклічы з апошніх радоў, з галёркі. Незадаволеныя гледачы паварочваюць галовы, асуджаючы гэты панібрацкі тон.

Але, відаць, у цяжкія хвіліны паэтаў выручае натхненне. Антон падымае галаву, абводзіць вачыма залу і, памаўчаўшы нейкі міг, нечакана выразным і гучным голасам вымаўляе назву верша:

— «Тым, хто запальвае агні сямігодкі».

І пачынае чытаць:

Палессе, роднае Палессе!
На гэтай мілай нам зямлі
Мы новыя пачулі песні
І шчасце тут сваё знайшлі.

Уважліва слухае маладога паэта настаўнік і зноў паведамляе суседзям:

— Мой вучань...

Хай шлях бацькоў быў камяністы,
Ішоў праз багну, валуны —
Не адступалі камуністы
І не адступяць іх сыны.

...Слухае дэкламацыю стары паромшчык і, нахіліўшыся да суседа, як бы выпадкова, мімаходзь, заўважае:

— Малайчына, Антон!

— Ваш знаёмы? — пытаецца сусед, пажылы чалавек, таксама ў форме рачнога капітана.

— Практыку ў мяне праходзіць... Пісаць падвучваецца, словы шукае патрэбныя... Гэта ж такая штука, што не кожнае слова ўставіш...

З нейкім асаблівым уздымам у голасе Антон Ціхі чытае новыя строфы свайго верша:

Мінуць гады, і ў светлай яве
Устане наш палескі край.
Не, мы не думалі аб славе,
Нам часу не было, няхай
Раскажуць новыя паэты
Пра нашы маладыя дні,
Пра тых, хто над зямлёю гэтай
Запальваў яркія агні...

... У зале яшчэ грымяць воплескі, а Віктар ужо прабраўся за кулісы.

Яны стаяць з Галяй, узрушаныя, пабраўшыся за рукі, не рашаючыся парушыць маўчанне.

— Я не мог адарваць ад цябе вачэй, — гаворыць Віктар.

— Бачыла я, Віця. Я і спявала для цябе...

Сам таго не жадаючы, Антон Ціхі, вярнуўшыся са сцэны, нечакана чуе гэтае апошняе прызнанне Галі. Збянтэжаны і засмучоны, Антон хмурыцца, апускае галаву. Яго не радуюць воплескі, якія ўсё яшчэ бушуюць у зале пасля яго выступлення.

За кулісы прыходзяць Сініцкі і Ждановіч. Падышоўшы да моладзі, яны віншуюць хлопцаў і дзяўчат з добрым канцэртам, паціскаючы рукі самадзейным артыстам.

Раптам Леанід Ільіч заўважае воддалек, у паўцёмным кутку Антона.

— А-а, стары знаёмы! — шумна прывітаў яго Сініцкі. — Дык ты, дружа, аказваецца, паэт?..

— Ды крыху прабую, — сціпла ўсміхаецца Антон.

— Не, у цябе ж добрыя вершы, — пераконана гаворыць Леанід Ільіч і абнімае Антона за плечы: — Толькі прозвішча ў цябе не вельмі... Які ж ты Ціхі? Ты, брат, Звонкі!.. Антон Звонкі!..

Яны праходзяць праз сцэну.

— Між іншым, ты памятаеш, што я табе абяцаў, прымаючы на работу?

— Як жа, добра памятаю...

— Дык вось, ёсць у мяне для цябе новая пасада, паэт Звонкі. Пойдзеш на павышэнне.

**27.**

Галоўны пульт размеркавання электраэнергіі.

Рыбакоў аддае загад, і дзяжурны інжынер уключае адзін... другі... трэці рубільнік.

І адразу у цемры ночы загараецца зарава святла —

над вёскамі...

над знаёмай вуліцай Сасновіч...

над Васілішкамі... Загараюцца агні ў вокнах Галінай хаты, у школе, з якой нашы героі выйшлі ў сваю жыццёвую дарогу.

Толькі адна хатка старой Кажаніхі на ўскраіне Сасновіч застаецца сляпой, ледзь мільгае старой капцілкай. Кажаніха, стоячы ў цемры каля пахіленага плота, з жахам глядзіць на магутнае зарава агнёў, што занялося над электрастанцыяй, над Сасновічамі, што раптам загарэліся ў зарэчных вёсках... Кажаніха хрысціцца і нешта шэпча сваімі сухімі вуснамі.

**28.**

Сапраўды «высокая» пасада дасталася Антону Ціхаму. Ён—у будцы вежавага крана, вучыцца на памочніка машыніста.

Велічная панарама паўстае перад яго вачыма. Ён бачыць ад краю да краю ўсё будаўніцтва ДРЭС, бачыць новы горад будаўнікоў, а воддалек — Сасновічы, блакітную стужку ракі, па якой плыве параход, бачыць зарэчныя лугі і сёлы, высокія мачты з правадамі, што нясуць людзям святло і сілу...



Упершыню малады паэт бачыць ва ўсёй велічы хараство роднага краю. Перад ім як бы рассцілаецца ўсё Палессе, уся Радзіма!.. Тут ёсць дзе разгарнуцца паэтычнаму натхненню і ёсць куды прыкласці дужасць сваіх маладых рук.

У паветры ўжо адчуваецца подых першых асенніх замаразкаў. Ясная раніца ўстае над прасторамі Палесся. З купчастай старой бярозы сыпануўся жоўты дождж, трапечацца дзівоснымі колерамі лісце асін, з рабінавых прысад звісаюць цяжкія гронкі вогненна спелых ягад...

...На пад'язных шляхах будоўлі снуюць паравозы. Скрыточуць, грызучы жвір, упартыя бульдозеры... Будаўніцтва разгортваецца яшчэ з большым размахам: ужо закладзена надзейная аснова, пушчаны першы турбагенератар. З высачэзнага цаглянага коміна, што ўзвышаецца над галоўным корпусам, над маладым, яшчэ не абжытым, але жвавым і шумным гарадком плыве па небе доўгая стужка дыму, плыве ўслед за светлымі воблакамі...

Чуецца голас Антона:

— Дзень добры, роднае Палессе!.. Мінула зусім нямнога часу, а вось мы ўжо і знайшлі свае дарогі ў жыцці, сталі на іх. Дарогі гэтыя няроўныя і не гладкія, будуць на іх і радасці і засмучэнні. Але ўжо мы бачым сваю будучыню. Яна ўстае перад намі ва ўсёй прывабнасці і хараstве...

З-за сцяны лесу на шырокую рачную плынь выходзіць пасажырскі параход. Гэта новыя рабочыя едуць на будоўлю. Моладзь стоўпілася на палубе.

І нечакана Антон чуе, як на параходзе ўзнікае і ляціць над прасторамі яго ж песня:

Цёплымі вёснамі,  
Начамі роснымі  
Ззяюць,  
Палаюць  
Зоры над соснамі...

Параход дае прывітальны гудок, і яго водгалас разносіцца па ўсім наваколлі.

Антон зрывае з галавы выцвілую ад сонца кепку і ўзрушана махае людзям на параходзе.





Вядомы беларускі паэт Максім Лужанін нарадзіўся 2 лістапада 1909 года ў вёсцы Прусы Старобінскага раёна Мінскай вобласці. Вучыўся ён у Мінскім педтэхнікуме, а пасля на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

З 1934 да 1941 года паэт працаваў у Маскве ў выдавецтве літаратуры па машынабудаванню. У гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях пад Масквой і Сталінградам.

Цяпер М. Лужанін займаецца выключна літаратурнай працай.

Першыя вершы паэта былі надрукаваны ў 1925 годзе. У Дзяржаўным выдавецтве БССР выходзілі зборнікі яго вершаў «Крокі», «Неаплачаны рахунак», «Новая ростань», «Галасуе вясна за вясну», «Першамайская вуліца», «Шырокае поле вайны», «Поступ», «Святло Радзімы», «Моваю сэрца», «Прасторы» і інш. Выдавецтва «Савецкі пісьменнік» выпусціла на рускай мове яго кнігі «Вершы» і «Запрашэнне на возера Нарач».

Паспяхова працуе М. Лужанін у галіне перакладаў. Ім перакладзены на беларускую мову вершы А. Пушкіна, «Гора ад розуму» А. Грыбаедава, «Вечары на хутары ля Дзіканькі» М. Гогаля, «Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву» А. Радзішчава, «Маладая гвардыя» А. Фадзеева, «Пераяслаўская рада» Н. Рыбака і іншыя творы.

У апошні час паэт стаў вядомы і як кінадраматург. Разам з А. Куляшовым ім напісан кінасцэнарый па коласаўскай трылогіі «На ростанях». Па гэтаму сцэнарыю зараз здымаецца мастацкі каляровы фільм.

Максіму Лужаніну споўнілася пяцьдзесят год. Паэт знаходзіцца ў росквіце творчых сіл. Цяпер ён працуе над вялікай лірычнай паэмай, уступ да якой мы друкуем ніжэй.

Пажадаем М. Лужаніну доўгіх год жыцця і плённых поспехаў у яго творчай працы.

**Максім ЛУЖАНІН**

# ЯК НАРАДЗІЎСЯ НОВЫ СВЕТ



Ужо наш век у палавіне,
А дні бягуць...
Не за гарой
І год двухтысячны.
Павінен
Я запавет пакінуць свой.

Сказаць пра ўсё, чаму быў сведкам,
Куды вяла нас часаў ніць,
Чаму стаў не такім, а гэткім,
Памылак горкіх не рабіць
Павінен я.



Адна турбота,
Каб нават парастак малы,
Узрошчаны сяброў работай,
Не захлынуўся ад імглы,
Якая падпаўзае люта
Да нашых кроўных рубяжоў
І асуджае на пакуты
Маё жыццё, маю любоў.

Ці неадхільнай будзе схватка?
Ці той злавесны ураган
За крылле схопіць напачатку
Рука рабочых і сялян?

Я так хачу, пра гэта мару,
У гэта веру і раблю
Усё, каб не пусціць пажару
На акрыяўшую зямлю.

Час абганяючы зацята,
Жыву я, сціплы чалавек,
І ўжо гартаю не дваццаты,
А дваццаць першы слаўны век.

Як па асфальце ў Маладэчна,
З маторам на мільёны сіл,
Я вылятаю шляхам Млечным
Пагасцяваць паміж свяціл.

Адкінуўшы блукальны посах,
Ступіў я на такі парог,
Што з ліхтаром адзін філосаф
У даўніх днях знайсці не мог.

Не нашчадкі яго, не ўнукі,
Змаглі мы, ўстаўшы да жыцця,
Праверыць ісціну навукі
Святога ісцінай быцця.

І нездарма ўсеўладна атам,
Часцінанчку, драбней за пыл,
На сонца вывеўшы са спратаў,
Пры мне сучаснік расшчапіў.

Свой час заўжды твару і слаўлю,
І вельмі недалёка час,
Якому я падмуркі стаўлю,
Дзе не абыйдуцца без нас.

Мы тленны, ўжо сячэцца волас,
Душа ж не хоча спачываць,

Я зноў і зноў падвышу голас
Да вас, наступнікі, да вас.

Паслухайце, прайдзіце следам
За мною.
Вам патрэбна ведаць,
Што я пабачыў на вяку,
Каму я паціскаў руку,
Каго я ворагам лічыў,
Якія кнігі я вучыў,
Як гінуў каля перапраў,
Як ажываў я і ўзлятаў.

Калі пераступлю мяжу
З свайго **хачу** ў свае **магу**
І простым словам раскажу,
Што перачуў, што дасягнуў,—
Я абвяшчу свой запавет.

Мой светлы друг!
З гарачых рук
Прымі навуку ўсіх навук —
Як нарадзіўся новы свет,
Твой свет.



Раіса Маканіна нарадзілася ў сям'і ваеннаслужачага. Вайна застала яе ў Мічурынску. Там яна працавала ў чыгуначным вучылішчы. Пасля вайны прыехала ў Беларусь і працуе ў Гродна лабаранткай-хімікам.

На нарадзе маладых пісьменнікаў, якая адбылася ў маі гэтага года, было абмеркавана першае апавяданне Раісы Маканінай. Яго мы і прапануем нашым чытачам.

Раіса МАКАНІНА

# СЛОВАМ НЕ БЫЛО МЕСЦА

**Апавяданне**

Мал. А. Бараноўскага.

1942 год. Невялікі тылавы гарадок. Шчыра кажучы, дык зусім ён не тылавы. Ледзь не кожную ноч насцярожаную цішыню горада разрываюць залпы зенітак. Усюды відаць свежыя руіны. А вокны дамоў даўно ўжо забіты фанерай.

У горадзе шмат лётчыкаў. Іх лёгка пазнаць. Ходзяць яны ў скураных шлемах і футравых камбінезонах. Лётчыкі цяпер рэдка калі скідаюць сваю рабочую форму. Нават цяжка паверыць, што некалі яны шпацыравалі ў сініх фрэнчах з залатымі гузікамі. Даўно гэта было. Да вайны.

А цяпер... Вось імчыць машына з аэрадрома. У кузаве — людзі з абветранымі тварамі. Машына робіць круты паварот; лётчыкі дружна рагочуць — не прывыкаць ім да рэзкіх віражоў.

— Прыехалі! — крычаць лётчыкі.

Адзін за другім яны скачуць на зямлю і навыперадкі бягуць у гасцініцу.

Высокі, светлы вестыбюль гарадской гасцініцы некалі здзіўляў прыезджых нечаканай раскошай шырокіх лесвіц, дывановых дарожак і карцін у дарагіх рамах. Цяпер большая яе частка — інтэрнат лётчыкаў,

астатнімі пакоямі распараджаецца ваенны камендант. Па талонах, якія ён выдае, тут спыняюцца афіцэры.

У prасторным вестыбюлі, за невялікім пісьмовым сталом, зябка хутаючыся ў мяккую шэрую хустку, сядзіць худзенькая дзяўчына. Яна паспешліва запісвае ў рэгістрацыйны журнал лётчыкаў, якія толькі што прыехалі з аэрадрома. У цьмяным святле настольнай лямпы залаціцца непаслухмяная пасмачка валасоў. Не, прыгожай дзяўчыну не назавеш, але яе ружовы твар міжволі прыцягвае ўвагу нейкім нечаканым спалучэннем далікатнасці і задумлівай сур'ёзнасці.

Леначка сядзіць, падкурчыўшы пад сябе ногі: так цяплей. У гасцініцы даўно няма дроў. А за акном лютуе асенняя непагода. Калючы вецер налятае парывамі, сыпле буйнымі кроплямі золкага дажджу. Тужліва звіняць шыбы. Завывае вецер.

Дзяўчына на хвіліну задумваецца. Яе позірк скіраваны некуды вельмі далёка...

«Як там цяпер на фронце? — думае яна. — Дзе Пеця? З першага дня вайны — ні аднаго пісьма. Бедная мама зусім змарнела, чакаючы весткі аб ім. Як яна там? Дома таксама холадна. Дроў няма. Засталося некалькі штакецін ад старога плоту. Ды хіба імі абагрэеш хату? Хоць бы хапіла на тое, каб заўтра зварыць зацірку».

Перад тым, як пайсці на дзяжурства, Леначка накрыла маці ватнікам паверх коўдры, пакінула захутаны хусткай кафейнік з гарачай жалудзёвай кавай. Але цяпер, калі так жудасна вые вецер, ёй здаецца, што чагосьці яна недарабіла, каб маці лягчэй было пераіжываць сваё адзіноцтва.

Леначка даўно прывыкла лічыць сябе старэйшай у сям'і. Бацька памёр. Маці другі год ляжыць хворая. Брат Пеця на вайне. Цяжка. Але яна не скардзіцца. Дарма, што яна такая маленькая і тоненькая. Вунь якія ў яе моцныя рукі! Каб не мама, дык яна пайшла б на фронт. Але хворую маці не кінеш. Вось і даводзіцца сядзець у гэтай гасцініцы...

Леначка намагаецца адагнаць невясёлыя думкі. Але яны надакучліва лезуць у галаву. Іх бязладную плынь абрывае гулкі стук цяжкіх дзвярэй. Некалькі зморaных, даўно нягаленых людзей у прамоклых шынялях ідуць па шырокай лесвіцы, пакідаючы за сабой цёмныя плямы слядоў на дывановай дарожцы. Спыніўшыся ля стала, яны скідаюць на падлогу рэчавыя мяшкі, падаюць Лене талоны ад ваеннага каменданта.

— Нам бы адпачыць крыху, — гаворыць адзін з іх, відаць, старшы, і з надзеяй глядзіць на Леначку.

Дзяўчына адказвае не адразу.

Гасцініца і так перапоўнена. Лепшыя нумары падобны да цыганскага табару: людзі спяць проста на падлозе, у канцылярыі на сталах таксама пасцелі. На канапах у вестыбюлі, не распранаючыся, спяць танкісты. Але ж і гэтыя людзі, што зайшлі, хочуць адпачыць.

— Пачакайце хвілінaчку, зараз што-небудзь прыдумаем, — рашуча гаворыць яна. — Можа хто-небудзь з механікаў затрымаецца да раніцы на аэрадроме. Я зараз.

Яна паспешліва кладзе ключы ў кішэню палінялага халаціка і, дробна стукаючы абцасамі зношаных туфель, бяжыць на верхні паверх.

Прыезджыя ўсё разумеюць. Яны садзяцца на прыступкі і, звесіўшы на калені галовы, пачынаюць драмаць. Усё ж не пад адкрытым небам.

Аднекуль з самага верху чуваць звонкі дзявочы голас.

— Знайшла, знайшла! — Леначка бяжыць уніз, пераскокваючы праз





прыступку. — Тры ложкі будуць пуставаць усю ноч. Іх можна ссунуць. Тады ўсе пяцёра ляжаце. Толькі вось падушак тры...

Усмешка адразу знікае з яе па-дзіцячаму наіўнага твару.

Усе пяць смяюцца з яе разгубленасці, а самы малады, бязвусы лейтэнант, папраўіўшы новую партупею, гаворыць з ноткай хлапечай паблажлівасці:

— Мы, сястрычка, салдаты. А салдату падушка зусім і не патрэбна.

Леначка маўчыць, хоць у душы яна не згодна: і салдату зручней спаць на мяккай падушцы.

— Здайце дакументы, — пачынае камандаваць яна, — ды ідзіце адпачываць. Шынелі тут пакіньце. Мы іх занясём у сушылку. Там крыху цяплей.

— Дзякуем, родная, — за ўсіх адказвае капітан.

Запоўніўшы карткі, Лена адкідваецца на спінку стула. І толькі тады яна заўважае смуглявага лётчыка, які прымасціўся на высокім падаконніку. Лётчык спачувальна глядзіць на Лену, быццам пытае: «Ці замарылася яна?»

«Не, не замарылася», — ветлівым позіркам адказвае Лена.

Відаць, што яны добра разумеюць адзін аднаго і без слоў. Барыс,

так завуць лётчыка, рэдка калі перамаўляецца з Ленай у час яе дзяжурства: ёй можа быць няёмка. Але ўсе свае вольныя гадзіны праседжвае ў вестыбюлі, нібы аберагае дзяўчыну ад нейкай небяспекі.

Яны неяк непрыкметна пасябравалі. Леначка і не заўважыла нават, калі гэта пачалося.

Звычайна, прыладзіўшыся дзе-небудзь на шырокіх поручнях лесвіцы ці на падаконніку, Барыс да позняй ночы сядзеў маўклівы, пазіраў на Леначку ды час-ад-часу запісваў у блакнот. Ідучы ў свой пакой, ён пакідаў на яе стале лісткі, спісаныя рыфмаванымі радкамі.

Вершы ёй падабаліся. Яна чытала іх, хвалявалася ад нейкага новага, незразумелага ёй пачуцця. Яна чакала, што Барыс пачне гаварыць ёй пра тое, што прыгожа і дасціпна апявалася ў яго вершах. Але ён маўчаў.

Калі Леначка ўвечары ішла дадому, ён непрыкметна выходзіў следам і, быццам выпадкова, ішоў яе праводзіць. Але і тады ён больш маўчаў, думаючы пра нешта сваё. І ўсё ж ёй было з ім лёгка і радасна. На развітанне Барыс доўга трымаў яе руку, быццам хацеў сказаць нешта важнае, але не мог асмеліцца. Потым ён паспешліва знікаў у непраглядны ночы зацемненага горада.

І кожны раз Леначка ў нейкім дзіўным роздуме, намацваючы ў цемры хісткія поручні, па рыпучых прыступках павольна ішла ў дом.

У такія хвіліны яна, чырванеючы ад уласных думак, пыталася ў сябе: ці любіць яе Барыс? Вядома, любіць. Але ж чаго ён маўчыць? Усе ж закаханыя прызнаюцца ў гэтым. Так пішуць у кнігах. А можа прызнанне зусім і не трэба... Леначка ў гэтым была не зусім упэўнена.

Дзверы зноў моцна грукнулі. Леначка падхапілася і, хутчэй для сябе, сказала:

— Чаго ж я сяджу? Гэта ж у трыццаць другім нумары пустуе канапа. На ёй спаў лётчык, а сёння яго не відаць было, — наморшчыўшы лоб, яна спрабуе ўспомніць, ці быў той лётчык увечары, калі ўсе хадзілі ў сталовую. Не, не было. Няўжо... Не можа быць. У такіх выпадках лётчыкі самі прыходзілі да яе і немнагаслоўна паведамлялі:

— У нас пяты ложак... Можаце падсяляць...

Леначка ўсё разумела і ні пра што не пыталася. Але пасля, запаўняючы ў журнале графу «выбыў», ціха плакала і прыпамінала ўсё, што ведала пра гэтага чалавека.

«Але чаму я сёння яго не бачыла? — думае яна пра лётчыка, які спаў на канапе ў трыццаць другім нумары. — Давядзецца ўсё ж спытаць».

Грукаючы кірзавымі ботамі, па лесвіцы падымаецца тоўсты, немалады ўжо маёр.

— Вось талон, — падае ён Лене скамечаную паперку. — На тры дні прыехаў.

— Вы пасядзіце крыху, — Леначка паспешліва падсоўвае маёру стул.

— А што, няўжо няма месца? — пытае маёр і, заўважыўшы танкістаў, што спяць у вестыбюлі дадае: — Ясна.

— Ды вы не хвалюйцеся, — Леначка спрабуе ўсміхнуцца як мага больш прыхільна. — У крайнім выпадку пасцелем на канапе. Яна, праўда, вузенькая, але можна будзе крэслы падставіць.

— Я і на адных крэслах засну. Вельмі ўжо змардаваўся. Не глядзіце, што я такі тоўсты, змяшчуся! — адразу весялее маёр.



Леначка зноў бяжыць наверх. «Абавязкова трэба знайсці», — думае яна.

Кастэлянка, немаладая, поўная жанчына, з выразам заўсёднай заклапочанасці на шырокім твары, заўважыўшы Леначку, пагардліва сціскае вусны. Гэтая дзяўчына не ўяўляе, мусіць, што такое сапраўдная гасцініца: усё пайшло шыварат-навыварат, як яна паявілася тут. Леначка не зважае на злосны выгляд.

— Паліна, ты не прыкмеціла, у трыццаць другім на канапе... прышоў ён.

— Нядаўна паслала. Лёг ужо...

— Праўда? Сапраўды лёг? Вось добра, — Леначка хоча пабегчы ў трыццаць другі, каб самой пераканацца, што лётчык сапраўды прыйшоў, але заўважае груду прасцін у руках Паліны і ўспамінае, чаго прыйшла сюды.

— У сорак дзевятым, здаецца, ёсць вялікае крэсла, — гаворыць яна. — Калі падставіць што-небудзь пад ногі...

— Ну, вось яшчэ выдумала. Крэсла! А дзе я вазьму падушку? — Паліна злосна зыркнула на Лену і рашуча накіравалася далей. — Пачакай, Палінка, — дзяўчына далікатна, але настойліва бярэ кастэлянку за рукаў. — Паглядзі, вунь маёр сядзіць...

— Не сляпая... Бачу...

— Дык трэба зрабіць што-небудзь...

— І без падушкі?

— Вазьмі чыстую навалачку, пакладзі туды якую-небудзь мяккую рэч...

— А што я пакладу, што?

На імгненне Леначка разгубілася. Потым паспешліва зняла хустку і, радасна ўсміхаючыся сваёй здагадлівасці, працягнула яе Паліне.

— Выдумала!.. Хустку... І без яе знайду што-небудзь. Хіба сама не разумею? Стаміўся чалавек... — Паліна бурчыць ужо зусім нязлосна. Нялёгка ёй, прызвычаенай да старога парадку ва ўзорнай гасцініцы, мірыцца з тым, што прынесла вайна. Каб аблегчыць сэрца, яна бурчыць на сваю новую адказную дзяжурную, стараючыся пераканаць сябе, што маладосць і нявопытнасць Леначкі — прычына ўсіх непарадкаў.

— Дзяжурная! Чаму ў маім нумары не напалена? — Леначка ўздрыгнула. Зацягнуты ў папругі капітан ішоў да яе. — Я не магу спаць у такім сабачым холадзе!..

— Але ў нас няма дроў, — спакойна адказала Леначка.

Лётчыкі, што стаялі ў калідоры ля рэпрадуктара, зарагаталі. Нехта параіў капітану падацца бліжэй да фронта: там хутка адагрэюць.

Леначка бяжыць уніз. Маёр ужо дрэмле на крэсле, абапёршыся барадой на моцна сціснутыя кулакі. Дзяўчына асцярожна будзіць яго, адпраўляе ў нумар. «Ну, цяпер няма ніводнага месца», — думае яна.

— Таварыш дзяжурная, а ў мяне няма падушкі, — падыходзіць да яе адзін з тых лётчыкаў, што нядаўна прыехалі на машыне.

— Зараз я прышлю кастэлянку, — адказвае Леначка.

Лейтэнант садзіцца непадалёк ад стала, закурвае. Курыць ён не спяшаючыся, выпускаючы тоненькія струменьчыкі шызаватага дыму.

— Падушку вам не сюды прынясуць, — дадае Леначка. У яе голасе чуваць цяжкая зморанасць.

— Добра... Дзякую... — мармыча лейтэнант, але з месца не кра-

таецца. Відаць, хлопец не з тых, хто лёгка адступае, натрапіўшы на перашкоду.

Леначка, захапіўшыся работай, забылася пра яго, ці можа толькі прыкідвалася.

Даўно заснулі лётчыкі. Заўтра яны ўстануць раней за ўсіх. Апошнім пайшоў Барыс, ласкава кіўнуўшы Леначцы галавой на развітанне. Цішыня. Спяць людзі, дзе каму собіла: на ложках і канапах, на сталах і крэслах, у нумарах, што захавалі сляды мірнай утульнасці, у калідоры і ў вестыбюлі. Дзве гадзіны ночы.

Леначка яшчэ раз праглядае спісак: там з вечара запісана, каго і калі разбудзіць. Да першай пабудкі яшчэ больш як паўтары гадзіны. Можна пачытаць кнігу. Леначка працягвае руку да шуфлядкі, дзе ляжыць кніга, і міжволі сустракаецца з тужлівым і ўважлівым позіркам лётчыка.

— Чаму вы не адпачываеце? — гаворыць яна, неяк адразу памякчэўшым голасам, але тут жа наморшчвае бровы, каб не падумаў чаго. Яна не вельмі здзіўляецца: такое здаралася і раней.

Толькі Леначка не любіла гэтых надакучлівых «паклоннікаў». Можа таму, што ўсе яны садзіліся на адзін і той жа стул, вялі адны і тыя ж надакучлівыя размовы. Усе гэтыя «ўхажоры» здаваліся ёй на дзіва аднастайнымі і крыху пошлымі. Па абавязку службы даводзілася быць з імі ветлівай, але часам гэта было не лёгка.

— Не турбуйцеся, я яшчэ адпачну, — гаворыць лейтэнант. Крыху памаўчаўшы, ён дадае зусім ціха: — Мне хочацца пасядзець тут, каля вас... Вы не будзеце злавацца на мяне за гэта?

Леначка паціскае плячыма, ямчэй усаджваецца на крэсла, разгортвае кнігу, закладзеную алоўкам. Усім сваім выглядам Леначка паказвае, што прагнаць яго яна, вядома, не можа, але і забаўляць не збіраецца. Некалькі хвілін яны сядзяць моўчкі. У цішыні выразна чуецца соннае дыханне танкістаў ды мернае чэканне насценнага гадзінніка.

— Ці не знойдзеце вы мне што-небудзь пачытаць? — лейтэнант зноў спрабуе завязаць размову.

— Выбірайце, — гаворыць Леначка, адчыняючы дзверцы пісьмовага стала, і зноў паглыбляецца ў чытанне.

Пад'ехаўшы на стуле, лейтэнант доўга і знарок уважліва перабірае зачытаныя кнігі. Іх не многа, можа крыху больш дзесятка, але лейтэнант ніяк не можа выбраць сабе кнігу па густу. Ды і ці бачыць ён назвы? Відаць, думкі яго заняты зусім іншым...

Побач жа тоненькая, нязграбная дзяўчынка. Што ў ёй асаблівага? І чаму так цягне да яе? Можа, таму, што на світанні трэба ляцець на цяжкое заданне? Але ж лятаць даводзіцца не ўпершыню. Толькі чаму сёння гэтак неспакойна на сэрцы? Добра было б пачуць хоць адно ласкавае слова. Але хто яго скажа? У горадзе няма ніводнай знаёмай душы... апроч гэтай дзяўчынкі... Маленькай, худзенькай, з вялікімі вачыма.. А яна маўчыць... І зусім яна не прыгожая. Вялікі лоб, валасы зачасаны назад. Не, валасы прыгожыя, пушыстыя, мяккія... Чаму яна ні разу не паглядзіць на мяне? Толькі б пачуць адно ласкавае слова...

Ціха. Кніжныя лісты шапацяць пад пальцамі дзяўчыны. Мерна і глуха б'е гадзіннік.

— Скажыце, як вас завуць? — раптам пытае лейтэнант, адклаўшы ў бок непатрэбныя кнігі.



— Прабачце, — гаворыць Леначка, з цяжкасцю стрымліваючы сябе, — вы, здаецца, прасілі разбудзіць вас у чатыры трыццаць.

— Так, але...

— Засталося не многа часу. Ідзіце і адпачывайце, — Леначка загортвае кнігу, чамусьці бярэ спісак і падбегам падымаецца па лесвіцы. Азірнуўшыся, яна бачыць, што лейтэнант глядзіць услед ёй. У яго позірку — крыўда і невымоўная туга.

У чатыры трыццаць, як заўсёды, падняліся лётчыкі. Крыху нязграбныя ў сваіх футравых камбінезонах і шыракалапых унтах, яны амаль нячутна беглі ўніз да машын. На хаду прыветліва здароваліся з Леначкай, і кожны нібы і не заўважыў, што Барыс адстаў. Ён знарок марудна зашпільвае вялізны планшэт, чакае, пакуль лётчыкі не схаваюцца за цяжкімі дзвярыма.

— Леначка, дай руку на шчасце, — ціха гаворыць ён, паспешліва паціскаючы тонкія дзявочыя пальцы. У яго позірку Леначка бачыць усё тое, пра што ён ніколі не гаварыў і што сказана без слоў.

— Можа і мне паціснеце руку на шчасце?

Азірнуўшыся, Леначка пазнае свайго «начнога паклонніка». Але цяпер яна ўжо не злуецца на яго, сарамліва працягвае руку.

— Не злуйся, браток! Усё ясна, — па-сяброўску ўсміхаецца ён, звяртаючыся да Барыса.

Абодва бягуць уніз па лесвіцы, а Леначка глядзіць ім услед і адчувае, як сціскаецца сэрца ад нейкага жудаснага і салодкага болю. І ўвесь дзень гэты боль не пакідае яе. Нейкая незразумелая незадаволенасць сабой трывожыць і прыгнятае. Раптам Леначка яскрава ўяўляе пакрыўджаны выраз твару лейтэнанта і тут жа думае: «Чаму я не запыталася, ці ёсць у яго хто з радні?.. А як там Барыс?» Думка аб ім адганяе іншыя. Але, напэўна, упершыню ёй хочацца зараз жа даведацца пра Барыса. Ці прыляцеў ён? Яна не можа ўседзець на месцы, дачакацца заўтрашняй раніцы, калі пойдзе на дзяжурства. Хочацца зараз жа пабегчы ў гасцініцу. Дзявочая сарамлівасць доўга стрымлівае яе ад такога кроку. Але пад вечар, яна ўсё ж бяжыць туды.

У вестыбюлі — знаёмы малюнак, але Барыса не відаць. Леначка чуе, як халадзее пад сэрцам, але запытаць у дзяжурнай пра Барыса не адважваецца: стаіць разгубленая, не ведаючы, што рабіць далей. Потым падымаецца наверх і першы, хто трапляе ёй на вочы — Барыс. Абое стаяць збянтэжаныя і радасныя.

Праз некалькі мінут яны ідуць па скаванай марозам зямлі. Барыс пахмурна маўчыць. І ў яго маўклівасці Леначка адчувае нешта зусім іншае. І тады перад Леначкай зноў вынікае пакрыўджаны выраз твару лейтэнанта.

— Скажы,.. а ён вярнуўся? — пытаецца яна.

Барыс бярэ Леначку за руку, пяшчотна сціскае яе. Яна разумее ўсё і сама прытуляецца да яго пляча, маленькая, кволая дзяўчынка.

**Пераклад з рускай мовы.**



**Уолтэр Мэкін — сучасны ірландскі пісьменнік. У сваіх апавяданнях ён паказвае жыццё простых людзей Ірландыі. Бедны хлопчык, які вымушан кінуць школу і стаць разносчыкам тавараў; доктар, якога ўразіў кантраст паміж галечай працоўных і раскошным жыццём багацеяў; стары бядняк-селянін, які наважыўся ўтапіць у багне агента, бо пабаяўся, што з-за яго ён не атрымае пенсіі, — вось вобразы яго новай кнігі апавяданняў «Зялёныя ўзгоркі».**

**Уолтэр МЭКІН**

# ЗЯЛЁНЫЯ ЎЗГОРКІ

**Апавяданне**

Мал. А. Бараноўскага.

— Якая карысць плакаць? — спытаўся ён.

— Ад слёз бліщчаць вочы, — адказала яна.

— І робяцца чырвонымі і непрыгожымі.

— Яны мае, і што хачу, тое і раблю з імі.

Некаторы час памаўчалі.

Яны сядзелі амаль на самай вяршыні зялёнага ўзгорка. Унізе, направа ад іх, ляжала вёска, а там, за ёю, — маўклівае мора, ціхае і спакойнае, як прыемны сон. Чырвонае сонца вось-вось акунецца ў мора. Здавалася, яшчэ імгненне — і яно зашыпіць. А злева — у небе вісеў серп маладзіка, гатовага кінуць сонцу свой слабы, але смелы выклік.

Быў цёплы вечар. Хлопец амаль ляжаў, абапёршыся на локаць, задумена перабіраў рукой завялыя кветкі верасу і ленавата адрываў іх сваімі моцнымі, загарэлымі пальцамі.



— Адсюль вёска выдае прыгожай, — сказаў ён.

То была праўда. Вёска выглядала невялічкай. Усяго шэсць хат, усе новыя, пабудаваныя за апошнія некалькі год. Некаторыя былі абліцаваны белым тынкам, другія — проста пабелены вапнай. Правільнай дугой яны абступалі прычал. Пасярэдзіне вёскі стаяла школа. Туды кожную нядзелю з таго боку заліва прыязджаў свяшчэннік служыць абедню. Было прыгожа. На жоўтым пяску ляжалі чатыры лодкі, а з-за дальняга канца прычала падымалася, аздобленая гірляндай снасцей, мачта рыбацкага судна.

Ён і яна забраліся высока. Недзе непадалёку ад іх, за выступам узгорка, уніз, да мора, бег ручай. Цяпер ён быў не вельмі імклівы. Каб закіпець, яму не хапала дажджу. Але калі добра прыслухацца, можна было пачуць, як ён цурчыць.

— Прыгожае месца, — сказала яна. — Ты, мусіць, доўга будзеш яго помніць.

— Прыгожае, — адказаў ён. — Гэтую вёсачку я, напэўна, доўга не забуду. Але ж на свеце павінны быць і другія такія ж прыгожыя мясціны.

— Ты сапраўды гэтак думаеш, ці гаворыш проста так, бо пачынаеш ужо сумаваць?

Яна сядзела да яго спіной, апусціўшы на грудзі галаву. Прыгожая, пругкая спіна і тонкая талія. Яе каштанавыя валасы сям-там выцвілі ад сонца. Для зручнасці яны былі коратка падстрыжаны. Ён ведаў яе твар. Шырокі і прыгожы, з правільнымі рысамі, рашучы. Так, рашучы. Рашучыя бровы і невялічкі нос, падбародак з прыпухлымі, нібы надзьмутымі, вуснамі. Вочы на дзіва блакітныя, строгія, але часам і ласкавыя.

— Не, — сказаў ён, — я не сумую. Я ж і раней выязджаў адсюль.

— Але цяпер ты ўжо назад не вернешся.

— Сам не ведаю. Можа і вярнуся. А можа і не. Калі ж вярнуся, у мяне ў кішэні будуць грошы, і я буду іх траціць, колькі захачу, а потым зноў паеду, і тады ўжо ты паедзеш са мной.

— Не, не паеду.

— Чаму? — спытаўся ён.

— Мы ўжо аб усім гэтым не раз гаварылі. Навошта, Дэры?

— Якое ліха трымае цябе ў гэтай вёсцы? — спытаўся ён, нецярпліва ўзмахнуўшы рукой.

— Проста я люблю яе, вось і ўсё. Разумееш? Я яе проста люблю. Люблю тое, што ў нас ёсць, і не думаю, каб дзе-небудзь было так, як у нас.

— Адкуль ты ведаеш? Як жа ты можаш так гаварыць, калі не бачыла яшчэ іншых мясцін? Можа, ты задаволішся тым, што пражывеш увесь свой век тут, састарышся, а потым памрэш, ніколі нідзе не пабыўшы?

— Ага, — адказала яна.

— Ну, а я дык не! — сказаў ён рашуча. — Вось ты гаворыш пра нашы зялёныя ўзгоркі, быццам нідзе на свеце такіх няма. А яны ёсць. Я бачыў іх. Я бачыў такія зялёныя ўзгоркі... Што нашы ў параўнанні з імі?! — Ён устаў, нахіліўся да яе, узяў за руку і прыцягнуў да сябе. Ён быў высокі і глядзеў на яе зверху ўніз. Яна глянула яму ў вочы.

— Ці ж не гаварыў я табе, што пачырванеюць вочы? Вось і пачырванелі. Паслухай, Марта, мы разыходзімся толькі ў адным. Ты хочаш застацца тут, а я хачу адсюль паехаць. Вось адзінае, што ляжыць паміж намі. Аднаму з нас прыдзецца саступіць. Мы ведаем, што значыць не быць разам. Вось убачыш, калі я вярнуся па цябе, ты забудзеш пра свае зялёныя ўзгоркі.

— Паміж намі існуе нешта большае, — сказала яна, зазіраючы ў яго неспакойныя вочы, — ты страшэнна любіш славу. Вось што падзяляе нас. Хіба ж нельга дабіцца чаго-небудзь тут? Чаму дзеля гэтага абавязкова трэба ехаць кудысьці за тры тысячы міль?

— Тут? А што тут ёсць? — спытаўся ён, адхіліўшыся ад яе. — Нічога! Праца, праца праца... А што за яе атрымліваеш? Ежу... У год можаш купіць сабе касцюм, веласіпед у растэрміноўку. Дзесяць міль язды ў кіно. Шэсць міль — на танцы. І гэта з году ў год... Зімой сумота... Рыбная лоўля, паляванне. А чаго дасягаем? Я гэтак больш не магу! Ты ведаеш, што будзе. Я выб'юся ў людзі. Тут з мяне даволі. А там я кім-небудзь стану. Вось убачыш!

— У тым вось і бяда, — сказала яна. — Я ведаю, што ты кім-небудзь станеш, але не ведаю, ці будзе табе ад гэтага лепш.

«Шырокія плечы, коратка падстрыжаныя валасы, загарэлы твар і неспакойныя вочы... Ён, канешне, даб'ецца свайго». Ужо цяпер ён быў падобны на важнага гаражаніна: добра скроены двухбортны пінжак, белая сарочка, туфлі — усё гэта выглядала так недарэчна на камяністым схіле Конемарскага ўзгорка. Ён зноў падышоў да яе. Абняў яе сваімі моцнымі рукамі. На шчоках яна адчула яго дыханне.

— Ты перадумаеш, дзяўчынка мая, — сказаў ён.

«Я магу перадумаць у адно імгненне, калі стаю так блізка ад цябе», — падумала яна.

— Ты не зможаш знішчыць нашых пачуццяў. Я пацярплю, пакуль не вярнуся назад, па цябе. Я вярнуся да цябе, — раз ужо не магу прымусіць цябе паехаць са мною цяпер. Толькі чакай мяне. Глядзі, не звязвайся з тымі хлопцамі, што ўнізе, бо я заб'ю іх, пабачыш. Ты чуеш?

— Чую.

Раптам да іх данёсся голас яго бацькі. Ён паднімаўся на ўзгорак і клікаў іх. Дэры моцна пацалаваў Марту. Яна прыхінулася бліжэй да яго. Ад думкі, што ён будзе без яе, у яго няроўна білася сэрца. Але няўрымслівасць зноў вярнулася да яго. Чатырохматорны самалёт, што ляціць над акіянам, пад ім — гіганцкі кантынент, які чакае свайго заваёўніка — Дэры О'Фліна. Так, ён заваюе яго. Не такія людзі рабілі гэта: варта было ім толькі стрэсці з сябе інертнасць сваіх вёсак, як іх марудлівая ірландская кроў раптам пачынала бурліць і кіпець ад нястрымнага імкнення.

— Пакуль бывай, дарагая, — сказаў Дэры.

— Бывай, — адказала яна, схіліўшы галаву ў яго на грудзях.

— А, вось вы дзе! — усклікнуў бацька, падыходзячы да іх сваім павольным, шырокім, развалістым крокам пастуха. Каб не яго спакойныя вочы, пры святле месяца бацьку можна было б зблытаць з сынам. Адкуль у Дэры такія вочы? У яго ж маці таксама вочы спакойныя.

— Там да нас зайшло некалькі чалавек, — сказаў бацька. — Пойдзем дадому.

— Я спушчуся да іх, — адказаў Дэры, — а ты прыдзеш потым. — І ён пабег уніз, пераскокваючы, як козлік, з выступа на выступ, і ні разу



не аступіўся. Яны сачылі, як ён паступова робіцца ўсё меншы і меншы.

— У яго многа энергіі, — прамовіў стары.

— У яго многа славалюбства, — сказала Марта і пачала спускацца.

Стары глядзеў ёй услед. «Яна, напэўна, плача», — падумаў ён. Ён ведаў, што маці Дэры цяпер таксама плача. Ён чамусьці спытаў сябе: «Што было б, калі б жаночыя слёзы сабраць разам, — усе слёзы ўсіх жанчын, — ці пацякуць яны ракой? А якая была каму карысць ад гэтых слёз? Хіба яны калі-небудзь змякчалі чыё-небудзь сэрца ці адхілялі мужчыну ад мэты? А калі і так, то ці прыводзіла гэта да дабра?»

— Цяпер у Амерыку ехаць — не тое, што бывала, калі я быў малады, — разважаў ён, ідучы з ёю поплеч.

Ён любаваўся Мартай. Яна спускалася з узгорка, як маладая лань.

— Цяпер зусім іншае, — згадзілася яна.

— Э-эх! Калі ў дні маёй маладосці ехалі ў Амерыку, то рыхтаваліся да гэтага ледзь не цэлы год. За пяцьдзесят міль навокал усе ведалі, што ты едзеш, і абавязкова прыходзілі пабачыць цябе перад ад'ездам і на развітанне праліць слязу ці прынесці маленькі падарунак, ці які свяшчэнны талісман, што павінен аберагаць цябе ад усіх небяспек мора-акіяна, ці цёплую камізэльку. А цяпер... Ат, што там гаварыць!



— Цяпер усё робіцца хутка,— сказала Марта, усміхаючыся.— Туды ехаць, толькі дванаццаць гадзін. Цяпер туды хутчэй дабярэшся, чым у Дублін.

— Усё цяпер неяк не так,— сказаў ён. — Э-эх! Бывала, перш, чым яны паедуць, мы выплачам усе свае вочы і скачам і п'ём піва аж да першых пеўняў. А цяпер няма чаго шкадаваць людзей, да якіх толькі дванаццаць гадзін лёту. Усё роўна як у суседнім прыходзе.

— Вы будзеце сумаваць па Дэры,— сказала яна.

Ён уздрыгнуў.

— Ды не, не вельмі,—сказаў ён.— Праўду кажу. Няма часу. Да таго ж, Дэры заўсёды быў непаседай. Гэта ж ён едзе ўжо трэці раз. Два разы пабываў у Англіі.

Заўсёды быў няўрымслівы. Сам не ведаю, у каго ён такі ўдаўся. Іншы раз я гавару жонцы: што за ёй, напэўна, невідочна валачыўся які-небудзь бадзяга.— Ён ухмыльнуўся.— Табе трэ' было б паехаць з ім, Марта,— сказаў ён мякка.— Ён вельмі любіць цябе.

— І я яго таксама, — адказала яна. — Але я люблю і сваю вёску. Ён мог бы даць волю сваім імкненням і тут, дома. Мяне няцяжка ўгаварыць паехаць з ім, але будзе лепш, калі не паеду.

— Я ведаю яго, ён прыедзе па цябе.

— Магчыма, да таго часу я стану не такой, ці можа ён пераменіцца. А цяпер няхай робіць, як яму здаецца лепш, і ён заваюе зялёныя ўзгоркі Амерыкі.

— Ты зойдзеш да нас? — спытаўся стары, калі яны прыпыніліся на вуліцы. — Некалькі яго сяброў, і некалькі бутэлек моцнага піва, і трохі спеваў. Э-эх! Усё гэта — цень тае ўрачыстасці, што была даўней...

— Я пайду дадому, — сказала яна. — Мы сказалі ўжо адно аднаму ўсё, што было трэба. Мы ўбачымся з ім, калі ён вернецца дадому.

— Ну, як хочаш. Дабранач, дачушка. Блаславі цябе бог!

Бацька глядзеў ёй услед. Яна ішла павольна, апусціўшы галаву. Адну руку залажыла за спіну, трымаючы ёю за локаць другой. Кончыкам чаравіка яна адкідвала з дарогі маленькія каменьчыкі. Бацька ўздыхнуў і павярнуўся ў бок дома. Там было ціха. Гэта чамусьці засмуціла яго. Уголас ён сказаў сам сабе: «Э-эх! Многа гадоў назад ад гоману і шуму з гэтага дому зваліўся б дах!», і ўвайшоў у хату.

Дэры прыехаў да Марты праз год, амаль дзень у дзень. Але ён прыехаў не адзін. Яго суправаджалі два амерыканскія сяржанты і стралковы ўзвод салдат, і на яго труне ляжаў амерыканскі флаг, а бацька яго атрымаў медаль, якім быў узнагароджаны Дэры за храбрасць у нейкай чужой вайне. Яго пахавалі на невялічкіх могілках на палавіне дарогі ўверх на схіле зялёнага ўзгорка, каля самага ручая, што кіпіць пасля дажджу і ледзь чутна цурчыць, калі мелкі.

І адсюль, калі б вы сталі ля яго магілы, каб пакласці ў шкляны збан свежыя кветкі, перад вашымі вачыма паўстала б шырокая прастора акіяна, і калі вы добра бачыце і ў вас ёсць хоць крыху фантазіі, то недзе там, за многа, многа міль, на другім канцы свету, вы заўважыце зялёныя ўзгоркі...

Пераклад з англійскай мовы С. Дорскага.





**Дом у Акінчыцах Стаўбцоўскага раёна, дзе 3 лістапада 1882 года нарадзіўся народны паэт Беларусі Якуб Колас.**

Фота А. Дзітлава.

# СУСТРЭЧА Ў ПЯЦІГОРСКУ

## З успамінаў

Увосень 1926 г. (жнівень-верасень) давялося мне лячыць у Кіславодску сваё пэратомленае сэрца. Неяк я сустрэў каля нарзаннай галерэі Цішку Гартнага, які тады таксама лячыўся ў Кіславодску.

— Калі ў цябе сёння няма ніякіх працэдур, — сказаў ён, — то варта было б паехаць у Пяцігорск, паглядзець, што там за такі Правал, і падняцца на Машук... Ды і домік Лермантава наведаць...

— Вельмі добра! — згадзіўся я.

— Перш заедзем у Есентукі. Пазавем Купалу і Коласа ды паедзем разам у Пяцігорск.

— Хіба яны там?

— Я ўжо быў у іх. Цэлымі днямі абое сядзяць за шахматамі і нават на свае працэдуры позняцца...

Праз паўгадзіны мы ўжо крочылі да іх на кватэру. Заходзім у пакой, а яны абое сапраўды нікнуць над шахматнай дошкай. Цішка закрычаў з абурэннем:

— А каб на вас... Вы ж за шахматамі свету не бачыце!.. Кіньце гульню, паедзем разам у Пяцігорск!..

— Гэх, Цішка, даў бы ты нам паўгадзіны часу, і я падстроіў бы Янку канфузны мат, а то ён вельмі нос задзірае пасля ўчарашніх двух выйграных партый. Разумееш, змарыў мяне вечарам і я даў маху — адкрыў яму дарогу, а ён і абрадаваўся, — прадаўжаў скардзіцца Колас, але Купала запрапанаваў:

---

Аўтар гэтых успамінаў Тодар Кулеша — Язэп Лявонавіч Дыла, літаратар, друкаваўся ў беларускіх перыядычных выданнях 20-х гадоў. Цяпер Язэпу Лявонавічу 80 гадоў, ён пенсіянер і жыве ў г. Саратаве.

— Слухай, Якубе, дык аб чым гаварыць? Пакінем на дошцы ўсё як ёсць, а вернемся дамоў — дагуляем. Згодзен?

— Добра, — адказаў Колас.

— Яшчэ, браток, пабачым, хто на кім паедзе, — засмяяўся Купала, устаючы з-за стала.

— А хіба пазаўчора я не на васпану ехаў? — жартам абараняўся Колас.

Хутка мы апынуліся ў поездзе. Не паспелі прагледзець купленыя на вакзале свежыя газеты, і ўжо вось ён, Пяцігорск.

Мы выйшлі з вагона. Гара Машук засланіла сабой гарызонт.

— Глядзі ты, які ён, Машук! Рассеўся сабе і свет людзям засціць! — заўважыў, смеючыся, Колас.

Распыталі дарогу да доміка Лермантава.

Домік славутага паэта — аднапавярховы, малы з некалькімі невялікімі пакойчыкамі; вокны — таксама малыя, як ва ўсіх тутэйшых мазанках. Ён быў калісьці накрыты сухім чаротам, а пазней перакрыты дошкамі.

З глыбокай пашанай да светлай памяці вялікага паэта пераступілі мы парог гэтага доміка. Па сценах у рамачках, дзе пад шклом, а дзе — і незашклёных, віселі, выразаныя з часопісаў і газет малюнкі да твораў пісьменніка, замалёўкі-партрэты людзей, з якімі жыў, сябраваў або быў знаёмы М. Ю. Лермантаў; тут жа — дзве-тры ілюстрацыі да «Дэмана». Відаць было, што экспазіцыя не прадумана як след, а выстаўлена тое, што апынулася пад рукамі.

Уваходзім у маленькі пакойчык з акном у садок. Ля акна — невялічкі пpасторны столік, на ім, пад тоўстым шклом, аркуш пажоўклай паперы з недапісаным вершам. Перад столікам — старое крэсла...

Не памятаю ўжо хто — Купала ці Колас — упаўголаса сказаў:

— Вось які быў творчы кабінет вялікага паэта.

А нехта дадаў:

— А вось і канапа для адпачынку або творчага роздуму...

Толькі тут мы заўважылі, што ў прасценку над канапаю вісіць вялікі, у багатай раме, пісаны маслянымі фарбамі, партрэт. Хто ж гэты мужчына з пышнаю вышэчанаю барадою, ледзь кранутай сівізной? Які ў яго самазадаволены твар!

Цішка Гартны шукае надпіс пад партрэтам і, знайшоўшы яго, уголас чытае:



**Якуб Колас чытае свае творы перад віцебскімі чыгуначнікамі.** 1928 год. Фота І. Варашкі.



— «Дар сям'і Мартынава!»

І адразу ж усе мы на ўвесь голас гукаем:

— Забойца паэта!..

Абышоўшы ўсе пакоі музея, мы ўпэўніліся, што апрача танных алеаграфічных і літаграфскіх малюнкаў тут не было ніводнага добрага партрэта М. Ю. Лермантава, які вытрымаў бы параўнанне з пышным партрэтам яго забойцы.

Цішка Гартны адшукаў дзяжурную супрацоўніцу музея і папрасіў кнігу запісаў наведвальнікаў музея.

І мы запісалі ў ёй сваю крыўду за вялікага песняра свабоды, памяць якога шануецца так нядбайна.

Дарэчы, калі праз пару гадоў мне давялося зноў наведаць домік Лермантава, там усё стала інакш. З'явіліся копіі вядомых партрэтаў Лермантава. Падбор экспанатаў стаў багацейшы і ўсталявалася нейкая сістэма ў экспазіцыі; пышны партрэт саноўнага забойцы апынуўся ў заднім пакоі, дзе захоўваліся старыя металічныя вянкі.

Развітаўшыся з домікам Лермантава, мы выйшлі на пляц і нанялі парагоннага рамізніка, каб ён давёз нас да Машука.

Вось, нарэшце, і славуты Машук. Каб падарожнікі маглі агледзець навакольную мясцовасць і самы Пяцігорск, дарогу на вяршыню Машука правялі так, што яна, як тая спіраль, шырокаю стужкаю абвівае гару. І, сапраўды, цікава і прыгожа было, седзячы ў зручным фаэтоне, любавацца мясцовасцю і бачыць, як паступова расшыраўся краявід па меры таго, як мы падымаліся на гару.

І вось мы на вяршыні Машука. З біноклем Цішкі Гартнага добра разгледзелі ўсё кругом, і асабліва дарогу на Мядовы вадапад, куды збіраліся паехаць праз некалькі дзён конна...

З гары парашылі сыходзіць не па «спіральнай» дарозе, а напрасткі. Упарта пёрліся па схілу, праз густы калючы кустарнік, траплялі ў кучы-мурашнікі, падалі, збіралі на сябе павуціне, пыл і калючкі. Калі, нарэшце, змучаныя, дасяглі падэшвы гары, дык апынуліся чуць не за кіламетр ад таго месца, дзе хацелі выйсці. І адразу пачалі прыводзіць сябе ў належны выгляд, чысціць адзін другога ад пылу і павуціння...

Помнік на месцы гібелі М. Ю. Лермантава стаіць ля падэшвы Машука. Гэта — чатырохгранны абеліск, у тры-чатыры чалавечых росты вышынёю. У ніжняй частцы яго, у круглай нішы, стаіць бюст Лермантава. Вакол шырокага пастаменту — зялёны газон і пакрытая гравіем пляцоўка, якую акружае агарожа з каменных слупкоў з цяжкім і тоўстым ланцугом паміж імі. Па чатырох кутах агарожы сядзяць на камянях стэпавыя арлы. Мастак-скульптар пасадзіў іх, крыху павярнуўшы да абеліска, месца, дзе ўпаў застрэлены паэт, нібы ўладары паветра хочуць засланіць левымі крыламі спушчаныя нізка ў смутку свае галовы.

Крыху ў бок ад помніка стаіць домік, дзе жыве вартаўнік, у якога захоўваецца кніга запісаў наведвальнікаў.

Акрамя нас, тады нікога больш ля помніка не было. Мы нейкі час пасядзелі моўчкі.

Вартаўнік, даведаўшыся, што мы з Беларусі, прынёс нам кнігу. Адсеўшы ўбок, усе трое нашых паэтаў упісалі ў кнігу вершы, прысвечаныя Лермантаву.

Пасядзеўшы яшчэ крыху ля помніка, мы вярнуліся на пяцігорскі вакзал і раз'ехаліся дамоў: Купала з Коласам — у Есентукі, мы з Цішкаю — у Кіславодск.

**Тодар КУЛЕША.**



Якуб Колас і ўзбекскі паэт Хамід Алімджан.

# НА ГАСЦІННАЙ ЗЯМЛІ

Пяць сутак трэба ехаць ад Мінска да Ташкента па чыгунцы. З іх двое сутак цягнік ідзе казахскім стэпам. Двое сутак за акном вагона — стэп, бязмежны, у белых плямах саланчакоў. Але вось прамільгнуў слупок, які аддзяляе Казахскую рэспубліку ад Узбекскай. І поезд адразу трапляе ў Ташкенцкі аазіс, у неабсяжны сад, расквечаны ўсімі фарбамі поўдня. Пасажыры адразу ж цесна абступаюць вокны вагонаў, за якімі шырока разлегліся палі бавоўніка і зялёныя бахчы з жоўтымі, як золата, спелымі дынямі.

Вакол шмат вады. Яна блішчыць у маленькіх вадаёмах, адлюстроўваючы дрэвы, блакіт неба.

Вось ён, «ласкавы край», як назваў Узбекістан Якуб Колас, які жыў і працаваў тут у час Вялікай Айчыннай вайны.

Ташкент. Гіганцкі клубок вуліц, прамыя асфальтаваныя праспекты. Над некаторымі вуліцамі суцэльны шацёр шыракалістых ліп і магутных дубоў. Неяк самі сабою прыгадваюцца словы Якуба Коласа:

Успомню горад, шумны, звонкі,
І паркі, і сады.
Салар, узор арыкаў тонкі,
І топаляў рады.

Пад палатнянымі тэнтамі — люстраныя вітрыны магазінаў, кіёскі з кветкамі, з газетамі і часопісамі. Ідзеш па гэтых мясцінах і здаецца: вось тут хадзіў Якуб Колас, вось тут засталіся яго сляды, вось у гэтым кіёску ён купляў свежы нумар «Праўды», каб даведацца, што адбываецца ў роднай Беларусі, якая стагнала пад пятой нямецкіх захопнікаў.

Знаходзячыся ў эвакуацыі на далёкай ташкенцкай зямлі, Якуб Колас працаваў многа і плённа, у друку з'яўляліся яго вершы, паэмы. Фельетоны, публіцыстычныя артыкулы, прасякнутыя нянавісцю да ворага, нязломнай верай у перамогу над ворагам.

Народны паэт балюча перажывае здзекі нямецкіх захопнікаў над беларускім народам. У адным са сваіх патрыятычных вершаў ён пісаў:

Ці ж я вясёлым быць магу,
Калі зямля апушчана ў смугу?



Ці ж я пазбаўлюся пакут,
Калі пакутуе мой родны люд?

Родная зямля з яе палямі і лясамі, з празрыстымі крыніцамі і рэкамі заўсёды стаяла перад вачыма паэта, вабіла да сябе яго думкі і пачуцці. Ён заўсёды чуў яе несціханы голас:

Зямля мая, нябёсаў родных сінь,
Лугоў зялёныя пасцелі!
Вы ўстаеце з-за смутных далячынь
Скрозь горы і пустэлі.
Празрыстасць рэк, дубоў жывы шалаш,
Дарог нязлічаных красёнцы!
Вас бачу я, я чую голас ваш,
Прываблівы, як сонца.

Надрукаваныя лістоўкамі і закінутыя ў варожы тыл, у партызанскія атрады, палымяныя вершы і сатырычныя фельетоны Якуба Коласа натхнялі беларускіх партызан на гераічныя подзвігі.

Вядомы рускі пісьменнік Мікалай Ціханаў так ацаніў працу нашага народнага паэта ў дні ваеннага ліхалецця:

«Якуб Колас — голас беларускай паэзіі, пясняр і паэт простай, шчырай, глыбокай прыгажосці. Вершы яго падобныя на вясновы, задуменны шум яго родных лясоў, на плёскат ціхіх рэк, на ціхія дарогі сярод вячэрніх палёў, на песні яго землякоў, песні аб волі, аб працы, аб жыцці. У гады вайны ён сваім усхваляваным словам натхняў беларускіх партызан. Яго вершы, якія напісаны ў час вайны, гавораць аб смеласці яго творчасці, аб самым сардэчным, што пададзена так проста і з нейкай гранічнай выразнасцю, з патаемнай энергіяй палымянасці.

Вершы Якуба Коласа ведае савецкі народ, ведае і любіць іх. Гнеўны голас Якуба Коласа грамііў фашысцкіх захопнікаў, заклікаў да помсты за разбураны край, быў з пераможнымі войскамі, якія вызвалялі Мінск, ішоў далей на захад, да самага пастаўленага на калені Берліна».

У зборніку вершаў «Голас зямлі», паэмах «Суд у лесе» і «Адплата» Якуб Колас намаляваў шырокую карціну партызанскай барацьбы ў тыле ворага, паказаў мужнасць народных мсціўцаў, іх маральную перамогу над гітлераўскімі людаедамі, праўдзіва расказаў аб думках, пачуццях і справах партызан.

* * *

Сквер Рэвалюцыі знаходзіцца ў цэнтры Ташкента. Тут сярод духмяных дрэў часта адпачываў Якуб Колас. Праз сквер пралегла вуліца Карла Маркса, па якой Якуб Колас хадзіў у Саюз пісьменнікаў Узбекістана.

Часта прыслухоўваўся народны паэт да ранішняй музыкі горада, да гукаў узбекскай сталіцы.

А вось будынак Сярэднеазіяцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. У аўдыторыі № 65 шаснаццаць год таму назад Якуб Колас выступаў на аб'яднаным пасяджэнні Акадэміі навук БССР, Саюза савецкіх пісьменнікаў Узбекістана і філалагічнага факультэта Сярэднеазіяцкага ўніверсітэта, якое было прысвечана памяці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Упершыню з кафедры гэтай аўдыторыі прагучаў верш Коласа «Над магілай друга».

Гэты дзень надоўга застаўся ў памяці ўзбекскіх паэтаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу ўніверсітэта.

У інстытуце літаратуры імя Пушкіна Акадэміі навук Узбекістана працуе доктар філалагічных навук Ізот Атаханавіч Султанаў, які шмат разоў сустракаўся з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР Якубам Коласам.

— Я добра памятаю гэтага сціплага, цудоўнага чалавека. Якуб Колас быў першым маім беларускім сябрам, — гаворыць Ізот Атаханавіч і тут жа дастае са сваёй бібліятэкі кнігу Якуба Коласа на рускай мове «Голас зям-

лі», з аўтографам народнага паэта. Гэтая кніга была выпушчана ў Ташкенце да 60-годдзя Якуба Коласа.

Недалёка ад Акадэміі навук, па Першамайскай вуліцы знаходзіцца Саюз пісьменнікаў Узбекістана, куды часта заходзіў Якуб Колас. Узбекскія пісьменнікі Мірмухсін Мірсаідаў, Хамід Гулям, Гафур Гулям, Міхаіл Шавердзін, Уладзімір Ліпко і паэтэса Зульфія цёпла адгукваюцца аб беларускім паэце, які дзяліў з імі ў час вайны сваё гора і сум па роднай Беларусі.

Малады паэт Уладзімір Ліпко быў перакладчыкам вершаў Якуба Коласа на рускую мову; вершы гэтыя змяшчаліся ва ўзбекскім друку. Паэт часта сустракаўся з Якубам Коласам, вучыўся ў яго паэтычнаму майстэрству.

Аб любві ўзбекскіх паэтаў да Якуба Коласа сведчыць тое, што ў 1942 годзе, да 60-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, быў выдадзены на ўзбекскай мове яго зборнік «Выбраных вершаў» пад рэдакцыяй Хаміда Алімджана.

У 1951 годзе Дзяржвыдавецтва УзССР выпусціла зборнік вершаў «Песні сяброў», значную частку якога складаюць вершы Якуба Коласа ў перакладах узбекскіх пісьменнікаў Міртэміра, Зульфіі, Гуляма і Уйгуна.

У Саюзе пісьменнікаў Узбекістана захоўваецца нумар газеты «Правда Востока» за 1942 год. Амаль уся яе другая паласа прысвечана 60-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Знаёмячыся з коласаўскімі мясцінамі, нельга абмінуць Ташкенцкі педагагічны інстытут. Тут 9 красавіка 1943 года адбылася сустрэча студэнтаў і выкладчыкаў з Якубам Коласам.

Напярэдадні сустрэчы быў выпушчаны спецыяльны нумар інстытуцкай насценнай газеты «Педагог-марксіст», цалкам прысвечаны творчасці і грамадскай дзейнасці паэта-патрыёта, арганізавана выстаўка яго твораў. Літаратурны вечар выліўся ў дэманстрацыю дружбы народаў. Узбекская і руская студэнцкая моладзь у асобе Якуба Коласа вітала вернага сына беларускага народа, класіка беларускай літаратуры, у творчасці якога знайшла сваё адлюстраванне гісторыя барацьбы беларускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, гісторыя будаўніцтва новага жыцця.

* * *

Рэдакцыя газеты «Фрунзенец» знаходзілася на Сапёрнай вуліцы. Не было таго дня, каб сюды не завітаў Якуб Колас. Калектыў рэдакцыі вельмі любіў беларускага паэта. Тут яшчэ і цяпер помняць такія радкі, прыдуманыя калектыўна рэдакцыйнымі паэтамі:

С головы Якуба Коласа
Не должно упасть и волоса.
Отдадим Якубу Коласу
Всю вторую полосу.

Як правіла, Якуб Колас прыходзіў у рэдакцыю гадзін у дванаццаць і гучна вітаўся:

— Добры дзень, сябры!

І адразу ж пачыналася размова. Якуб Колас пытаўся:

— Вы гаворыце па-беларуску?

І калі субяседнік адмоўна круціў галавой, Колас гаварыў:

— І я яшчэ не навучыўся па-ўзбекску, — і вясёлая ўсмешка асвятляла яго твар.

Якуб Колас любіў гаварыць на самыя разнастайныя тэмы, умеў слухаць субяседнікаў і мог вельмі цікава расказаць які-небудзь выпадак са свайго жыцця. Супрацоўнікі рэдакцыі даведаліся, што ён да Вялікага Кастрычніка працаваў настаўнікам у Пінкавічах, прымаў удзел у падпольным настаўніцкім з'ездзе, адседзеў тры гады ў турме за «расхістванне» не вельмі моцных «асноў праваслаўя і самаўладства».

Многа часу прайшло з тых пор, калі Якуб Колас развітаўся з Ташкентам, але газеты з яго вершамі і артыкуламі, кнігі пісьменніка і сёння захоўваюцца ў бібліятэцы рэдакцыі.



Гасціннаму ўзбекскаму народу, яго гераізму ў Вялікай Айчыннай вайне Якуб Колас прысвяціў многа вершаў. У «Песні пілота», напрыклад, ён услаўляў байцоў-узбекаў, якія разам з іншымі брацкімі народамі грамілі фашысцкага звера.

Нельга абмінуць і дом № 88 па вуліцы Пушкіна. У гэтым доме жыў Якуб Колас. Здаецца, сама прырода беражліва захоўвае тут сваю прыгажосць, якая некалі натхняла паэта.

Маляўнічы вобраз узбекскай сталіцы ўвекавечаны ў коласаўскай творчасці. Вось чаму ўсім бязмерна дарагі кожны куток гэтага горада. Тут жа знаходзіцца і вуліца, якая носіць імя Якуба Коласа.

* * *

Аўтобус паволі рухаецца да горнага хрыбта, што ззяе беллю сваіх вяршынь. Амаль у сотні кіламетраў ад Ташкента сярод гаёў і садоў размясціўся горны курорт Чымган. Тут часта бываў Якуб Колас, працаваў над сваімі творамі.

З-пад скал Вялікага Чымгана б'юць дванаццаць крыніц. Ручаі імчаць цераз парк, утвараючы штучныя вадаспады, а на галоўнай алеі — цэлы каскад срабрыстых струменяў. З парку адкрываюцца прыгожыя краявіды — парэзаныя цяснінамі горы, сонечныя плямы далін.

У баку ад Чымгана раскінуўся на дванаццаці тысячах гектарах адзін з запаведнікаў Узбекістана. Горныя казлы, дзікі, мядзведзі, дзікабразы, чырвоныя лісы жывуць там. У бураломе арэхавых гаёў і ў зарасніках дзікіх пладовых дрэў — груш, яблынь, вішань, рабіны, — ніколі не чутны ні стрэл, ні гук сякеры. А за запаведнікам, за чымганскім курортам, у глыбіні гор, на вышыні каля трох тысяч метраў над узроўнем мора, працуе горнамеліярацыйная доследная станцыя.

Якуб Колас з вялікім майстэрствам уславіў гэты край у сваім лірычным вершы «Чымган»:

У мантыі лёгкай з празрыстай сінечы
Узносіцца ў неба магутны Чымган.
На ім спачывае халодны туман,
І хмары кладуцца на крэпкія плечы.

У канцы 1943 года Якуб Колас сардэчна развітаўся з узбекскай зямлёй. Звяртаючыся да Савецкага Узбекістана, ён падзякаваў родным братам за гасціннасць і яшчэ раз выказаў думку аб магутнасці дружбы народаў, змацаванай крывёю абаронцаў Радзімы:

У цяжкі час вайны суровай
Ты даў прытулак мне,
З узбекам песню адной мовай
Складалі аб вайне.
І меч адзін мы з ім кавалі
На злы варожы стан.
Няхай жа ўзносяць вышай хвалі
Цябе, Узбекістан!
Павеяў вецер, бы ў прадвесне,
Над нашаю зямлёй.
На развітанне — з гэтай песняй
Прывет прымі ты мой.

Задушэўныя радкі гэтага верша застаюцца жывым сведчаннем любві беларускага паэта да зямлі сонечнага Узбекістана да людзей, якія жывуць там.

**Мікола ЖЫГОЦКІ.**

# ДРАМАТУРГ, ПАЭТ, КРЫТЫК



**Да 60-годдзя з дня нараджэння М. М. Клімковіча**

Міхась Клімковіч належыць да таго пакалення пісьменнікаў, якое прыйшло ў літаратуру з асяроддзя рабочых і сялян у першае дзесяцігоддзе савецкай улады. Гэтае пакаленне прымала актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай перабудове краіны, мела багаты жыццёвы вопыт і палітычную загартоўку. Яму давялося актыўна праяўляць сябе ў самых разнастайных галінах грамадскага жыцця. Можа таму Міхась Клімковіч і валодаў такім рознабаковым талентам. Ён вядомы беларускаму чытачу як драматург, крытык, літаратуразнаўца і як паэт. Спрабаваў ён свае сілы і ў галіне прозы. І да ўсяго гэтага варта дадаць, што Міхась Клімковіч на ўсім працягу свайго жыцця быў актыўным грамадскім дзеячом, клапатлівым выхавальнікам літаратурнай моладзі.

Найбольш поўна яго літаратурны талент праявіўся ў галіне гістарычнай драматургіі. З гістарычных драм М. Клімковіча вялікую цікавасць уяўляе трылогія аб Георгію Скарыне. У ёй пісьменнік адлюстраваў думкі і спадзяванні працоўнага сялянства, якое змагалася супраць феадалізма. Бясспрэчнай удачай пісьменніка з'яўляецца вобраз вернага сына беларускага народа, вучонага-гуманіста, першадрукара Георгія Скарыны. Трылогія прасякнута ідэяй дружбы славянскіх народаў і іх еднасці ў барацьбе супраць наступу рэакцыйнага каталіцызма.

У свой час буржуазныя нацыяналісты імкнуліся давесці, што беларускі народ ніколі не змагаўся за свае правы, а пакорліва зжываўся з тымі заваёўнікамі, якія прыходзілі на яго землі. Гэтае «мірнае сужыццё», асабліва ў XVI стагоддзі, нібыта і дало росквіт беларускай культуры. Гістарычнай драмай «Кацярына Жарнасек» М. Клімковіч абвяргае такое сцверджанне. Ён паказвае, што ў сярэдзіне XVI стагоддзя, калі рэакцыйнае каталіцтва дамагалася запрыгонення Беларусі, наш свабодалюбівы народ паўстаў супраць прыгнятальнікаў. Асабліва ярка падкрэсліў драматург ідэю брацкай дапамогі рускага і ўкраінскага народаў беларускаму ў яго барацьбе з іншаземнай рэакцыяй. Гістарычная драма «Кацярына Жарнасек» была пастаўлена ў 1939 годзе на сцэне Тэатра імя Я. Купалы вядомым беларускім рэжысёрам М. Зоравым і карысталася поспехам у гледача.

На багатым матэрыяле беларускіх народных казак і легенд М. Клімковічам створана лібрэта балета «Князь-возера», у якім таксама раскрываецца барацьба паміж працоўным сялянствам і панамі-прыгнятальнікамі. Балетны спектакль па гэтаму лібрэта, музыку да якога напісаў старэйшы беларускі кампазітар В. Залатароў, увайшоў у рэпертуар Беларускага



дзяржаўнага тэатра оперы і балету. Ён высока ацэнены народам і ўрадам — яму прысуджана Сталінская прэмія, як лепшаму балетнаму спектаклю.

У оперным лібрэта «Кастусь Каліноўскі» драматургу ўдалося паказаць вобраз выдатнага беларускага рэвалюцыянера Каліноўскага, які выхоўваўся на передавых ідэях рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі. Опера «Кастусь Каліноўскі» (музыка Д. Лукаса) таксама ўвайшла ў рэпертуар Беларускага тэатра оперы і балету.

У апошнія гады свайго жыцця М. Клімковіч піша гісторыка-рэвалюцыйную драму «Уся ўлада Саветам!», прысвечаную стварэнню Беларускай савецкай дзяржавы. У цэнтры п'есы — вобраз кіраўніка мінскіх бальшавікоў А. Мяснікова, які непасрэдна кіраваў узброеным паўстаннем у Мінску і ўстанаўленнем савецкай улады.

Міхась Клімковіч памёр у 1954 годзе, пакінуўшы багатую спадчыну. Драматычныя творы Міхася Клімковіча неаднаразова выдаваліся. Яго трылогія «Георгій Скарына» вядома і рускаму чытачу. Зараз Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі падрыхтавала да друку двухтомны збор твораў, куды ўвойдуць яго драматычныя паэмы і вершы.

Літаратурная спадчына пісьменніка налічвае шмат вершаў. Трэба сказаць, што яны ўяўляюць цікавасць не толькі для творчасці М. Клімковіча, але і ўвогуле для беларускай паэзіі, асабліва тыя, што маюць песенны характар. Як паэт, Міхась Клімковіч пакінуў добрую памяць аб сабе сваёю песняй «Мы — беларусы», якая стала дзяржаўным Гімнам Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Міхась Мікалаевіч Клімковіч плённа працаваў і ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства. У яго, як крытыка, быў вельмі шырокі дыяпазон: ён выступаў з праблемнымі працамі, з артыкуламі па гісторыі беларускай літаратуры, з рэцэнзіямі. Асабліва цікавая кніга М. Клімковіча «Аб жыватворчым уплыве рускай літаратуры на беларускую літаратуру». У ёй разглядаюцца братнія сувязі дзвюх літаратур з старадаўніх часоў да нашых дзён.

Ёсць яшчэ адна галіна літаратурна-грамадскай працы, якою Міхась Клімковіч займаўся кожны дзень. Гэта — выхаванне маладых пісьменнікаў. Ён любіў гэтую работу і работа любіла яго. Дзе б ні быў Міхась Мікалаевіч, яго заўсёды акружала моладзь. Яго перапіска з маладымі аўтарамі магла б скласці цэлую кнігу, якую павучальна было б прачытаць не толькі маладому, але і сталаму пісьменніку.

Міхась Клімковіч не абмяжоўваўся толькі разглядам пэўнага твора — ён накіроўваў далейшую творчасць пісьменніка. Вось некалькі прыкладаў таго, як парады вопытнага літаратара і крытыка дапамагалі пісьменнікам.

Пазнаёміўшыся з творчасцю Алеся Стаховіча, М. Клімковіч параіў распрацоўваць найбольш знаёмую пісьменніку тэму — жыццё калгаснага сялянства.



**Народны пісьменнік Беларусі К. Крапіва, П. Глебка і М. Клімковіч сярод удзельнікаў нарады маладых пісьменнікаў.** 1953 год.

Пісьменніцы Алене Васілевіч у свой час Міхась Клімковіч падказаў, што самаю блізкаю ёй будзе маральна-этычная тэма, і, сапраўды, у распрацоўцы гэтай тэмы Алена Васілевіч знайшла сябе як апавядальніца.

Разабрацца ў творчасці вопытнага літаратара, асабліва калі ён піша буйныя рэчы, часам бывае лягчэй, чым у творчасці маладога пісьменніка, які толькі яшчэ шукае сваёй дарогі. Міхась Клімковіч заўсёды прыглядаўся да ўсёй творчасці маладога аўтара і толькі тады браў на сябе смеласць паказаць яму дарогу. Так, напрыклад, здарылася з Алесем Махначом. Пачынаў ён з вершаў, пісаў прозу, спрабаваў свае сілы ў драматургіі малых форм. Калі М. Клімковіч перачытаў усе яго творы, ён пераканаўся, што А. Махнач найбольш поўна можа праявіць сябе як драматург.

Многа год Міхась Клімковіч працаваў літаратурным кансультантам кабінета маладога аўтара Саюза пісьменнікаў Беларусі. Уважліва ён разглядаў вершы каваля з Гомсельмаша Барыса Спрынчана, раячы яму больш за ўсё аддаваць увагі «вытворчай» тэматыцы, як найбольш блізкай і знаёмай яму. Пільна сачыў ён і за творчасцю здольнага паэта, тады яшчэ студэнта, Ніла Гілевіча, у якога, як ён лічыў, лірыка ўдала спалучаецца з жыццерадасным гумарам. Сяброўскія парады старэйшага літаратара пайшлі на карысць гэтым маладым таварышам.

У асобе Міхася Клімковіча літаратурная моладзь заўсёды бачыла чулага дарадчыка, клапатлівага выхавальніка і разумнага настаўніка. Ён быў патрабавальны як да сябе, так і да сваіх братоў па пяру — маладых і старэйшых літаратараў. Гэта быў нястомны працаўнік на ніве беларускай савецкай літаратуры.

**Алесь ЕСАКОЎ.**

***Да 200-годдзя з дня нараджэння***



**Фрыдрых ШЫЛЕР**

# ІВІКАВЫ ЖУРАЎЛІ

**Балада ***

Элада песнямі багата
Спяшаўся у Карынф на свята
Ад іанійскіх берагоў
Вясёлы Івік, друг багоў.
На подзвіг музамі натхнёны,
Пакінуўшы свой родны дах,
Ішоў пясняр благаслаўлёны
З кіёчкам лёгкім у руках.

Ужо відзён на радасць воку
Акракарынф ** непадалёку
І Пасейдонаў *** бор стары
Раскінуўся каля гары.

---

* Балада «Івікавы жураўлі» напісана Шылерам у 1797 годзе. У яе аснову паложана паданне пра старагрэчаскага паэта Івіка, які жыў у VI веку да нашай эры. Івік быў забіты разбойнікамі, калі ён ішоў на так званыя Істмійскія гульні, што адбываліся праз кожныя два гады на Карынфскім перашыйку (Істме) каля храма Пасейдона. Пераможцы на гэтых гульнях атрымлівалі сасновы вянок.

** Акракарынф — карынфскі акропаль, крэмль.

*** Пасейдон — марскі бог.

Даверлівы, з душою шчырай,
Ён увайшоў пад засень хвой;
Ляцелі жураўлі у вырай
Высока ў небе чарадой.

«Крылатыя, я вас вітаю!
Адкуль вы і з якога краю?
Дані багі нам роўны лёс:
Прастор зямлі і шыр нябёс.
І хоць чужая тут мясціна,
Не сумняваюся аднак, —
Сустрэнуць грэкі нас гасцінна,
З'яўленне ваша добры знак».

Пясняр далей пакрочыў шпарка,
У ясных думках хоць бы хмарка.
І раптам што ж ён бачыць? Жах!—
Забойцы два вартуюць шлях.
Нядоўгае было змаганне,
Кіёчак выпаў з кволых рук,—
Умеў ён праслаўляць каханне,
Але не ўмеў нацягваць лук.

Пясняр крычыць, пясняр галосіць,
Заступніцтва у неба просіць,
Людзей ён кліча... Ні душы,
Лунае водгулле ў глушы.
«Няўжо я тут адзін, забыты,
Расстануся з жыццём сваім,
Рукою подлаю забіты
І не адпомшчаны нікім?»



Упаў, абліўшыся крывёю,
Ды чуе шум над галавою,
І прыпадняўся ён з зямлі:
Ляцяць у вырай жураўлі.
«О жураўлі, за сведак будзьце,
Зірніце з неба ў цёмны бор,
Майго малення не забудзьце!» —
Сказаўшы гэта, ён памёр.

Назаўтра людзі труп нябогі
Знайшлі ў кустах каля дарогі.
І верны друг яго пазнаў:
«Ды гэта ж Івік!» — ён сказаў.
«Ці ж не цябе вянком сасновым
Я спадзяваўся увянчаць?
Ляжыш ты бледны і суровы,
І струны звонкія маўчаць».



Бяда, як бура, наляцела.
Вось у Карынф прыносяць цела,
І засмуціўся кожны грэк,
Паэта страціўшы навек.
І людзі самых розных станаў
Адной нянавісцю гараць,
Бягуць у гневе да прытанаў *,
Каб душагуба пакараць.



Але дзе ён, той вінаваты,
Той звер, той вырадак пракляты,
Як адшукаць яго сляды? —
Гасцей сышлося шмат сюды.
Таемны вузел хто развяжа?
І хто ён гэты ліхадзей?
Хіба мо' Геліас ** адкажа,
Адвечны сведка ўсіх падзей.

Ён можа зараз тут гуляе
І бесклапотна паглядае
На растрывожаны народ,
Смакуючы забойства плод?
Мо' за ахвярай новай сочыць,
Ці ў храм зайшоў, каб грэх сагнаць?
Альбо ў тэатр нахабна крочыць,
Каб месца лепшае заняць?

Цякуць з усіх канцоў, як рэкі,
На свята Пасейдона грэкі.
Амфітэатр шуміць, гудзе,
І не праціснешся нідзе.
Трашчаць падпоры, гнуцца лавы,
Народ сядзіць плячо к плячу.
Пара пачаць паказ цікавы,
Даць адпачынак гледачу.

Мужы з прыморскае Аўліды,
Са Спарты, з сонечнай Факіды,
З Афін, з Эгейскіх астравоў
Праз два гады сышліся зноў,
І нават з Азіі далёкай
Сёй-той на фэст прыплыць паспеў.
І вось у цішыні глыбокай
Пачуўся таямнічы спеў.

Паводле звычаю старога,
Павольным крокам, важна, строга,
З падземных нетраў на прастор
Выходзіць чарадою хор.

* Прытаны — высокія афіцыйныя асобы ў старажытнай Грэцыі.
** Геліас — сонца.

Маркотных духаў рой пахмуры
Спраўляе трагедыйны чын,
Плывуць гіганцкія фігуры
Дзівосна-жудасных жанчын.

На кожнай плашч чарней ад ночы,
Гараць агнём пякельным вочы,
Смяротны колер на шчацэ,
Дыміцца факел у руцэ;
На галаве убор агідны:
Як сотні страшных паясоў,
Віюцца змеі і яхідны
У пасмах дзікіх валасоў.



Снуюцца здані карагодам,
Спяваюць гімн перад народам,—
Мелодыя грыміць, плыве,
Бунтуе розум, сэрца рве.
Эрыній * спеў бяду вяшчае,
Бы ўзмах нябеснага мяча.
Тэатр маўчыць, і выступае
Халодны пот у гледача.

«Шчаслівы ты, калі бязвінны,
Кранаць цябе мы не павінны!
Жыві сабе і не грашы,
Захоўвай чыстату душы.
А вы, забойцы, ліхадзеі,
Дрыжыце, блізіцца ваш час,
Адкіньце ўсякія надзеі,
Мы, духі цемры, зловім вас!

Вам не ўцячы ад пакарання,
Ні плач, ні енк, ні пакаянне
Не выратуюць вас ад мук,
Не вырвацца вам з нашых рук!
Нястомныя, услед за вамі
На крыллях помсты мы ляцім,
І нават у магільнай яме
Мы вам спакою не дадзім».

Танцуе духаў рой імклівы,
І слухае народ маўклівы,
Вачэй не зводзячы з пачвар,
Працяжны спеў іх, поўны чар.
І, пакружыўшыся па сцэне,
Яны канчаюць свой абрад,
У чорных лёхах сутарэння
Знікае зданяў доўгі рад.

Між грознай праўдай і манаю,
Усхваляваная ігрою,

* Эрыніі—багіні помсты.



Нямее думка, паўшы ніц
Перад навалай таямніц,
Перад той сілаю жахлівай,
Што сэрца чулае гняце
І, прытаіўшыся, цярпліва
Цянёты грэшнікам пляце.

І вось пачулі раптам госці
Як нехта крыкнуў на памосце:
«Глянь, Івікавы жураўлі!»
На неба хмары наплылі,
Дзьмухнуў Барэй*, стары вятрыска,
Вячэрнім холадам з далін,
І над тэатрам нізка, нізка
Пранёсся жураўліны клін.

«Што? Івік? Хто прамовіў гэта?»
Імя любімага паэта
Зноў абудзіла боль і жаль
І шэпт пайшоў, як плюскат хваль.
І кожны хмурыцца сурова.
Пытае ўзрушаны народ:
«Што азначае гэта слова
І гэтых птушак пералёт?»

І тут жа здагадаўся кожны,
Што праўды шлях непераможны
У жыццёвай жорсткай барацьбе:
Разбойнік выдаў сам сябе.
«О духі помсты, ваша ўлада! —
Вы дачакаліся свайго.
Хапайце, валачыце гада
І з ім хаўрусніка яго!»



Як слова вылецела трапна!
Збялелі твары іх, як вапна,
І ад страшэннае віны
Не адмаўляліся яны.
Народ падняўся, валіць валам:
«Трымаць, вязаць, забойцы тут!» —
І стала сцэна трыбуналам,
І вынесены быў прысуд.

Пераклаў з нямецкай мовы
Юрка Гаўрук.

* Барэй — паўночны вецер.

# ПЯСНЯР РАДАСЦІ І ХАРАСТВА

Знаёмячыся з творчасцю таго альбо іншага выдатнага пісьменніка мінулага, мы зусім слушна ставім пытанне перад сабой — а ў якой ступені ён сугучны нашым думкам і настроям, чым ён узбагачае нашу свядомасць, наша сучаснае пазнанне свету. Мы ставімся крытычна да культурнай спадчыны мінулых эпох, і гэта зусім зразумела. Будучы жывымі сведкамі і ўдзельнікамі магутнага руху чалавецтва наперад — да камунізма, мы з асаблівай цікавасцю прыглядаемся да такіх з'яў у культуры мінулага, якія былі прагрэсіўнымі ў свой час.

Фрыдрых Шылер далёкі ад нас пісьменнік. Мала таго, ён з'яўляецца прадстаўніком зусім чужой для нас ідэалістычнай філасофіі і некаторыя творы яго для нашага сучасніка не толькі страцілі сваю актуальнасць, але з'яўляюцца арганічна непрыймальнымі. Мы не можам прыняць на ўзбраенне і творчы метад Шылера, які ў сваіх вершах і драмах, асабліва апошняга перыяду, старанна падганяў жыццё пад сваю свядомасць. Карл Маркс, разглядаючы п'есу Ф. Ласаля «Франц фон Зікінген», пісаў: «Табе прыйшлося б тады ў большай ступені шэкспірызаваць, між тым як цяпер асноўным тваім недахопам я лічу тое, што ты пішаш па-шылераўску, ператвараючы індывідуумы ў простыя рупары духу часу». Гаворачы «шэкспірызаваць», К. Маркс меў на ўвазе глыбокае вывучэнне жыцця эпохі, правільнае разуменне ўзаемаадносін паміж людзьмі і гэтым самым проціпастаўляў рэалістычны творчы метад Шэкспіра ідэалістычнаму творчаму метаду Шылера.

Чым жа тады дарагі нам гэты пісьменнік? Чаму імя паэта і драматурга Шылера ставіцца побач з імёнамі найвялікшых пісьменнікаў свету?

Геніяльны мастак, адна з вяршынь нямецкай літаратуры, сучаснік Гётэ і папярэднік Гейнэ, Шылер быў голасам і «рупарам» сумлення нямецкага народа канца XVIII і пачатку XIX стагоддзя. Адмаўляючы ідэалізм Шылера, як філасофскую сістэму, мы з пашанай адносімся да тых яго ідэалаў, крыніцай якіх з'яўляецца гарачае жаданне шчасця і дабра людзям, імкненне абмежаваць і знішчыць звярынае ў чалавеку, развіць і ўзвысіць маральныя якасці чалавека, накіраваць яго думкі да пазнання харастава і гармоніі. Вельмі добра сказаў пра Шылера В. Бялінскі: сэрца яго заўсёды аблівалася «самаю жывою, палымянаю кроўю любві да чалавека і чалавецтва, нянавісцю да фанатызму рэлігійнага і нацыянальнага, да цемнаты, да кастроў і бізуноў, якія падзяляюць людзей і прымушаюць іх забываць, што яны — браты адзін аднаму». В. Бялінскі называў Шылера «адвакатам чалавецтва». Як паэт, вучоны і грамадскі дзеяч, Шылер быў абмежаваны рамкамі свайго часу, але да самых апошніх дзён не згасаў у ім дух пратэсту і бунтарства супраць тых цёмных сіл, якія кішэлі ў стаячым балоце нямецкай феадальнай рэчаіснасці, ён дапытліва ўглядаўся ў мінулае і ў сучаснасць, шукаючы прыкладу для сябе і для народа, і, як умеў, асвятляў дарогу ў будучыню.

Смела наперад, марак, — хай смяюцца разумныя надта!
Хоць і цяжка парой руль трымаць у руцэ... —

палымяна заклікаў ён у вершы «Калумб».



Шылераўскія мары аб свабодным і гарманічным чалавеку былі утопіяй у буржуазным грамадстве. Але бунтарскія ўспышкі Шылера былі тым светлым промнем, што ратаваў людзей ад адчаю, спрыяў пазнейшаму абуджэнню рэвалюцыйнай свядомасці нямецкага народа.

Фрыдрых Шылер нарадзіўся ў горадзе Марбаху (герцагства Вюртэмберг) 10 лістапада 1759 года. Бацька яго быў вайсковым фельчарам. Вучыўся Шылер на медыка ў так званай «Карлавай школе», якую паэт Шуберт называў «школай рабоў». Школа гэта знаходзілася пад асабістай апекай герцага вюртэмбергскага Карла-Яўгенія, разбэшчанага тупіцы і самадура, які палкамі і муштрай выбіваў з моладзі ўсякі дух самастойнасці. Гэтага «тыповага» для тагачаснай Германіі герцага, а такіх было многа ў краіне, якая складалася з некалькіх дзесяткаў дробных феадальных уладанняў, манарха-ліліпута, які тужыўся быць падобным да французскіх Людовікаў, абіраў да ніткі сваіх падданых і гандляваў людзьмі, займаючыся пастаўкамі салдат для замежных дзяржаў, Шылер называў «новым Дэўкаліёнам». Міфічны Дэўкаліён ператвараў камені ў людзей, а гэты — «людзей у камені». У «Карлавай школе» Шылер употай пачаў пісаць вершы і закончыў сваю першую драму «Разбойнікі», накіраваную «супраць тыранаў». У 1882 годзе «Разбойнікі» былі пастаўлены на сцэне ў Мангейме. Спектакль прайшоў з выключным поспехам. Гэта быў свежы вецер на фоне агульнай затхласці. Гэта быў крык душы чалавека, прыгнечанага несправядлівасцю. Аб невядомым аўтары загаварылі, яркі талент Шылера быў заўважаны адразу. Ад «бацькоўскай апекі» Карла-Яўгенія Шылеру прыйшлося ўцякаць. Ён перабраўся за мяжу ў суседняе герцагства, не маючы ні сродкаў, ні надзейнага падтрымання.

Жыццё Шылера прайшло ў матэрыяльных нястачах. Быў ён жанаты, меў чацвёра дзяцей. Шылер працаваў многа, упарта, не шкадуючы сябе: пісаў вершы, п'есы, артыкулы па гісторыі і эстэтыцы, займаўся перакладамі, некаторы час быў прафесарам гісторыі ў Іенскім універсітэце. Апошнія гады жыў у Веймары, падружыўся з Гётэ. Гэта дружба і літаратурнае супрацоўніцтва з Гётэ — вяршыня яго творчага росквіту. Памёр Шылер 9 мая 1805 года ад сухотаў.

Першы перыяд творчасці Шылера звычайна называюць перыядам «буры і націску». Перадавая група тагачаснай нямецкай інтэлігенцыі востра адчувала бяспраўе нямецкага народа, адсталасць сваёй краіны. І калі большасць мяшчан, закапаўшыся ў свае агародчыкі, мірылася з курынай ідыліяй жыцця ў птушніку, то дапытлівая думка лепшых людзей Германіі не магла з гэтым пагадзіцца, напружана шукала выйсця.

Драма маладога Шылера «Разбойнікі» — гісторыя высакароднага атамана разбойнікаў, які, узбунтаваўшыся супраць агульнага зла, узяўся наводзіць парадак на свеце. Гэты твор — гарачы, смелы, поўны шчырага пафасу — быў новым словам у нямецкай літаратуры.

Не менш актуальнай для свайго часу была і драма Шылера «Каварства і любоў». У пісьме да Міны Кауцкай Энгельс адзначаў: «Галоўная вартасць «Каварства і любві» Шылера заключаецца ў тым, што гэта — першая нямецкая палітычна тэндэнцыйная драма». Вартасць гэтай драмы яшчэ і ў тым, што яна напісана на матэрыяле непасрэдных назіранняў аўтара, канкрэтная, праўдзівая, з усіх шылераўскіх п'ес яна найбольш рэалістычная. Гісторыя няшчаснага кахання Фердынанда да Луізы, сына вяльможы да мяшчанкі, — гэта пратэст супраць сацыяльнай няроўнасці людзей, барацьба за правы простага чалавека. Цікавы сюжэт, напружанае развіццё падзей і значнасць думкі робяць гэту п'есу адной з самых папулярных у шылераўскім рэпертуары.

Адной з характэрных рыс творчасці Шылера з'яўляецца яго аптымізм, вера ў вялікае прызначэнне чалавека, у тое, што нармальнае для чалавека

— радасць. І ён марыў аб радасці для ўсіх людзей. У вершы «Надзея» Шылер сцвярджае:

І гэта не прывід халодны, нямы,
Трызненне мазгоў недарэчных.
Для лепшае долі радзіліся мы, —
Гаворыць нам голас сардэчны.
Мелодыю сэрца свайго глушы!
З табою надзея — акраса душы.

У сваім славутым гімне «Да радасці», тэма якога паложана ў аснову «Дзевятай сімфоніі» Бетховена, Шылер вітае братэрства мільёнаў людзей, аб'яднаных радасцю. Безумоўна, на фоне змрочнай нямецкай рэчаіснасці мары Шылера былі беспрадметнымі, ілюзорнымі, але гэта былі шчырыя мары, магчыма, адзіны ратунак для яго, каб не ўпасці ў адчай. Стварaючы вакол сябе суб'ектыўны свет хараства, Шылер адгароджваўся ад навакольнага бруду, тупога эгаізму і прагнасці. Будучы бяссільным змяніць што-небудзь у грамадскім жыцці, Шылер з гадамі ўсё больш адыходзіў ад бурных парываў сваёй маладосці, прабуючы выправіць чалавека з нутра, шляхам эстэтычнага яго выхавання і развіцця ў ім добрых пачуццяў.

Супярэчнасць паміж ідэаламі і рэчаіснасцю, пошукі духоўнай свабоды завялі Шылера ў казачныя прасторы антычнай культуры, дзе ён і знайшоў сабе часовы прытулак. Перш за ўсё ён падкрэсліваў дасканаласць формы антычнага мастацтва, сілу эстэтычнага ўздзейнічання гэтай формы і ў сваёй творчай практыцы стараўся арганічна аб'яднаць яе з новым зместам. Шылер не быў пераймальнікам, праз усё жыццё ён заставаўся нямецкім нацыянальным паэтам. Пясняр маладосці, «светладушны паэт», як яго называў В. А. Жукоўскі, Шылер жыў у марах аб прыгожым, шукаючы яго ўсюды, дзе толькі мог.

Апроч юнацкіх драм, пісаных прозаю, Шылер пакінуў нам багатую спадчыну вершаваных драматычных твораў, з якіх найболей сцэнічнымі з'яўляюцца: «Дон Карлас», «Марыя Сцюарт», «Арлеанская дзяўчына» і «Вільгельм Тэль». Шылер старанна апрацоўваў свае драмы — складаў планы, рабіў чарнавыя накіды, папярэдне намячаў характары і ідэі. Удала баскампанаваныя, яго п'есы тым не менш часамі здаюцца расцягнутымі, многія персанажы з'яўляюцца хутчэй «носьбітамі ідэі», чым жывымі людзьмі. Але магутная фантазія Шылера, уменне развіць інтрыгу, напружанасць і выключнасць падзей, шчыры пафас і мілагучны, дасканалы верш перакрываюць недахопы яго творчага метаду.

У драматычнай паэме «Дон Карлас» Шылер паказвае высакародных ідэалістаў — маркіза Позу і каралевіча іспанскага Карласа. Яны дбаюць аб народным дабры, збіраюцца насадзіць справядлівасць зверху, але абодва гінуць, нічога не зрабіўшы. Заслуга Шылера тут у тым, што ён, цалкам падтрымліваючы прагрэсіўныя намеры сваіх герояў Позы і Карласа, паказаў немагчымасць іх ажыццяўлення ва ўмовах абсалютнай манархіі.

Трагедыя «Марыя Сцюарт», напісаная на сюжэт з англійскай гісторыі, вызначаецца глыбокім веданнем матэрыялу і значным набліжэннем да жыццёвай праўды. Асабліва ўдаліся Шылеру характары гераінь трагедыі: шатландскай каралевы Марыі Сцюарт і англійскай — Елізаветы. Гібель Марыі Сцюарт, на якую рабіла стаўку каталіцкая рэакцыя, была гістарычна абумоўлена, але і перамога Елізаветы не прынесла народу радасці. Трагедыя хвалюе праўдзівасцю перажыванняў, тонкім раскрыццём чалавечых характараў, пастаўленых у надзвычайныя абставіны.

У рамантычнай трагедыі «Арленская дзяўчына» распрацавана шырока вядомая ў літаратуры і ў гісторыі тэма французскай нацыянальнай гераіні Жанны д'Арк, дзяўчыны з народа. Шылер паставіў сваёй задачай стварыць ідэальны вобраз патрыёткі, якая прыносіць сябе ў ахвяру, змагаючыся за вызваленне айчыны. Выстаўлены на першы план, гэты вобраз засланяе сабою ўсе іншыя. Французскі народ паказаны агульна і служыць толькі фонам для разгортвання дзейнасці адданай патрыёткі.



Вяршыняй драматургіі Шылера з'яўляецца яго апошняя закончаная драма «Вільгельм Тэль». Легендарны швейцарскі стралок Вільгельм Тэль узначальвае паўстанне швейцарскіх сялян і забівае аўстрыйскага намесніка Геслера. Тэма народнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў гэтай п'есе прагучала з асаблівай сілай. Вільгельм Тэль паказваецца не як выключная асоба, а як верны прадстаўнік і слуга свайго народа. Шылер сцвярджае законнае права народа на барацьбу з прыгнятальнікамі і праблему ўзаемаадносін паміж героем і народам на гэты раз вырашае правільна — перамагаюць не адзінкі, а народ.

Апроч драматычных твораў, значнае месца ў творчасці Шылера займаюць яго балады. Напісаныя пераважна на гістарычныя тэмы з выкарыстаннем антычных міфаў і народных паданняў, яны вызначаюцца яркай сюжэтнасцю, драматычнасцю, дасканаласцю мастацкай формы, выразнай і цікавай думкай. Шылераўскія балады-апавяданні не з'яўляюцца пераймannем народных твораў гэтага жанра, не падобны яны і на фантастычныя змрочныя балады нямецкіх рамантыкаў. Жыццесцвярджальныя, гераічныя па свайму характару, яны ўслаўляюць чалавечую адвагу, вернасць, ідэйную прынцыповасць, маральную чысціню. Шырокім прызнаннем карыстаюцца такія балады Шылера, як «Рыцар Тогенбург», «Вадалаз», «Парука», «Гера і Леандр», «Палікратаў пярсцёнак», «Рукавічка», «Івікавы жураўлі». Балада «Рукавічка», напрыклад, перакладалася на рускую мову Жукоўскім і Лермантавым, на польскую — Адамам Міцкевічам.

Фрыдрых Шылер — з'ява выключная і непаўторная ў сусветнай літаратуры. За 200 гадоў з дня яго нараджэння многа змен адбылося ў гісторыі яго народа і народаў іншых краін. Мяняліся і адносіны да Шылера, рознымі класамі і групамі па-рознаму ўспрыймалася яго творчасць. Адны выкарыстоўвалі прагрэсіўныя бакі яго творчасці, яго гарачы сацыяльны пратэст супраць тыраніі і несправядлівасці прадстаўнікоў буржуазнай і дваранскай улады для рэвалюцыйнай барацьбы з прыгнятальнікамі народа, другія вышуквалі і хапаліся за рэакцыйнае ў Шылеры, за яго ідэалістычную філасофію, за спробы прымірыцца і знайсці гармонію ў тым нямецкім «брудзе», у якім прыходзілася жыць і працаваць вялікаму паэту. Адны бачылі ў ім літаратурнага волата, які, увасабляючы народнае сумленне, смела глядзеў праўдзе ў вочы, другія — філістэра, нямецкага мешчаніна, які пісаў светлыя вершыкі і складаў «казачкі», пацяшаючы абывацеля ідэаламі, з якімі, як кажа Гейнэ, «добра ляжыцца і спіцца ў смак у мяккай нямецкай пярыне».

Мы разумеем слабыя бакі творчасці Шылера, але не гэта галоўнае ў ім. Вялікі гуманіст, пясняр радасці і хараства, Шылер усё сваё жыццё думаў і марыў аб шчасці чалавецтва, аб дружбе і яднанні народаў на прынцыпах роўнасці і справядлівасці. Гэтыя ідэалы Шылера прайшлі праз вякі. І тое, што было беспрадметнай марай 200 гадоў таму назад, стала рэальнасцю і набывае канкрэтныя формы ў нашу эпоху на радзіме Шылера ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, у Савецкім Саюзе і ў іншых сацыялістычных краінах.

**Ю. ГАЎРУК.**

Павел МІСЬКО

# АРЛЁНАК, МОЙ ВЕРНЫ ТАВАРЫШ...

**Нарыс**

### Пісьмо першае

Дарагі і далёкі мой сябар Мікола! Вось і настаў час пагутарыць з табою. Пішу, як дамовіліся, адразу ж пасля прыезду.

У нас цяпер вечар, дакладней — ноч, першая ноч нашага сібірскага жыцця. На каленях у мяне чамадан, на ім — агарак свечкі. Яе аганьчык слабенькі, дрыготкі...

Я пішу табе гэтыя каравыя радкі, а хлопцы збіліся ў кучу каля «буржуйкі», кідаюць у пячурку вугаль, грэюць рукі і паціху спяваюць. Вось цяпер — маю любімую, «Арлёнак». Не, не магу пісаць...

Орленок, орленок, взлети выше солнца
И степи с высот огляди.

Прыгожа спяваюць хлопцы. За дарогу здружыліся.

Выехала нас тады з Давыд-Гарадка восем чалавек. Гэта — я, Васіль Стаднік, Іван Сцяпура, Аляксандр Грычык, чатыры хлопцы з вёскі Альшаны: Міша Логвінка, Пятрок Грыб, Міхась Крупкевіч і Іван Ціханавіч Сімановіч. У Брэсце — зборны пункт. Там да нас далучылася яшчэ шэсць. Мне з першага позірку вельмі спадабаліся двое з Дзівіна — Уладзімір Беларусаў, весялун з гітарай, і Мікалай Свідуновіч. Былі яшчэ з-пад Драгічына двое. Аднаго ўсе называлі Іванам Іванавічам. Ад яго моцна патыхала гарэлкай. Трымаў ён сябе бывалым чалавекам, глядзеў на нас звысоку, пра ўсё гаварыў цынічна, перасыпаючы словы бруднай лаянкай. Другі, Прэцька, як і нашы Пятрок Грыб і Міша Логвінка, скончыў дзесяцігодку. Іван Іванавіч адразу здружыўся з нашым Іванам Ціханавічам. Да адыходу поезда яны паспелі нават узяць «па сто грамаў».

Праводзілі нас з Брэста цёпла. Было шмат моладзі. Усе горача паціскалі нам рукі, зычылі шчасця на новым месцы. Мяне выбралі старшым нашай групы.

Спачатку нас у купэ было пяць — Сцяпура, Стаднік, я, Грычык і Аня. Села яна ў Брэсце. Пытаемся ў яе: адкуль?

— Магіляўчанка.

— Як жа ты трапіла ў Брэст?

— У госці прыехала да сваякоў, а потым на поезд і з вамі... Не пускалі мяне бацькі, дык я іх абхітрыла. Напішу ім ужо з дарогі, каб не крыўдавалі.



Харошая дзяўчына, гэтая Аня, баявая, шчырая. Мы адразу пасябравалі.

Амаль усю дарогу да Масквы спявалі. Потым гулялі ў даміно, шашкі, расказвалі кожны пра сябе, — гэта вельмі зблізіла ўсіх. Валодзя Белавусаў, аказваецца, працаваў у Дзівіне старшым рэвізорам. Кінуў, захацелася сапраўднай справы. Я расказаў, як са Стаднікам летась будавалі Ільічоўскі элеватар у Какчатаўскай вобласці. Калі вярнуліся ў Давыд-Гарадок, былі рамонтнымі рабочымі ў РТС, але зноў пацягнула назад... І вось цяпер едзем на сталую работу ў Омск. Хлопцы глядзелі на мяне і Стадніка з зайздрасцю.

Нейкі дэмабілізаваны салдат Вася ўсю дарогу сватаўся да нашай Ані. Мы жартавалі:

— Выходзь, Аня, замуж, нашто табе тая Сібір?

Яна звонка смяялася. Наогул было весела. Каб не атручвалі наш настрой Іван Іванавіч і Іван Ціханавіч, было б зусім добра. Яны ўвесь час бавілі ў вагоне-рэстаране. Некалькі разоў, праходзячы міма нас, Іван Іванавіч цадзіў скрозь зубы:

— Спяваеце? Ну-ну... Танны энтузіязм.

На адным з прыпынкаў мы ўбачылі праз акно, як ён прадаваў на пероне сарочку і чаравікі, а Іван Ціханавіч баязліва азіраўся па баках. Прапіліся, лайдакі.

Мы вырашылі паклікаць Івана Іванавіча ў наша купэ і шчыра пагутарыць з ім. Ён жа ганьбіць увесь калектыў!

Калі дружбакі праходзілі міма нашага купэ, мы спынілі іх.

— Слухаем вас,— шлёпнуўся Іван Іванавіч на лаўку, прамармытаў да Ані: «Пардон-с!» і нахабна ўтаропіўся мне ў вочы.

— Гэта мы павінны цябе слухаць! — загарачыўся я. — Як ты сябе паводзіш? Глядзець брыдка...

А Белавусаў трымкнуў струнамі гітары і спакойным голасам прамовіў да Івана Іванавіча:

— Ты, цеста, прывядзі сябе ў парадак. Работнічак, называецца...

— Не вам, чэрствым душам, зразумець мяне,— ухмыльнуўся Іван Іванавіч. — А што датычыць работы, то яшчэ паглядзім, хто з нас будзе лепш працаваць. А наогул, пайшлі вы к чорту! Настаўнікі знайшліся жаўтаротыя... — ён падняўся і выйшаў з купэ. Іван Ціханавіч крыху пасядзеў з намі, а потым непрыкметна знік.

Размовы не атрымалася. Было прыкра. Некаторыя з нас, у тым ліку і я, сапраўды былі маладзейшыя за Івана Іванавіча. Але гэта не значыць, што мы не здольны па-таварыску ўздзейнічаць на яго. «Ну, нічога, прыедзем на месца, мы цябе, Іван Іванавіч, возьмем у рукі як мае быць...»

У Маскве ў нас выпаў вольны дзень — поезд Масква — Іркуцк адпраўляўся толькі ўвечары, а прыехалі мы раніцай. Па чарзе, дзвюма вялікімі групамі, аглядалі Маскву.

У 12-ты вагон зноў з намі трапіў салдат Вася. Больш ён не заляцаўся да Ані. Амаль паўвагона занялі артысты эстрады, якія ехалі на гастролі ў Петрапаўлаўск. Было не сумна.

Я забыў напісаць, што ў Маскве нас сустракалі прадстаўнікі Міністэрства шляхоў зносін. Яны ж далі папераджальную тэлеграму ў Омск, на нашу канцавую станцыю.

... Было гадзіны дзве ночы, калі нас сустрэлі начальнік аддзела кадраў Омсктрансбуда Сцяпан Фядосавіч Навумчук, хлопцы-мантажнікі з будаўніцтва 80-кватэрнага жылога дома па вуліцы Пушкіна Валерый Свістуноў, Васіль Папечыц, Аркадзь Прымакоў і іншыя. Мы з усімі пазнаёміліся. Навумчук сказаў, што да раніцы мы будзем на вакзале, а раніцай прыдзе машына і забярэ нас у вагончыкі...

— У вагончыкі?!

Ад такое навіны ў некаторых настрой упаў.

— А што ж вы хацелі? Пуховыя пасцелі? — жартам прадэкла-

маваў Белавусаў, кінуў на лаўку рэчавы мяшок і бестурботна разлёгся, быццам усё жыццё толькі тое і рабіў, што спаў на вакзалах ды ў халодных вагонах.

Стаднік, Сцяпура і я бярэм прыклад з Белавусава і таксама ўкладваемся. Іван Іванавіч і Іван Ціханавіч сядзяць у баку, насупленыя, злосныя. Разгубіліся і нашы дзесяцікласнікі Логвінка, Грыб, Прэцька. Нялёгка ім адвыкаць ад бацькоўскага цёплага дома.

— Размяшчайцеся, хлопцы, як у цешчы на печы, — раім мы ім.

Уранні пад'ехала машына. Нас адразу павезлі ў лазню, потым выдалі пасцелі і прывезлі... назад на вакзал. У тупіку стаяў састаў старых пасажырскіх вагонаў. Наш адрас стаў дзіўным і рамантычным: Омск — 20, вакзал, паштовы тупік, вагон 16 дроб 86...

...Пакуль я пісаў гэтае першае пісьмо табе, Мікола, хлопцы жартам пыталі, ці не аповесць задумаў я? Ледзь не цэлы сшытак спісаў...

Усе сябры даўно па чарзе нагрэлі каля печкі свае пасцелі і разлегліся на лаўках. Зараз і я палезу на другую лаўку — там, пэўна, будзе цяплей.

Будзь здароў!

Твой Грыша Стахейка.

## Пісьмо другое

Прывітанне, дружа, з «дикого брега Иртыша»!

Іртыш, правільна, ёсць, Омск стаіць на ім. Але дзікага нічога мы тут не заўважылі. Усюды новабудоўлі...

Пра першы дзень свайго сібірскага жыцця я табе пісаў.

На другі дзень мы прачнуліся рана — печка даўно астыла і ў нас зуб на зуб не трапляў. Як памыцца? Стаднік набраў у конаўку снегу, спаліў цэлы блакнот, каб разагрэць яго, бо хацеў хлопец яшчэ і пагаліцца.

Мыцца сёння, мусіць, не прыдзецца. Праўда, Белавусаў расхрабрыўся, выскачыў на двор і пачаў расціраць рукі і твар снегам, напяваючы вядомую песню фізкультурнікаў. Яна ў яго гучала так:

Чтобы тело и душа... бр-р!
Были, молоды, были молоды,
Ты не бойся, ни жары...
бу-бу-р-р...
и ни холода,
Закаляйся... бр-р... как сталь!
Бу-бу-бу...

Ніхто не рызыкнуў паўтарыць яго эксперымент. Пакуль Белавусаў выціраў твар ручніком, мароз прысмаліў яму шчаку — у той дзень мо' градусаў сорак было.

Перакусіўшы на скорую руку, пабеглі ў кантору будаўнічага ўчастка здаваць дакументы. Цяпер ужо дакладна ведаем — будзем мантажнікамі на будаўніцтве жылых дамоў. Некаторых гэта расчаравала — чакалі большага... Мне ж усё роўна: буду рабіць усё, што трэба.

А Іваны хітруюць, не здаюць дакументаў. Яны нешта задумалі, швэндаюцца па горадзе.

— Дайце мне па спецыяльнасці работу, слесарам-вагоннікам, — заявіў Іван Іванавіч Навумчуку.

— Такія спецыялісты пакуль што нам не трэба, — адказаў той.

— Ну, тады паеду назад.

— Не трымаем, можаце ехаць. Толькі вярніце назад пад'ёмныя... — Начальнік, мабыць, адразу раскусіў, што за птушка перад ім.

— Мы падумаем, — няпэўна прамовіў Іван Ціханавіч.

Два Іваны далі некуды ў Свярдлоўск тэлеграмы, ці ёсць, маўляў, для іх пасады, а самі чакалі адказу, «думалі».

Пакуль Іван Іванавіч бадзяўся па Омску, мы «ўзяліся» за Івана Ціханавіча. Асабліва няёмка адчуваў сябе я. Усё-такі Іван Ціханавіч мой зямляк і, як казалі нам перад ад'ездам у райкоме, яшчэ ніхто не зганьбіў выданай там пуцёўкі. Вось чаму я не мог дапусціць, каб Іван запляміў сябе і нас.



Здорава мы тады яму ўсыпалі! Круціўся, як уюн на скаварадзе, не ведаў, куды вочы ад сораму дзець.

Зразумеў хлопец сваю памылку, парашыў застацца з намі і адразу занёс і здаў свае дакументы. Толькі вярнуўся назад, як заявіўся Іван Іванавіч.

— Ну, гатовы?

— Куды? — прыкідваўся Сімановіч.

— Драпаць адсюль. Мы ж дамовіліся...

— Ведаеш... мне нешта перахацелася.

— Ах ты... Прадаць хочаш? — зашыпеў Іван Іванавіч. — Ну і пайшоў ты... Без цябе абыйдуся.

Іван Іванавіч пачаў ліхаманкава збірацца. Потым узяў з чамадана сёе-тое і пабег у суседні вагон, каб там прадаць.

Неўзабаве ён ужо садзіўся на першы поезд, які ішоў у заходнім напрамку.

— Так пасварыліся Іван Іванавіч з Іванам Ціханавічам... — пажартаваў Валодзя Белавусаў.

— Ведаеш што, Грыша, — паклікаў тады мяне Сімановіч, — Іван Іванавіч падгаворваў мяне ўцячы адсюль, крыху пачакаць і зноў узяць пуцёўку ў другім райкоме камсамола. Яму не ўпершыню так рабіць — год назад з Данбаса ўцёк. Атрымае грошы і цягу...

— Ах, лайдак, — аблаяў я земляка. — Чаго ж ты маўчаў? Мы б з ім інакш пагаварылі...

— Баяўся я яго!..

Я і мае таварышы не маглі сабе дараваць промаху з Іванам Іванавічам.

Мікола, сябар мой! Перадай у райком камсамола, няхай на месцы выяўляюць такіх Іванаў Іванавічаў, не даюць ім разгарнення. Або напішы ў газету, няхай усе ведаюць, каб не аб'явіўся такі Іван Іванавіч у іншых раёнах.

Але хопіць аб ім. Скажу толькі, што ён у нашым калектыве быў адзін такі. Усе ж хлопцы добрыя.

Ужо трэці дзень, як мы жывём у Омску, а на работу нас не пускаюць. Паглядзеў на наш абутак Навумчук і толькі галавою паківаў:

— Эх, моладзь, моладзь!.. Без валёнак тут доўга не паходзіш...

І сапраўды. Толькі ў мяне і яшчэ ў двух чалавек — хромавыя боты, астатнія як — у чаравіках, інтэлігенты... Вось і сядзі праз іх без работы. Нудота бярэ — калі тыя валёнкі нам выдадуць?

Каб не было так сумна, бяжым у інтэрнат да дзяўчат. Апрача Ані, у нас там знайшліся зямлячкі Соня і Марыя. Ужо дамовіліся, што будзем разам сустракаць Новы год. Прыйшлі мы да іх не з пустымі рукамі, па дарозе што-кольвечы захапілі. Нас чакаў сюрпрыз: яшчэ трое землякоў — браты Адам і Андрэй Кадолічы з Церабліч і дзяўчына з вёскі Рубель. Яны пяць месяцаў як тут, добра здружыліся. Кадолічы не адыходзілі ад дзяўчат ні на крок. Нагогул усе старажылы завялі сябровак, некаторыя збіраліся пажаніцца... Нас прыемна гэта ўразіла: усур'ёз нашы землякі рашылі абжыць Сібір! І добра.

Той вечар прайшоў весела. Усё роўна як дома пабылі, на радзіме. Праводзілі нас усім гуртам ледзь не да самых вагончыкаў.

Было позна, але нашы хлопцы чамусьці не спалі. Ва ўсіх быў далёка не святочны настрой, хоць крыху і выпілі. Зразумела: гэта з-за вымушанага бяздзеяння. І яшчэ выявілася: знайшоўся новы зямляк, нехта Герасімовіч. Наплёў ён нашым хлопцам кучу ўсялякай лухты: што і заработкі дрэнныя — атрымаў ён за снежань чатырыста рублёў, і ніякай увагі тут ні на кога не звяртаюць — ён да гэтага часу простым рабочым ходзіць, і тое, і сёе... Трэба, гаварыў ён, з сваіх хлопцаў выбіраць брыгадзіра, а то дадуць якога старога дзівака, як гэта ў іх брыгадзе здарылася, то ўвесь дух выматае, а заробіш, як кот наплача...

— А дзе ж ён жыве, гэты Герасімовіч? — пытаемся ў хлопцаў.

— У інтэрнаце,

— Чаму ж ён скардзіцца, што аб ім не клапоцяцца? А што «радавым» ходзіць, то, мусіць, ацанілі па заслугах.

— Чорт яго ведае...

Хлопцы не паверылі гэтаму «шчыраму» сябру, якім ён прыкінуўся. Але недзе ў глыбіні душы засела сумненне: рамантыка рамантыкай, а як жа жыць будзем, калі заробім усяго па чатырыста рублёў? Амаль усе гэтыя грошы у першы месяц трэба патраціць на адзенне і абутак...

Можа сапраўды лепш выбраць брыгадзіра з «свайго брата»? Толькі пад самую раніцу заціхлі: парашылі паслаць мяне ў аддзел кадраў наконт брыгадзіра. Мы згадзіліся, каб быў у нас за брыгадзіра Кузьма Міхайлавіч Сімін, чалавек сталы.

Неўзабаве ён завітаў да нас.

— Здарова, землякі! — гукнуў басам на ўвесь вагон і пачаў спрытна паціскаць хлопцам рукі.

— Дык вы таксама беларус? А адкуль? А ці даўно тут?

— Беларус, браткі, беларус. З-пад Мінска. Праўда, некалькі год жыў пад Масквою, ну, а зараз — тут, у Сібіры.

Расказаў Сімін, як працуе. Летасць з брыгадаю—першыя былі... Правіла такое: калі працаваць, то працаваць. Хлопцы падабраліся — арлы. Было, канешне, некалькі і такіх, што псавалі ўсю музыку, прыходзілі часта на аб'ект п'яныя. Адзін лайдак, Герасімовіч, уеўся ў косці, рады нельга было даць (пры ўпамінанні гэтага прозвішча ў хлопцаў здзіўлена выцягнуліся твары). Але ён, Сімін, думае, што сярод новага папаўнення няма такіх. Га? Кузьма Міхайлавіч хітравата абвёў усіх позіркам.

— Няма, няма,— запэўнівалі мы.

— Значыць, будзем працаваць? Ну, а наконт заробку скажу, што выйдзе не меней, як па тысячы. Летам і да паўтары выцягнем...

Мы ўсе з палёгкай уздыхнулі.

— Вось гэта чалавек! — усклікнуў хтосьці, як толькі за брыгадзірам зачыніліся дзверы.

Так, Сімін нам спадабаўся. Паглядзім, як пойдзе работа.

Вось, дружа Мікола, я табе і другое пісьмо накрэмзаў, а мы ўсё яшчэ не працуем. Прыкра, вельмі прыкра на душы...

Ага, ледзь не забыў. Прыходзіў да нас Навумчук, разам з намі шкадаваў, што нельга хутка раздабыць валёнкі. Зрабілі заказ, але даводзецца чакаць, пакуль прывязуць. Праўда, валёнкі ёсць і ў горадзе, але...

Навумчук па-змоўніцку нахіліўся да вуха аднаго, другога: можна было б пазычыць у суседнім будтрэсце, ды, ліха яго галаве, бюракрат жа там сядзіць, ні на якія ўгаворы не паддаецца... Добра было б, каб хлопцы дапамаглі ў гэтай справе.

Ну, будзь здароў, Мікола!

Цісну тваю рабочую руку сваёй да гэтага часу інтэлігентнай, чысценькай ручкай.

Грыша Стахейка.

### Пісьмо трэцяе

Ура!.. Браце Мікола, выходзім на работу: валёнкі адваявалі — вось яны, на нагах! Мы крыху нагадваем сваім знешнім выглядам мядзведзяў. Але гэта нішто, абы цёпла і можна было працаваць.

Я, мусіць, забыў прывітацца. Здароў, браце... Ты не можаш уявіць сабе: я хвалююся. Пакуль ехаць, рашыў напісаць табе пару слоў. Э-э... бягу — клічуць. Вунь машына ўжо за пуцямі сігналіць, і хлопцы валам павалілі. Вечарам, можа, дапішу...

...Перачытаў пачатак пісьма. Напышлівы. Здзяцінеў я, можа. Пішу гэтыя радкі ўжо ўвечары. Прабач. Нязграбна атрымліваецца.



Вось гэтыя дзве плямы — не ад слёз. За каго ты мяне лічыш? Гэта проста неяк капнула з мокрае насоўкі, якою я абкруціў руку, бо варухнуць ёю нельга, так гарыць.

У вагоне амаль цішыня. Нікому не хочацца размаўляць, вячэраць. Белавусаў трымкае на гітары нешта самотнае, адкінуў да сценкі галаву і глядзіць некуды ўдаль. Каля яго, стрымана крэкчучы і хваравіта трымаючыся за сярэдзіну, садзіцца Коля Свідуновіч і просіць:

— Давай што-небудзь — такое...

З канца ў канец вагона пахаджвае Іван Сцяпура. Твар у яго скамянелы. Ён падтрымлівае левую рукою пад локаць правую, люляе, нібы дзіця. Бачна, што хлопец не знаходзіць сабе месца.

Я хадзіў зноў намачыць хусцінку і заўважыў: ляжыць наш Міша Логвінка ў суседнім купэ. Перад сабою далоні трымае і ласкава дзьмухае — то на адну, то на другую, а ў куточку вока трымціць слязінка. Дзівак-чалавек: захацеў усе восем гадзін працаваць, як і мы, хоць яго сябры-малалеткі пакінулі работу на дзве гадзіны раней, па закону.

...Прывезлі нас на месца работы.

— Вось наш аб'ект, — гаворыць брыгадзір Сімін.

— Дзе ж ён? — пачалі мы азірацца на ўсе бакі. Непадалёк стаяць дамы, а побач — вялізныя ямы, засыпаныя снегам.

— Чаго круціце галовамі? Вось пад носам катлаван, гэта і ёсць наш аб'ект. Тут будзе шматкватэрны дом. Мы з вамі пакуль што будзем і за землякопаў, і за мантажнікаў...

Дык вось нашто мы грузілі на машыну насілкі, рыдлёўкі, ламы, кувалды і кліны — велізарныя металічныя зубілы!

— Разбірайце прычындалы... Будзем капаць катлаваны, — распараджаецца Сімін.

Борздзенька ўзяліся мы за інструмент, скаціліся ў яму. Снег пазграбалі хутка. Спрабавалі калупнуць рыдлёўкамі зямлю — дзе там! Мне здалося, што з-пад ляза сыпанулі іскры. Грунт проста скамянеў. Брыгадзір глядзіць на нашы практыкаванні і толькі ўсміхаецца.

— Трэба кліночкамі, кліночкамі... і кувалдачкамі!

Пачалі мы «кліночкамі» і «кувалдачкамі». А гэтая «кувалдачка» — паўпуда! Паспрабуй памахай! Больш як гадзіну ніхто не вытрымлівае.

Спявалі «Гэй, дубінушка, ухнем!», мяняліся інструментамі, нецярпліва пазіралі на стрэлкі гадзінніка і на сонца. Вельмі марудна варушацца! Да абеду вытаміліся ўшчэнт... Здаецца, упаў бы на снег і ляжаў. Але мы не падалі і не ляжалі, а толькі мацней сціскалі зубы.

Абедалі ў сталоўцы. Як мы вытрымаем да вечара? Успомніш пра «кувалдачку», і мурашкі па спіне забегаюць.

Вось якая, таварыш Мікола, пакуль што ў нас рамантыка... Але мы будзем працаваць з усіх сіл, каб не сказаў пра нас што благое наш зямляк Сімін.

...Сцяпура так і снуўдаецца ўсю ноч па вагоне. Нехта стогне праз сон... Белавусаў прытвараецца, што спіць, бліснe на момант вокам у мой бок (няхай сабе думае, што я не заўважыў), чмокне спрасонку смешна губамі — малое дзіця дый годзе! — і зноў сцішыцца. Стаднік чытае. Жалезны хлопец... Спакойненька перагортвае старонку за старонкай, быццам і не працаваў цэлы дзень, а загараў на пляжы.

На гэтым закончу. Спакойнай ночы, Мікола.

### Пісьмо чацвёртае

Добры дзень.

Прабач, што доўга не пісаў. Ты, мусіць, на мяне ўжо рукой махнуў: не хапіла, маўляў, пораху ў

Грыцка, калі перастаў пісаць? Не-е! Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!..

Пасля таго першага працоўнага дня прайшло шмат часу. Мы пачалі хутка прывыкаць да работы, можна сказаць, уцягнуліся. На шосты дзень прывезлі адбойныя малаткі. Справа пайшла хутчэй. Мы свідравалі і ламалі зямлю, нібы тыя шахцёры вугаль.

Дапамагаў і агонь. Раскладзем вогнішча, разагрэем зямлю, а потым адсунем галавешкі на новае месца, а самі хуценька завіхаемся, каб не скавала зноў. Калі траплялiся дужа смалістыя дровы, мы рабіліся за дзень мурзатыя, як камінары. Смеху колькі было!

З кожным днём расла наша будоўля. Самазвалы, у тым ліку і мінскія «зубры», падвозілі цэглу, бетонныя пліты, пясок, дошкі, брусы... А аднаго дня прывезлі і ўстанавілі высачэзны кран.

Нам, ужо як мантажнікам, патрэбна было брацца за падмуркі. Сімін разбіў брыгаду на тры звяны па шэсць чалавек у кожным. Я і Стаднік узначалілі па звяну. Логвінку, Грыба і Прэцьку перавялі на Маскоўскую вуліцу, у брыгаду падлеткаў.

Аднойчы, перад абедам, у катлаван да нас скочыў Валерый Свістуноў, той самы, што калісьці сустракаў нас на вакзале. Ён аказаўся цудоўным хлопцам, умеў адразу заваяваць сімпатыі, прыносіў з сабою весялосць. Лёгка, нібы цыркач, ён стаў падаваць муляру цагліны, не перастаючы гаварыць. Праз мінуту ужо ўсе рагаталі ад яго нейкага дасціпнага жарту. Валерый быў членам камітэта камсамола Омсктрансбуда.

— Хлопцы, дык гэта вы яшчэ без групкамсорга ходзіце? — звярнуўся ён да ўсіх, калі мы ўціснуліся ў дзяжурку. — Ай-я-яй, як дрэнна. А на камсамольскі ўлік хоць усе сталі? Усе. Гэта добра. Каго будзеце групкамсоргам прапаноўваць?

Хлопцы назвалі тры кандыдатуры: Белавусава, мяне і Стадніка. Я выказаўся за Васіля Стадніка — разважлівага хлопца. Ведаў я Васіля даўно, ахарактарызаваў яго як мае быць. К таму ж чалавек і армію адслужыў. Усе дружна прагаласавалі за яго. Так наш зямляк стаў камсамольскім важаком.

Ну, што яшчэ табе паведаміць? За студзень кожны з нас у сярэднім зарабіў больш як па 900 рублёў. Трыста рублёў адлічылі за спецвопратку, а шэсцьсот выдалі на рукі. Я што-кольвечы з драбязы купіў сабе і паслаў яшчэ бацькам сто рублёў.

Нешта не трапляецца на вочы той Герасімовіч. Што ён сказаў бы пра наш заработак?

Мы ўжо ўступілі месца мулярам, перайшлі на новы аб'ект. Праўда, тут брыгада землякопаў зрабіла катлаван, і мы адразу ўзяліся за падмуркі.

Багаты падзеямі сённяшні дзень. Зранку працавалі мы ўжо добрыя дзве гадзіны, як раптам на аб'ект заявіўся Іван Сімановіч, з ім дзён колькі таму назад здарылася на працы няшчасце.

— Ура! — грымнулі ўсе і акружылі таварыша.

— Выпісалі?

— Выпісалі. Асцярожна вы...

— Малайчына. А чаму павязка на галаве?

— Каб дзяўчаты любілі. Дайце, чэрці, хутчэй работу, а то з нуды памру...

Ну, мы яму работу, канешне, знайшлі пакуль што лягчэйшую. Добры настрой у нас быў увесь дзень. Сімановіч ездзіў з намі ў сталовую, з апетытам еў і расхвальваў звычайныя, небальнічныя стравы. Гледзячы на яго, з апетытам елі і мы.

Пасля абеду працавалі яшчэ гадзіны дзве. Раптам з дзяжуркі выходзяць, загадкава ўсміхаючыся, брыгадзір Сімін і майстар Усцінін.

— Хадзі сюды, хлопча, — паклікалі яны Сімановіча. — Там нешта тэлефон звоніць... Схадзі, хіба, даведайся...

Праз некалькі мінут вярнуўся



радасны Іван Сімановіч і закрычаў:

— Хлопцы!.. Усе да мяне!..

Калі мы збегліся ў прадчуванні чагосьці незвычайнага, Сімановіч стаў у позу і пачаў, дэкламуючы:

— Хто ля тэлефона? Гэта Навумчук гаворыць.

— Сімановіч.

— А ці не той самы, што так шкадаваў мне аддаць дакументы пасля прыезду?

— Той самы...

— Дык вось... забірайце рэчы і высяляйцеся са свайго шаснаццатага вагона... Каб да вечара і духу вашага там не было.

— За што ж вы так мяне, Сцяпан Фядосавіч?

— За добрую работу.

— Як?!

— І ўсім хлопцам вашым скажыце, няхай сёння перасяляюцца ў інтэрнаты па вуліцы Брацкай, дамы нумар пяць і трынаццаць. Перадайце брыгадзіру, каб адпусціў вас сёння раней з работы.

Сімановіч артыстычна пакланіўся нам і замёр, апусціўшы рукі «па швах». Мы нейкі момант маўчалі, аслупянелыя ад радасці, а потым кінуліся да Сімановіча:

— На «ўра»!

— О-ёй, асцярожна, хлопцы... Ну хопіць ужо, хопіць...

Я падняў з-пад ног расчоску Сімановіча і заўважыў шэры камячок паперы, прытаптаны валёнкам. «Бальнічны ліст, — прачытаў я, распраставўшы. — Хворы Сімановіч І. Ц. вызваляецца ад работы па дваццаць восьмае лютага ўключна».

— Васіль, паглядзі, — паклікаў я камсорга.

Стаднік падышоў, моўчкі прачытаў і запытаўся:

— Сёння дваццаць чацвёртае?

— Так.

Некаторы час мы маўчым, думаючы пра адно і тое ж. Я адчуваю, што на душы ў мяне становіцца так лёгка, быццам з яе зваліўся камень, які ляжаў там з першых дзён нашага сібірскага жыцця.

Так мы перасяліліся з вагончыка ў інтэрнат.

Дрэнна крыху тое, што прыйшлося сяліцца ў розных пакоях. Але мы ведаем, што гэта — часовая з'ява. Настане такі дзень, калі наша дружная брыгада зноў збярэцца ў адно месца.

Сённяшнія перажыванні, турботы, лазня стамілі мяне. Свежыя прасціны прыемна лашчаць цела. Эх, хараство якое!..

У нас тут у інтэрнаце ўсе выгоды: ёсць дзе памыцца, пагаліцца, папрасаваць адзенне,— у любы час. Працуе душ. Пасля работы — калі ласка, асвяжайся, палашчыся. У чырвоным кутку свая бібліятэка, розныя настольныя гульні, тэлевізар.

Ну, здаецца, усё.
Усяго добрага, дружа.

### Пісьмо пятае

Ты ведаеш, калі б мне цяпер хто сказаў: «Вярніся дадому, кінь гэтую Сібір»... я не палічыў бы такога чалавека сваім прыяцелем. А каб гэта быў блізкі таварыш, то я пакруціў бы пальцам каля ілба, выразна намякнуўшы: не хапае ў цябе, маўляў, клёпкі ў галаве.

Моцна прыстала да душы ўсё тое, што мы тут робім.

Крыху аб рабоце. Тое, што планавалася на цэлы квартал, мы зрабілі за два месяцы. У пачатку красавіка стала вядома, што наша брыгада працуе ўжо ў лік мая. Здорава!

Чытаем газеты. Па ўсяму Саюзу разгарнулася спаборніцтва за званне калектываў камуністычнай працы. Усім нам вельмі і вельмі хочацца ўключыцца ў гэтую барацьбу. Толькі ніхто з нас добра не ведае, як гэта жыць і працаваць пакамуністычнаму.

І вось камсамольскі сход. Запрасілі Валерыя Свістунова. От гэта хлопец! Што працаваць, што гаварыць — мастак! Ён расказаў аб тым, як уяўляе сабе калектыў камуністычнай працы.

Выпрацавалі сацыялістычныя абавязацельствы. Мы вырашылі да канца года выканаць яшчэ адно гадавое заданне; змагацца за тое, каб разам з іншымі будаўнікамі сямігадовы план Омсктрансбуда завяршыць за чатыры гады. Выклікаем на спаборніцтва брыгаду дзяўчат з 48-кватэрнага дома (іх дэлегат, Аня-магіляўчанка, сядзела на нашым сходзе). Хто не закончыў дзесяцігодку — закончыць, каб потым можна было паступіць завочна ў вышэйшыя ці сярэднія навучальныя ўстановы. За гэты год авалодаць кожнаму яшчэ адной спецыяльнасцю.

Многія тады парашылі паступіць на курсы бульдазерыстаў, муляроў, тынкоўшчыкаў. Я надумаў вучыцца на маляра.

Апрача гэтага, мы парашылі не піць, не курыць (так — нават і не курыць!).

Ад гэтага часу наш дэвіз — жыць і працаваць па-камуністычнаму!

Спяшаюся на работу. Будзьма здаровы!

P. S. Напішы мне, ці збіраюцца ехаць у Сібір твае землякі. Скажы, што няхай не адкладаюць. Тут, брат, такое робіцца, што залюбуешся!

Грыша Стахейка.

### Пісьмо шостае

З добрым ранкам, Мікола!

Сёння нядзеля. Мы толькі што вярнуліся з прагулкі па Іртышу. Усе гэтыя дні стаіць цудоўнае надвор'е. Мы паспелі добра загарэць.

Свой паўгадавы план выканалі на сто чатыры працэнты, на некалькі дзён раней намечанага тэрміну. Нас фатаграфавалі карэспандэнты. У шматтыражцы з'явілася мая невялічкая заметка і фотаздымкі нашых хлопцаў.

Ты, мусіць, Мікола, чытаеш гэтыя радкі і ўсміхаешся: што сталася з некалі сціплым Грышам: бач, як расхваліўся! Ды не хвалюся я... Проста неяк па-чалавечаму прыемна: знайшлі сваё месца ў жыцці, працуем ад душы, а нас цэняць за працу.

У нашым клубе ўвечары была ўрачыстасць. Мы давалі канцэрт. Ох і перахваляваліся!.. А Юрый Іванавіч... Братка, ты ж не ведаеш, што я тут «падаўся ў артысты»!.. Дык слухай. Ужо два месяцы, як мы са Сцяпурам ходзім на рэпетыцыі ў наш клуб. У п'есе «Будаўнікі» мы з Іванам выконваем ролі двух хлопцаў-баламутаў з будоўлі, якія паступова выходзяць у людзі і нават едуць на вучобу.

Наша выступленне прайшло, як кажуць, з вялікім поспехам. Наш кіраўнік Юрый Іванавіч так расчуліўся, што доўга нас абдымаў, а Валерыя Свістунова нават пацалавала.

Эх, Колька, хораша жыць на свеце! Ідзеш увечары з рэпетыцыі, і так лёгка на душы, а настрой — казачны. Я — дык закаханы па вушы ў сваіх новых сяброў. А тут яшчэ ноч цудоўная!..

Нядаўна ў нас, у вестыбюлі інтэрната, былі танцы. Спачатку ўсё ішло добра, хлопцы і дзяўчаты весяліліся. Потым зайшлі двое — кепачкі на патыліцах, каўняры — наросхрыст... Хацелі не пусціць, але нехта сказаў, што няхай сабе танцуюць. І дарэмна, ледзь усю музыку нам не сапсавалі. Адзін з іх запрасіў дзяўчыну на танец, а яна адмовілася, і пайшла з адным нашым хлопцам. Хуліган кінуўся на яго, і ўшчалася бойка. Праўда, нашы не разгубіліся і адвялі хулігана ў аддзяленне міліцыі. Але вечар адпачынку быў сапсуты.

Назаўтра з мяне смяяўся Сцяпура:

— От, Грыша, каб у цябе такі выгляд быў учора, не трэба было б і грыміравацца для п'есы!..

— Дробязь,— сказаў Стаднік і дадаў: — А ты не хочаш у дружыну ўступіць?

— Хачу.

— Прынось у панядзелак заяву ў камітэт.



Так, я буду народным дружыннікам. Час канчаць з такімі дзікімі, недарэчнымі з'явамі сярод нашай моладзі, як п'янства і хуліганства.

На сёння — бывай.

З прывітаннем — Грыша.

### Пісьмо сёмае

Прабач, дружа, што зноў я надоўга замоўк. Шчыра кажучы, мне было не да пісаніны. Але — па парадку.

Атрымліваю тэлеграму з дому: «Хутка прыязджай, бацька сур'ёзна хворы». А бацька мой хворы на язву страўніка.

Нясу тэлеграму Стадніку, нашаму камсамольскаму важаку. З кім жа яшчэ параіцца, як не з сябрам? Параіў ён мне ўзяць водпуск і наведацца дадому, хоць і не блізкі свет. Пайшоў да Навумчука ў аддзел кадраў.

— Вернешся? — гаворыць ён, а сам хітра прыжмурвае вока. Не раз, мабыць, да яго звярталіся, каб адпусціў па такіх прычынах, ды і не вярталіся назад. Я не пакрыўдзіўся на яго за такое падазрэнне, запэўніў цвёрда, што вярнуся.

І вось я пабыў дома і сапраўды вярнуўся назад. Але колькі сіл і пакут гэта мне каштавала!

Бацька быў хворы, як звычайна. Было, праўда, пагоршанне, але цяпер зноў нічога. Трапіў жа я дома на вяселле. Брат Валодзя жаніўся, пайшоў у прымы. І вось тут выявілася: ён здымаў з сябе клопаты аб бацьках. Гэта мяне абурыла. Я пасварыўся з ім. Хіба я здалёк не дапамагаю бацькам? А чаму ён іх цураецца?

Маці пачала плакаць, што мы кідаем іх адных на старасці...

— Мама, перастань, ты ж ведаеш, што гэта не так, а гавbooрыш...— упрошваю я.

Бацька хваравіта моршчыцца і маўчыць. Ён, ведаю, згодзен, каб я рабіў так, як хачу сам, але нічога не гаворыць. Толькі сказаў да маці:

— Сціхні, Марына, не смяшы людзей...

Я задумаўся: ці маю маральнае права ехаць ад бацькоў, яны ж старыя ўжо...

Сэрца шчымела ад сумненняў. Але яно і падказвала, што маё месца там, у Сібіры, з людзьмі, якія сталі мне роднымі па мазалях і поту. Я не магу здрадзіць ім, кінуць вялікую справу...

Зразумей, мама. Не магу!

...Пішу табе, Мікола, пісьмо ўжо зноў з Омска і чакаю твайго адказу: ці правільна я зрабіў? Што б ты рабіў на маім месцы? Адкажы хутчэй.

Твой Грыша — закаранелы сібірак.

Мой адрас: г. Омск — 20, вул. Брацкая 5, пакой 65.

Фёдар КУЗЬМЕНКА,
баец Першай Коннай Арміі

# МЫ ВЫРАСЛІ Ў ПОЛЫМІ...

## З успамінаў

Фёдар Яфімавіч Кузьменка знаходзіўся ў радах легендарнай Першай Коннай Арміі,—сорак гадоў з дня ўтварэння якой спаўняецца ў лістападзе,—ад першага дня яе нараджэння аж да расфарміравання. Ён удзельнічаў ва ўсіх яе важнейшых аперацыях і баях супраць белагвардзейскіх бандаў Шкуро і Мамантава, Дзянікіна і Махно. За храбрасць, праяўленую пры прарыве варожага акружэння ў раёне м. Берасцечка на Польскім фронце, тав. Кузьменка быў узнагароджан ордэнам Чырвонага Сцяга.

Ф. Я. Кузьменка ўдзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне.

Пайшоўшы на пенсію, ён працуе начальнікам ціра пры Мінскім доме афіцэраў імя К. Я. Варашылава. Часта выступае перад моладдзю з успамінамі пра вогненныя гады барацьбы за сацыялістычную рэвалюцыю. Некаторыя старонкі з гэтых успамінаў мы і прапануем вашай увазе.

### У станіцы Платаўскай

Не сынки у маменьки
в помещичьем дому —
Выросли мы в пламени,
в пороховом дыму...

Гэтыя словы песні пра будзёнаўцаў вельмі праўдзівыя. Можа таму кожны раз, калі я слухаю гэтую песню, на вочы набягаюць слёзы і, нібы ў тумане, узнікаюць малюнкі майго маленства і юнацтва.

Дзяцінства сваё я добра памятаю з сямі-васьмі гадоў. Мы жылі тады ў станіцы Платаўскай пад Растовам-на-Доне, у той самай, дзе жыў і Сямён Міхайлавіч Будзённы і якую пазней перайменавалі ў станіцу Будзёнаўскую.

Асноўнымі жыхарамі станіцы былі калмыкі, і толькі тры сям'і былі рускія. Калмыкі заўзята ахоўвалі свае нацыянальныя звычаі, сваю адасобленасць, і прыезд у станіцу рускага чалавека прымалі, як замах на іх «незалежнасць». Цяпер моладзі, якая не бачыла праклятай мінуўшчыны і жыве ва ўмовах вялікай дружбы народаў, што насяляюць нашу Радзіму, цяжка ўявіць сабе варожасць, якая панавала ў царскай Расіі паміж людзьмі розных нацый, як вынік самадзяржаўнай палітыкі нацкоўвання аднаго народа на другі, палітыкі разні і пагромаў. У тыя змрочныя часы большасць працоўнага люду была непісьменнай, палітычна маласвядомай і часта станавілася сляпой зброяй цемрашалаў і чалавеканенавіснікаў.



У нашай станіцы, напрыклад, спрэчкі паміж рускімі і калмыкамі часта ўзнікалі з-за калодзежа. Яго і назвалі, мусіць, таму «грымучым калодзежам». Вада ў калодзежы была халодная, і ўсё ж у ім рускія хрысцілі сваіх дзяцей, хрысцілі і тых калмыкоў, якія прымалі праваслаўную веру. Пакуль рускія сем'і плацілі калмыцкім багацеям грошы за карыстанне вадой з іх калодзежаў, усё ішло добра. Але як толькі яны збудавалі свой калодзеж і ў калмыкоў-багацеяў скараціліся прыбыткі, пачаліся звадкі. Калмыкі ўночы закопвалі калодзеж рускіх. Удзень рускія зноў адкопвалі яго. Так паўтаралася шмат разоў, пакуль не ўсчыналася калатня.

Праўда, бедныя калмыкі спачувалі рускім і часта абаранялі іх ад несправядлівых нападкаў багацеяў. І толькі асвяжальны вецер Кастрычніцкай рэвалюцыі здружыў навечна рускіх і калмыкоў, знішчыўшы класавыя падставы іх варожасці.

Калі мне мінула дзевяць гадоў, я пайшоў у школу. Бацька быў супраць навукі, лічачы яе лішнім цяжарам для сям'і. Але я быў яшчэ слабым памочнікам, і бацька згадзіўся на просьбу маці, якая марыла хоць аднаго сына вывесці ў людзі. Мара яе не ўзнімалася вышэй жадання бачыць мяне станічным пісарам.

Вучыўся я старанна і не блага паспяваў. Толькі ў папа лічыўся самым адстаючым і недысцыплінаваным. Нашы ўзаемаадносіны з ім асабліва пагоршыліся пасля таго, як у час збору царкоўных падаткаў я сагнаў з двара аблюбаванае ім парася і прымусіў, такім чынам, яго ўзяць менш укормленае. Адкрытая сутычка з папом у мяне адбылася крыху пазней.

Царква. Замерлі, схіліўшы галовы, вучні. На амбон павольна ўзышоў поп. На клірасе заспяваў хор. Дзеці, як па камандзе, сталі на калені. І толькі мы удвух з Пецем Антоненкам засталіся стаяць. На нас засыкалі, а мы стаялі, нібы аслупянелыя. Поп раздражнёна замахаў рукой, нібы загадваючы: «На калені, д'яблавы дзеці!» Але ні я, ні Пятро не зважалі на яго загад. Тады поп сышоў з амбона і на ўсю моц крыкнуў:

— Вон адсюль! — і, схапіўшы нас за каршэнь, падвёў да дзвярэй ды так шпурнуў, што мы скабамі сваімі пералічылі ўсе прыступкі даволі высокага царкоўнага ганка.

Назаўтра мяне і Пецю прагналі са школы. Як ні хадайнічаў Пецеў бацька, поп і слухаць не хацеў, каб дазволіць нам наведваць школу. Пецеў бацька не верыў у бога, у царкву не хадзіў, і поп з ім не хацеў надта і размаўляць, а толькі злосна вылаяў: «Якое семя, такое і племя».

Так скончылася мая няўдалая спроба стаць станічным пісарам. Я пачаў рабіць тое, чым займаліся мае бацькі, дзяды і прадзеды — араў зямлю, пасвіў кулацкую скаціну, адным словам, сваімі рукамі здабываў сабе хлеб. Работы не баяўся. Яшчэ да таго, як пайсці ў школу, ужо шмат памагаў бацьку



**Ф. Кузьменка ў час службы ў 4-й Ленінградскай кавалерыйскай дывізіі.** 1929 год.

па гаспадарцы. У сем гадоў, як расказваюць, я ўжо ездзіў конна.

Хлапчукі амаль усе ездзілі конна. На станічнай плошчы каля пошты, куды яны прыязджалі з надзеяй атрымаць пісьмо з фронта ад бацькі ці брата, часам пачыналіся скачкі — своеасаблівыя выпярэдніцтвы ў спрыце коннай язды. Тут мне таксама, як і ў школе, не шанцавала. Старэйшыя за мяне хлапчукі бралі верх. Майстэрства правіць канём і адвага былі прыроджанымі ў калмыцкіх і казацкіх дзяцей. У мяне ж не ставала спрыту ды, прызнацца, яшчэ і пабойваўся. Але ўпартасць узяла сваё — пасучы з дзедам у стэпе кулацкіх коней, я шмат трэніраваўся ў коннай яздзе. Усё гэта было, як кажуць, самаадукацыяй.

Першым маім сапраўдным настаўнікам быў Ака Іванавіч Гарадавікоў, пазней славуты камандзір чырвонай конніцы. У той час Аку Іванавічу яшчэ не было трыццаці гадоў. Як і іншыя бедныя калмыкі, ён вельмі добра адносіўся да рускіх, сябраваў з імі. Мы часам пасвілі табуны кулацкіх коней разам з калмыцкімі пастушкамі. Вось тут, у неабсяжных сальскіх стэпах, Ака Іванавіч і вучыў мяне арканіць напаўдзікіх коней, аб'язджваць іх, ездзіць конна з сядлом і без сядла. Сам Ака Іванавіч быў вялікім майстрам коннай язды і джыгітоўкі. З ім мог спаборнічаць хіба толькі Сямён Міхайлавіч Будзённы, які часта заставаўся пераможцам у скачках станічных коннікаў.

Так, вучачыся ў праслаўленых джыгітаў, я семнаццацігадовым юнаком ужо разбіраўся ў конях, палюбіў конныя скачкі і быў заўзятым коннікам.

## Пачатак выпрабаванняў

Як цяпер памятаю, першы месяц вясны 1918 года — сакавік быў цёплы, сонечны. Па станіцы Платаўскай хадзілі ўзброеныя людзі — і рускія, і калмыкі. Нешта везлі на двуколках да пошты. Хлапчукі расказвалі, што двуколкі — са зброяй, якую адбілі ў казакоў і якой думаюць узброіваць тых, хто супраць рэвалюцыі. Наш сусед Нікіфараў — высокі мужчына гадоў пад сорак, які вярнуўся з вайны з двума крыжамі і насіў станічную мянушку Тытко, аб нечым гутарыў ля пошты, дзе размясціўся штаб атрада, з Будзённым, Сарокіным, Новікавым і іншымі былымі франтавікамі, якія складалі касцяк рэвалюцыйнага атрада.

Неўзабаве атрад выехаў на Бугу, і мы, вядома, разумелі, што ўзброеныя вінтоўкамі мужчыны пайшлі не на рыбацкі промысел. Старыя, што засталіся ў станіцы, называлі незнаёмыя прозвішчы генерала Папова, Гніларыбава і выказвалі трывогу, каб хаця справа не скончылася дрэнна. «У іх жа енералы ды гарматы, а ў нашых самы старшы — рафлейтар, гармат дык зусім няма ды і вінтоўкі не ва ўсіх». Моладзь была настроена больш светла, і пачыналі нават ужо дзяліць трафеі ды дапытваць «самога енерала», якога нібы абавязкова павінны былі нашы ўзяць у палон.

Нажаль, праўда была за дарослымі. Апоўдні ў станіцу на ўзмыленым кані прыскакаў Мікалай Кануннікаў:

— Калмыкі здаліся Папову... Нашы разбіты. Тытко з астатнімі паскакаў у Арлоўку,— не без панікі крычаў ён.

Станіца паднялася. Забраўшы самы неабходны скарб і дзяцей, хто на фурманцы, хто конна, хто пешшу рынуліся з Платаўскай. Паехала і наша сям'я.

Неўзабаве бацька пайшоў у адзін з чырвоных атрадаў, якія пачалі фармавацца скрозь. Платаўская была занята белагвардзейцамі. Яны пачалі шукаць бежанцаў і зганяць іх назад у Платаўскую, каб чыніць расправу. Данесліся жудасныя чуткі аб расстрэле больш чым трохсот ні ў чым не вінаватых старых, жанчын, дзяцей. У дом, дзе мы прытуліліся, зайшоў нейк стараста — чалавек жорсткі і бязлітасны.



— Прыйшла дэпеша ад атамана Ланцына,— з пагрозай сказаў ён,— усіх бежанцаў вярнуць у Платаўскую. І вы павінны ехаць. Не паедзеце — пад стражай адашлю.

Ехаць у Платаўскую — значыць, аддацца на верную смерць. Асабліва дасталося б мне, семнаццацігадоваму дзецюку, які паспеў дацца ў знакі калмыцкім багацеям. Мне нельга было ехаць у Платаўскую, але як разлучыцца з маткаю, для якой я заставаўся адзінай надзеяй і ўцехай? Ды толькі, калі конь пачуе цуглі, яго не ўтрымаеш. Так і мяне. Спачатку ўгаварыў маці не вяртацца ў Платаўскую, а спыніцца на дарозе ў станіцы, дзе няма белагвардзейцаў. Маці ўвесь час сачыла за мной, каб не збег з фурманкі. І ўсё ж я ўлучыў момант, хутка выскачыў, сеў конна і пакінуў сваіх родных.

Так застаўся я адзін-на-адзін са сваім лёсам. Ніколі не адчуваў я сябе такім бездапаможным, як тады. І вось на свой страх рызыкнуў пусціцца плаваць па моры жыцця, не маючы ў руках ні ведаў, ні вопыту, як кажуць, без компаса, без стырна і ветразяў. Тады, у гэтым першым плаванні, і зразумеў я першую мудрасць: калі ты хочаш знайсці дарогу жыцця — ідзі з народам.

## У партызанскім палку

Я вярнуўся ў Платаўскую пасля таго, як атрады Будзённага смелым налётам вызвалілі станіцу ад белай пагані. Вярнуўся не юнаком, а сталым байцом, узброеным вінтоўкай і на кані. Усё гэта было здабыта ў баях. Мне ўжо давялося панюхаць пораху, наслухацца посвісту куль, адчуць горкасць няўдач і радасць перамог. Але галоўнае было яшчэ наперадзе.

Сям'я мая к таму часу была ўся дома. Маці яшчэ лічыла мяне хлапчуком і назойліва патрабавала, каб выйшаў з атрада і здаў вінтоўку. Я, вядома, адмовіўся. Мяне падтрымалі дзед і бацька, узаконіўшы, такім чынам, за мной званне байца.



**Ф. Кузьменка ў час службы ў 7-й Самарскай дывізіі.** 1941 г.

У станіцы я сустрэў сваіх старых сяброў Пятра Антоненку і Алёшу Аляксеенку, якіх так не хапала мне ў час першых вандровак па жыцці. Вельмі абрадавала мяне сустрэча з Акой Іванавічам. Я ведаў, што ён быў камандзірам аднаго з атрадаў і ўдзельнічаў у гарачых сутычках з белымі. Да свайго першага настаўніка я і папрасіўся ў атрад. Ён адразу згадзіўся. Па старой дружбе мы паехалі з ім на маныцкія паплавы арканіць маладых коней для атрада.

Атрады Будзённага, байцом аднаго з якіх я стаў, займалі ў той час самаабарону, адбіваючы налёты белагвардзейцаў. Націск белых узрастаў, і нам прыйшлося пакінуць Платаўскую.

Бязлітасна пякло чэрвеньскае сонца. На небе — ні хмурынкі. Спякота. У садах наліваліся вішні. Спела збажына. І ўсё гэта, увесь плён цяжкай працы, трэба было зноў кідаць. Загад быў — адсту-

паць па чыгуначным палатне да Куберле.

Станіца кішэла, як мурашнік. Шмат фурманак з дзецьмі і хатнім скарбам пад аховай атрадаў Будзённага рушылі на ўсход. Па дарозе абозы бежанцаў абрасталі новымі фурманкамі. Калі падышлі да станцыі Куберле — іх было ўжо не менш пяці тысяч. А наперадзе чакала адно гора. Усялякае здаралася. І налёты белагвардзейцаў, і паніка, і голад, і хваробы, і немінучая смерць ад іх.

Спачатку і я ішоў разам з абозам бежанцаў, бо ў мяне засталася толькі вінтоўка, а каня, які закульгаў у дарозе, давялося кінуць. У Гашунах на нас наляцелі два самалёты белых і закідалі абоз гранатамі-«лімонкамі». Многія былі забіты. Плач жанчын і дзяцей раздзіраў душу. Я не вытрымаў больш бяздзейнасці і пайшоў туды, дзе нашы займалі абарону. Атрады былі зведзены ўжо ў палкі, і я трапіў у 3-ці сялянскі партызанскі полк. Колькі было радасці ад сустрэчы са сваімі землякамі і, у прыватнасці, з сябрам Антоненкам.

Партызанскія атрады станавіліся рэгулярнымі вайсковымі часцямі. З баямі яны прайшлі Зімоўнікі, Куцейнікава, Абганерава, Іванаўку. У змаганні мужнелі байцы-партызаны, а разам з імі дужэла і моладзь, набіралася арганізаванасці, дысцыпліны. З намі зліліся конныя атрады Жлобы, што прыйшлі з Каўказа. У атрады ўліваліся добраахвотнікі — кітайцы, венгры... З'явіліся людзі ў бесказырках і бушлатах — матросы. Рабочыя з цэнтра ўсё часцей прысылалі нам зброю, патроны. У нашым батальёне, якім камандаваў мой зямляк Галапятка, было ўжо некалькі кулямётаў. У разлік аднаго з іх уваходзілі Пятро Антоненка — першым нумарам і я — другім.

### Мы становімся кулямётчыкамі

Ля вёскі Іванаўкі прыйшлося заняць абарону. Былі лютыя маразы. Адзежа ледзь ліпела, ды і харчы скончыліся. Пры адступленні не надта пажывішся і за кошт праціўніка.

З раніцы да ночы капалі акопы. Мёрзлую зямлю не брала ні рыдлёўка, ні матыга, ні кірка. А тут яшчэ вецер смаліць — вакол жа стэп, ні лесу, ні іншай якой заслоны. Усе працавалі, не зважаючы на вецер, на сцюжу, бо ведалі, што наперадзе — гарачыя баі і да іх трэба быць гатовымі.

Я капаў акоп на стыку пятай і трэцяй рот. Стык — гэта самае небяспечнае месца пры абароне. Сюды прызначаюць самых вопытных. І хоць я і мой сябар Пятро Антоненка былі яшчэ маладымі па ўзросту байцамі, але нас лічылі ўжо абстралянымі. У нас у руках быў «Максім», нам і даручылі абараняцца на стыку.

Праціўнік спрабаваў прарваць нашу абарону ўночы. Дазорныя папярэдзілі аб набліжэнні варожай конніцы, і, калі тая сунулася на нашы пазіцыі, мы адбілі яе наступ дружнай чаргой.

На світанні праціўнік зноў пачаў атаку, наступаючы з поўдня. Патронаў у нас было мала. Камандзір батальёна Галапятка прабег па лініі акопаў і папярэдзіў, каб білі ворага прыцэльна, падпускаючы як мага бліжэй. «Лепшая мішэнь — конь. Біць па конях, а казак без каня — не ваяка», — тлумачыў ён.

І вось мы залеглі за кулямёт. Антоненка першым нумарам, я — другім. Казакі — іх было каля паўтысячы — скакалі з правага і левага бакоў. Яны былі ў бурках і кубанках.

Вось ужо бачны іх скрыўленыя крыкам твары. Вось бліснулі клінкі. Пяцьдзесят метраў, трыццаць, дваццаць пяць... Камандзір узвода Озераў камандуе:

— Агонь!

Тра... та... та... та!.. Кулямёт працаваў роўна. Антоненка вадзіў руляй па небасхіле і, як прызнаўся потым, нічога не бачыў, акрамя суцэльнай чорнай сцяны. Я наогул нічога не бачыў, бо ледзь упраўляўся падаваць ленту з патронамі. Адна думка была ў галаве — каб не заела, бо хто і калі наладзіць кулямёт?



У час кароткай перадышкі камандзір узвода радасна заўважыў, што і моладзь не падводзіць. Мы пачалі старацца яшчэ больш. У часе другой атакі я ўжо сам бачыў, як кулі касілі казакоў — валіліся коні, ляцелі вобзем коннікі. Казацкая хваля закалыхалася, збочыла і неяк адразу хлынула назад.

Была сарвана і другая атака.

Байцы ўзвода, — а гэта былі галоўным чынам мужчыны сталага ўзросту, удзельнікі першай сусветнай вайны, — дасціпнічалі ў наш адрас:

— Здорава ты іх брыў, Антоненка!.. Нібы той цырульнік.

— Я даўно да іх прыглядаўся, — басіў другі мужчына, — адважныя хлопцы. Вось у нас на германскай быў адзін такі...

— Хопіць табе, заткніся, — перапыніў яго сусед, — зноў завядзеш на гадзіну. Вунь казакі ідуць.

На гэты раз замест Антоненкі за кулямёт лёг я. Пятро ў гарачыні бою не заўважыў, як куля абдзёрла яго левае плячо, і цяпер яму стала балець уся рука. Я ж, узрадаваны поспехам першага бою, пахвалой камандзіра і таварышаў, адчуваў сябе ўпэўнена і спакойна.

І вось зноў усё паўтарылася. Озераў ляжаў недалёка ад нас, каб накіроўваць агонь нашага кулямёта на самыя небяспечныя месцы. Астатнія кулямётчыкі спраўляліся і без камандзіра. Гэта была нейкая мясарубка. Наша рота таксама мела страты. У другі раз раніла Антоненку, але ён не пакінуў нас. Бой ішоў не на жыццё, а на смерць.

Пасля дзявятай няўдалай атакі белыя пайшлі на хітрыкі. Яны, як і раней, атакавалі з фронту, але асноўнымі сіламі пачалі абыходны манеўр на флангі, каб заціснуць нас абцугамі, стварыць уяўленне акружэння і пасеяць сярод партызан паніку. Але так не здарылася. І дзесятая атака была адбіта.

Боепрыпасы ў нас канчаліся. Людзі стаміліся. Камандаванне загадала адысці. Адышлі кіламетра паўтара і зноў занялі абарону. З тыла прыйшло падмацаванне. Усе здзівіліся, калі ўбачылі кітайцаў. Іх было каля роты. Суседні полк таксама папоўніўся кітайцамі. Камандзіры растлумачылі, што гэта добраахвотнікі, якія пажадалі са зброяй у руках абараняць першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Кітайцы, хоць і былі апрануты і абуты ва ўсё новенькае, але мерзлі, білі даланёй аб далоню, падскоквалі, прытупвалі нагамі. І толькі ў баі яны забываліся пра мароз, пра вецер — гарачая сутычка з ворагам разагравала так, што аж пот выступаў на тварах.

Тое, што на абарону нашай краіны станавіліся кітайцы, венгры, чэхі, узнімала дух байцоў на новы адпор ворагу, які не сунімаўся.

На гэты раз белыя не раскідалі свае сілы. Яны ўдарылі па левым фланзе чацвёртага палка і тут прарвалі нашу абарону. У прарыў хлынула лавінай конніца. Камандзір палка Тытко ўзняўся на ўвесь рост і павёў за сабой байцоў у контратаку. Спыніць чырвоных байцоў ворагу не ўдалося. Прарыў быў ліквідаваны. У баі быў смяротна паранены Тытко.

У самы гарачы момант бою скончыліся патроны ў кулямётчыкаў. Я яшчэ раней заўважыў, што непадалёку ад пазіцыі з каня зваліўся казак. Конь, страціўшы седака, далей не пабег; ён стаяў ля свайго нежывога гаспадара. Я падбег да каня, ускочыў у сядло і паскакаў у сваю роту. Атрымаўшы загад Галапяткі, паімчаўся ў абоз за патронамі. Казацкі конь нёсся, бы на крылах. Хутка я вярнуўся назад, трымаючы ў руках па скрынцы з патронамі.

За гэты час нашы байцы разам з кітайцамі адбілі яшчэ некалькі белагвардзейскіх атак. Калі надышоў невялікі перапынак, мы ад-



М. Грэкаў. Атрад Будзённага ў пешым страі адбівае атаку праціўніка.

ступілі на станцыю Сарэпта, а потым на Бекетаўку. З баямі ўсё бліжэй падыходзілі да Царыцына, дзе збіраліся сілы для рашучага ўдару па ворагу.

На начлег размясціліся ў Бекетаўцы паўзводна. Заснулі адразу моцным сном стомленых салдат. Не спалі толькі вартавыя, дазорныя і днявальныя каля кулямётаў. Ноччу разбудзілі мяне на змену. Тады я ўжо быў першым нумарам, замяніў Пятра Антоненку.

Лёг за кулямёт, праверыў яго гатоўнасць да бою. Вакол цемра. Толькі на небе ярка гарэлі зоркі. Ціха, марозна. Беспярастанку шморгае ад прастуды носам Такарэнка, другі нумар нашага разліку. Гэта быў храбры баец, добры таварыш, пісьменны. У той час пісьменных лічылі па пальцах. Байцы асабліва любілі яго як агітатара: ён рэгулярна праводзіў палітгутаркі, уголас чытаў газеты, тлумачыў загады. Тут, на варце, ён расказаў мне пра цяжкае становішча ў краіне, пра тое, як увесь рабочы клас і працоўнае сялянства ўзняліся на абарону маладой Савецкай рэспублікі.

Пачало віднець. Я ўгледзеўся ў парадзелую ранішнюю смугу, і мне здалося, што яна калышацца, як мора ў непагадзь. Узнікне грэбень, за ім другі, трэці... Я працёр вочы, угледзеўся пільней і, нарэшце, зразумеў: гэта крадуцца казакі. Дазорныя нашы, мусіць, заснулі.

— Ідзі, будзі людзей,— сказаў я Такарэнку, а сам прыхіліўся да кулямёта.

— Пакуль я дабягу, дык будзе позна,— трывожна адказаў ён.

І мы парашылі абвясціць пра небяспеку стрэламі. Ранішнюю цішыню парушыла кулямётная чарга. Пачалі страляць іншыя кулямёты. Паветра ўраз запоўнілася шумам бою. Пачулі стральбу і дазорныя. Яны, сапраўды, былі заснулі, але, зразумеўшы свой промах, пачалі страляць па белагвардзейцах з тылу. Для белых стварылася небяспека агнявога мяшка. Гэта перапалохала іх не на жарт. Неўзабаве падышоў наш бранепоезд і таксама адкрыў агонь. Мяшок зацягваўся ўсё тужэй. Белыя не вытрымалі і пабеглі да Волгі. Тут іх атакавалі нашы асноўныя сілы і прыціснулі да



ракі. Многія здаліся ў палон, але яшчэ больш было забіта. Хітрыкі ворага, каб застаць нас знянацку, праваліліся.

### Як мы авалодалі гарматай

Неўзабаве пасля баёў каля Бекетаўкі зваліў мяне тыфус. Некалькі месяцаў праваляўся ў царыцынскім шпіталі, а як толькі крыху ачуняў, паехаў шукаць сваіх. Яны вялі наступленне на Вялікакняжацкую. Даехаў да Двайной, адтуль пайшоў пешшу.

Па дарозе сустрэў бацьку, ён адвозіў з фронта раненых. Шмат непрыемных вестак пачуў я ад бацькі — дзеда забілі белагвардзейцы, памёрла двое маіх малодшых братоў. Пасля такіх вестак хацелася аднаго — хутчэй у бой, каб помсціць ворагу.

Ішоў па шпалах, азіраючыся вакол. Стэп маўчаў нейкай нуднай цішынёй. Паўз акопы сноўдалі людзі ў шынялях.

— Гэй ты, чаго швэндаешся? — пыталіся ў мяне з акопаў.

Я збег з насыпу ўніз.

— Ды гэта ж Федзя! — пачуў я знаёмы голас. У акопе былі свае: Пятро Дуднік, Сяргей Астапец, Озераў, Нясмачны. Асабліва ўзрадаваўся камандзір кулямётнага аддзялення Нясмачны.

— Федзя, родны, паправіўся, значыць!..

— Ды вось, як бачыце.

— Добра, якраз у пару. Рыхтуемся ж да бою.

— А дзе Пятро Антоненка?— запытаўся я пра свайго сябра.

— Тачанку ладкуе. Паедзеш з ім у бой?

— Абавязкова. Хто трэці?

— Дуднік.

Такі склад тачанкі мне спадабаўся. Я атрымаў патроны, гранаты. Даволі багата. Адчувалася, што ёсць запас. Толькі рушылі байцы наперад, як прыскакаў на тачанцы Пятро.

— Здарова, сябрук! — радасна вітаў ён мяне. Абдымацца надта не было часу. Я і Дуднік ускочылі на тачанку, рудыя коні рванулі з месца. З-пад колаў толькі гразь паляцела.

Мы так імчаліся, што не чулі ні гучнага «ўра» пяхоты, ні артылерыйскай кананады, ні варожых стрэлаў. У лагчыне спыніліся, і наш кулямёт з тачанкі застрачыў па акопах праціўніка. Тым часам падышла пяхота. Якіх-небудзь трыццаць метраў аддзялялі нас ад праціўніка, калі пранеслася дружнае «ўра!» Белагвардзейцы не вы-



М. Грэкаў. Тачанка (выезд на пазіцыі).



**Я. Зайцаў. Вечар.** З албанскіх эцюдаў.



М. Манасзон. Раніца на трактарным.



**А. Волкаў. Дзіцячы сад на прагулцы.**



**Я. Зайцаў. Пасёлак рыбакоў.** З албанскіх эцюдаў.

трымалі, пачалі адступаць да затокі. Завязаўся рукапашны бой.

Вакол нас усё кіпела. Рашучыя дзеянні пехацінцаў вымусілі белагвардзейцаў здацца. З чароту выходзілі людзі ў гімнасцёрках чужаземнага крою, падняўшы ўгару вінтоўкі. Іншыя спрабавалі пераплысці праз раку, але мы даганялі іх кулямётнай чаргой.

Зноў настала цішыня. Байцы аглядалі зброю, бінтавалі раны. Я з Антоненкам заняліся кулямётам. Папалуднаваўшы, закурылі. Гутарылі пра рознае, а больш за ўсё пра самае блізкае ў той час — пра зямлю, пра новае жыццё без буржуяў. Байцы жартавалі, смяяліся—нібы вайна ўжо скончылася і наперадзе не чакаў іх бой, дзе кожны мог скласці галаву.

Раптам дазорныя абвясцілі, што з боку Шаблієўкі набліжаецца бранапоезд белых. Састаў быў невялікі — пляцоўка наперадзе, бранапоезд і яшчэ пляцоўка. На пярэдняй пляцоўцы высоўваўся ствол гарматы. Белыя, мусіць, хацелі ўдарыць па флангах нашых палкоў, якія размясціліся абапал чыгункі.

— Падрыхтавацца! — скамандаваў камандзір нашай роты, якая знаходзілася на правым флангзе.

Бранапоезд паволі прайшоў па мосце праз р. Маныч, спыніўся і рушыў назад — мусіць было пашкоджана чыгуначнае палатно. Я заўважыў, што пярэдняя пляцоўка схілілася на бок — значыць, сышла з рэек. Колькі ні намагаўся бранапоезд усцягнуць яе на рэйкі, — нічога не выйшла. Тады выскачыў машыніст з белым сцягам. Я хапіўся за гашэтку кулямёта і хацеў быў адкрыць агонь.

— Не страляць! Ён здаецца, — пачуўся вокліч камандзіра.

Але ж машыніст схітраваў. Ён прайшоў да пляцоўкі, адчапіў яе і хуценька ўскочыў у бранапоезд, які адразу дыхнуў парай і шпарка пайшоў назад.

— Эх, выпусцілі, чэрці, — крыкнуў я ў роспачы, што не дазволілі страляць.

— За мной! — скамандаваў у гэты час Антоненка. Мы ўдваіх падбеглі да палатна і папаўзлі ў бок пляцоўкі. Калі да яе засталося некалькі метраў, Антоненка шпурнуў гранату. Другую кідаць не давялося, бо мы пачулі некалькі пісталетных стрэлаў на пляцоўцы. Мы з Пятром узабраліся туды. Прыслуга гарматы была мёртвая.

Так мы сталі гаспадарамі бранепляцоўкі. Павярнулі гармату ў бок ворага і тузанулі за спуск. Наўздагон прагрымеў стрэл. Успомнілі, як працуюць артылерысты. Наводку рабілі па ствале. Зрабілі яшчэ некалькі стрэлаў. Захапіўшыся новай справай, мы не чулі, што знізу нехта крычаў.

— Чаго крычыш? — спытаўся Антоненка ў чалавека, які стаяў ля насыпу і не мог узабрацца на яго, бо быў ранены ў нагу.

— Вы хто такія? — запытаўся незнаёмы.

— А ты хто?

— Я — камандзір артдывізіёна.

— А мы кулямётчыкі з трэцяй роты.

— Я ж думаў, што вы артылерысты. Тады — малайцы, хлопцы. Добра стралялі. Мусіць, служылі ў артылерыі?

— Ніколі.

— А хочаце?

Мы пераглянуліся з Пятром.

— Хадзем са мной. Сапраўднымі артылерыстамі станеце. Дам вам зброю. Га?

— А вы б у кулямётчыкі пайшлі? — Антоненка ўспомніў пра субардынацыю і загаварыў на вы.

— Што вы, хлопцы, смеяцёся з старога, ці што? Я ж — кадравы артылерыст.

— А мы — кадравыя кулямётчыкі.

— Ну, як хочаце... — сказаў артылерыйскі камандзір і пайшоў сваёй дарогай.

Наша кулямётная рота адразу пабагацела. Мы займелі яшчэ два «Максімы».

Камбат Галапятка пахваліў нас перад строем за здабычу і храбрасць, але адразу дадаў:

— Калі другі раз адлучыцеся з роты ў час бою самачынна, без загаду, — пакараю. Храбрасць — добрая рэч, але ж павінна быць і дысцыпліна.



### Сустрэчы з палкаводцамі

Мы з Пятром даўно ўжо марылі перайсці з партызанскага палка ў кавалерыйскі. Пасля паспяховых баёў на Чапраку мы дасталі коней і самачынна (цяпер у гэтым можна прызнацца) паскакалі ў полк, якім камандаваў Ака Іванавіч Гарадавікоў. Там нас накіравалі ў эскадрон Марозава.

Аднак з першага ж бою мне не пашанцавала. Мы наступалі на станіцу Грабеўскую. Сілы белых былі слаба разведаны, і нам прыйшлося, не разгарнуўшы наступлення, адысці. Пры адступленні пада мной забіла каня. І не абмінуць бы мне смерці, ды выручыла вайсковая таварыскасць. Ка мне падскочыў баец Салдаткаў, я на хаду ўхапіўся за хвост яго каня, ускочыў, і так удваіх на адным кані мы кіламетры чатыры ўцякалі ад праследвальнікаў. Можа гэтае выпрабаванне і першая няўдача, якую я вельмі перажываў, з'явіліся добрым падмуркам далейшых поспехаў, якія спадарожнічалі ў наступных баях.

Белагвардзейцы прыціскалі нас да Царыцына, спрабуючы ўвесь час адарваць нашу дывізію ад чыгуначнага палатна. Сутычкі, баі, паходы адбываліся няспынна. Некаторыя з іх засталіся ў памяці і сёння.

Наша дывізія адступала. Цэлы дзень — у сядле, нават не было часу, каб накарміць і напаіць коней. Галодныя былі і байцы. Пасля бою недзе паміж Камышынам і Царыцынам, у якім нам давялося ўзяць верх над праціўнікам, байцы і коні валіліся ад стомленасці. Калі я вярнуўся з разведкі, дык убачыў такі малюнак.

...Покатам спяць байцы з прывязанымі да нагі ці рукі коньмі. Ад аднаго байца да другога ходзіць Ака Іванавіч Гарадавікоў з ад'ютантам — каму папраўіць нязручна адкінутую галаву, каму каўнер гімнасцёркі расшпіліць, каму дасць напіцца са сваёй біклажкі. Адначасова і да коней прыглядаўся. У каго конь быў не рассядланы — будзіў:



А. І. Гарадавікоў.

— Трэба рассядлаць... Хай конь адпачне як след, каб не падвёў у баі...

— Спаць хочацца... — прасіўся, не расплюшчваючы вачэй, баец.

— Выспімся пасля перамогі, а яна — хутка... — падбадзёрваў Гарадавікоў і дамагаўся свайго.

Ака Іванавіч быў апрануты ў форму, якая мала чым адрознівалася ад адзення радавых байцоў. Хадзіў у гімнасцёрцы без знакаў адрознення, але яго добра ведалі ўсе байцы і ён ведаў усіх коннікаў па імені ці прозвішчу. Невысокі, жвавы і вельмі рухавы, ён біўся заўсёды, як легендарны герой. Такім адважным, клапатлівым і простым у абыходжанні з падначале-

нымі і ў той жа час патрабавальным запомніўся мне Ака Іванавіч, калі ён быў камандзірам нашай 4-й кавалерыйскай дывізіі.

Мне даводзілася шмат разоў выконваць яго асабістыя загады.

— Федзя, вось такое заданне, — загадаў аднойчы Гарадавікоў. — Трэба ўручыць пакет «алюр тры крыжы» начальніку атрада Апанасенку. Конь зваліцца, бяры другога. Няма каня — пешкі ідзі, але каб пакет уручыць і адказ прывезці.

У будзёнаўцаў адсутнічаў выраз «не магу».. Выслухаўшы загад, я памчаўся. Конь быў добры, і вёрсты адна за другой заставаліся ззаду. Раптам на дарозе завала — упоперак ляжыць паваленая вялізная сасна. Мне здалося, што гэта было зроблена наўмысна. Як потым высветлілася, каля завалы сядзелі варожыя разведчыкі і пільнавалі «языка». Варта было спыніцца, як не мінуў бы палону. Але я неяк інстынктыўна скеміў, яшчэ мацней разагнаў каня і перанёсся праз завалу. Стрэлы наўздагон спазніліся. Апанасенку я знайшоў каля ветрака. Гэта было кіламетраў за трыццаць ад размяшчэння нашай дывізіі.

Камандзір атрада глядзеў у даль, нібы каго чакаючы. Здалёк ён быў падобен на вялізную птушку, што прыгатавалася да лёту.

— Ты не ад Гарадавікова?

— А ты не Апанасенка? — пытаннем на пытанне адказаў я, забыўшыся на субардынацыю.

— Так, я — Апанасенка.

— Вось вам пакет.

Апанасенка пры мне прачытаў пакет, адразу павесялеў, нешта хуценька напісаў, паклаў у той самы канверт і сказаў:

— Можаш прачытаць.

— А я чытаць не ўмею.

— Ну нічога. Пасля вайны навучышся.

І мы рассталіся.

Зноў сустрэўся з Апанасенкам я ўжо ў трыццатыя гады. Тады ён быў камандзірам нашай 4-й кавалерыйскай дывізіі, а я застаўся служыць звыштэрмінова. Памятаю, прыехаў аднойчы да нас у полк Сямён Міхайлавіч Будзённы. Суправаджаў яго Апанасенка. Я займаўся з маладымі коннікамі. Будзённы адразу пазнаў мяне і запытаўся:

— Ну, як, зямляк, справы?

— Справы добрыя. Ды вось просьбу маю.

— Якую? — уступіў у гутарку Апанасенка.

— Вучыцца хачу... пашліце на курсы.

— А хто ж моладзь будзе рыхтаваць? — запратэставаў Апанасенка. — Не, не адпушчу.

Будзённы хацеў нешта запярэчыць, але я апярэдзіў і напомніў Апанасенку пра тую размову ля ветрака.

— Дык гэта ты быў тады? — спытаўся здзіўлены Апанасенка.

І мне давялося пацвердзіць свае словы рэчавым доказам. Калі Гарадавікоў прачытаў адказ Апанасенкі, дык вярнуў мне тады паперку і сказаў: «Вазьмі на памяць». А ў паперцы той было напісана размашыстай рукой Апанасенкі: «Ока, всадим кинжалы врагу в бока». Так дамовіліся яны тады пра ўзаемадзеянне, якое забяспечыла поспех нашага рашаючага наступлення.

Гэта запіска і памагла мне цяпер. Апанасенка згадзіўся накіраваць мяне на вучобу.

* * *

Клімента Яфрэмавіча Варашылава я запомніў яшчэ з таго часу, калі ён прыязджаў да нас на станцыю Рамонтная пад Царыцынам. Блізка ўбачыў я Варашылава ўпершыню пазней, калі Першая Конармія рабіла паход з Калача на Варонеж. Наша чацвёртая дывізія ішла за шостай, а наш полк ішоў у галаве калоны. У раёне Багучар нас нагнаў варожы самалёт. Хтосьці хацеў быў стрэліць з вінтоўкі па самалёце.

— Не страляць! — пачуўся загад. — Вітаць лётчыка шапкамі. Хай садзіцца.

І сапраўды, лётчык прыняў, мусіць, нашы войскі за сваіх і пайшоў на пасадку. Наш эскадрон па камандзе Марозава першым кінуўся да самалёта, за намі — яшчэ чалавек дзвесце, а мо' і трыста.



Падскакалі. Лётчык ужо выключыў матор і прывітальна махаў нам рукой. Мы з ходу абкружылі самалёт.

— Дзякуй богу, што не да чырвоных трапіў, — сказаў лётчык і, перахрысціўшыся, дадаў: — збіўся з курсу, а тут гаручае канчаецца.

Замест тлумачэння адзін з камандзіраў узвода ўзабраўся на крыло самалёта і наставіў пісталет да скроні лётчыка. Тым часам мы ўчапіліся за самалёт, каб на ўсякі выпадак не даць яму ўзляцець. Але ашаломлены лётчык не супраціўляўся. Яго раззброілі і выцягнулі з самалёта.

Неўзабаве на адкрытай машыне пад'ехаў Варашылаў. Ён павіншаваў нас з захопам важнага «языка». Лётчык меў даручэнне даставіць пісьмо ад Шкуро да Мамантава, у якім былі каштоўныя звесткі.

* * *

К. Я. Варашылаў, С. М. Будзённы, А. І. Гарадавікоў, як і дзесяткі другіх палкаводцаў таго часу, заўсёды былі сярод байцоў на самых небяспечных участках фронта і сваім асабістым прыкладам натхнялі воінаў на бясстрашныя подзвігі.

Неяк рабілі мы цяжкі марш у моцны мароз па глыбокім снезе. Прайшлі Казюрын, Шубурлук, Платаўскую, Вялікакняжацкую, а вечарам увайшлі ў Тарговую, за якую каторы дзень ужо ішлі баі. Колькі ні стараліся белыя заняць хоць бы палавіну станіцы — нічога не выходзіла. Калі наш полк расквартараваўся ў Тарговай, мяне прызначылі дазорным. Было вельмі марозна. З вінтоўкай у руках я скакаў на месцы, як падсмалены, каб не адмарозіць ногі. Раптам ужо за поўнач убачыў двух коннікаў, якія скакалі з размяшчэння суседняга палка. Свяціў месяц, і я на даволі далёкай адлегласці пазнаў, што першым ехаў Варашылаў, а за ім — Будзённы.

Клімент Яфрэмавіч прыпыніўся і запытаў:

— Якога палка? Прозвішча?

— Дваццатага, таварыш Варашылаў. Прозвішча — Кузьменка.

— Таварыш Кузьменка, пакліч камандзіра палка.

Я выклікаў. У той час палком камандаваў Ганчароў.

— Наш загад вам, — пачаў Варашылаў, — трымацца і не здаваць белым зімовых кватэр. Гэта цяпер — галоўнае.

І паскакаў на другі край станіцы, Будзённы — за ім. Насустрач паказаўся атрад белых казакоў. Раздаліся стрэлы. Эскадрон Марозава, які быў у баявой гатоўнасці, рынуўся наперарэз ворагу. Наперадзе эскадрона апынуліся Варашылаў і Будзённы. Дружнае, гучнае «ўра» конармейцаў збянтэжыла казакоў. Яны паспрабавалі павярнуць назад, але ўжо было позна — будзёнаўцы пачалі крышыць белых. Я ўпершыню асабіста бачыў тады Будзённага ў баі, ва ўсім, як кажуць, баявым запале. Гэта быў, сапраўды, майстар, які ведаў моц сваёй рукі.

Толькі нямногім белагвардзейцам удалося ўцячы. У гэтым маланкавым баі я сцягнуў з каня аднаго казака і ўзяў яго ў палон. Варашылаў загадаў весці палоннага ў хату і дапытаць. Але ад холаду і страху перад смерцю палонны не мог сказаць ні слова, ды яшчэ і п'яны быў.

— Няхай праспіцца, — сказаў Будзённы. — Потым дапытаеце. Нам няма куды спяшацца. Мы ж у цяпле, а белякі хай памерзнуць.

* * *

Баі з белапалякамі Першая Конная Армія вяла ў вельмі цяжкіх умовах. Пілсудчыкі сцягнулі ўсе свае рэзервы. Нам загад быў — стаяць на смерць, ні кроку назад.

У адным з баёў быў забіты камандзір дывізіі Літуноў. Камдывам прызначылі Сямёна Канстанцінавіча Цімашэнку. Мы ведалі ўжо яго як бясстрашнага байца,



**М. І. Калінін уручае сцяг Першай Коннай Арміі. Побач з М. І. Калініным стаіць А. І. Мікаян** (справа). **Сцяг прымае С. М. Будзённы** (злева на кані). Май. 1922 г.

а цяпер даведаліся пра камандзірскія здольнасці. Цімашэнка любіў дакладнасць і акуратнасць. Нават у баявой абстаноўцы патрабаваў, каб будзёнавец быў заўсёды падцягнуты, дысцыплінаваны, не вешаў носу.

Наш полк неяк трапіў у акружэнне каля Берасцечка. Вораг насядаў з усіх бакоў, спрабуючы знішчыць нас. Адбіваючы адну атаку за другой, конармейцы вельмі стаміліся. Наш узвод займаў вельмі зручную абарону на ўзвышшы каля лесу. За ўвесь дзень баёў мы не адступілі ні кроку. Суседзі ж не вытрымалі і такім чынам стварылі пагрозу акружэння нашага ўзвода. Камандзір узвода прыняў ужо рашэнне адыходзіць, як мы пачулі стрэлы, крыкі «ўра» і ўбачылі коннікаў. У кароткай, але гарачай схватцы праціўнік быў вымушан адступіць. Нашы суседзі зноў занялі свае пазіцыі. Як мы даведаліся пазней, гэта Сямён Канстанцінавіч Цімашэнка разам з камандзірам палка ўзначалілі дзве групы будзёнаўцаў, контратакавалі і адагналі пілсудчыкаў.

Ацаніўшы крытычную абстаноўку, што стварылася тады на нашым участку фронта, С. К. Цімашэнка вырашыў падаслаць на выручку полк з свайго рэзерва. Калі камандзір нашага палка даведаўся пра гэта, ён сфарміраваў дзве ўдарныя кавалерыйскія групы па 20—25 байцоў і арганізаваў прарыў усяго акружэння. Адну з гэтых груп было загадана ўзначаліць мне. Мы сабраліся ў вёсцы, бліжэй да пазіцый, дзе стаялі варожыя кулямёты. Сігнал «атака», і мы веерам рынуліся проста на кулямёты. Наша атака была такой нечаканай, што пілсудчыкі не ўстаялі. Спачатку яны пачалі моцны кулямётны агонь, але потым убачылі грозную лавіну аголеных клінкоў чырвонай конніцы, якая бясстрашна набліжалася, — і разбегліся хто куды.



Прачэсваючы хмызняк, мы нечакана для саміх сябе апынуліся на яго процілеглай ускраіне. Сюды ішла вялікая калона варожай пяхоты — падмацаванне для новай атакі. Пехацінцы, упэўненыя, што хмызняк заняты сваімі войскамі, ішлі паходным маршам. Раздумваць не было часу, і мы з ходу пад дружнае «ўра» ўварваліся ў калону і збянтэжылі праціўніка. У гэты час падышоў запасны полк конніцы, і мы агульнымі намаганнямі вымусілі пілсудчыкаў здацца, узяўшы ў палон некалькі тысяч пяхоты.

За паспяхова праведзены прарыў акружэння вялікая група конармейцаў была ўзнагароджана тады ордэнам Чырвонага Сцяга. Сярод узнагароджаных пад нумарам 8545 быў і я. Ордэн мне ўручыў С. К. Цімашэнка.

## Таварыская ўзаемавыручка

Высокую павагу, чулыя адносіны да чалавека выхоўвалі ў конармейцаў яе слаўныя палкаводцы. Быў у нашым узводзе баец Апанас Дзеравянка. Дарэчы, ён і цяпер жыве на радзіме — у Будзёнаўцы. Баец быў, як і ўсе, толькі вельмі набожны. Бывала, перш чым у бой пайсці, малітву пашэпча — «уратуй і зберажы, божа, раба свайго Апанасія ад кулі і шаблі». З бою выйдзем, зноў шэпча: «Дзякуй табе, божа, што пачуў малітву і не аддаў мяне ў лапы смерці, збярог ад ран і кантузіі».

Дзеравянка быў не благі рубака і сам адправіў на той свет не аднаго белагвардзейца. Ад яго шаблі не ўратавала малітва нікога. Мы часта пыталіся, чаму ён, так храбра змагаючыся за рэвалюцыю, верыць у бога? Даводзілі, што бога няма, што яго выдумала буржуазная гідра, каб адурманьваць і заняволіць працоўнага чалавека. Апанас нам гаварыў адно:

— Ёсць бог ці не — я не ведаю і вы не ведаеце. Але ж я веру скарыстоўваю не супраць рэвалюцыі, а для перамогі над капіталам. І адчапіцеся ад мяне.

Можа б мы і не зважалі на гэта, хай сабе моліцца на здароўе, але пачалі прыкмячаць, што Дзеравянка так упэўніўся ў сваю недатыкальнасць, што надзеі ўсе ў баі больш ускладаў на бога, чым на зброю.

Пасля паспяховага наступлення на Таргowую ў люты мароз мы мелі крыху часу для адпачынку. Усе конармейцы, як заўсёды, паклапаціліся спачатку пра коней, пра зброю, а потым ужо ляглі спаць. Апанас жа даў корм каню і адразу кінуўся спаць, прамармытаўшы сваё «бог дасць, не загінем».

Здарылася так, што на світанні полк зноў пачаў праследаваць праціўніка ў стэпе. Наш узвод атрымаў самастойную задачу — весці разведку на фланзе палка і захапіць, калі надарыцца, палоннага. Ішлі шчыльным конным строем. Неўзабаве заўважылі ўзвод коннікаў, які ехаў таксама шчыльна. Гэта былі белыя.

Камандзір узвода Озераў вырашыў крыху абагнаць іх і нечакана атакаваць. Пакуль па радах пранеслася ціхае папярэджанне: «Шчыльней! Шчыльней!» — праціўнік скеміў, што сустрэўся з будзёнаўцамі, і рынуўся ў атаку. Белыя, мусіць, разлічвалі нечаканасцю пабунтаваць нашы рады, але мы прынялі бой.

Сутычка была кароткая, гарачая. Адзін бяляк нёсся проста на Дзеравянку. Апанас схапіўся за клінок, але той прымёрз да ножнаў, узяўся за вінтоўку, ды і тая асеклася. Варта было разгубіцца Апанасу — і ён загінуў бы. Але не такі Дзеравянка — ён узабіў каня і такім чынам выбіў казака з сядла. Усё было б добра, ды падаспеў другі казак. Дзеравянка не паспеў абараніцца і з крыкам ад болю зваліўся з каня. Першы казак паспеў зноў сесці ў сядло і ўцячы. Другога казака скасіла куля. Але падвярнуўся казацкі афіцэр.

Озераў скіраваў свайго каня

проста на афіцэрскага буланага жарабца і паспеў ударыць седака шабляй па плячы. Афіцэр зваліўся ў снег. Белагвардзейцы кінуліся на выручку, але спазніліся. Антоненка саскочыў з каня, узваліў афіцэра да мяне на сядло, і мы памчаліся ў Горкую Балку.

— А як жа з Апанасам? — было першае маё пытанне, калі мы прыскакалі да сваіх.

— Застаўся там... Трэба ехаць на санях. Без іх — дрэнь справа.

Я вельмі паважаў Дзеравянку і парашыў, чаго б тое ні каштавала, выратаваць таварыша. Праўда, гэта было звязана з рызыкай, але і рызыка ўваходзіла ў наш абавязак. Не раздумваючы, заскочыў я ў першую ж хату, загадаў гаспадару запрагаць сані паркай, а ў гаспадыні папрасіў кажух, два ручнікі, валёнкі, падушку.

І вось праз некалькі хвілін я ўжо нёсся на пошукі раненага таварыша. Вечарэла. Пачалася завіруха — больш за пяцьдзесят метраў нічога не відаць было. Бездараж страшэнная — санкі, бы на хвалях, то падляталі ўгару, то правальваліся на снегавых ухабах.

Дакладна месца бою не запомнілася. Я ведаў толькі кірунак і прыблізна — адлегласць. Арыенціраў — ніякіх. Пільна ўзіраюся наперад і па баках, услухоўваюся ў завыванне мяцеліцы.

Нарэшце — ледзь чутны чалавечы стогн. Кінуўся па гуку — натыкнуўся на белага, які канаў. Потым яшчэ стогн, вокліч. Гэта быў Дзеравянка. Снег ужо амаль замёў яго, і ён пачынаў замярзаць. Марудзіць нельга было. Я разадраў штаніну на Апанасавай назе, абматаў рану ручніком, садраў боты і надзеў валёнкі, захінуў таварыша ў кажух. Апанас крычаў ад болю, лаяўся, але звяртаць на гэта ўвагі не было часу. Каб ранены не вылецеў з саней, прывязаў яго вяроўкай і павёз у станіцу Паўлаўскую, дзе была бальніца...

Калі Дзеравянка паздаравеў, мы прыгадалі яго словы — «бог дасць, не загінем». Ён сумеўся і прызнаўся шчыра.

— Але, на бога спадзявайся, ды і сам не спі.

— Лепш усё ж спадзявацца на свае сілы... — сказалі мы яму.

— Гэта праўда, — згадзіўся Апанас і адразу дадаў: — Але трэба спадзявацца і на сваіх сяброў.

* * *

Часам у мяне пытаюцца — дзе ж сакрэт таго, што маладая Чырвоная Армія ў гады гаспадарчай разрухі і шалёных варожых атак усё ж выстаяла? Адказ толькі адзін. У гады грамадзянскай вайны для нас, чырвонаармейцаў, слова бальшавіцкай партыі было законам, заклікі партыі Леніна былі загадам, і мы іх выконвалі, бо верылі ў перамогу вялікай справы рэвалюцыі.

І яна перамагла. У мяне, шасцідзесяцігадовага чалавека, сэрца радуецца за гераічны шлях, што прайшоў пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі наш славуты савецкі народ, дасягнуўшы цяпер небывалага росквіту сваёй Радзімы, за якую так самааддана змагаліся яе лепшыя сыны.

Літаратурны запіс
**М. ВІНАГОРАВА.**

**Сяргей АНІСАЎ**

# У БУРНЫМ ПРАДВЕСНІ

## Запіскі былога падпольшчыка

Каця, хоць спачатку і нясмела бралася за работу ў нас, цяпер старанна выконвала абавязкі нашай сувязной, дапамагала ў выданні і адпраўцы ў акрузе нелегальнай літаратуры. Яна самастойна падбірала кур'ераў, адпраўляла іх з літаратурай, з нашымі пісьмамі на месцы.

— Цяпер я спяшаюся, — дастаючы з пудраніцы маленькія лісткі-бібулкі, сказала яна. На паперках былі нейкія іерогліфы, вядомыя толькі ёй адной.

Я не ўтаіў свайго захаплення і пахваліў за гэта Кацю.

— Не за гэтым я да вас прыйшла, — коратка кінула яна і адразу ж пачала расшыфроўваць свае запісы.

— Саша вельмі строга наказала вам заўтра нікуды не выходзіць — гэта па-першае; па-другое, — выкананне ўсіх намечаных масавых выступленняў ускладзена на раённыя камітэты; па-трэцяе — прапановы сакратарыята ЦК КСМЗБ усе адобраны; па-чацвёртае — калі ўсё будзе ў парадку, не будзе арыштаў, дык яўка для сустрэчы з Сашай застаецца старая. А, наогул, другога жніўня Саша будзе ў Лізы і жадае ўсіх вас там бачыць. Я сказала ўжо Змітру і Зосі, а цяпер перадаю вам... Было ўжо ля поўначы, калі Каця пайшла.

Першага жніўня я прачнуўся вельмі рана. Дзень быў на дзіва спякотны. Трыццаць галубоў з чырвонымі стужкамі кружыліся над горадам. 25 чырвоных сцягоў лунала на самых людных мясцінах горада. На фабрыках, у майстэрнях, на чыгунцы адбыліся масоўкі, сходы камуністаў і камсамольцаў. Вельмі моцнае, незабыўнае ўражанне зрабіла антываенная дэманстрацыя на стыку вуліц Нямецкай і Віленскай. Да таго яшчэ трэба дадаць, што ўсюды ў горадзе былі расклеены нашы адозвы, лістоўкі. І самым радасным было для нас тое, што ў той дзень паліцыі не ўдалося арыштаваць на вуліцы ні аднаго камуніста ці камсамольца. Паліцэйскія і шпікі бегалі па горадзе, лаяліся, пагражалі жыхарам, але арышты, як помсту за рэвалюцыйныя выступленні, пачалі толькі ўвечары і назаўтра.

Пасля першага жніўня наш аўтарытэт сярод моладзі прыкметна ўзрос. У Вільні, Гродне, Беластоку, Брэсце — усюды павялічваліся камсамольскія рады. У Вільні — на чыгунцы, у кравецкіх і шавецкіх майстэрнях паявіліся новыя камсамольскія ячэйкі. Буржуазныя газеты амаль штодзень змяшчалі артыкулы аб тым, што «бунтаўшчыкі-камуністы зноў узнімаюць галаву».

Заканчэнне. Пачатак у № 10.

Масавыя выступленні на вуліцах Вільні, Беластока, Гродна ў дзень першага жніўня, хваля забастовак рабочых, якая пракацілася па ўсёй Польшчы, глыбока ўскалыхнулі працоўных Заходняй Беларусі, рэхам адгукнуліся ў сэрцах моладзі. У народзе расла ўпэўненасць. Усюды можна было пачуць: калі добра арганізавацца, дык не такі ўжо і страшны фашызм.

На пасяджэнні сакратарыята ЦК КСМЗБ, калі падводзіліся вынікі святкавання дня першага жніўня, мы звярнулі асаблівую ўвагу на прыцягненне да ўдзелу ў новых масавых выступленнях як мага большай колькасці моладзі розных сацыяльных пластоў; на наладжванне сувязі з юнакамі і дзяўчатамі, якія былі пад уплывам так званых сацыялістычных і іншых масавых арганізацый. Асноўным заклікам у нас было — адзіным шырокім фронтам на барацьбу: за хлеб, за работу, за школы на роднай мове, супраць вайны і белага тэрору. З гэтай мэтай мы распрацавалі практычны план падрыхтоўкі і правядзення Міжнароднага юнацкага дня.

## Пад носам у ахранкі

Хутка Каця адправіла на яўкі ў Ліду, Навагрудак, Ваўкавыск і Маладзечна нелегальную літаратуру, што выдалі да МЮДа.

«...Друг нашага мяцежнага юнацтва! — пісаў у сваёй адозве да юнакоў і дзяўчат Віленскі акругком камсамола. — Дай руку, усё роўна хто ты: рабочы, беспрацоўны, сын селяніна, студэнт, вучань школы — дай руку, пойдзем разам. Калі ты супраць акупантаў, супраць катаванняў у засценках, у фашысцкіх турмах, супраць бяспраўя, супраць улады вайны і голаду, — ты наш брат, друг, таварыш, саратнік. У Міжнародны юнацкі дзень пойдзем разам з намі на масоўкі, дэманстрацыі!»

Памятаю хмарную вераснёўскую раніцу ў Вільні — таго адказнага



Ян Забаўскі, падпольная клічка «Франак».

і доўгачаканага дня масавых і баявых выступленняў моладзі. Кранутае жаўцізной, асыпалася лісце каштанаў. Па вуліцах Міцкевіча, Славацкага, Вялікай Пагулянцы, Вялікай Стэфаноўскай, Завальнай, Віленскай, Нямецкай хадзілі паліцэйскія патрулі, жандары. Шматгалосым перазвонам клікалі да сябе касцёлы і цэрквы. І ля маткі боскай вострабрамскай тоўпіліся калекі. У чорных сутанах па вуліцы мітусіліся манахі і манашкі. Наогул у той дзень на вуліцах было вельмі ажыўлена. І раптам адначасова ў розных месцах на тэлеграфных слупах, высока на правадах узвіліся чырвоныя сцягі, над горадам закружыліся з чырвонымі стужкамі галубы.

Паліцэйскія, жандары, як шалёныя, бегалі па вуліцах, імкнучыся сарваць сцягі, а ў гэты момант усюды, дзе сабралася шмат людзей, юныя патрыёты выступалі з прамовамі. Іх трымалі на руках камсамольцы. Вакол прамоўцаў — самкнутае кола самаабароны. Іх галасы гучалі смела, дзёрзка, гнеўна, выкрываючы грабежніцкую палітыку акупантаў.



— Хлеба!.. Работы!..

— Школу на роднай мове!..

— За роўную работу — роўную плату!..

— Далоў урад Пілсудскага!..

— Няхай жыве Савецкі Саюз!.. Далоў імперыялістычную вайну!.. Няхай жыве Заходняя Беларусь!

— За далучэнне да БССР!

— Няхай жыве камсамол!.. Уступайце ў рады камсамола!..

І зноў паліцэйскія банды стрымгалоў кідаліся на дэманстрантаў, і зноў камсамольцы знікалі з-пад самага носа ў паліцаяў.

Сапраўды, гэта былі выдатныя баявыя выступленні моладзі.

Калі назаўтра пасля свята на сваё пасяджэнне сабраўся сакратарыят ЦК КСМЗБ, Зміцро заклапочана сказаў:

— Нешта не падабаецца мне... На вуліцы, недалёка ад дома, дзе я жыву, стаіць нейкі небяспечны тып...

— Нешта нядобрае і на маёй вуліцы, — у тон яму адказала Зоха.

Саша, якая прысутнічала ў нас на пасяджэнні, адразу ж умяшалася ў гутарку:

— На Партовай вуліцы ў вас ёсць кватэра?..

— Так, ёсць. Там жыве Таня, — адказаў Зміцро.

— Там увесь квартал пад наглядам тайнай паліцыі, — працягвала Саша. — Я прыйшла сёння, галоўным чынам, каб папярэдзіць вас. Ёсць звесткі, што ахранка сочыць за вамі. Сцеражыцеся... Самі разумееце, што паліцыю прыводзяць у шаленства нашы дзеянні. Яна, відаць, хоча выведаць кіруючы цэнтр. Я, напрыклад, еду ў Варшаву. Мне нельга больш заставацца тут. Зміцро, Зоха і Таня, па-мойму, цяпер не павінны паяўляцца на вуліцы. Гэта пакуль што, а там мы, на сакратарыяце ЦК партыі, вырашым, як далей быць.

Чакаць доўга рашэння сакратарыята партыі не давялося. Яно было прынята неадкладна. Зміцро быў прызначаны сакратаром Беластоцкага акругкома партыі. Зоха і Таня выклікаліся ў Варшаву.

У Вільню вярнуліся сакратар ЦК КСМЗБ Мартын і член сакратарыята Марак. На Мартына было ўскладзена падтрыманне сувязі з Віленскім акругкомам камсамола і ажыццяўленне агульнага кіраўніцтва камсамолам Заходняй Беларусі.

У другой палавіне верасня пры сустрэчы з Мартынам я спытаў:

— А што, калі паспрабаваць выкарыстаць вучнёўскую моладзь?

— Бадай што паспрабаваць можна, — адказаў ён. — Праўда, студэнтаў і вучняў — такіх, якія нам патрэбны, мала знойдзецца... Але ўсё ж паспрабуем. Шукай радыкальна настроеных студэнтаў і гімназістаў!..

## Новыя павевы

Набліжалася пятнаццатая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Нам было ўжо значна лягчэй рыхтавацца да свята, бо мы мелі сякі-такі вопыт. Акрамя таго, наш Мартын быў спрактыкаваным арганізатарам. Разам з ім мы рыхтавалі падпольныя выданні. Рабілі ўсё хутка і акуратна. Праўда, да нашых новых сяброў-студэнтаў Сабіны і Мішы я не меў часу зайсці. І вось за некалькі дзён да святкавання гадавіны Вялікага Кастрычніка Мартын прапанаваў пераслаць Сабіне і сябрам Мішы некалькі нашых аддрукаваных адозваў і падпольныя газеты, якія мы выдавалі.

Праз два дні пасля нашай размовы я зайшоў да Мішы Казлоўскага. Быў святочны дзень. Ужо цямнела.

Не паспеў я падняцца па лесвіцы, як дзверы яго кватэры насцеж адчыніліся.

— Калі ласка, заходзьце, — ветліва запрасіў Міша і прагаварыў: — Праз акно я заўважыў, як вы павярнулі да нас.

У голасе яго гучалі ноткі ўсхваляванасці. Я зрабіў выгляд, што нічога не прыкмячаю і, як



Мікалай Маслоўскі, падпольныя клічкі «Мартын», «Алесь».

толькі можна ласкава і спакойна, спытаў:

— Да заняткаў ва ўніверсітэце рыхтуецеся?

— Не, так проста, адпачываю,— ужо больш спакойна адказаў ён.

Калі мы зайшлі ў пакой, ён, сеўшы побач са мной на тапчане, пачаў расказваць пра сябе, пра сваіх сяброў і іх настроі.

— Ісак і Уладак былі тут,— горача гаварыў ён.— Ведаеце, я канчаткова пасварыўся з імі, ліквідатарамі назваў іх. Пайшлі пакрыўджаныя і злосныя.— Я вырашыў яго не перапыняць і таму слухаў моўчкі.— Не, вы разумееце, да чаго толькі могуць людзі дагаварыцца? Вы толькі добра паслухайце. Уладак прапанаваў пачаць стварэнне студэнцкай легальнай арганізацыі з ліку студэнтаў яўрэйскага паходжання. Ён нават прыдумаў ёй назву — «Функ», што азначае «Іскра». Ісак таксама падтрымлівае яго. Юзак, вядома, супраць, але яго, як на ліха, сёння не было. І колькі я ім ні даказваў, што як толькі створым мы легальную арганізацыю, дык нас усіх арыштуюць,— яны стаяць на сваім. «Створым. Трэба адчуваць новы павеў часу! — крычалі яны». А які там у нас новы павеў? — ускокваючы з тапчана, выгукнуў Міша.

— Цікава,— не сцярпеў я і тут жа спытаў: — А колькі ёсць у вас такіх студэнтаў, якія могуць уступіць у легальную арганізацыю.

— Чалавек пяцьдзесят,— паспешліва выпаліў Міша.— Але што гэта за людзі? Гэта дзеці інтэлігентаў, мяшчан, збяднелых купчыкаў. Рабочых жа сярод студэнцтва ў нас няма. Камсамольцаў таксама мала, усяго чатыры чалавекі.

— Ну і што ж? — запярэчыў я.— А чаму б на самай справе не паспрабаваць стварыць такую, ведаеце, масавую легальную арганізацыю? Усіх, вядома, не арыштуюць. А потым жа стварыць масавую легальную арганізацыю — гэта яшчэ не значыць ліквідаваць камсамольскае падполле.

Міша адразу ж вырачыў вочы.

— Гэта вы сур'ёзна? Вось гэтага я не чакаў ад вас... Ды вы ведаеце, з гэтай інтэлігентшчынай, былымі цукунфтаўцамі ніколі да толку не дойдзеш.

— А хто іх зрабіў былымі цукунфтаўцамі? — спытаў я.— Мы вырвалі іх з-пад варожага ўплыву, і цяпер у барацьбе супраць нашага агульнага ворага — фашызма — выступаем не толькі з былымі, але з сапраўднымі цукунфтаўцамі і іншымі маладзёжнымі арганізацыямі, якія выказваюць жаданне змагацца з фашызмам. Для паспяховай барацьбы з фашызмам мы імкнемся стварыць шырокі народны фронт моладзі.

Ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя была даволі значная група студэнтаў яўрэйскага паходжання. У сувязі з ростам нацыяналізма і шавінізма ў Польшчы гэтая група інстынктыўна цягнулася да адзінства, да стварэння сваёй арганізацыі. Акрамя таго, марксісцка-ленінскія ідэі, наперакор забароне і праследаванням тых, хто з'яўляўся іх носьбітам, усё больш і больш пранікалі ў асяроддзе студэнцтва. Гэта і быў той новы павеў часу, аб якім гаварылі сябры Мішы.



Непасрэдную сувязь і пастаянны доступ да студэнтаў меў сакратарыят ЦК КСМЗБ. Таму зусім невыпадкова мне было даручана правесці работу па арганізацыйнаму афармленню «Функа», а Мартыну было даручана пачаць выяўленне радыкальна настроеных студэнтаў-палякаў з тым, каб, абапіраючыся на іх, стварыць масавую легальную арганізацыю.

Пасля святкавання гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі я наведаў Мішу.

— Камсамольская ячэйка ў поўным зборы,— паведаміў Міша.

І мы пайшлі на кватэру Юзака — гэта зусім недалёка.

Сход зацягнуўся больш як на тры гадзіны. І быў гэта не звычайны сход падпольнай камсамольскай ячэйкі, а, па цяперашняй тэрміналогіі, гэта быў у поўным сэнсе слова семінар. Але будзем называць яго проста сходам. І вось на гэтым самым сходзе трэба было зусім дакладна вызначыць не толькі задачы і абавязкі камсамольскай ячэйкі, заканспіраванай у легальнай студэнцкай арганізацыі, але і вызначыць лінію паводзін кожнага камсамольца. Абумоўлівалася гэта тым, што кожны камсамолец выконваў пэўную работу ў «Функу».

Сход праходзіў з выключнай цікавасцю, пры вялікай актыўнасці ўсіх яго ўдзельнікаў. У «Функ» запісалася 56 чалавек, а камсамольцаў было толькі чатыры чалавекі. Гэтыя чатыры камсамольцы першачарговай сваёй задачай лічылі таксама стварэнне легальнай арганізацыі сярод польскіх студэнтаў.

Студэнцтва горада Вільні, як і ўсіх іншых гарадоў Польшчы, перажывала трывожныя дні. Урад Пілсудскага, побач з іншымі рэакцыйнымі законамі, падрыхтаваў праект закону аб поўнай ліквідацыі ўніверсітэцкай аўтаноміі. На сваіх сходах студэнты выказвалі сваё абурэнне, рэзка крытыкавалі ўрад за яго рэакцыйную палітыку і з усёй рашучасцю пратэставалі супраць новага закону.

Вестка аб стварэнні легальнай студэнцкай арганізацыі «Функ» глыбока ўскалыхнула палітычнае жыццё ўніверсітэта Стэфана Баторыя. Сярод передавой часткі студэнтаў-палякаў настойліва загаварылі аб неабходнасці стварыць таксама, па прыкладу «Функа», сваю легальную арганізацыю. Па ініцыятыве камсамольцаў-«функаўцаў» быў створан арганізацыйны камітэт. Знамянальным было тое, што ўжо ў першыя дні арганізацыйны камітэт зарэгістраваў 60 чалавек, якія выказаліся за стварэнне арганізацыі. Камітэт падрыхтаваў прыкладны статут арганізацыі, вызначыў платформу.

На арганізацыйным сходзе прысутнічала каля 120 чалавек. Было аднагалосна прынята рашэнне назваць легальную арганізацыю польскіх студэнтаў — «Фронт».

Ужо з першых дзён свайго існавання «Фронт» пачаў выступаць сярод студэнтаў смела, рашуча. «Фронт» арганізаваў масавыя палітычныя дыспуты ва ўніверсітэце, склікаў агульныя сходы студэнтаў, дзе ставіліся палітычныя пытанні. Аўтарытэт «Фронта» рос не толькі сярод студэнтаў, але і сярод выкладчыкаў. Дастаткова прыгадаць, што на баку «Фронта» былі такія вядомыя прадстаўнікі польскай інтэлігенцыі, як Ян Дэмбінскі, Стэфан Яндрыхоўскі, Ежы Путрамент і іншыя.

З дапамогай камсамольцаў-«функаўцаў» мы ўстанавілі пастаянную сувязь з кіраўнікамі арганізацыі «Фронт». Надаючы вялікае палітычнае значэнне арганізацыі «Фронт», Мартын узяў на сябе падтрыманне сувязі з яе кіраўніцтвам. Ён увайшоў у пастаянны кантакт з Яндрыхоўскім, Дэмбінскім, Путраментам, раіў ім, як лепш арганізаваць барацьбу супраць фашызма.

Дзейнасць легальных студэнцкіх арганізацый знаходзілася пад наглядам не толькі ўніверсітэцкіх улад, але і паліцыі. Мы гэта вельмі добра разумелі, таму стараліся зберагчы «Фронт» і «Функ» ад усякіх правакацый паліцыі, ад неасцярожных, лёгкадумных дзеянняў іх кіраўнікоў.

### Юнак з вёскі

Позняй восенню 1932 года ў сакратарыят ЦК камсамола паведамілі, што ў Вільні, а больш дакладна, у той частцы горада, якая называлася «Новы свят», знайшоў сабе прытулак камсамолец, адзін з былых беларускіх гімназістаў. Хто ён такі, чаму там апынуўся, што робіць, — ніхто не ведаў. Вядома было толькі тое, што ён выехаў з вёскі і настойліва шукае кантакту з цэнтрам. Мы даражылі тады кожным, хто імкнуўся да нас, і асабліва радыкальна настроенымі студэнтамі і навучэнцамі. Натуральна, вестка пра камсамольца, які прыехаў з вёскі, нас вельмі зацікавіла. Мне было даручана сустрэцца з ім, пагутарыць і выявіць, на якой рабоце можна будзе яго выкарыстаць.

І цяпер яшчэ помніцца старэнькая хацінка на «Новым свяце», дашчатыя сенцы, сціплая дзяўчына Люба і вясёлы бялявы юнак, які сустрэў мяне на парозе. Ад няёмкасці я чамусьці спытаўся:

— Надзейна адчуваеце сябе тут?

— Цалкам, — усміхаючыся, адказаў ён.

Зноў настала няёмкае маўчанне. Юнак сядзеў, пахрустваючы пальцамі, і ўсміхаўся, а я глядзеў на яго і не знаходзіў слоў, каб пачаць гутарку.

Я не распытваў пра тое, што прывяло яго на «Новы свят», што прымусіла хавацца і навошта яму патрэбна сувязь з цэнтрам. Мне ўсё гэта стала зразумела без слоў. Я толькі спытаў:

— Калі прыехалі ў Вільню? Як сябе адчуваеце?

Юнак адказаў не адразу. Ён паглядзеў на мяне дапытліва, правёў рукой па сваёй віхрастай чупрыне і, крыху запінаючыся, адказаў:

— Ды ўжо, як сказаць, — даўнавата... Добра, што нарэшце прыйшлі да мяне.

І тут жа адразу пачаў распытваць: — Што новага на свеце? Як справы ў нас?

Я прывык да такіх пытанняў і ахвотна расказаў яму аб хвалі забастовак, якая пракацілася па ўсёй Польшчы, аб масавых выступленнях рабочых у Варшаве, Лодзі, Кракаве, Беластоку.

Юнак уважліва слухаў. Калі я закончыў, ён чамусьці пацёр рукі, быццам яны ў яго замерзлі. Потым пачаў разглядаць іх, нібы бачыў упершыню. Відаць было, што навіны, якімі я падзяліўся, усхвалявалі яго.

— Нам давядзецца некалькі дзён запар сустракацца і гутарыць, — заўважыў я.

Юнак устаў з-за стала і, мякка ўсміхаючыся, раптам спытаў:

— Як вам падабаюцца творы Янкі Купалы і Якуба Коласа?

Я, як толькі мог, пачаў выкладаць свой погляд на творчасць Купалы і Коласа. Мой адказ, як мне здалося, не задаволіў юнака. Ён пачаў хадзіць па пакоі. Мне быў час ісці, і я пачаў апранацца. Юнак вельмі здзівіўся і спахмурнеў:

— Вы ўжо адыходзіце? Шкада. Вельмі шкада. Калі яшчэ зможаце зайсці? Рады буду бачыць вас як мага хутчэй.

Я абяцаў яму, што прыду праз тры дні.

І вось я зноў іду па зацярушаным месце праз чыгунку да свайго новага знаёмага — чубатага хлопца. Сэрцам я адчуваю, што ён мяне чакае, і прыспешваю крок. З першай сустрэчы ён мне вельмі спадабаўся сваёй прастатой, сціпласцю і нейкім унутраным багаццем. Уражанне аб ім пасля нашай сустрэчы я перадаў сакратарыяту ЦК КСМЗБ і цяпер ішоў з канкрэтным заданнем: падрыхтаваць юнака да паездкі ў адну з акруговых камсамольскіх арганізацый на Віленшчыне. У галаве ў мяне ўжо склаўся падрабязны план і змест гутаркі. Але варта было пераступіць парог хаткі, як усё пайшло зусім не так, як я сабе ўяўляў.

— Што вы лепш любіце — вершы ці прозу? — спытаў юнак, як толькі я сеў побач з ім.

Гэтае яго пытанне было для мяне такім нечаканым, што я замест адказу развёў рукамі.

— Не здзіўляйцеся... І калі можна, скажыце, як вы самі разумееце сучасную літаратуру... Мяне гэта вельмі цікавіць. Я хачеў пагаварыць з вамі аб усім яшчэ ў час нашай першай сустрэчы, ды неяк не адважыўся. Я захапляюся літаратурай і нават іншы раз пішу... — перасільваючы нясмеласць і хваляванне, гаварыў ён. — Скажыце, у вас няма жадання пазнаёміцца з тым, як я пішу? — і, не чакаючы майго адказу, пабег у сенцы і амаль у тую ж мінуту вярнуўся з вялікім пачкам папер.

— Вось некаторыя мае вершы, — разгортваючы пачак, працягваў ён. — Хочаце, я вам сёетое прачытаю...

Цяпер мне стала зразумела, чаму гэты юнак у час першай сустрэчы пытаўся ў мяне пра творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. І я з радасцю кіўнуў яму галавой:

— Ахвотна паслухаю. Чытайце...

Юнак уздыхнуў і з пафасам пачаў чытаць. У яго вершах адчувалася прыгажосць беларускага пейзажу і гора бяспраўнага, прыгнечанага народа, смелыя парывы юнацкае душы і рэха рэвалюцыйнай барацьбы. Я слухаў і ад усёй душы захапляўся. Вядома, тады я і не здагадваўся, што гэты сціплы юнак з цягам часу стане слаўтым паэтам Максімам Танкам.

На «Новы свят» я пачаў хадзіць часцей. Кожны раз юнак чытаў мне свае новыя вершы.

Неўзабаве я паведаміў сакратарыяту, што Янак — так мы назвалі юнака — гатовы паехаць у любую камсамольскую арганізацыю, але ёсць сэнс пачакаць з гэтай паездкай. Можа лепш пакінуць яго пры рэдакцыі нашай легальнай газеты.

Мартын падтрымаў гэтую прапанову. Тым не менш, абставіны склаліся так, што на другі дзень мы камандзіравалі Янака ў Глыбокае.

Пасля разгрому Грамады нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі не пайшоў на спад. Змяніліся толькі яго формы. Легальная нацыянальна-вызваленчая арганізацыя ТБШ — Таварыства беларускай школы — мела свае гурткі ў многіх населеных пунктах. З іх дапамогай камуністы і камсамольцы вялі масавую і культурна-асветную работу сярод насельніцтва: наладжвалі спектаклі, арганізоўвалі вечары, праводзілі гутаркі, чыталі газеты, кнігі. Кіраўніцтва ТБШ перыядычна выдавала легальную газету «Бюлетэнь». Усё гэта садзейнічала росту свядомасці і актыўнасці працоўных мас. Нашы партыйныя, а пад іх кіраўніцтвам і камсамольскія арганізацыі раслі і ўмацоўваліся.

Аднак не драмалі і беларускія нацыяналісты.

Акінчыц са сваёй групай у 1932 годзе пачаў выдаваць чарнасоценную газету. Выданнем такой газеты акупанты паспрабавалі праверыць, у які бок схіляюцца беларусы. Іх напаткала горкая няўдача. Газетку Акінчыца ніхто не чытаў. Пасля выхаду трох нумароў яна спыніла сваё існаванне.

Адварочваліся працоўныя Заходняй Беларусі і ад такіх заядлых нацыяналістаў, як Луцкевіч і Астроўскі, якія пачалі ствараць сваю арганізацыю ТБА — Таварыства беларускай асветы, у процівагу нашай легальнай арганізацыі ТБШ. Адначасова сваю скампраметаваную газету «Беларускі звон» яны перайменавалі ў «Родны край».

Асаблівую актыўнасць праяўлялі беларускія нацыяналісты, арганізаваныя ў так званую партыю хрысціянскай дэмакратыі, на чале якой стаяў ксёндз Станкевіч. Выступаючы ад імя беларускіх католікаў, хадэкі ўзводзілі паклёп на Савецкую краіну, нацкоўвалі пра-



**І. Ф. Сяменікоў, падпольная клічка «Паўлаў».**

цоўных на камуністаў і камсамольцаў. Партыя хрысціянскай дэмакратыі выдавала масавым тыражом газету «Беларуская крыніца» і бясплатна рассылала яе ва ўсе куткі Заходняй Беларусі. Акрамя таго, яна выдавала часопіс «Шлях моладзі».

Працоўныя масы, асабліва моладзь, не праяўлялі цікавасці да нацыяналістычных газет, хоць наццэмаўскія кіраўнікі і не скупіліся на «левыя» фразы.

У канцы 1932 года кампартыя Заходняй Беларусі вырашыла пачаць выданне ў Вільні нашай легальнай газеты на беларускай мове. Назва яе была самая простая — «Беларуская газета». Для гэтай мэты быў створаны кіруючы цэнтр нацыянальна-вызваленчага руху. У склад яго ўвайшлі члены Галоўнага ўпраўлення ТБШ, супрацоўнікі «Беларускай газеты». Для пастаяннай сувязі сакратарыята ЦК КСМЗБ з цэнтрам нацыянальна-вызваленчага руху вылучылі мяне.

«Беларуская газета» заклікана была выкрываць рэакцыйную сутнасць нацыяналізму, мабілізоўваць масы на барацьбу з акупантамі. Выхад у свет першага нумара «Беларускай газеты» быў для нас сапраўдным святам. Памятаю, сустрэліся мы з Мартынам на кватэры ў Сабіны, на вуліцы Малая Пагулянка. Інструктар ЦК КПЗБ па нацыянальна-вызваленчаму руху Зубовіч прынёс некалькі нумароў газеты. І вось мы пачалі чытаць. Сабіна, хоць і не ведала добра беларускай мовы, таксама ўзяла газету і доўга не магла ад яе адарвацца.

— Для такой высакароднай справы я сама і мае сяброўкі нічога не пашкадуем, — сказала яна, калі закончыла чытаць. — Прашу вас, прыходзьце да мяне на кватэру, калі толькі вам спатрэбіцца... Тут вы можаце пісаць усе матэрыялы...

Кожны нумар «Беларускай газеты» быў магутным ударам па акупантах. Яе рэдакцыяператварылася ў цэнтр мабілізацыі і арганізацыі ўсіх прагрэсіўных сіл Заходняй Беларусі. Нам ішло мноства пісьмаў з усіх куткоў краіны. У «Беларускую газету» прысылалі свае вершы і апавяданні пачынаючыя пісьменнікі.

Не маючы магчымасці выкарыстаць на сваіх старонках усе вартыя надрукавання творы, мы пачалі выданне дадатка пад назвай «Літаратурная старонка». Тут друкавалі свае вершы Пілiп Пестрак, Міхась Васілёк, Максім Танк, Мікола Засім і другія.

Наш літаратурны дадатак пераканаўча паказваў, якія здольныя маладыя літаратурныя сілы рушылі за намі. Натуральна, гэта не спадабалася акупантам і іх хадэцкім паслугачам. Супраць «Беларускай газеты» са злосным паклепам выступіла «Беларуская крыніца». Яна назвала «Беларускую газету» органам камуністычнай партыі. А паліцыя толькі гэтага і чакала. Узмацніліся рэпрэсіі супраць гурткоў і галоўнага кіраўніцтва ТБШ. «Беларуская газета» неўзабаве была закрыта.



### Правакацыя

На яўкі ў сакратарыят ЦК КСМЗБ прыязджалі людзі з усіх акруг. З Варшавы прыехала Зоха, вярнуўся з Беластока Марак. Амаль адначасова з імі з Беластоцкай акругі прыехаў сакратар Бельскага райкома камсамола Дзёма.

— Ідзі, пазнаёмся, пагавары з ім... А потым будзеш бачыць, у якую акругу на Віленшчыне яго паслаць, — сказаў Мартын пры сустрэчы са мной на Зарэччы ў Льва Маркавіча. — Бадай варта накіраваць яго ў Маладзечна.

Хваля рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў тыя трывожныя дні, нягледзячы на разгул белага тэрору, расла і шырылася. З надыходам зімы адкрыта загаварылі аб забастоўцы лесарубы і возчыкі. Час-ад-часу ўспыхвалі хваляванні рабочых у Беластоку, Гайнаўцы, Вільні, Гродне. У агні барацьбы палалі Навагрудчына, Слонімшчына, Брэстчына. Ваенна-палявы суд у Навагрудку за ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе прыгаварыў да пакарання смерцю групу сялян. Ва ўсіх вёсках самавольства паліцыі не мела межаў. Асабліва пазверску распраўляліся паліцаі з рэвалюцыйнай моладдзю. У Картуз-Бярозе ў час катавання быў замучан Мартын Вячорка — камсамолец з вёскі Бармуты.

У Варшаве, Львове, Пазнані, Кракаве, Вільні разгортвалася барацьба студэнтаў за захаванне ўніверсітэцкай самастойнасці і недатыкальнасці. Асабліва вострыя характар яна набыла ў Варшаве. Там студэнты будавалі барыкады, уступалі ў адкрытыя сутычкі з паліцыяй. Рэха гэтай барацьбы знайшло свой водгук у Вільні.

Уплыў і аўтарытэт падпольных камсамольскіх арганізацый у горадзе і вёсцы, якія працавалі пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, з кожным днём рос, умацоўваўся. Усюды ўзнікалі новыя камсамольскія ячэйкі. Якраз у гэты час прыехаў у Вільню Гарасім. Я сустрэў яго з невыказнай радасцю. Гэта быў мой найлепшы сябар. Мы не бачыліся каля года. Здарылася так, што пасля нарады партыйнага актыву яму была прадастаўлена магчымасць адпачыць, а я быў дэлегаваны на другую канферэнцыю камсамола. Гарасім прывёз мне навіны і прывітанне ад маёй сяброўкі Лены, расказаў, што яна сумуе і жадае прыехаць да мяне ў Вільню. Як я ні прагнуў гэтай сустрэчы, але пра яе і гаворкі быць не магло. Лена была слабая здароўем, і тут у Вільні, дзе я сам жыў на нелегальным становішчы, цяжка было ўладзіць яе жыццё. Ды і сродкаў у мяне не было ніякіх.

З Гарасімам я не мог уволю нагаварыцца. Ён павінен быў неадкладна паехаць на Палессе сакратаром Брэсцкага акругкома КСМЗБ.

Прыйшла Каця. Па яе выгляду лёгка было зразумець, што яна спяшалася.

— Хутчэй ідзіце да прадстаўніка сакратарыята ЦК КПЗБ, — сказала яна мне. — Вось адрас, пароль... Калі яго не будзе, пачакайце. Там павінен быць яшчэ нехта...

Развітаўшыся з Гарасімам, я адразу ж накіраваўся да прадстаўніка сакратарыята ЦК КПЗБ. Ішоў хутка, але асцярожна. На кожным перакрыжаванні вуліц азіраўся, ці не сочыць за мной хто. Дзьмуў халодны вецер. Да сустрэчы заставалася яшчэ дзесяць мінут. Каб не прыцягваць да сябе ўвагі, я прайшоў крыху далей месца сустрэчы. Пры пераходзе вуліцы на момант затрымаў позірк на малым драўляным доміку з замёрзлымі вокнамі, які стаяў зусім недалёка ад вугла. На доміку выразна віднелася лічба 42 і яркія блакітныя аконныя рамы. Тут прызначана наша сустрэча.

З процілеглага боку да доміка падышло двое мужчын. Адзін з іх азіраўся, відаць, стараючыся ўсё запомніць, другі глядзеў на домік. Я на імгненне затрымаўся, нібыта прыпальваючы папяросу. У гэты момант мужчыны зніклі за брам-

кай. Я яшчэ раз паглядзеў на гадзіннік. Засталося сем мінут. Зайсці ў домік раней устаноўленага часу я не адважваўся, тым больш, што туды накіраваліся тыя двое. Стаяць на вуліцы таксама не выпадала, і я пайшоў да наступнага квартала, потым падышоў да доміка з другога боку.

Навокал было ціха, бязлюдна.

У домік зайшоў асцярожна. Прадстаўнік сакратарыята ЦК КПЗБ Цыгельніцкая сустрэла мяне дакорам:

— Спазняецеся, таварыш... Нядобра, — і адразу пазнаёміла з тымі двума, якіх я бачыў, калі яны сюды заходзілі.

— Сакратар Навагрудскага акругкома партыі таварыш Вацак. Некалькі дзён назад выйшаў з фашысцкай турмы...

Гэты чалавек меў пануры выгляд, быў худы і негаваркі. Другі — наадварот, жвавы, залішне гаваркі.

— Якое шчасце, што нам, пасланцам Навагрудчыны, нарэшце ўдалося ўстанавіць сувязь з цэнтрам, — увесь час сцвярджаў ён.

— Камсамольцы нас у гэтых адносінах апярэдзілі. У іх сувязь з камсамольскім цэнтрам даўно існуе, — нічога не падазраючы, заўважыла Цыгельніцкая. — Хто ў вас цяпер там? — звярнулася яна да мяне.

Ухіляючыся ад прамога адказу на зададзенае пытанне, я ў сваю чаргу спытаў у чалавека, які назваў сябе сакратаром акругкома партыі:

— А вы хіба з камсамолам сувязі не маеце?

— Маем, маем. А як жа... — паспяшаўся ён з адказам. — Толькі, ведаеце, у апошні час былі арышты... Паскубла нас крыху паліцыя. Так, паскубла... І, ведаеце, камсамольскі сакратар чамусьці да нас на падпункт не прыйшоў.

— Вы не скажаце, з якімі раёнамі мае цяпер сувязь камсамол? — запытаўся ў мяне больш гаваркі субяседнік. — Мы ж звязаны не з усімі... І потым яшчэ,



Мікалай Дворнікаў, падпольная клічка «Гарасім».

ці доўга мае намер прадстаўнік камсамольскага цэнтра быць у нас, на Навагрудчыне?.. Ці не можаце даць нам яўку да яго?

Цыгельніцкая паглядзела на мяне, і я зразумеў, што ёй, як і мне, не спадабаліся пытанні, а таксама напрамак размовы. І мы загаварылі аб палітыцы ў барацьбе з пацыфікацыямі, аб тым, як практычна ажыццяўляць лозунг партыі — «ні капейкі падаткаў ураду вайны і тэрору», аб барацьбе за школу на роднай мове.

Сустрэчай з пасланцамі Навагрудчыны я застаўся незадаволены. Справаздача так званага сакратара акругкома партыі была такая пустая, што ў мяне ў памяці не засталося нічога. Кепскае ўражанне пакінуў і маўклівы «былы палітзняволены».

Не асабліва задаволена была і Цыгельніцкая. Пры развітанні на ганку яна шапнула мне:

— Шчыра кажучы, ад гэтай сустрэчы я чакала большага.

З Цыгельніцкай я паспеў дамовіцца аб сустрэчы праз два дні на Звяжынцы, дзе яна жыла. Нам хацелася грунтоўна дамовіцца па ўсіх пытаннях сумеснай работы, распрацаваць план правядзення ленінскіх дзён.

Было ўжо цёмна, калі я развітаўся з Цыгельніцкай. Мне неабходна было яшчэ пабачыцца з Мартынам і Маракам. У той час мы сустракаліся штодзённа. Усе мы радаваліся поспехам камсамола Віленшчыны і Навагрудчыны. Мартын і Марак стараліся дапамагчы мне, калі ў чым-небудзь я меў патрэбу. Я, у сваю чаргу, адносіўся да іх з вялікай павагай і пра ўсё раіўся з імі. Прыбыццё ў Вільню прадстаўнікоў з Навагрудчыны было для нас вялікай падзеяй. І як толькі я пераступіў парог Рэнінай кватэры, Мартын і Марак засыпалі мяне пытаннямі пра Навагрудчыну. Нажаль, я паспеў толькі сказаць, што не спадабаліся мне тыя прадстаўнікі з Навагрудчыны, як прыйшла Каця і, стомленая, апусцілася на канапу. Каб не перашкодзіць нам, знакам рукі яна папрасіла ў Рэні вады. Без слоў мы зразумелі, што здарылася нешта незвычайнае.

— Як добра, што вы ўсе сабраліся, — бадзёрачыся, сказала яна. — Я прынесла вам сумныя весткі. У горадзе ўсюды арышты... Больш чым сто чалавек студэнтаў адпраўлена на Лукішкі. Арыштавана многа «фронтаўцаў» і «функаўцаў»...

— А як Міша? — перапыніў яе Марак.

— Міша і яго сябры пакуль на волі.

Паведамленне Каці было настолькі нечаканае і жахлівае, што мы толькі збянтэжана пазіралі адзін на аднаго.

— Што б гэта магло азначаць? Правакацыя? — нарэшце прамовіў Мартын.

Ніхто нічога пэўнага не мог сказаць, але кожны разумеў і адчуваў, што над намі навісла вялікая небяспека.

У Рэні мы засядзеліся да палавіны дзесятай. У тыя гады ў Вільні быў такі парадак: а дзесятай гадзіне ўвечары, як правіла, дворнікі замыкалі вароты і парадныя дзверы. Гэта была, па сутнасці, паліцэйская гадзіна. Трэба было разыходзіцца. Мартын прапанаваў:

— Заўтра не сустракаемся... Ніхто нікуды не павінен выходзіць, пакуль не высветляцца прычыны арыштаў у горадзе.

Маўчаннем мы выказалі сваю згоду. Развітваючыся, Мартын звярнуўся да Каці:

— Удакладніце, каго з «фронтаўцаў» і «функаўцаў» арыштавалі. Да мяне прыдзеце ў дзве гадзіны.

Мая кватэра была далей за ўсіх, таму я выйшаў першы. Я жыў тады ў зубнога ўрача. Гаспадар кватэры не быў на падазрэнні ў паліцыі і жыў над самым кінатэатрам. Уваход у кіно і на лесвічную клетку маёй кватэры быў адзін і той жа. Ля ўваходу заўсёды тоўпілася многа людзей. З аднаго боку, гэта было добра, бо можна было непрыкметна прайсці ў кватэру, але ў той жа час гэта было і дрэнна — не заўважыш, калі хто-небудзь сочыць за табой.

Яшчэ здалёк я заўважыў, што ўсе вокны кватэры майго гаспадара свецяцца. Гэта мяне здзівіла. Я ведаў яго, як чалавека вельмі эканомнага. Звычайна, выходзячы са свайго кабінета або з якога-небудзь іншага пакоя, калі там нікога не было, ён абавязкова гасіў святло.

Пераканаўшыся, што за мною ніхто не сочыць, я асцярожна падняўся па лесвіцы. Перад тым, як крануць званок, я яшчэ раз праверыў, ці няма каго паблізу, прыслухаўся, што робіцца там, у кватэры. Усюды было ціха. Гэтая цішыня яшчэ больш насцярожыла мяне. Марудзіць не было сэнсу. Я націснуў званок. У тое ж імгненне адчыніліся дзверы. На парозе стаяў гаспадар. Ён быў вельмі бледны і ўзбуджаны.

— Як, гэта вы?.. Вы прыйшлі? — здзіўлена спытаў ён, хутка зачыняючы за мной дзверы.

— Так, я... — спакойна адказаў я. — А што такое?.. Чаму вы так усхваляваны?..

— Цішэй... Богам прашу, цішэй... Паліцыя тут была, — шэптам сказаў ён. — Добра, што гаспадыні не засталі. Яна ж зусім хворая. Хто ведае, мажа б яна са страху ва ўсім прызналася...

— Была паліцыя? А што ёй патрэбна было тут?.. — усё гэтак жа спакойна прагаварыў я.

— Неяк дзіўна мне ўсё гэта... Прыйшлі і пытаюцца: «Ці не была тут адна цяжарная жанчына, камуністка». Ну, вядома, абшукалі ўсе куткі. На некалькі мінут затрымаліся ў маім рабочым пакоі... І вось пайшлі, а я сабе месца не знаходжу. Не ведаю, што рабіць: а раптам зноў прыдуць?! Я, ведаеце, вельмі напалоханы... Жонка хворая. Вы прабачце, але вам лепш пакінуць мяне.

Я паглядзеў на гадзіннік. Было без чвэрткі дзесяць.

— Вы не хвалюйцеся. Я зараз жа пайду, — пачаў я супакойваць яго.

У маім распараджэнні былі яшчэ чатыры запасныя кватэры.

— Не хвалюйцеся, — паўтарыў я і з напускным спакоем выйшаў. У тое ж імгненне за мной гучна шчоўкнуў замок. Цяпер нельга было траціць ніводнай секунды. Я збег па лесвіцы. На маё шчасце, у той самы момант у кіно закончыўся сеанс і народ выходзіў на вуліцу. Я змяшаўся з натоўпам. Вось я ўжо на вуліцы, перайшоў на другі бок. Падышоў да кіёска, папрасіў пачак папярос, непрыкметна агледзеўся.

«Усё ў парадку!» — падумаў я і звярнуў на вуліцу Субач. Гэта была вельмі вузкая вулачка, прытулак беднаты.

На запасную кватэру я прыйшоў якраз у час: вароты яшчэ не былі зачынены. На наступны дзень зранку, яшчэ прыцемкам, я пайшоў да Каці і папярэдзіў яе, каб на маю ранейшую кватэру ніхто не заходзіў.

Мінула два дні. У горадзе працягваліся арышты. Па вуліцах хадзілі патрулі, шнырылі тайныя агенты.

Настаў час, калі мне трэба было ісці на сустрэчу з Цыгельніцкай. Над горадам лютавала завіруха. У такое надвор'е, мне здавалася, ні адзін агент паліцыі не выткне носу на вуліцу. Ішоў я на месца сустрэчы спакойна і смела.

Вяртаючыся адтуль, я заўважыў, што ўслед за мной цягнецца нейкі чалавек, унурыўшы твар у высокі каўнер футравага паліто. Варта было мне паскорыць крок, як ён таксама ішоў шпарчэй. Я прыцішваў хаду, і ён рабіў тое ж. Каля маста праз Вілейку ён знік, але затое па пятах за мной ішоў ужо другі — нейкі цыбаты дзяцюк з чорнымі вусікамі. Я паспрабаваў было праверыць, ці не памыляюся, і спыніўся каля ларка купіць папяросы. Я свядома марудзіў, каб прапусціць яго ўперад. Цыбаты зразумеў мой намер і таксама спыніўся. Тады я адразу ж паскорыў крок. Цыбаты за мной. Я павярнуў на Партовую вуліцу, ён зрабіў тое ж самае.

Нарэшце, я выбраўся на Малую Пагулянку і адразу ж накіраваўся ў бок Завальнай. Цыбаты дзяцюк не адставаў. Дапамагла мне простая выпадковасць. Па Малой Пагулянцы я ішоў павольна, абдумваючы становішча. У гэты момант са стаянкі крануўся пасажырскі аўтобус. Я, не задумваючыся, ускочыў у яго. За мной адразу ж зачыніліся дзверы, і аўтобус пайшоў. Праз акно я паспеў заўважыць, як цыбаты кінуўся бегчы за аўтобусам. Але ўсё было дарэмна: я ўцёк з-пад самага яго носа.

Увечары да мяне прыйшла Каця і паведаміла, што Цыгельніцкая арыштавана. Гэтая вестка падзейнічала на мяне мацней, чым гром сярод яснага дня.

Мінула тры тыдні, і загадка была разгадана. Аказалася, што да арышту Цыгельніцкай паліцыя доўга і старанна рыхтавалася. З турмы Цыгельніцкая паведаміла, што паліцыя падаслала да яе сваіх тайных агентаў пад выглядам пасланцоў з Навагрудчыны.

Рашэннем сакратарыята ЦК мне было забаронена выходзіць з кватэры ўдзень. Я адгадаваў вусы, змяніў паліто, капялюш.





Міхаіл Табарыскі, падпольная клічка «Яша».

## Па дарозе ў Беласток

З Навагрудчыны прыйшла трывожная вестка. Паліцыі ўдалося натрапіць на след падпольшчыкаў. Пасланы туды наш прадстаўнік — Янак, той самы бялявы юнак з «Новага святу» — быў арыштаваны.

У Вільні паліцыянты рабіліся ўсё больш нахабнымі. Падазроных яны проста затрымлівалі на вуліцы, правяралі дакументы і арыштоўвалі.

Ва ўсёй Польшчы рос і шырыўся рэвалюцыйны рух. Ад Гарасіма прыйшлі першыя весткі. Ён паведамляў, што на Брэстчыне нарастае хваля народнага гневу і абурэння супраць акупантаў. Сяляне Маларыцкага, Камянецкага, Кобрынскага паветаў адмаўляюцца плаціць падаткі, актыўна выступаюць супраць паліцыі. Па ўсім Палессі пракацілася хваля карных экспедыцый. У вёскі ўрываліся азвярэлыя паліцэйскія банды, збівалі людзей, здзіралі стрэхі з дамоў, білі шыбы, ламалі дзверы, печы, узрывалі падлогу ў хатах, нішчылі сялянскія набыткі, а потым арыштоўвалі ўсіх, хто выказваў сваё абурэнне.

На актыўную барацьбу з акупантамі выступалі таксама сяляне Гродзеншчыны, Слонімшчыны, усё больш праяўляліся рэвалюцыйныя настроі рабочых Беластока. Кіраваць усім рэвалюцыйным рухам з Вільні рабілася ўсё цяжэй. І мы вырашылі прыкласці ўсе намаганні, каб стварыць у Беластоку другую базу для работы сакратарыята ЦК КСМЗБ.

Антываенная работай у Беластоку кіраваў Яша. Ён паспеў пабываць у Брэсце, Слоніме, Гродне, Гайнаўцы. Яша быў прыроджаным масавіком, добрым арганізатарам, і за гэта мы яго вельмі любілі.

Два дні Мартын, Марак і я абмяркоўвалі ўсе пытанні, звязаныя з маёй работай у новых умовах.

— У Беластоку мы можам і павінны мець яшчэ лепшыя ўмовы для работы, чым у Вільні, — сказаў Мартын.

Калі аб усім ужо было дамоўлена, узнікла пытанне, як мне выехаць з Вільні.

— На вакзале ў Вільні заўсёды поўна паліцыі, шпікоў, — тлумачыў Марак. — І дзе гарантыя, што ты, Пеця, не сустрэнеш таго самага цыбатага або каго-небудзь з «пасланцоў Навагрудчыны».

Пагадзіліся, што паеду з рамізнікам да Нова-Вілейкі, а там сяду ў поезд.

Была пагодлівая, марозная раніца. Я выбраў рамізніка з больш жвавым канём і рушыў у дарогу. І цяпер яшчэ памятаю, як, лёгка варушачы лейцамі, імчаў ён мяне ў санках. А я думаў толькі аб адным: каб не спазніцца.

## У агні змагання

У Беласток я прыехаў якраз у тыя дні, калі гераічная забастоўка 4 000 лесарубаў Белавежы і возчыкаў з 56 вёсак Пружаншчыны і Слонімшчыны была ў

поўным разгары. Забаставаўшыя патрабавалі павышэння заработнай платы і паляпшэння ўмоў працы. Нягледзячы на крызіс, голад, крывавы тэрор, арышты, пацыфікацыі, баставаўшыя праяўлялі выключную стойкасць і мужнасць. Водгулле іх барацьбы кацілася па ўсёй Заходняй Беларусі. З асаблівай сілай яно гучала ў Беластоку. Рабочыя-тэкстыльшчыкі, шаўцы, будаўнікі, краўцы, металісты збіралі грошы ў дапамогу забастоўшчыкам.

На другі дзень пасля майго прыезду сабраўся на пасяджэнне акруговы камітэт камсамола. У ліку прысутных былі дэлегаты другой канферэнцыі — Вера, Бронак і Яша.

Яша толькі што вярнуўся з Белавежы. Яго выступленне і выступленні ўсіх астатніх членаў акругкома камсамола паказалі, што Беласток знаходзіцца напярэдадні баявых і грозных выступленняў рабочага класа. Уласна кажучы, і само пасяджэнне склікалася для таго, каб разам з партыйным кіраўніцтвам вырашыць пытанне аб арганізацыі забастоўкі салідарнасці з лесарубамі і возчыкамі.

— Забастоўку назначыць на пятніцу, — унёс прапанову Уладак.

Ён працаваў шаўцом і кіраваў юнацкай секцыяй пры прафсаюзах. Саюз шаўцоў у Беластоку поўнасцю знаходзіўся пад уплывам камуністаў і быў самым згуртаваным і арганізаваным атрадам рабочага класа. Уладак гэта ведаў. Была і рэакцыйная прафсаюзная арганізацыя, якая абараняла палітыку ўрада. Камуністы мелі сярод тэкстыльшчыкаў свае арганізацыі і з іх дапамогай уплывалі на ўсю масу рабочых-тэкстыльшчыкаў Беластока.

На пасяджэнні акругкома камсамола ўзніклі некаторыя рознагалоссі адносна пачатку і працягласці забастоўкі. Каб уладзіць іх, я вырашыў сустрэцца з сакратаром Беластоцкага акругкома КПЗБ.

На явачнай кватэры, замест сакратара акругкома партыі, мяне чакала сувязная.

— Сакратара не будзе, — паведаміла яна. — Па прычынах, якія ад яго не залежаць. Уласна кажучы, ён не можа прыйсці, — паправілася яна і растлумачыла: — Ён, вядома, не вінаваты. Учора яшчэ здавалася ўсё добра, а сёння... Самі ведаеце, як бывае...

Для мяне, безумоўна, было зразумела, што азначаюць словы «па прычынах, якія ад яго не залежаць». Гэта азначала, што паліцыя натрапіла на яго след.

— Але я прыйшла паведаміць вам і аб іншым, — крыху пачакаўшы, гаварыла сувязная. — Вас хоча пабачыць Васіль.

— З Варшавы?

— Так, — кіўком галавы пацвердзіла яна.

Васіль, або як мы яго яшчэ называлі, Казік, Андрэй, а на самой справе — Ідэль, быў мой стары, добры сябар, член сакратарыята ЦК КПЗБ. Шмат гадоў не сустракаўся я з ім. І вось цяпер лёс звёў нас у Беластоку.

Праз некалькі хвілін у малым пакойчыку рабочага-тэкстыльшчыка на Юравецкай вуліцы мы абдымаліся, як браты.

— Толькі што прыехаў у Беласток і дазнаўся, што ты тут. Адразу ж паслаў сувязную па цябе... Як добра, што мы сустрэліся! — радуецца ён.

Я таксама быў вельмі рад сустрэчы.

— Ты надоўга сюды?..

— Пакуль не надакучу паліцыі, — смяецца ён і пытае: — Як сябе адчуваеш, што тут новага?

І я пачынаю расказваць. Васіль уважліва слухае і час-ад-часу робіць паметкі на маленькім кавалачку паперы.

— Правільна. У Беластоку настрой забастовачны, — заўважае ён. — Што датычыць шаўцоў, бадай, твой Уладак праўду гаворыць. Трэба толькі дапамагчы ім выпрацаваць патрабаванні. У тэкстыльшчыкаў іншае становішча. Праз месяц у іх пачнецца сезон. Прадпрыемцы маюць намер у гэтым годзе атрымаць вялізарныя барышы. Яны разлічваюць на тое, што ў краіне пасля глыбокага крызісу наглядаецца некаторае ажыўленне. Цяпер яны могуць і павінны дабіцца паляпшэння сваіх жыццёвых умоў. Вось мяне партыя і прыслала, каб падрыхтаваць забастоўку тэкстыльшчыкаў. Як відаць, нам, Пеця, давядзецца папрацаваць, — заключыў ён.



Пасля гэтай размовы я сустракаўся з Васілём праз кожныя тры дні. Ён — па лініі партыі і прафсаюза, я — па лініі камсамола настойліва рыхтаваліся да забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Беластоку. На ўсіх фабрыках праводзіліся сходы, нарады; абмяркоўваліся патрабаванні рабочых, выбіраліся забастовачныя камітэты.

Другога і чацвёртага сакавіка 1933 года ўспыхнула ўсеагульная забастоўка польскіх гарнякоў. У шахтах «Кліментаў» і «Мартымер» рабочыя каля двух тыдняў не выходзілі з забояў, паказваючы прыклад гераізму і самаадданасці ў барацьбе супраць эксплуататараў. Аб'явілі забастоўку рабочыя Лодзі, Петрыкава, Чанстахова, Паб'яніц.

Другога сакавіка спыніліся тэкстыльныя фабрыкі Беластока. Асноўным патрабаваннем бастуючых было: павышэнне заработнай платы на 10 працэнтаў; прызнанне фабрычных дэлегатаў; скарачэнне рабочага дня.

У склад забастовачнага камітэта выбралі і прадстаўнікоў рабочай моладзі. Да агульных патрабаванняў рабочых былі далучаны прапановы маладых тэкстыльшчыкаў: за роўную работу — роўная плата; скараціць працоўны дзень для моладзі з 16 да 10 гадзін.

Першыя дні забастоўка тэкстыльшчыкаў працякала спакойна. Фабрыканты, фашысцкі ўрад, ведаючы цяжкае матэрыяльнае становішча рабочых, спадзяваліся задушыць забастоўку голадам. Але бастуючыя тэкстыльшчыкі цвёрда стаялі на сваім. На сходах і мітынгах яны аднадушна пастанаўлялі: забастоўка да перамогі! На фабрыках былі створаны пікеты, самаабарона. Партыйная і камсамольская арганізацыі горада падрыхтаваліся на выпадак арыштаў.

23 сакавіка 1933 года ва ўсёй Польшчы была аб'яўлена ўсеагульная забастоўка, у час якой праводзіліся бурныя мітынгі і дэманстрацыі. У Паб'яніцах у той дзень дайшло да крывавай сутычкі з паліцыяй. Было многа параненых сярод рабочых і сярод паліцэйскіх. Пяць рабочых было забіта. Вестка аб крывавых падзеях у Паб'яніцах выклікала велізарнае абурэнне сярод беластоцкіх рабочых. У знак пратэсту і салідарнасці яны аб'явілі ўсеагульную забастоўку. З усіх раёнаў і акруг пачалі паступаць у Беласток грошы і харчаванне для тэкстыльшчыкаў.

У гэтыя гарачыя дні ў Беласток з'язджаліся камсамольскія работнікі. Нам удалося стварыць тут другую базу для сакратарыята ЦК КСМЗБ. Першы прыехаў сакратар Ваўкавыскага акругкома камсамола Пракоп, за ім — сакратар райкома камсамола з малога гарадка Лапы. Потым прыбылі інструктар ЦК КСМЗБ з Брэста Віця, сакратар Гродзенскага акругкома камсамола Сяргей Прытыцкі. Атрымаўшы заданне, яны адразу ж раз'язджаліся па розных гарадах, каб дапамагчы баставаўшым.

У красавіку фабрыканты змянілі сваю тактыку і аб'явілі, што той, хто не згодзіцца працаваць на старых умовах, будзе звольнены. Адначасова яны пачалі вербаваць штрэйкбрэхераў. У горадзе былі праведзены масавыя арышты. Увесь склад гарадскога камітэта і адзін член акруговага камітэта камсамола трапілі ў турму. А праз некалькі дзён была арыштавана Вера — сакратар акруговага камітэта камсамола. Але гэта не зламала волі баставаўшых. Замест арыштаваных членаў забастовачнага камітэта выбіраліся новыя таварышы. Работу распачаў

новы склад гарадскога камітэта камсамола, які быў у рэзерве. На час забастоўкі сакратаром акругкома камсамола быў вылучаны Яша.

Бастуючыя занялі фабрыкі, аб'явіўшы так званую італьянскую забастоўку, і ў дадатак выставілі новае палітычнае патрабаванне — вызваліць арыштаваных.

Актывізавала сваю дзейнасць самаабарона, у склад якой уваходзілі галоўным чынам камсамольцы і больш свядомая, актыўная частка рабочых. Самаабарона ўзяла на сябе ахову ўсіх уваходаў і выхадаў на фабрыках, ахову камуністаў, камсамольцаў і іншых рабочых-актывістаў, якія выступалі на сходах і мітынгах.

20 красавіка па ініцыятыве камуністаў і камсамольцаў успыхнула ўсеагульная забастоўка рабочых Беластока ў знак салідарнасці з тэкстыльшчыкамі. У горадзе замёрла жыццё. Пралетарыі Беластока прадэманстравалі сваю вялікую арганізаванасць і згуртаванасць.

На наступны дзень — 21 красавіка — рабочыя тэкстыльных фабрык з чырвонымі сцягамі, з лозунгам: «Бастуем да перамогі!» выйшлі на дэманстрацыю. На вуліцах горада гучалі рэвалюцыйныя песні. На плошчы Выгоды пачаўся мітынг. Атрад узброенай паліцыі паспрабаваў перагарадзіць дарогу дэманстрантам, але рабочыя адказалі ўпорным супраціўленнем. Конная паліцыя рынулася на рабочых. Калоны не пахіснуліся. Рабочыя сцягвалі паліцэйскіх з коней, шпурлялі ў іх палкамі, каменнем. У выніку некалькі рабочых было паранена. Многа параненых было і сярод паліцэйскіх.

Падзеі на плошчы Выгоды паказалі, што забастоўка тэкстыльшчыкаў — гэта не толькі барацьба за паляпшэнне жыццёвых умоў, але і за знішчэнне капіталістычнага ладу. Гэта ішла баявая праверка сіл для рашучых бітваў з класавым ворагам...

Нялёгка было нам у тыя дні. Раззлаваныя паліцэйскія і тайныя агенты ахранкі вышуквалі арганізатараў масавых выступленняў на Выгодзе. У горадзе зноў прайшлі масавыя арышты. На вуліцах рабіліся аблавы на камуністаў. У час адной з такіх аблаў я ішоў па вуліцы Сянькевіча на пасяджэнне акругкома камсамола. І толькі павярнуў на Ліпавую, як адразу ж апынуўся ў акружэнні тайных агентаў, якія правяралі дакументы. У кішэні ў мяне быў фальшывы пашпарт на імя Мікалая Крынчука з Камянца, Палескага ваяводства. Варта было тайнаму агенту паліцыі ўзяць мой пашпарт і ўважліва прыгледзецца, як ён лёгка здагадаўся б, з кім мае справу. Таму ўсе мае думкі ў тую хвіліну былі накіраваны да таго, як выйсці з гэтага акружэння, не паказаўшы тайным агентам пашпарта.

Быў пагодлівы веснавы дзень. Па вуліцы шпацыравала шмат людзей. Я кінуўся ў натоўп нейкіх абібокаў і такім чынам абмінуў тое месца, дзе шнырылі тайныя агенты. Але вось вуліца Ліпавая ў тым месцы, дзе яна злучаецца з вуліцай Купецкай, перагароджана. Узмоцнены паліцэйскі патруль нікога не прапускае, і абысці яго нікому не ўдаецца. Павярнуць назад не выпадае. Не паспееш зрабіць некалькі крокаў, як цябе паліцэйскія адразу ж затрымаюць. Што рабіць?

У людскім патоку я параўняўся ўжо з паліцэйскім патрулем. У гэты самы момант насустрач мне ішоў нейкі важны чыноўнік. Патрулі, не пытаючыся дакументаў, ветліва прапусцілі яго. У іх на вачах я прыкладваю руку да свайго капелюша і далікатна вітаюся:

— Добры дзень, вяльможнаму пану!..

Важны чыноўнік адказвае мне паклонам. А я тым часам раблю выгляд, што дастаю з кішэні пашпарт і з абурэннем звяртаюся да аднаго з патрулеў:

— Колькі разоў можна паказваць дакументы? На кожным кроку праверка!..

Патруль, які назіраў за тым, як важны чыноўнік пакланіўся мне, лісліва ўсміхаецца і кажа:

— Праходзьце...

У некалькіх кроках ад кватэры, дзе было назначана пасяджэнне акругкома камсамола, мяне сустрэў Яша. Выгляд у яго спакойны, але мне зразумела, што ён выйшаў не выпадкова. У вузкім завулку няма нікога.

Параўняўшыся са мной, Яша папрасіў прыкурыць. Я дастаю з кішэні запалкі і, не тоячы трывогі, пытаюся:

— Што здарылася?..

— Кватэра скампраметавана, — кажа ён. — Цяпер яўрэйскі вяліксдзень. Тут недалёка сінагога. Мы ўсе за тое, каб там правесці пасяджэнне.

— Як гэта — у сінагозе? Я ж «гой», мяне адразу пазнаюць.

— Ніхто не будзе прыглядацца, там усе заняты маленнем. Толькі рабі тое, што мы. Хадзем!..

І мне нічога не застаецца, як ісці следам. Ля ўваходу ў сінагогу да мяне падыходзяць яшчэ тры члены акругкома.

— Парадак... — дакладвае ім Яша. — Уласна кажучы, цяпер гэта самае бяспечнае месца ў Беластоку... Ты толькі не знімай капелюша, — шэпча ён мне.

Упершыню ў сваім жыцці я трапляю ў сінагогу. Уся яна запоўнена барадатымі людзьмі. Сядзяць яны на высокіх лаўках з малітоўнікамі ў руках і, хістаючыся, гучна, нараспеў гавораць свае малітвы.

Мы селі на двух задніх лаўках — бліжэй да выхаду. Уперадзе мяне сядзелі маладыя тэкстыльшчыкі, члены акругкома, а побач — сакратар гаркома і Яша. Як толькі мы селі, Яша даў мне ў рукі тоўсты яўрэйскі малітоўнік. Я разгарнуў яго і, як усе, ківаючыся, пачаў інфармаваць аб становішчы ў горадзе. Але якім было маё здзіўленне, калі ўсе члены акругкома, у тым ліку і Яша, раптам пачалі смяяцца. Я агледзеўся навокал, але нічога смешнага не заўважыў. Тады нехта з членаў акругкома ўзяў з маіх рук малітоўнік і перавярнуў яго. Аказваецца, я трымаў яго дагары.



А наогул, Яша прыдумаў удала — сінагога для нас аказалася зручным месцам. Там мы потым збіраліся вельмі часта і спакойна вырашалі ўсе свае пытанні.

Набліжалася 1 Мая. У гэтыя перадсвяточныя дні паліцыя асабліва лютавала. Ёй удалося зноў нанесці цяжкі ўдар камсамолу: быў высачан і арыштаван новы склад гарадскога камітэта. У турму трапілі Бронак і яшчэ тры члены акругкома, а таксама многія з камсамольцаў, што непасрэдна працавалі сярод тэкстыльшчыкаў. Паказвацца на вуліцы было рызыкоўна. Аблавы на камуністаў і камсамольцаў рабіліся амаль штодзённа, але і ў такіх умовах партыя і камсамол працягвалі працаваць.

Першамайскае свята ў Беластоку прайшло выключна па-баявому. На фабрыках адбыліся мітынгі, масоўкі. Камсамольцы выступалі на іх з гарачымі прамовамі.

Забастоўшчыкі Беластока не здаваліся. На трэцім месяцы забастоўкі патрабаванні рабочых былі задаволены. Яны выйшлі на працу. Але фабрыканты Супрасля, Васількава, Гарадка і Міхалова заявілі, што беластоцкі дагавор іх не датычыцца. На трэці дзень пасля гэтага фабрыкант Цытрон у Супраслі знізіў зарплату тэкстыльшчыкам на 32 працэнты. Беручы з яго прыклад, зрабілі тое ж фабрыканты Васількава, Гарадка і Міхалова. Рабочыя адказалі на гэта забастоўкай.

Ва ўсіх гэтых мястэчках дзейнічалі шматлікія фашысцкія арганізацыі моладзі, такія, як «Стралец». «Стральцам» давалася работа ў першую чаргу. Як толькі там пачаліся забастоўкі, туды выехаў Яша. Яму ўдалося адразу ж, з дапамогай камсамольцаў, наладзіць сувязь з рабочымі-«стральцамі» і схіліць іх да забастовачнай барацьбы. Гэта была наша першая спроба ўцягнуць «стральцоў» у барацьбу. «Стральцы» разам з забастоўшчыкамі днём і ноччу дзяжурылі ля фабрык, тры-

малі сувязь з забастовачным камітэтам і г. д.

10 чэрвеня 1933 года — незабыўны для ўсіх нас дзень. Стала вядома, што ў Пясчаніках фабрыканту Андурскаму пры дапамозе штрэйкбрэхераў удалося аднавіць работу. Забастовачны камітэт накіраваў у Пясчанікі 200 чалавек з Супрасля, 100 — з Гарадка і 80 — з Міхалова. Пасланцы забастовачнага камітэта, сярод якіх былі і «стральцы», уварваліся ў цэхі і накінуліся на штрэйкбрэхераў. З'явілася паліцыя. На двары фабрыкі завязаўся рукапашны бой. Рабочыя перамаглі. Фабрыка ў Пясчаніках стала. А пасля ўспыхнула крывавая бойка рабочых з паліцыяй у Супраслі.

Мінула больш за 25 гадоў, а ў памяці маёй і да гэтага часу захаваліся падзеі тых дзён. Нібы гэта толькі ўчора прыбег да мяне ўсхваляваны сакратар гаркома камсамола.

— У гарадскім шпіталі памёр адзін цяжка паранены тэкстыльшчык, — паведаміў ён. — Трэба дамагчыся, каб рабочым выдалі яго цела. Яны хочуць пахаваць яго.

І калі мы згадзіліся з яго прапановай, ён моцна паціснуў нам рукі і адразу пабег у шпіталь. Праз гадзіну, вярнуўшыся, ён горка і злосна праклінаў фашыстаў:

— Яны баяцца нас нават калі мы мёртвыя. Ноччу, употай нягоднікі вывезлі забітага юнака!..

Нарэшце, я ніколі не забуду тых хвілін, калі конная паліцыя пачала «супакойваць» рабочых. Я ішоў да Глебава і міжвольна апынуўся сярод рабочых-дэманстрантаў. Памятаю мужныя і рашучыя твары рабочых, якія адважна адбіваліся ад паліцэйскіх. І адразу ж пад чырвонымі сцягамі, пераплененымі чорнымі стужкамі, пралетарыі Беластока і Васількава рушылі ў Супрасль. Над калонай развяваліся транспаранты са словамі: «Прэч фашызм!», «Слава тым, хто загінуў!»

Горда і ўрачыста гучалі рэвалюцыйныя песні. Над магілай забітага рабочага ў Супраслі сабралося больш 5 000 чалавек. Акрамя рабочых-тэкстыльшчыкаў, на пахаванне прышлі сяляне навакольных вёсак, жыхары Супрасля і члены арганізацыі «Стралец». Калі пачуліся гукі «Інтэрнацыянала», «стральцы» скінулі сваю вайсковую стралецкую вопратку і ў адзін голас заявілі:

— Пакідаем «Стралец», таму што ён служыць інтарэсам фабрыкантаў, памешчыкаў і з'яўляецца ворагам рабочага класа і працоўнай моладзі!..

У Супрасль прыехаў Яша. Ён сабраў групу радыкальна настроеных «стральцоў» і разам з імі склаў ліст да ўсёй моладзі, якая знаходзілася ў фашысцкіх арганізацыях. У ім пісалася:

«Страшэнная крывавая расправа прымушае нас выступіць з заклікам да працоўнай моладзі і да ўсіх таварышаў, якія яшчэ знаходзяцца ў «Стральцы», у саюзе рэзервістаў, у гуртках ваеннай падрыхтоўкі — узяць з нас прыклад. Кідайце шэрагі гэтых арганізацый. Станавіцеся ў шэрагі тых, хто змагаецца за хлеб, работу, за свае чалавечыя правы!»

Гэты ліст адыграў сваю палітычную ролю. Моладзь выходзіла са «Стральца». Некаторыя стралецкія атрады зусім распаліся.

### Над Нёманам

У той год не было такой фабрыкі, завода, дзе б рабочыя не ўзняліся на фабрыкантаў. Актывізаваліся сяляне. Яны смела і рашуча працівіліся акупантам, памешчыкам, фашысцкаму ўраду: не плацілі падаткаў, выступалі супраць камасацыі, праганялі секвестратараў, паліцэйскіх.

Амаль адначасова з рухам тэкстыльшчыкаў Беластока праходзіла забастоўка рабочых ў Гродне. Забастовачны настрой панаваў сярод многіх парабкаў памешчыцкіх маёнткаў на Гродзеншчыне. Мне было дадучана выехаць у Гродна і правесці там нарады, а затым і акруговую камсамольскую канферэнцыю. Выехаць трэба было тэрмінова. І як толькі я атрымаў ад Мартына камсамольскую яўку, адразу ж накіраваўся ў дарогу.



Яўка ў Гродне была на вуліцы Ажэшкі, у краме. Трапіць туды было лёгка. Яшчэ здалёк я заўважыў яе. Але што гэта? На дзвярах вісеў вялізны замок. Крама была зачынена. Не верачы сваім вачам, я павольна прайшоў міма. Азірнуўся, праверыў нумары дамоў навокал. Усё было так, як інфармаваў мяне Мартын. Той жа нумар, тыя ж прыкметы. Але мне здалося, што ёсць іншая такая крама. Аднак дарэмнымі былі мае спробы знайсці яе. Я зноў вярнуўся да той, на якой вісеў замок. Спыніўся ў некалькіх кроках ад яе, а потым зноў пайшоў. І так доўга блукаў па вуліцы ў надзеі, што крама гэтая, нарэшце, адчыніцца.

Вечарэла. Я стаміўся і ледзь пераставляў ногі. Шпацыруючы, я заўважыў у гарадскім парку лаўкі і адразу ж накіраваўся туды. Выбраўшы адну з іх у самым кутку, я, змораны і разгублены, апусціўся на яе. Схіліўшы галаву на рукі, заплюшчыўшы вочы, сядзеў і думаў: «Што ж цяпер рабіць?»

Навокал было ціха. Міма мяне шпацыравалі па алеях гараджане.

Раптам я адчуў, як пахіснулася мая лаўка. Я расплюшчыў вочы. Побач са мною сядзела дзяўчына.

— Я не перашкоджу вам? — збянтэжана і ціха спытала яна і, як мне здалося, крыху пасунулася ў мой бок.

— Што вы! Наадварот... — не задумваючыся, адказаў я.

Дзяўчына ўсміхнулася і разгарнула мясцовую газету. На першай старонцы велізарнымі літарамі было надрукавана: «Арышты камуністаў. Бастуючыя выйшлі на работу».

Я паспеў заўважыць, што дзяўчына не чытала, а проста глядзела ў газету. І тады рашыў парушыць маўчанне:

— Дазвольце пазнаёміцца, — нясмела прагаварыў я. — Бжэзінскі Станіслаў.

Дзяўчына, здавалася, толькі гэтага і чакала. Узрадавана паглядзела на мяне і, адразу ж падаючы руку, адказала:

— Гэля... Адпачываеце?

— Ды як вам сказаць... адпачываю і... забаўляюся... А вы?

— Таксама забаўляюся, — і скамячыла разгорнутую газету. Мне хацелася прачытаць усё, што было напісана пра арышт камуністаў, але я не меў права папрасіць газету ў дзяўчыны. Я баяўся, каб яна не здагадалася, што мяне ўсё гэта вельмі цікавіць.

— А што цікавага вы чыталі ў газеце? — спытаў я.

Дзяўчына пацiснула плячыма і адказала:

— Яшчэ не паспела прачытаць...

— Дык навошта вы яе так камечыце?..

Гэля паглядзела на мяне і пачала складваць газету. Мне здалося, што яна збіраецца пайсці.

— Прабачце, Гэля, можа я чым-небудзь пакрыўдзіў вас... — асцярожна запытаўся я.

Гэля моўчкі адкрыла сваю сумачку і дастала ліст. Я адразу пазнаў яго: у ім Мартын паведамляў у Гродна аб маім прыездзе. Забываючы ўсе правілы перасцярогі, я працягнуў да яго руку.

— Як гэты ліст трапіў да вас?

— А чаму вас гэта цікавіць? — з робленым спакоем адказала дзяўчына.

— І вельмі цікавіць, — настойваў я.

— Аднае цікавасці яшчэ мала...

Я здагадаўся: дзяўчына хоча праверыць пароль. Асцярожна агледзеўшыся навокал і пераканаўшыся, што паблізу нікога няма, я сказаў першыя словы пароля:

— Ці не магу я ў вас купіць пяць шаўковых гальштукаў і фетравы капялюш?

— Гальштукі ёсць толькі простыя, а капелюшоў наогул няма, — адказала яна.

Сумненні адразу развеяліся. У нас завязалася ажыўленая, дзелавая гутарка.

Людныя алеі парку апусцелі, а мы ўсё яшчэ сядзелі на сваёй лавачцы. Гэля расказала, як яна

прыйшла на вакзал і наглядала за мной, як хвалявалася за мяне на вуліцы. Паколькі яўка «завешана», ёй было даручана прыняць мяне.

— Цяпер сэрца маё спакойнае. Даручэнне выканана. Вырашайце самі, як вам быць далей,— сказала яна нарэшце. — У цёткі Шуры ўсе хворыя. Сама яна пакуль што адчувае сябе нядрэнна, але вяселле адкладзена і цётка Шура выехала на дачу... Так сказалі перадаць вам...

Гэля, вядома, не ведала значэння гэтых слоў. А я зразумеў усё: цётка Шура — сакратар акругкома камсамола — з горада Гродна выехала, і канферэнцыя адкладзена.

— А больш вам нічога не даручалі? — пацікавіўся я.

— Не, нічога.

— Я павінен недзе пераначаваць...

— Нажаль, я нічым не магу вам дапамагчы,— цяжка ўздыхнуўшы, адказала Гэля.— Магла б запрасіць вас да сваякоў, але ў тым доме, дзе я жыву, былі арышты. Яшчэ ўчора ў маёй сяброўкі, пасля яе арышту, была паліцыя. Рызыкаваць — не ў маім характары.

Некалькі хвілін мы сядзелі моўчкі.

— Вам, Гэля, лепш было б пайсці адсюль. Позна ўжо... — нарэшце парушыў я маўчанне.

— Я не магу вас пакінуць тут аднаго... Вось што: у мяне ёсць далёкая сваячка... Я завяду вас да яе, і вы там пераначуеце. Праўда, яна вельмі набожная і наогул адсталая... Але сумленная жанчына...

Хутка я быў у малой, старэнькай хацінцы, на высокім беразе Нёмана. Недалёка ад яе ўзвышаліся вежы замка Стэфана Баторыя, унізе серабром зіхацела рака.

Ноччу мне здалося, што нехта ходзіць паўз хату. Некалькі разоў праз акно я пільна ўглядаўся ў шэрань ночы. І толькі раніцою, ідучы на вакзал, я даведаўся ад самой Гэлі, што яна ўсю ноч хадзіла па вуліцы, вартуючы мой сон. Я не ведаў, як аддзякаваць гэтай сціплай дзяўчыне.

Праз два месяцы я зноў прыехаў у Гродна. Мяне сустрэла сакратар акругкома камсамола Шура. Здалёку яна дала мне знак ісці за ёй.

Быў гарачы летні дзень. Мы прайшлі па бязлюдных вуліцах горада і выйшлі на шырокі гасцінец. Вёска, у якой мелася быць акруговая канферэнцыя камсамола, знаходзілася за васемнаццаць кіламетраў ад Гродна. Шырокі гасцінец вёў нас праз палі, пералескі, пятляў па лузе і ў многіх месцах падыходзіў да самага Нёмана. Не раз мы спускаліся да ракі, асвяжаліся вадою і ішлі далей. Пакуль не звечарэе, мы не маглі зайсці ў вёску.

На ўзлеску, побач з вёскай, зрабілі прывал. Шура падрабязна расказала аб стане спраў у арганізацыі, аб тым, што зроблена пасля праведзеных у горадзе арыштаў, і тут жа ўспомніла пра сувязную, якая сустрэла мяне тады ў парку.

— Гэта цудоўная дзяўчына. Бясстрашная... У яе няма слоў «не магу», «не хачу», «не ведаю». Ёй дастаткова толькі сказаць, што трэба зрабіць, і яна ўсё выканае. У той дзень, калі ты прыехаў у Гродна, я вымушана была выехаць з горада. І яна ўзяла на сябе апеку над табой.

Калі настала ноч і над Нёманам паплылі ваўняныя туманы, Шура павяла мяне ў вёску. Мы ішлі вузкай сцежкай, асцярожна прабіраліся агародамі да пуні, у якой сабраліся ўсе дэлегаты канферэнцыі. Шура праверыла, з якіх раёнаў хто прысутнічае. Я пацікавіўся, ці выстаўлены пасты самаабароны. Здавалася, усё было ў парадку. Але як толькі адкрылася канферэнцыя, у пуню прыбег усхваляваны сувязны.

— Паліцыя ў вёсцы, — паведаміў ён. І ў той жа момант мы пачулі гул матацыклаў, брэх сабак. У цемры заблішчэлі ліхтары.

— Колькі іх можа быць? — усхвалявана спытала Шура, выходзячы за мной з пуні.

— Не менш як дваццаць, — прашаптаў сувязны.



— Глупства... Ноч цёмная. Наша пуня ў баку ад вёскі. Пабаяцца сунуцца сюды, — спакойна прагаварыла Шура.

І каб не марнаваць дарэмна часу, сувязному было даручана накіравацца ў вёску і выведаць усё як мае быць. Пакутліва доўга цягнуліся хвіліны чакання. Нарэшце, раздаўся працяглы паліцэйскі свісток і зноў зараўлі матацыклы.

— Паехалі падлы-апрычнікі!.. — крыкнуў узрадаваны сувязны.

— Што ім трэба было? — спытала Шура.

— Афоньку Скрыгуна закавалі ў кайданы і павезлі ў Гродна. Камендант пагражаў, што і з другімі так зробяць, калі не спыняцца патравы панскіх сенажацяў.

Мы выставілі ўзмоцненую самаабарону, і канферэнцыя працягвала сваю работу.

### Хмары над Віліяй

Адносна ціха было вясной і летам у самой Вільні. Члены сакратарыята ЦК КСМЗБ у цэнтры горада не паяўляліся. Месцам работы сакратарыята быў раён летніх дач над Віліяй, па суседству з каталіцкімі могілкамі. Туды прыбывалі камсамольскія работнікі з акруг і раёнаў, там праводзіліся ўсе нарады і пасяджэнні сакратарыята.

Віленская ахранка імкнулася напасці на наш след. У буржуазных газетах пачалі паяўляцца заметкі аб законспіраваным камуністычным цэнтры ў Вільні. У касцёлах чыталіся пропаведзі, у якіх ксяндзы заклікалі насельніцтва да барацьбы з камуністамі. Ваявода Бацянскі запрасіў да сябе «на шклянку чаю» групу студэнтаў, непасрэдна звязаных з намі, і прабаваў схіліць іх на сумесную барацьбу супраць камуністаў.

Былі гэта першыя змрочныя хмаркі над Віліяй, але яны прайшлі міма нас Ад паводзін студэнтаў на прыёме ў ваяводы Бацянскага мы былі ў захапленні. Нам асабліва спадабалася, як яны трымалі сябе.

— Пане ваявода, мы поўны пачуцця адказнасці не толькі за саміх сябе, але і за лёс нашага народа. Паверце, пане ваявода, — запэўнілі яны яго, — мы добра разумеем, хто наш вораг, хто прыяцель...

Але разам з радасцю ў душу нам закрадвалася трывога: было зразумела, што неўзабаве супраць нас пачнецца новае наступленне. І яно пачалося. Нейк раптоўна згусціліся, нізка навіслі над Віліяй цёмныя хмары. Пачаліся суровыя, непагодлівыя дні. І толькі наша пільнасць, асцярожнасць выратавала нас ад немінучага разгрому.

Пачалося з таго, што кватэра сакратара Віленскага акругкома камсамола Віктара аказалася пад наглядам паліцыі. Віктар быў вопытным падпольным камсамольскім работнікам. Ён шмат гадоў працаваў у гарадах цэнтральнай Польшчы — Варшаве, Лодзі, Пазнані. Таму ён адразу ж адчуў, што няшчасце ходзіць за ім па пятах.

Пастаянная сувязь з Віленскім акругкомам камсамола ажыццяўлялася праз Мартына. Амаль адначасова паліцыя пачала сачыць і за Мартынам. Віктара мы былі змушаны замяніць. Сакратаром акругкома прызначылі Сямёна — брата Каці. Гэта быў таксама вопытны падпольшчык. Але неўзабаве і за ім пачалі сачыць. Кватэры, праз якія перапраўлялася нелегальная літаратура, аказаліся пад наглядам. Усё гэта гаварыла аб тым, што ў склад акругкома камсамола прабраўся правакатар.

— Хто ён? Як яго выкрыць? — пыталіся мы адзін у аднаго.

Было вырашана праверыць усіх членаў акругкома камсамола. Але ў той дзень, калі было прынята гэтае рашэнне, нас напаткала вялікая няўдача. Паліцыя напала на кватэру, дзе друкаваліся нашы нелегальныя газеты і адозвы, і арыштавала чалавека, які адказваў за друкарскую тэхніку. Нічога не ведаючы аб гэтым, Каця зайшла на тую кватэру, калі там шнырыла па-

ліцыя. Пры сабе ў яе быў пачак нелегальнай літаратуры, якую яна атрымала ад партыйнага кур'ера з Варшавы. Паліцыя арыштавала і Кацю.

Нягледзячы на ўсё гэта, мы хутка ачунялі, бо сам сакратарыят ЦК КСМЗБ быў уратаваны ад паліцыі. Дапамагло нам і тое, што мы цесна былі звязаны з насельніцтвам, карысталіся яго падтрымкай.

На наступны дзень пасля арышту Каці сувязной сакратарыята ЦК КСМЗБ была прызначана Поля, студэнтка філалагічнага факультэта, сяброўка Каці. Яна таксама, як і Рэня, мела шмат знаёмстваў і вялікія сувязі сярод інтэлігенцыі Вільні. Бацька яе быў выкладчыкам у гімназіі, маці — прадаўшчыцай у буйным магазіне.

Праз тыдзень нам удалося стварыць новую падпольную друкарню. Нашы газеты і адозвы па-ранейшаму друкаваліся і ішлі ў масы. Натуральна, гэта яшчэ больш прыводзіла ў шаленства паліцыю. Тайныя агенты паліцыі шукалі нас па ўсім горадзе.

Хутка мы даведаліся, што паліцыя дала правакатару заданне знайсці месца, дзе друкуюцца нашы нелегальныя выданні. Найбольш заявак на нашы нелегальныя газеты і адозвы мы атрымлівалі ад Віленскага акругкома камсамола. Перад намі паўстала пытанне — даведацца, хто з членаў акругкома камсамола асабліва цікавіцца нашай нелегальнай літаратурай. З гэтаю мэтай тром членам акругкома былі дадзены спецыяльныя даручэнні. Выявілася, што адзін з членаў акругкома — Адамовіч — звязаны з паліцыяй.

Лёс правакатара ў той час вырашаўся проста: партыйны суд і, калі падазрэнне спраўджвалася, — смерць. Партыя адобрыла наша рашэнне. Ажыццяўленне прыгавору партыйнага суда над правакатарам Адамовічам было даручана Сямёну.

Сямён назначыў Адамовічу сустрэчу на адзінаццаць гадзін раніцы на вуліцы. Як толькі яны сышліся, Адамовіч працягнуў руку для прывітання, а Сямён у адказ яму:

— Правакатару руку не падаюць... Смерць правакатару! — і стрэліў у яго тры разы.

Паблізу нікога не было. Сямён адразу ж ускочыў на двор, потым праз вароты выйшаў на суседнюю вуліцу, змяшаўся з натоўпам і спакойна, нікім не заўважаны, дабраўся да сваёй кватэры.

Я працаваў у сакратарыяце ЦК КСМЗБ два гады. Па канспіратыўных меркаваннях мне нельга было далей заставацца ні ў Вільні, ні ў Беластоку, і ЦК накіравала мяне ў рэдакцыю падпольных выданняў. Трэба было падрыхтаваць нелегальную літаратуру для моладзі Заходняй Беларусі.

Гарасім і Марак, развітваючыся са мной, выказалі пажаданне арганізаваць выданне часопіса для камсамольскага актыву і парэкамендавалі назваць яго «Маладая гвардыя».

У рэдакцыі па-бацькоўску клапатліва, як і раней, мяне сустрэў Якаўлеў. Побач з ім стаяла стройная смуглявая жанчына і ўсміхалася. Я бачыў яе ўпершыню і таму, падаючы руку, назваў сваё імя:

— Пеця...

— Вера Харунжая, — адказала яна з той жа ўсмешкаю.

Я прыкметна збянтэжыўся. Мне даводзілася шмат чуць пра гераізм і самаадданасць Харунжай, і ў маім уяўленні яна была строгай, суровай і зусім яшчэ юнай дзяўчынай. А тут перада мной стаяла звычайная, гадоў пад трыццаць, жанчына. Калі б не глыбокія маршчынкі ля вачэй, не ранняя сівізна ў русых валасах і не глыбокі, праніклівы позірк, — яна нічым не вызначалася б сярод усіх іншых жанчын свайго ўзросту.

— Вера Харунжая? — не верачы самому сабе, перапытаў я. — Легендарная Вера, наша баявая камсамолка?

— Гэта чаму ж легендарная? — заліваючыся гучным смехам, спытала яна. — Не больш легендарная за цяперашніх камсамольцаў...



— Вы хоць не пасварыцеся пры першым знаёмстве, — жартаўліва заўважыў Якаўлеў і адразу паведаміў: — Вера ўзначальвае цяпер рэдакцыю падпольных выданняў. Табе, Пеця, давядзецца некаторы час працаваць з ёю. Спадзяюся, кантакт у рабоце знойдзеце.

— Бясспрэчна, — у адзін голас заявілі мы.

У рэдакцыі падпольных выданняў у той час нас было трое: Вера Харунжая, Смоляр і я.

Працавалі мы дружна. Ужо ў ліпені перaслалі ў сакратарыят ЦК першы нумар часопіса «Маладая гвардыя». Да 1 жніўня была выпушчана спецыяльная брашура супраць новай імперыялістычнай вайны.

Вопыт падпольнай работы ў мяне быў тады яшчэ небагаты, і я заўсёды звяртаўся да Веры Харунжай, каб яна падзялілася сваёй практыкай падпольшчыка.

— У мяне няма нічога цікавага... Усё такое звычайнае, — са смехам адказвала яна.

За гэта я, вядома, не крыўдаваў на яе, бо разумеў, што ўмовы канспірацыі прывучылі быць не лішне гаваркою. Да таго, яна была вельмі сціплай і не любіла пра сябе гаварыць.

Аднойчы ў жніўні Смоляр, Васіль, я і яшчэ некалькі нашых сяброў сядзелі і гутарылі. Вера чытала нейкую кніжку. Звычайна яна чытала многа і хутка. На двары была навальніца і ліў дождж. Але хутка хмара прайшла і на небе паказалася спачатку адна ясная палоска, скрозь якую прабіваліся прамені сонца, якое заходзіла, а потым сталі барвовымі ўсе воблакі.

— Глядзіце, як прыгожа! — ускрыкнула Вера.

Мы ўсе падышлі да акна.

— Як цудоўна! — гаварыла яна з захапленнем.

Я неасцярожна сказаў:

— Нічога асаблівага... Звычайны заход сонца.

— Адразу бачна, што не сядзеў у турме, — адазвалася Вера. — Той, хто сядзеў у турме і бачыў святло скрозь маленькае акенца пад самай столлю камеры, — той не скажа: «Звычайны заход сонца», а назаве гэта чароўным відовішчам...

Я доўга адчуваў у сваім сэрцы папрок Веры, хоць і разумеў, што зрабіла яна яго не знарок. А калі потым сам трапіў за краты, заўсёды ўспамінаў тыя барвовыя воблакі, якімі так захаплялася Вера.

## Дзёма — правакатар

Весткі з сакратарыята ЦК КСМЗБ, а яшчэ больш з нізавых камсамольскіх арганізацый, якія паступалі ў рэдакцыю, былі не зусім суцяшальныя. Неяк неспакойна было на душы. І вось аднойчы — у кастрычніку 1934 года — па ўсіх акругах пракацілася новая хваля арыштаў. Асабліва вялікія арышты былі ў Слонімскай, Навагрудскай і Брэсцкай акругах. Мяне гэта вельмі занепакоіла. У Слонімскай і Навагрудскай акругах да чэрвеня 1934 года працаваў Дзёма. З чэрвеня Дзёма знаходзіўся ў Брэсцкай акрузе. За яго работай і паводзінамі я ўважліва сачыў. Па некалькі разоў перачытваў яго справаздачы і кожны яго крок, кожнае дзеянне стараўся глыбока аналізаваць. Я, напрыклад, звярнуў увагу на тое, што сакратарыят пасылаў яго ў самыя небяспечныя месцы, на сувязь з аддаленымі раёнамі, і ён усё дакладна выконваў. Мне здалося гэта не зусім нармальным.

Справаздачы свае ён пісаў алоўкам. Прагледаючы іх, я зусім выпадкова заўважыў, што адзін лісток быў напісаны пад капірку. Няўжо Дзёма справаздачы для сакратарыята ЦК КСМЗБ піша ў двух экземплярах? У такім разе дзе другі экземпляр? У справах сакратарыята яго не было. Ад гэ-

### Правакацыя

На яўкі ў сакратарыят ЦК КСМЗБ прыязджалі людзі з усіх акруг. З Варшавы прыехала Зоха, вярнуўся з Беластока Марак. Амаль адначасова з імі з Беластоцкай акругі прыехаў сакратар Бельскага райкома камсамола Дзёма.

— Ідзі, пазнаёмся, лагавары з ім... А потым будзеш бачыць, у якую акругу на Віленшчыне яго паслаць, — сказаў Мартын пры сустрэчы са мной на Зарэччы ў Льва Маркавіча. — Бадай варта накіраваць яго ў Маладзечна.

Хваля рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў тыя трывожныя дні, нягледзячы на разгул белага тэрору, расла і шырылася. З надыходам зімы адкрыта загаварылі аб забастоўцы лесарубы і возчыкі. Час-ад-часу ўспыхвалі хваляванні рабочых у Беластоку, Гайнаўцы, Вільні, Гродне. У агні барацьбы палалі Навагрудчына, Слонімшчына, Брэстчына. Ваенна-палявы суд у Навагрудку за ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе прыгаварыў да пакарання смерцю групу сялян. Ва ўсіх вёсках самавольства паліцыі не мела межаў. Асабліва па-зверску распраўляліся паліцаі з рэвалюцыйнай моладдзю. У Картуз-Бярозе ў час катавання быў замучан Мартын Вячорка — камсамолец з вёскі Бармуты.

У Варшаве, Львове, Пазнані, Кракаве, Вільні разгортвалася барацьба студэнтаў за захаванне ўніверсітэцкай самастойнасці і недатыкальнасці. Асабліва вострыя характар яна набыла ў Варшаве. Там студэнты будавалі барыкады, уступалі ў адкрытыя сутычкі з паліцыяй. Рэха гэтай барацьбы знайшло свой водгук у Вільні.

Уплыў і аўтарытэт падпольных камсамольскіх арганізацый у горадзе і вёсцы, якія працавалі пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, з кожным днём рос, умацоўваўся. Усюды ўзнікалі новыя камсамольскія ячэйкі. Якраз у гэты час прыехаў у Вільню Гарасім. Я сустрэў яго з невыказнай радасцю. Гэта быў мой найлепшы сябар. Мы не бачыліся каля года. Здарылася так, што пасля нарады партыйнага актыву яму была прадастаўлена магчымасць адпачыць, а я быў дэлегаваны на другую канферэнцыю камсамола. Гарасім прывёз мне навіны і прывітанне ад маёй сяброўкі Лены, расказаў, што яна сумуе і жадае прыехаць да мяне ў Вільню. Як я ні прагнуў гэтай сустрэчы, але пра яе і гаворкі быць не магло. Лена была слабая здароўем, і тут у Вільні, дзе я сам жыў на нелегальным становішчы, цяжка было ўладзіць яе жыццё. Ды і сродкаў у мяне не было ніякіх.

З Гарасімам я не мог уволю нагаварыцца. Ён павінен быў неадкладна паехаць на Палессе сакратаром Брэсцкага акругкома КСМЗБ.

Прыйшла Каця. Па яе выгляду лёгка было зразумець, што яна спяшалася.

— Хутчэй ідзіце да прадстаўніка сакратарыята ЦК КПЗБ, — сказала яна мне. — Вось адрас, пароль... Калі яго не будзе, пачакайце. Там павінен быць яшчэ нехта...

Развітаўшыся з Гарасімам, я адразу ж накіраваўся да прадстаўніка сакратарыята ЦК КПЗБ. Ішоў хутка, але асцярожна. На кожным перакрыжаванні вуліц азіраўся, ці не сочыць за мной хто. Дзьмуў халодны вецер. Да сустрэчы заставалася яшчэ дзесяць мінут. Каб не прыцягваць да сябе ўвагі, я прайшоў крыху далей месца сустрэчы. Пры пераходзе вуліцы на момант затрымаў позірк на малым драўляным доміку з замёрзлымі вокнамі, які стаяў зусім недалёка ад вугла. На доміку выразна віднелася лічба 42 і яркія блакітныя аконныя рамы. Тут прызначана наша сустрэча.

З процілеглага боку да доміка падышло двое мужчын. Адзін з іх азіраўся, відаць, стараючыся ўсё запомніць, другі глядзеў на домік. Я на імгненне затрымаўся, нібыта прыпальваючы папяросу. У гэты момант мужчыны зніклі за брам-





выйшла з турмы. Тры гады пакутавала ў Фардоне. І хоць дзяўчыне было не больш 19 год, але твар яе выцвіў, пашарэў. Толькі вочы свяціліся нязгасным агнём юнацтва.

Памятаю, я прыйшоў на кватэру на вуліцы Шаптыцкага, дзе чакала мяне Даша. Не паспеў абмяняцца з ёю некалькімі словамі, як прыйшла Зося — сувязная ЦК КПЗБ.

У той жа момант на кватэру ўваліўся і Дзёма.

— Пеця!.. — закрычаў ён. — Як добра, што я з табой сустрэўся! Ведаеш, іду з вакзала і думаю: дай зайду, можа каго сустрэну.

Прыход Дзёмы мяне вельмі ўстрывожыў. Пад выглядам, што ў мяне прызначана сустрэча, я пайшоў, паабяцаўшы яму сустрэцца ў той жа дзень. Следам за мной пайшлі Зося і Даша.

Праз дзве гадзіны я з Міронам распрацоўваў план работы новага, толькі што створанага сакратарыята. У гэты момант прыбегла ўсхваляваная Даша і паведаміла, што Дзёма разам з паліцыяй робіць арышты ў Вільні.

Мы глядзелі адзін на другога і не маглі прамовіць слова.

— Чаго ж вы маўчыцё? Трэба нешта рабіць, — першай парушыла маўчанне Даша. — Ці ведае ён гэтую кватэру?

— На шчасце, гэтай і іншых нашых кватэр, якімі мы карыстаемся цяпер, ён не ведае.

Гэта падбадзёрыла нас.

— У такім разе, не ўсё страчана! — ускрыкнуў Мірон і пачаў хутка хадзіць па пакоі.

— Дзейнічаць трэба неадкладна. Даша, каго мы можам зараз жа паслаць у Беласток, Гродна, Брэст, Слонім, Навагрудак, Маладзечна? — спытаў я. — Трэба, каб надзейныя людзі сёння ж выехалі туды і паведамілі, што Дзёма — правакатар. Старыя яўкі трэба неадкладна «завесіць» і знайсці новыя.

Даша нібы чакала гэтага распараджэння.

— Добра, будзе зроблена. Людзей знайду, — адказала яна і хутка пайшла.

Цяжка было ў мяне на душы. Дзёма ведаў у твар большасць камсамольскіх актывістаў.

— Я шкадую, што не ведаю гэтага нягодніка... На вачах паліцыі знішчыў бы яго! — сціскаючы кулакі, раптам прагаварыў Мірон.

Для мяне было зразумела, што трэба неадкладна зрабіць так, каб усёй нашай камсамольскай арганізацыі стала вядома, што Дзёма — правакатар.

Хутка вярнулася Даша.

— Мне, як ніколі, пашанцавала, — паведаміла яна. — Людзі падабраны добрыя, надзейныя... І самае галоўнае, мне ўдалося ўстанавіць, што правакатар Дзёма — гэта Стральчук. Так называлі яго паліцэйскія, калі прыйшлі арыштоўваць гаспадыню явачнай кватэры.

Мы з Міронам адразу ж узяліся за падрыхтоўку спецыяльнага нумара газеты «Малады камуніст», прысвечанага барацьбе з правакатарамі.

Увечары ў Вільні ўжо распаўсюджваліся лістоўкі, надрукаваныя на гектографе, у якіх паведамлялася пра выкрытага подлага правакатара — Стральчука.

Стральчук адразу знік з Вільні. Ён выехаў у Брэст, а затым у Слонім праводзіць арышты камсамольцаў і камуністаў. І ўсюды яго суправаджалі тайныя агенты паліцыі.

### Глыбей у падполле

У склад сакратарыята ЦК КСМЗБ быў уведзены Віктар. Ён, як і сувязная Даша, вярнуўся з турмы і адразу ж актыўна ўзяўся за работу. Віктар быў ураджэнец Вільні. Старэйшы яго брат вядомы як адзін з арганізатараў камсамола ў Вільні. Яшчэ ў 1921 годзе за рэвалюцыйную дзейнасць ён прыцягваўся да турэмнага зня-

воления. Стральчук Віктара не ведаў.

Лёгка і добра было працаваць з Міронам і Віктарам. Абодва яны былі палітычна падрыхтаванымі таварышамі і адчувалі вялікую адказнасць за даручаную ім справу.

Правакацыя Стральчука з'явілася звычайным эпізодам паліцэйскай расправы з юнацкім рэвалюцыйным рухам у Заходняй Беларусі. Мы страцілі некалькі камсамольцаў, але сувязь з арганізацыямі не парушылася. Па-ранейшаму выдавалася нелегальная літаратура ў падпольных друкарнях, арганізоўваліся забастоўкі, праводзіліся сходы, масоўкі. Асаблівая ўвага была звернута на стварэнне шырокага народнага фронту ўсёй рабочай, працоўнай і вучнёўскай моладзі. Гэта садзейнічала росту аўтарытэту камсамола сярод моладзі.

У той час я кватараваў ва ўрача-фармацэўта. У яго было два сыны. Адзін з іх з'яўляўся членам «Цукунфта». Ён ведаў, што я камуніст, і доўгі час не хацеў нават сустракацца са мною. Ён быў незадаволены, што яго бацька згадзіўся ўзяць мяне, нелегальшчыка, на кватэру. І вось аднойчы на пасяджэнне камітэта «Цукунфта» ў Вільні мы паслалі дэлегацыю камсамольцаў на чале з сакратаром акругкома камсамола. Дэлегацыя наша была добра падрыхтавана і трымала сябе там з выключным тактам. Сакратар акругкома камсамола — чалавек вельмі адукаваны — зрабіў на «цукунфтаўцаў» моцнае ўражанне. Пасля гэтага гаспадароў сын-«цукунфтавец» шчыра загаварыў са мной.

— Вы ўмееце кожнаму заглянуць у душу, — сказаў ён. — Мы, «цукунфтаўцы», на вашым баку...

Ішлі дні. Я шмат аб чым перагаварыў з «цукунфтаўцам». І ён храбрэў на маіх вачах, станавіўся нашым агітатарам. Пры яго непасрэдным удзеле ў Вільні вяліся потым сумесныя выступленні камсамольцаў і «цукунфтаўцаў».

Пасля арыштаў у сувязі з правакацыяй Стральчука сакратарыят ЦК КСМЗБ не мог заставацца ў Вільні. Мы пераехалі ў Беласток. Нашым дэвізам тады стала: глыбей у падполле!



Люба Рудніцкая, падпольная клічка «Шура».

З дапамогай Дашы мы параўнаўча лёгка знайшлі кватэры для сваіх работнікаў, але адчувалі вялікую патрэбу ў кватэрах для сакратарыята. Я рашыў параіцца аб гэтым з Уладакам. Ён па-ранейшаму быў членам акругкома камсамола. Уладак паабяцаў дапамагчы. І сапраўды ён дапамог. Чатыры кватэры мы хутка займелі ў горадзе і адну — у вёсцы, побач з Беластокам. Спачатку нам здавалася, што кватэру ў вёсцы наўрад ці можна будзе выкарыстаць. І не адлеглаcць нас бянтэжыла, а тое, што гэта быў дом солтыса.

Даведаўшыся пра гэтыя сумненні, Уладак накінуўся на мяне:

— Чаго гэта вы да солтыса не паказваецеся? Баіцёся?!. Гэтага чалавека я добра ведаю і ручаюся за яго. Ён перакананы камуніст, мой сваяк.

Солтыс быў бедняком, разумным чалавекам. Сяляне паважалі яго і таму выбралі на гэтую пасаду.



Домік солтыса стаў для нас апорным пунктам. Там мы праводзілі пасяджэнні, пісалі адозвы, рыхтавалі артыкулы для сваіх нелегальных газет.

Вясной 1935 года палітычная актыўнасць працоўных мас Польшчы пачала шпарка расці. Рэакцыя паспрабавала была накіраваць гэтую актыўнасць па ілжываму рэчышчу. Ва ўсіх буйных гарадах і мястэчках наладжваліся пагромы супраць яўрэйскага насельніцтва, каб адцягнуць увагу народа ад надзённых пытанняў, пад шумок антысемітызма разграміць рэвалюцыйны рух.

Цяжка было ў тыя дні камуністам і камсамольцам. Ва ўсім буржуазным друку супраць нас вялося раз'юшанае цкаванне.

Аднак ні аднюй хвіліны мы не сядзелі без справы. У Беласток прыязджалі і ад'язджалі нашы камсамольскія работнікі з усіх акруг. Прыклад настойлівасці і мужнасці паказвалі камсамольцы Беластока. І гэта не дзіўна. Кіраўніцтва Беластоцкай акругай было ў руках вопытных падпольшчыкаў. У прыватнасці, сакратаром акругкома там стала працаваць Ванда (Р. Залашанская).

Аднойчы ў чэрвені яна прыйшла ў сакратарыят і сказала, што хоча склікаць пленум акругкома камсамола.

— Калі ласка, — адказваем ёй.

— Хто ад вас, ад сакратарыята, мае намер у ім удзельнічаць?

— Гледзячы якія пытанні будзеце абмяркоўваць.

— Самыя надзённыя. У Супраслі, Васількаве зноў фабрыканты рыхтуюць зніжэнне заработнай платы. У Гайнаўцы трэба было б стварыць адзіны фронт барацьбы з «тураўцамі» (сацыялістычная арганізацыя моладзі). А наогул ёсць жаданне паслухаць вашы навіны...

Пасяджэнне пленума было прызначана ў Гарадку — прыкладна за сем кіламетраў ад Беластока напярэдадні другой гадавіны крывавых падзей у Супраслі. Удзельнікі пленума сабраліся ў чатырох розных пунктах і толькі з надыходам ночы смела прыйшлі ва ўмоўленае месца. Уласна кажучы, той пленум можна было б з поспехам назваць акруговай падпольнай канферэнцыяй. Сабралося на яго 19 чалавек.

На досвітку, атрымаўшы канкрэтныя заданні, усе ўдзельнікі пленума разыйшліся. Выправіўшы іх, Ванда пайшла ў Гарадок да знаёмых рабочых. У той жа дзень у Гарадку быў створаны забастовачны камітэт, і ў Супрасль, Міхалова, Васількаў адправіліся яго прадстаўнікі з прапановай неадкладна пачаць забастоўку.

На наступны дзень ля тэкстыльных фабрык у ваколіцах Беластока стаялі пікеты. Рабочыя баставалі. Гэта было вялікай нечаканасцю для фабрыкантаў, бо ўсяго некалькі дзён перад тым яны заключылі дагавор з замежнымі фірмамі на пастаўку сваіх вырабаў. З бастуючымі неадкладна пачаліся перагаворы, і патрабаванні рабочых былі задаволены. Фабрыканты Васількава замест зніжэння платы, якое імі рыхтавалася, вымушаны былі павысіць рабочым заработную плату.

У канцы чэрвеня паліцыя пранюхала, што Беласток стаў кіруючым цэнтрам камсамола Заходняй Беларусі. Сакратарыяту ЦК, як ён ні канспіраваўся, стала там цесна. Кіруючыся ўказаннем партыі, мы працягвалі працаваць у глыбокім падполлі. У вёску, да солтыса, мы хадзілі абходным шляхам, у цэнтры горада амаль ніхто з нас, за выключэнем Дашы, не паяўляўся.

Якраз у гэты трывожны час я і развітаўся з камсамолам.

ЦК КПЗБ вырашыў адклікаць мяне на партыйную работу.

## Пасляслоўе

Прайшло шмат год...

Я зноў — у Варшаве. Але ўжо не як падпольшчык, якога высоч-

вае паліцыя, а як жаданы і паважаны госць. Цэнтральны Камітэт Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі і мае таварышы часоў падполля запрасілі мяне на святкаванне 40-годдзя Камуністычнай партыі Польшчы.

Якая гэта была велічная ўрачыстасць! Сходы рабочых, моладзі. Сустрэчы з ветэранамі рэвалюцыйнага руху. Выстаўка дзейнасці КПП. Канцэрты, прысвечаныя 40-годдзю КПП. Колькі дасціпнасці, старання ўкладзена ў падрыхтоўку ўсяго гэтага! І як ярка, урачыстаззяюць агні ўзнятай з папялішчаў Варшавы!

Мяне ўвесь час не пакідала жаданне хутчэй сустрэцца з незабыўнымі сябрамі далёкага юнацтва.

Шмат каго з іх ужо даўно няма сярод жывых. Яшчэ задоўга да вайны ў Варшаве памёр пасля аперацыі «Якаўлеў» — Блінчыкаў.

У барацьбе за волю і шчасце народа загінуў смерцю храбрых у гарах Іспаніі камісар Інтэрнацыянальнай брыгады — сакратар ЦК КСМЗБ «Гарасім» — Мікалай Дворнікаў. Замучаны гітлераўцамі ў Асвенціме член сакратарыята ЦК КСМЗБ «Віктар» — Розеншэйн. Недзе ў Лондане, у часе вайны, загінуў член сакратарыята — «Марак». Загінулі ад рук гітлераўскіх катаў член ЦК КСМЗБ «Ванда» — Р. Залашанская. Няма і «Васіля» — Эдуарда Ідэля, «Мартына» — Міколы Маслоўскага, «Майскага» — Хазана, «Мірона» — Маркевіча і другіх.

Калі пісаліся гэтыя ўспаміны, аўтару іх нічога не было вядома пра «Змітра» і «Рэню», — я лічыў, што яны загінулі. Аднак не так даўно стала вядома, што «Змітро» — Іван Малец — працуе на Брэстчыне ў Ляхавіцкім раёне дырэктарам Пранчакоўскай сярэдняй школы. Жыве і працуе ў Маскве «Рэня» — Раіса Левіна. А колькі ёсць яшчэ такіх, як «Змітро» і «Рэня»?..

Каго ж з сяброў я сустрэну тут, у Варшаве?

Уявіце сабе трохтысячную залу Палаца культуры. Іграе духавы аркестр. У файэ і на праходах у залу тоўпяцца тыя, што спазніліся.

— Пеця! Пеця! — чую я галасы, і чыесьці моцныя рукі сціскаюць мяне ў абдымках.

— Сямён!.. Каця!.. Люба!.. Шура!.. Вера!.. Юзак!.. Ліза!.. Бронак!.. Казік!.. — ледзь паспяваў я прамовіць клічку аднаго старога сябра, як адразу ж трапляў у абдымкі другога.

І пачынаецца зноў знаёмства са старымі сябрамі, якія цяпер жывуць у Польскай Народнай Рэспубліцы.

«Сямён» — гэта Юліян Левін, «Каця» — Варвара Казлоўская, «Шура» — Люба Рудніцкая, «Яша» — Міхаіл Табарыскі... Сяброў аказалася больш, чым я чакаў. Сярод іх такія, як Люба Янкоўская, Ліза Мартылёва, Юзак Кавальскі, Мікалай Міхайлоўскі, Пташынская, Гжэсоўская, Бучкова, Малько...

І як прыемна адчуць, зноў знаёмячыся са старымі сябрамі, што ўсе мы ў маладосці хадзілі патаемнымі сцежкамі, каб разам з польскімі камуністамі вывесці тады прыгнечаны працоўны люд на шырокую дарогу светлага і раданага жыцця.

## *Давайце пагаворым...*

# ЗА ВЯЛІКАЕ І ПРЫГОЖАЕ КАХАННЕ

### НЕ ЗНЕВАЖАЦЬ ПАЧУЦЦІ

З вялікай цікавасцю прачытаў я артыкул Сяргея Лапцёнка «За вялікае і прыгожае каханне» (часопіс «Маладосць» № 9). Хочацца і мне, настаўніку, выказаць свае думкі па пытаннях, якія закрануты ў ім.

Погляды чалавека на жыццё, на ўзаемаадносіны паміж людзьмі фармуюцца яшчэ за школьнай партай. Вось чаму вельмі важна, каб выхаванню такіх высакародных пачуццяў, як сяброўства, дружба і каханне, школа аддавала належную ўвагу. Нажаль, не заўсёды бывае так. Часам здараецца, што мы, настаўнікі, узнімаем трывогу, калі паміж хлопчыкам і дзяўчынкай узнікае дружба.

Мне здаецца, глыбока памыляюцца тыя настаўнікі, якія спрабуюць адцягнуць вучняў старэйшых класаў ад хвалюючых пытанняў аб сяброўстве і каханні. Не сакрэт жа, што калі мы праводзім у старэйшых класах вечары пытанняў і адказаў, больш за ўсё задаецца пытанняў на маральныя тэмы. Думаецца, зусім правільна робяць тыя настаўнікі, якія ў тактоўнай форме адказваюць вучням на гэтыя пытанні.

Але бывае і інакш. Некалькі год таму назад у адным з дзесятых класаў нашай школы вучыліся Людміла Ч. і Уладзімір К. Яны сябравалі паміж сабой. Аб гэтым ведаў класны кіраўнік, ведалі і аднакласнікі, але ніхто не кпіў з іх сяброўства, не зневажаў іх пачуццяў. Яны заўсёды дзяліліся ўражаннямі аб прачытаных кнігах, прагледжаных кінафільмах, разам рыхтаваліся да заняткаў. Усе бачылі, як дабратворна ўплывае сяброўства на Людмілу і Уладзіміра: яны добра паспявалі, прыкладна паводзілі сябе ў школе і ў грамадскіх месцах. Але вось аднойчы настаўніца неасцярожным словам зняважыла Людмілу, папракнуўшы яе дружбаю з Уладзімірам. Следам за настаўніцай і некаторыя вучні пачалі кпіць з іх сяброўства. Справа дайшла да таго, што Людміла ледзь не пакінула вучобы ў дзесятым класе.

Пасля гэтага Людміла і Уладзімір перасталі сустракацца і размаўляць, нібыта кожны з іх быў вінаваты ў нечым перад другім. Спатрэбілася шмат намаганняў класнага кіраўніка, каб спыніць пра іх усялякія размовы, але так да канца заняткаў у дзесятым класе мы больш ніколі не бачылі Людмілу і Уладзіміра побач...

Гэты факт я прыводжу для таго, каб паказаць, як важна настаўніку быць тактоўным, чулым, не зневажаць пачуцці вучняў, якія сябруюць.

Выхоўваць у вучняў высакародныя рысы савецкага чалавека, у тым ліку і крыштальна чыстыя пачуцці дружбы і кахання, — прамы абавязак кожнага настаўніка.

**І. РАБКОЎ,**
**настаўнік Абчугскай СШ**
**Крупскага раёна Мінскай вобласці.**

### МАЕ МЕРКАВАННІ

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» правільна зрабіла, надрукаваўшы артыкул С. Лапцёнка «За вялікае і прыгожае каханне». У ім закрануты вельмі цікавыя пытанні. Па некаторых з іх мне хочацца выказаць свае меркаванні.

Перш за ўсё — пра таварыскасць. Гэтае пачуццё вельмі ўласціва нам, савецкім людзям. У нашай краіне таварыш — кожны грамадзянін, хто сваімі справамі дапамагае будаўніцтву камунізма. Нездарма са словам «таварыш» мы звяртаемся да зусім незнаёмага чалавека.

Сяброўства аб'ядноўвае больш вузкае кола людзей. Добрае сяброўства можа існаваць паміж юнаком і дзяўчынай. Я згодзен з аўтарам артыкула, што юнак і дзяўчына могуць сябраваць, не кахаючы адзін аднаго. Аднак, на маю думку, сапраўднага кахання без сяброўства быць не можа.

Каханне — складанае чалавечае пачуццё, якое заснавана на глыбокай узаемнай павазе, шчырым і працяглым сяброўстве. Глыбокае пачуццё кахання ўзнікае толькі тады, калі чалавека добра зразумееш, калі стануць блізкімі яго інтарэсы.

У артыкуле С. Лапцёнка ўзнімаецца і такое пытанне: хто першы павінен прызнацца ў каханні — хлопец ці дзяўчына? У адказ хочацца расказаць адзін выпадак.

Заплыўшы на сярэдзіну возера, дзяўчына Л. знясілела і пачала тануць. Юнак В., што знаходзіўся непадалёку, кінуўся ў ваду і выратаваў яе. Л. была вельмі ўдзячна юнаку. Ён уразіў яе сваім учынкам і сціпласцю (ён нават не назваў сваё імя і непрыкметна знік).

Юнаку таксама спадабалася Л. Ён часта марыў сустрэцца з ёю.

Неяк выпадкова яны спаткаліся на вуліцы. Прайшоў некаторы час, і яны пакахалі адзін другога. А праз год пажаніліся і цяпер жывуць дружна.

Хто з іх першы прызнаўся ў каханні, на маю думку,— не мае значэння. Можа яны і самі гэтага не памятаюць.

Важна, каб маладыя людзі лёгкадумна не ставіліся да сваіх пачуццяў, не растрачвалі іх марна.

**Іван КІСЕЛЬ.**

**г. Мінск.**

## ГАЛОЎНАЕ Ў КАХАННІ—ВЕРНАСЦЬ

У жыцці мы сустракаем нямала прыкладаў вернага і глыбокага кахання, якое ўзвышае людзей, дапамагае ў цяжкія мінуты. Але сустракаюцца яшчэ і такія людзі, якія на каханне глядзяць, як на забаву.

Іван Г. — чалавек, прыгожы з выгляду, умее добра танцаваць, весела расказаць анекдот, дзяўчыне заўсёды месца ўступіць, кветкі з паклонам падорыць. І не дзіўна, што дзяўчатам ён падабаецца. Але не кожная можа за знешняй прыстойнасцю разгледзець у ім распусніка, пашляка. Іван ганарыцца тым, што ўмее лёгка ашукаць дзяўчыну. Калі таварышы зробяць яму заўвагу, што гэта непрыстойна, ён звычайна адказвае:

— Што вы мяне вучыце? Я хачу ўзяць ад жыцця ўсё...

А вось другі прыклад. Міхаіл М. ажаніўся з Верай А., добрай дзяўчынай і актыўнай камсамолкай. Адразу ж пасля вяселля, тоячыся, што ён жанаты, Міхаіл пачаў шукаць новых знаёмстваў з дзяўчатамі. Не змяніў ён сваіх паводзін і тады, калі ў іх з Вераю нарадзілася дачка. Вера ўсё гэта бачыла, але думала, што Міхаіл возьмецца за розум. Потым і на гэта страціла надзею, забрала дачку і кінула Міхаіла. А яму хоць бы што. Ён зноў гуляе, як і раней, не задумваючыся над тым, што калечыць жыццё маладой жанчыне, прынёс гора сваёй дачцы.

Нельга думаць, што толькі сярод хлопцаў ёсць такія, як Міхаіл. Святлане Б. — 20 гадоў. Гэтая маладая дзяўчына светлае пачуццё кахання, якое ўзвышае людзей, робіць іх прыгажэйшымі, ператварыла ў нейкую забаву: сёння аднаму падміргне, падорыць усмешку, заўтра — другому. Ёй робіцца сумна, калі ў яе няма новага кавалера. Яна ўжо і замужам пабыла, ды не доўга пажыла з мужам. «Мы з Колем характарамі не сышліся», — тлумачыць яна.

Колю ж я ведаю. Залатая душа ў чалавека. Абваражыла яго Святлана сваёй прыгажосцю. Разышліся. Мікалай перажывае, а Святлана зноў усмешкі дорыць іншым...

Каханне — гэта не забава, а вялікае пачуццё, якое нельга разменьваць на дробязі. Тыя, хто лёгкадумна растрачваюць свае пачуцці, не могуць моцна кахаць і не могуць стварыць моцнай сям'і. А без гэтага не можа быць шчасця. Моцная, здаровая, дружная сям'я — гэта разам з тым і моц нашай дзяржавы; шчасце дзяцей — гэта шчасце нашых будучых пакаленняў. Той, хто лёгкадумна адносіцца да кахання, да сям'і, той не клапоціцца аб нашай будучыні.

**П. НЕСЦЯРОВІЧ,**
**супрацоўнік Бярэзінскай райгазеты «Сцяг Леніна».**

# *Крытыка і бібліяграфія*

Анатоль **КЛЫШКО**

## ТАВАРЫШ НАШАЙ ВЯСНЫ

**Пра паэму В. Таўлая «Таварыш»**

Вясна засталася па той бок мяжы. Рыжскі вецер дыхнуў пранізлівым холадам. На заняволеных гонях, застуджваючы маладыя парасткі, лютаваў сівер. Паэт дакараў жаўрука:

І нашто ён ключом серабраным
нашы сэрцы крануў без пары?
След вясняны ў краіне забранай
сыпкім снегам заносяць вятры...

І паэзія Таўлая летуцела аб вясне, аб «ніве шырокай» з гулам трактара і песняй свабоднага чалавека, аб той бальшавіцкай вясне, якую сустракаў ён, калі шаснаццацігадовым юнаком пераходзіў дзяржаўную мяжу недалёка ад Негарэльскай аркі з вячыстымі словамі на ёй: «Камунізм змяце ўсе граніцы». За гэтую «сацыялістычную вясну народаў», як называў яе ў адзіночцы Баутцэна Эрнст Тэльман, і змагаўся Таўлай, праз два гады зноў вяртаючыся ў забраны край; гэтай вясне і аддаў ён сваё жыццё — жыццё-подзвіг.

Палымяныя вершы Таўлая — дзеці гэтай вясны. Ім не заўсёды хапала ў панскай Польшчы паперы, каб быць надрукаванымі, але ў іх заўсёды быў «накал і паэтыкі добрая доза», каб жыць у людскіх сэрцах. Хто ведае, колькі новых змагароў прывялі яны на чырвоныя барыкады...

...Паэма «Таварыш» — адзін з лепшых паэтычных твораў Таўлая. Задуманая ў час разгулу фашызма, яна была тым снарадам, які добра накрываў цэль. І ў той жа час гэта — лепшы помнік як яе аўтару, так і ўсім тым, што гэтак жа, як і ён,

Цёплай, сейбіцкай жменяй... жыццё раскідалі,
каб вясна расцвіла для людзей і на гэтай пакутнай зямлі.

### Злажыла свабода, спявала няволя

Ішоў 1936 год. Пасля дваццацівасьмімесячнай падрыхтоўкі паны, нарэшце, адважыліся даць бой. У Віленскім акруговым судзе Валянцін Таўлай атрымаў самую высокую палітычную атэстацыю сваёй паэзіі і восем год турмы. Цягнікам яго даставілі ў Гродна.

Улады, як бы спецыяльна ўлічыўшы, што ён — сын чыгуначніка — мае надзвычайную «цягу да бясконцых рэек», вазілі яго з астрога ў астрог: то з Лукішак у Слонім, то са Слоніма ў Гродна. Цяпер шлях паўтарыўся — з Лукішак зноў у Гродна.

Шэсць год, якія прайшлі з часу першага гродзенскага візіту, амаль не змянілі горад. Толькі пабольшала жабракоў на вуліцы ды заўважаецца прагрэс у дастаўцы з вакзала ў турму — машынаю. Раней гналі пешкі.

Турма як старога знаёмага сустрэла Таўлая хлебам і соллю. Хлеба—фунт на дзень, а солі... Солі было досыць. Саліў і «старшы пшадоўнік», і начальнік турмы, і пан Грабоўскі. Пану міністру юстыцыі пасля паездкі ў Германію для вывучэння «перадавога вопыту» дзве гадзіны прагулкі палітзня-

воленых здаліся незвычайнай раскошай у турме—прыйшло распараджэнне: «Шпацыр — паўгадзіны... дастаўкі з волі востра абмежаваць».

Пацяклі аднастайныя дні. Але Таўлаю ўжо не трэба было прывыкаць. Ён не лічыў хвіліны, не драбіў, як некалі, на секунды «доўгі шэры астрожны дзень»... Памяць — цудоўны кінематограф. Заплюшчыш вочы — і перад табой адзін за адным праходзяць кадры, якія склалі б найцікавейшы дакументальны фільм — «Рэвалюцыйная барацьба працоўных Заходняй Беларусі».

Цяжкі сацыяльны і нацыянальны прыгнёт з самага дзяцінства ўспрымаўся паэтам у даволі канкрэтных формах.

«Шчыльнелі могілкі, папаўняючыся новымі радамі магіл, у якія заганяла крываўка...» — так апіша пазней ён свае дзіцячыя ўражанні («Аб сабе»). Або: «...Бацьку (толькі за тое, што ён беларус. — **Ан. К.**) звальняюць з працы, сям'ю выкідваюць з чыгуначнага дому».

Вось што так рана выклікала пратэст, абуджала ў юнаку рэвалюцыянера.

...Таўлай цяпер сядзеў у турме, і яму ўспаміналася работа ў цэнтры нацыянальна-вызваленчага руху... Як там яго таварышы, што засталіся на волі?.. Хутка Першамай. Ён пісаў бы адозвы, расклейваў лістоўкі... І бегалі б шпікі, шалелі б ад злосці на «камунарчыкаў».

Не лістоўка — паэма, гатовая сэрца скарыць;
адпаведны накал і паэтыкі добрая доза...
...Набіралі ў падполлі яе друкары,
адціскала «буда» каля Вільні такія адозвы.
. . . . . . . . .
І на покліч наш грозны — гублялі палацы спакой,
або, крокі пачуўшы, — на шлях пазіралі з трывогай,
і на кожным рагу выстаўлялі па дзесяць шпікоў,
і ад злосці раўлі бранявыя машыны ў бярлогах.

Пройдзены шлях быў настолькі багаты ўражаннямі, што нават у такіх «спрыяльных» умовах, як турма, ён не мог не пісаць. Словы самі прасіліся на паперу.

Паперы, праўда, не было, але ж была паверхня стала. А сцяна... чым не грыфільная дошка? Можна пісаць і пазногцем і гузікам.

Колькі хочаш варыянтаў можаш зрабіць у галаве... Працуй над кожным радком. Спяшацца не трэба: зборнік у друку з'явіцца не скора.

А знойдзецца аркушык паперы — верш у «грыпсе» будзе хадзіць з камеры ў камеру. Разам са зволеным арыштантам ён выйдзе за астрожныя муры і будзе клікаць да бою.

Можа гэтым вершам будуць прысягаць гэтак жа, як невядомы рэвалюцыянер на сцяне лукішскай камеры прысягаў вершам Купалы:

За свабоду сваю
Усёй душой пастаю;
У агонь, у ваду
Я за ёю пайду...

Некалі, шэсць год таму назад у Гродзенскай турме Таўлай пісаў верш-прысвячэнне савецкім камсамольцам:

На рыштаванне гісторыя кліча:
гэй, узнімайся хутчэй, маладняк,
новага ладу тварцом — будаўнічым
выйдзі на досвітку новага дня!
Ясная сцежка да шчасця пралегла—
іншае сцежкі да шчасця няма.
Камень за каменем, цэглу за цэглай.
зложым, як песню, будыніну-гмах.

«Камень за каменем».

Там шпарка цяпер ідзе будаўніцтва. Пэпэсаўскі «Работнік», які даюць чытаць палітзняволеным, вельмі «сціпла» гаворыць аб гэтым. Але ў турму прыходзіць «жывая газета» — новыя вязні. Яны на шпацыры расказваюць аб сацыялістычным будаўніцтве ў краіне Саветаў, аб новых перамогах арміі Мао Цзэ-дуна ў Кітаі...

Ноччу, калі ў Маскве на Спаскай вежы гадзіннік б'е дванаццаць і радыёхвалі па ўсёй зямлі разносяць магутны спеў «Інтэрнацыянала», тэлеграф без дроту з камеры ў камеру перадае па азбуцы Морзе свае навіны, хоць і запозненыя: «Новая домна ў Магнітагорску дала першую плаўку чыгуну»... «Шахцёры Данбаса ўкаранілі новы метад работы ў забоі...»

А ў заходнебеларускай вёсцы секвестратар зрабіўся штодзённым госцем селяніна: фашысцкаму ўраду патрэбны падаткі.

Лютуе белы тэрор. Адзін за адным адбываюцца ў Вільні судовыя працэсы, то «семнаццаці» то «шаснаццаці». Іх нумары, як заўсёды, вымяраюцца дзесяткамі.

З усіх сіл запрацавалі правакатары. Стральчук нават паставіў рэкорд — прадаў звыш тысячы рэвалюцыянераў. Юнак Сяргей Прытыцкі страляе

# *Выйшлі ў свет*

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі выпусціла кнігі:

**Навукова-атэістычныя веды—у масы.** Зборнік матэрыялаў у дапамогу культасветработніку. 64 стар. 5 000 экз. Цана 55 кап.

У зборніку змешчаны цікавыя і разнастайныя матэрыялы, якія дапамогуць культасветработнікам весці антырэлігійную прапаганду. Сярод іх—артыкулы аб вопыце атэістычнай работы Чарноўчыцкага сельскага Дома культуры Брэсцкага раёна і Рудня-Барталамееўскай хаты-чытальні Чачэрскага раёна, расказы былых веруючых М. Пігулеўскай, П. Дарманскага і М. Стрэчаня аб тым, як яны парвалі з рэлігіяй.

У дадатку да зборніка апублікаваны выказванні класікаў марксізма-ленінізма аб рэлігіі, прыкладная тэматыка лекцый і гутарак па навукова-атэістычных пытаннях, бібліяграфія, спіс кінафільмаў на прыродазнаўча-навуковыя і навукова-атэістычныя тэмы, а таксама антырэлігійныя прымаўкі і пагаворкі.

**Бачароў Д. Балгарыя сацыялістычная.** 62 стар. 8 000 экз. Цана 60 кап.

Брашура прысвечана пятнаццацігоддзю Народнай Рэспублікі Балгарыі. У ёй расказваецца аб тым, як адсталая ў мінулым Балгарыя за пятнаццаць год народнай улады пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі дасягнула вялікіх поспехаў у развіцці прамысловасці і сельскай гаспадаркі і заняла належнае месца ў магутным лагеры сацыялістычных краін.

**Прахарэнка І. Д. Хімія і рашэнне асноўнай хімічнай задачы СССР.** 52 стар. 10 000 экз. Цана 50 кап.

Брашура расказвае аб ролі хіміі ў вырашэнні асноўнай эканамічнай задачы СССР — дагнаць і перагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі ў вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва, аб месцы хімічнай прамысловасці ў народнай гаспадарцы СССР, аб перспектывах яе развіцця. У брашуры прыведзены цікавыя лічбы і факты аб развіцці хімічнай прамысловасці Беларусі ў сямігодцы.

**Чыстап'янаў Д. Ф. Таямнічы мацярык.** 150 стар. 5 000 экз. Цана 1 руб. 50 кап.

У апошнія гады навуковыя экспедыцыі многіх краін рушылі на штурм Антарктыды. Толькі цяпер ледзяны мацярык пачаў паступова раскрываць свае таямніцы. У кнізе Д. Чыстап'янава падрабязна расказваецца пра гісторыю адкрыцця шостага мацерыка і яго асваенне. Аўтар сабраў цікавы матэрыял аб рабоце чатырох савецкіх антарктычных экспедыцый, якія вядуць даследаванні па праграме Міжнароднага геафізічнага года.

**Пятрусь Броўка. Пахне чабор.** Вершы. 124 стар. 5000 экз. Цана 1 руб. 60 кап.

Хіба на вечар той можна забыцца?
...Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,
Штосьці спявае пяшчотнае бор,
Пахне чабор,
Пахне чабор...

«Пахне чабор» — так назваў свой новы зборнік вершаў Пятрусь Броўка. Аматары паэзіі знойдуць у кнізе лірычныя вершы аб міры і дружбе, аб душэўным харастве савецкага чалавека, аб прыгажосці роднай прыроды. І ўсе яны прасякнуты гарачым патрыятычным пачуццём.

**Мао Дунь. Перад світаннем.** Раман. 554 стар. 5 000 экз. Цана 14 руб.

Сярод твораў кітайскай літаратуры, прысвечаных рэвалюцыйнаму руху ў дваццатыя-трыццатыя гады гэтага стагоддзя ў Кітаі, вылучаецца раман вядомага кітайскага пісьменніка Мао Дуня «Перад світаннем». У ім выкрываецца прадажная роля буржуазіі і памешчыкаў, якія аб'ядналіся з іншаземнымі імперыялістамі для сумеснай барацьбы з нарастаючым рэвалюцыйным рухам у краіне.

Раман перакладзены на беларускую мову Янкам Казекам і Васілём Віткам.

**Станіслаў Шушкевіч. Дарогаю вясны.** Вершы. 80 стар. 4 000 экз. Цана 70 кап.

Тэматыка вершаў Станіслава Шушкевіча — самая разнастайная. Аб лёсе свайго пакалення, якое было сведкай рэвалюцыйных кастрычніц-

кіх падзей, расказваюць вершы з нізкі «Дні майго маленства». У невялічкай паэме «Мой горад» паэт у мастацкай форме раскрывае яркія старонкі гісторыі Мінска. Гераічны вобраз нашага сучасніка паўстае з нізкі вершаў «Дзе льецца шумна Ангара». Апошні раздзел зборніка складаюць сатырычныя вершы, а таксама літаратурныя пародыі і эпіграмы.

**Міхась Даніленка. Майская навальніца.** Апавяданні. 146 стар. 5 000 экз. Цана 2 руб. 20 кап.

Героі апавяданняў пісьменніка — людзі розных прафесій і ўзростаў. Праваднiца Таня («Па дарозе ў Вільнюс»), калгасніца Ірына («Майская навальніца»), журналіст Віктар Ермакоў («Урокі жыцця»), стары настаўнік Міхаіл Дзям'янавіч («Цудоўны почырк»), бакеншчык Міканор Іванавіч («Маяк») — нашы сучаснікі. Аб іх жыцці і працы і расказвае М. Даніленка.

**Уладзімір Няфёд. Тэатр у вогненныя гады.** 252 стар. 3 000 экз. Цана 6 руб. 50 кап.

Манаграфія У. Няфёда прысвечана паказу той вялікай выхаваўчай ролі, якую адыгралі беларускія тэатры ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Цэнтральны раздзел кнігі расказвае аб шматлікіх выступленнях тэатральных брыгад на фронце, у вайсковых часцях, шпіталях, аб творчасці партызанскіх артыстаў на акупіраванай тэрыторыі, аб шэфскай рабоце тэатраў на прадпрыемствах савецкага тылу. З цікавасцю чытаецца раздзел, прысвечаны аналізу спектакляў па п'есах Л. Лявнава, К. Сіманава, К. Крапівы, А. Карнейчука.

**Бунімовіч Д. З. У дапамогу фотаамататару.** 336 стар. 80 000 экз. Цана 7 руб. 50 кап.

Для тых, хто вырашыў заняцца фатаграфіяй, будзе карысна пазнаёміцца з кнігай Д. Бунімовіча.

Аўтар паслядоўна расказвае пра важнейшыя фатаграфічныя аперацыі і працэсы, дае каштоўныя парады адносна выбару фатаграфічных матэрыялаў і лабараторнай апрацоўкі здымкаў. Спецыяльны раздзел прысвечаны каляровай фатаграфіі.

Кніга напісана папулярна, багата ілюстравана малюнкамі і фотаздымкамі.

## Шахматы

пад рэдакцыяй майстра спорту
А. СУЭЦІНА

# ТУРНІР МАЦНЕЙШЫХ

Аматары шахмат усяго свету з нецярплівасцю чакалі буйнейшага спаборніцтва гэтага года на 64-клеткавай дошцы — «турніра прэтэндэнтаў».

У пачатку верасня ў гор. Блед на поўдні Югаславіі з'ехаліся чатыры савецкія гросмайстры: В. Смыслоў, П. Керас, Т. Петрасян, М. Таль і чатыры лепшыя замежныя гросмайстры: С. Глігорыч (Югаславія), Р. Фішэр (ЗША), П. Бенко (Францыя) і Ф. Олафсан (Ісландыя) з тым, каб вырашыць, хто з іх будзе іграць матч з М. Батвіннікам. Потым турнір быў перанесены ў г. Загрэб, а закончваўся ён у Белградзе.

Такому турніру папярэднічала цэлая серыя адборачных спаборніцтваў ва ўсіх краінах зямнога шара. Пераможцы нацыянальных першынстваў сустракаліся потым у так званых «занальных» турнірах (адным з такіх «занальных» турніраў было чарговае XXV першынство СССР 1958 года). Пераможцы «зон» спаборнічалі ў «міжзанальным» турніры. Шэсць пераможцаў міжзанальнага турніра, эксчэмпіён свету В. Смыслоў і гросмайстар П. Керас, які занялі другое месца ў папярэднім турніры «прэтэндэнтаў», і склалі гэты турнір.

Кожны з удзельнікаў турніра прэтэндэнтаў па чатыры разы іграў са сваімі партнёрамі. Усяго кожнаму трэба было сыграць 28 партый (!) на працягу сямі тыдняў. Тэрмін вялікі, але і задача немалая — аб'ектыўна выявіць, хто ж варты змагацца за сусветную шахматную карону.

Гісторыя шахматных спаборніцтваў паказвае, што турніры з удзелам толькі лепшых шахматыстаў свету заўсёды прыцягвалі ўвагу вялікай колькасці людзей. Гэта зусім зразумела. Апрача чыста спартыўнай зацікаўленасці, такія турніры цікавыя яшчэ і таму, што ў выніку барацьбы лепшых шахматыстаў свету «нараджаюцца» найбольш глыбокія і захапляючыя партыі, якія садзейнічаюць далейшаму прагрэсу шахматнай тэорыі. На такіх партыях вучыліся і вучацца сотні тысяч аматараў шахмат.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны наша шахматная федэрацыя ўступіла ў міжнародную шахматную арганізацыю — ФІДЕ і сваім актыўным удзелам у рабоце надала розыгрышам на першынство свету творчы напрамак. Згодна новаму Статуту ФІДЕ, раз у тры гады адбываюцца турніры прэтэндэнтаў, пераможцы якіх абавязкова павінны іграць з чэмпіёнам свету.

Такімі пераможцамі ўжо былі ў 1950 годзе Д. Браншштэйн і ў 1953 і 1956 гадах В. Смыслоў — абодва нашы суайчыннікі. Іхняе адзінаборства з чэмпіёнам свету М. Батвіннікам праходзіла ў роўнай барацьбе па сілах, але адабраць у яго сусветную шахматную карону не ўдалося. Толькі на год Батвіннік як бы «пазычыў» сваё званне Смыслову, адабраўшы яго назад у леташнім матчы-рэваншы.

Турнір прэтэндэнтаў гэтага года найбольш цікавы з усіх папярэдніх не толькі па сваіх умовах, але і па складу ўдзельнікаў. Адметнай рысай яго з'яўляецца перш за ўсё параўнальна малады ўзрост прэтэндэнтаў. «Старэйшаму» з іх П. Керасу — 43 гады, а самаму малодшаму, але ўжо двухразоваму чэмпіёну ЗША Р. Фішэру ўсяго толькі 16 гадоў! Астатнія шэсць удзельнікаў бліжэй па ўзросту да свайго маладога калегі. М. Талю, напрыклад, 22 гады, Ф. Олафсану — 24, Т. Петрасяну — 30 гадоў.

Так, шахматы значна памаладзелі! Калі ў часопісах мінулага і пачатку гэтага стагоддзя шахматныя задачы рашаліся галоўным чынам сталымі людзьмі, дык у наш час таямніцы іх імкнуцца разгадаць зусім юныя галовы. І не беспаспяхова! Нездарма ж М. Таля лічаць адным з найбольш папулярных савецкіх спартсменаў. Двойчы, раз за разам, ён выйгрываў першынство СССР, быў пераможцам міжзанальнага турніра 1958 года і буйнейшага міжнароднага турніра ў Швейцарыі ў 1959 годзе.

Вельмі цікавы і амерыканскі шахматыст Роберт Фішэр. Ужо ў 15 год ён заваяваў званне гросмайстра — вышэйшае кваліфікацыйнае званне ў шахматах. У гісторыі шахмат такіх выпадкаў не было. Але Р. Фішэр яшчэ не зусім сфармаваўся як шахматыст і рана рабіць вывады пра тое, ці ажыццёвяцца яго «планы» заваёвы сусветнай шахматнай кароны ў «найкарацейшы» тэрмін.

Далёка не сказалі свайго апошняга слова прадстаўнікі старэйшага і сярэдняга пакаленняў. Напомнім, што яшчэ ў 1938 годзе П. Керас быў пераможцам першага, яшчэ не зусім афіцыйнага турніра «прэтэндэнтаў». З таго часу ў Кераса былі буйнейшыя поспехі як ва ўсесаюзных, так і ў міжнародных спаборніцтвах, але ні разу ён не мог «дацягнуцца» да барацьбы за сусветнае першынство. Яшчэ ў большай ступені гэта датычыць В. Смыслова, які ўсяго год таму назад перажыў вялікую шахматную трагедыю — пройгрыш матча-рэванша М. Батвінніку. Т. Петрасян вядомы сваёй «непрабівальнасцю». Па меры набыцця вопыту няўхільна ўзрастае і сіла яго ігры.

Турнір прэтэндэнтаў у Югаславіі апраўдаў спадзяванні аматараў шахмат — яго ўдзельнікі змагаліся ўпарта, не прызнаючы каротких «гросмайстарскіх» нічыйных партый. У выніку ўзніклі сапраўдныя шэдэўры шахматнага майстэрства, якія належаць савецкім шахматыстам. Шмат спартыўных дасягненняў было на турніры прэтэндэнтаў, за якімі нашы аматары-шахматысты, несумненна, уважліва сачылі.

Пасля амаль што паўтарамесячнай барацьбы перамог Міхаіл Таль.

У наступным годзе ён сустрэнецца ў матчы на першынство свету па шахматах з М. Батвіннікам.

## ЗМЕСТ

**Аляксей Русецкі.** Прадвесце. Верш. . . . . . . . . 3

**Уладзіслаў Нядзведскі.** Будні салігорскія. Рэпартаж. . . 4

**Васіль Вітка, Усевалад Краўчанка.** Зоры над соснамі. Кінасцэнарый. . . . . . . . . . . . . 10

**Максім Лужанін.** Як нарадзіўся новы свет. Уступ да паэмы. 62

**Раіса Маканіна.** Словам не было месца. Апавяданне. . . 65

**Уолтэр Мэкін.** Зялёныя ўзгоркі. Апавяданне. . . . . 72

**Тодар Кулеша.** Сустрэча ў Пяцігорску. З успамінаў. . . 77

**Мікола Жыгоцкі.** На гасціннай зямлі. . . . . . . 80

**Алесь Есакоў.** Драматург, паэт, крытык. (Да 60-годдзя з дня нараджэння М. Клімковіча.) . . . . . . . . 84

**Фрыдрых Шылер.** Івікавы жураўлі. Балада. . . . . 87

**Юрка Гаўрук.** Пясняр радасці і хараства. (Да 200-годдзя з дня нараджэння Ф. Шылера.) . . . . . . . 92

**Павел Місько.** Арлёнак, мой верны таварыш... Нарыс . . 96

**Фёдар Кузьменка.** Мы выраслі ў полымі... (Да 40-годдзя Першай Коннай Арміі.) . . . . . . . . . . 106

**Сяргей Анісаў.** У бурным прадвесні. Запіскі былога падпольшчыка. Заканчэнне. . . . . . . . . 121

**Давайце пагаворым...**

**За вялікае і прыгожае каханне.** Водгукі чытачоў. . . . 149

**Крытыка**

**Анатоль Клышко.** Таварыш нашай вясны. Артыкул. . . 151

**Выйшлі ў свет.** . . . . . . . . . . . . . 157

**Шахматы.** . . . . . . . . . . . . . 159

**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабіце самі!»**